# ГОЛАС КРЫВІ БРАТА ТВАЙГО

**Раман**

## I

Па вечным і таемным крузе ходзіць сонца. І на змену яму выясняюцца зоры, каб бясконца плысці ў сіняй і халоднай прасторы неба. Час адмервае і лічыць вечнасць. А ў ёй — і жыццё наша. Ён гоіць і насякае новыя раны.

Цяпер з іх сачылася кроў: ішоў трэці год вайны. Спрадвечнае гора абдымала чалавека. Але тое, што было наўкруг яго,— не яго. Яго было ў ім самім.

Трэці год Верасава чакала немінучай бяды. Аблажыўшы свет цяжкай градавай хмарай, яна хадзіла зводдаль: трэці год з усіх бакоў гарэлі блізкія і далёкія вёскі. Не было канца вайне, не было канца і чалавечаму гору.

Першых не стала Ведравічаў — немцы іх спалілі адразу, як толькі зайшлі. Здарылася гэта на сёмы дзень вайны. На пясчаны прымрэлы ад спёкі гасцінец выскачыў трохкалёсны нямецкі матацыкл: на ім сядзела двое разведчыкаў — адзін у калысцы за кулямётам, другі на сядзенні за кіраўніцай. Першым іх згледзеў вузкавокі з натапыраным ёжыкам цёмна-сініх валасоў сяржант, што, разуўшыся, студзіў распараныя ногі, лежачы ў цяньку пад шапаткою грушаю ў канцы вясковых двароў. Ён і паставіў на гарбаты ўтравелы замежак ручны кулямёт і даў глуха-тупаватую чаргу, са спеху ды гарачкі, нават не ўзяўшы варожы матацыкл на дакладны прыцэл. Злыя кулі, падымаючы пылок, радком узрылі сцішны гасцінец. Нямецкі матацыкл раптоўна прытармазіў і, не чакаючы болей сустрэчнай стральбы, крута, ажно паднялася калыска, развярнуўся і памчаў назад, хаваючыся ў сінім палахлівым дымку і шызых клубках узнятага пылу.

Неўзабаве на гэтыя дзве тупавата-кароткія чэргі моцным і раз'юшана-расцяжным стрэлам адклікнулася гармата. Дарэчы, стрэліла яна метка: першы запальны снарад прашыў тры саламяныя страхі, адну з іх новую, накрытую

жоўценькім і пахучым, як воск, акалотам. Над прыгорбленымі цеснымі будынкамі лянiва заварушылася чорная грыва дыму, а потым залатым дрыготкім мроівам выцягнулася і заскакала іскрыстае полымя.

Над вузкай, заглушанай купамі бэзу і язміну вуліцай тугімі невідушчымі струнамі зазвінелі кулі. Стралялі ўжо няўлад з вінтовак і кулямётаў.

Немцы акапаліся на блізкім грудку, з якога добра была відаць шара-саламяная вёска, што прыдрамала ў цяньку старых прысад і схавала змучаных, знясіленых ужо адступленнем салдат — яны збіліся болей ля калодзесяў, каб спатоліць шчымліва-халоднай вадою нязносную смагу.

Другі снарад, прабіўшы трухлявую сцяну самай крайняй хаты і засыпаўшы жоўтаю парахнёю гліняны ток, трапіў у дзежку з рошчынай, што стаяла пры печы на лаўцы, але балазе не ўзарваўся. З разбітай, рассыпанай на клёпкі, дзежкі рошчына плюхнула на сцены і на ложак, дзе якраз прыдрамаў хлопчык. Ад удару, што страсянуў хату, у вокнах са звінючым лускам пасыпалася шкло. Абамлелая гаспадыня, схапіўшы на рукі паўсоннага хлопчыка, вопрамеццю шмыганула на двор, двое здарожаных, згаладалых байцоў, што сядзелі за сталом, сёрбаючы з глінянай міскі забелены крупнік, схапіўшы з лавы пілоткі і прыгнуўшыся, таксама выскачылі з хаты.

На надворку іх падкінуў, запыніўшы на міг, яшчэ адзін нечаканы ўзрыў. Сарваўшы з петляў дзверы, тупаватым перуном ужо ў сенях гахнуў яшчэ адзін снарад. Над хатай заклубіўся і паплыў на надворак смярдзючы жоўта-цёмны дым. Гаспадыня — рослая, з паўнаватымі грудзьмі маладзіца, пасадзіла на прывялай дзяцелінцы хлопчыка і вобмельгам вярнулася ў хату, над якой ужо шугала і патрэсквала полымя, і вынесла белы, прыцярушаны мукою мех.

Адбегчыся далёка ад парога яна не паспела: нібы незнарок спатыкнуўшыся, упала ўжо на гэты мех сама і блізка ад галаватага трохгадовага хлопчыка ў даўгаватай кужэльнай кашульцы. Ён, нічога не ведаючы, ціхенька падпоўз да яе, абыякава-маўклівай і нерухомай, з невялікаю зусім, здаецца, несмяротэльнаю ранкаю пад вухам.

Гэта была стрыечная Алесіна сястра — Ірэна, на хрэсьбінах у якой Алеся, не стрываўшы рэўнасці, ды бабскіх зайздросных абгавораў, ды падазроных зіркаў, рашылася на страшны грэх — пабегла пад поезд. Але смерць прыйшла не да таго, хто яе шукае...

Хавалі Ірэну, не наказваючы сваякам ды радні, каля

крыжа пры вёсцы, бо хто ж павязе нябожчыцу ў такую калатэчу на далёкія могілкі? Хавалі разам з суседам, старым чалавекам, што ўздумаў схавацца ад куль ды снарадаў, прыхінуўшыся да печы, але тут ужо, як знарок, як на тое ішло, снарад якраз ударыў у комін. Смяртэльна параненага асколкам у голаў, старога паспелі выцягнуць толькі за парог на пляскаты камень, дзе яго труп абгарэў, скурчыўся і зрабіўся падобны да корча. Распазнаць у ім чалавека было немагчыма. Хавалі яго ўжо не ў труне, а ў вялікай, збітай з дошак скрыні.

Нечакана страшная весць пра спаленыя Ведравічы да Алесі дайшла на другі дзень, а пра тое, што забіла Ірэну — праз тыдзень, калі ў Верасава прыехаў пажаліцца ды папрасіць якое помачы ўжо зусім раскіслы і заплаканы па-бабску Ірэнін мужык. Алесі і шкада яго было калеку (няма ж аднае рукі), а цяпер у дадатак яшчэ ўдаўца ў дваццаць сем год. Але плакаў ён усяго месяцы са два, на трэцім прывёўшы, нават ужо без вянца, заседжаную ў дзеўках, на адзінаццаць год старэйшую за сябе і нейкую нават далёкую сваячку, непрыгожую і маўклівую, як ўпыр...

Пачарнелыя, раздутыя, як горы, трупы байцоў, на якіх ляжалі скіданыя накрыж вінтоўкі, ніхто ў тыя першыя дні не хаваў. З закурэлых шашэйных канаў, са сцежак у збэрсаным жыце цёплы, душны вецер маладога лета нёс саладжава-трупны пах.

Рослы бялявы баец, што наткнуўся на нямецкую аблаву, якая абшуквала хутары, і памкнуўся ўцякаць, падкошаны аўтаматам, зваліўся на верасаўскім лужку, пры перасохлым азярцы, сярод грудаватага поля, і сканаў у сівай асацэ: ранены ў жывот, ён мучыўся, пэўна, доўга, бо, падграбаючы локцем, вытаптаў шырокі круг і застыў, адкінуўшыся на спіну і вышчарыўшы роўныя шчыльныя зубы; твар яго перакасіла страшна балючая грымаса. Гэтакім яго ўбачыў Улас Корсак, прыехаўшы на поле ўжо з лапатаю і загадзя вычасаным крыжам, пасля таго, як наказалі хутаранцы, што на яго надзеле ляжыць забіты салдат.

Корсак расшпіліў нагрудную кішэньку ў гімнасцёрцы, выняў чырвоную кніжачку, паўглядаўся на шарай фотакартцы на просты курносы твар, прачытаў рускае нязвыклае прозвішча, засунуў кніжачку назад і, падхапіўшы пад плечы нялёгкага, як кожны нябожчык, коратка стрыжанага, з адтапыранымі вушамі бялявага хлопца, пацягнуў далей ад лужка пад межавы пры дарозе капец — не хаваць жа чалавека на лужку ў макраце. Тут, пры дарозе на грудку,

і закапаў, паставіўшы на свежай магілцы збіты з старых, але пагабляваных аполкаў невысокі крыж.

Варочаўся дадому, маракуючы пра новы клопат: у гумне, на правым застаронку, прыхованы снапамі леташняга акалоту, у схроне каторы ўжо дзень ляжаў паранены лейтэнант,— зжаліўшыся, яго сюды прывалок Міця. Невядома ж яшчэ, на якім рахунку сам у немцаў, а ўжо свет усім завязаў гэтым параненым савецкім афіцэрам. І што ж рабіць, не крый бог падкажа хто немцам? Літасці ўжо не будзе нікому: ні афіцэру, ні тым больш Корсакам за помач ды спрат.

Ранілі лейтэнанта не немцы, а ненаўмысна і неўспадзеў свае: у кузаве машыны, дзе разам з лейтэнантам сядзела трое байцоў, выстраліла не ўзятая на бяспечнік вінтоўка. Куля ўпілася лейтэнанту ў сцягно, засеўшы недзе глыбока каля косці.

Збялелага ад болю лейтэнанта паспелі правезці ўсяго кіламетраў пяць, і машына спынілася якраз каля Верасава, напроці Гарасімцовай кузні — скончыўся бензін. Шафёр і трое байцоў знялі лейтэнанта з машыны, пасадзілі ў халадку пад кузняю і пайшлі ў вёску, дакляраваўшы напытаць там якога-небудзь доктара і прынесці вады.

Гэта было полуднем, а цень ужо ад нізенькай кузні даўно перапоўз пясчаную дарогу і падняўся, як на дыбачках, на трэцюю дзеравіну недалёкага гумна, аднак байцы не вярнуліся, як не вярнулася і тонкая, як плотачка, маладзіца, з трохгадовай дзяўчынкай, што ехала разам гэтай самай машынай,— ёй, збедаванай ды сплаканай, лейтэнант уступіў сваё месца ў кабіне.

Ён, зняверыны, што не можа дачакацца байцоў, спакутаваны ад гарачага болю ў назе і нясцерпнай тамлівай смагі, убачыўшы на шашы чорную легкавушку з адкрытым верхам, у астатняй горкай надзеі выпаўз з канавы, прыпадняўся на адной руцэ і замахаў другою, даючы знак шафёру спыніцца. Бліснуўшы сухою пазалотаю нізкага сонца, легкавушка накаціла на лейтэнанта клубкі горкага пяршывага пылу і схавалася ў ім, фуркаючы і парыпваючы на жвірыстай, пабітай воспамі ямак вузкай шашы.

Здушаны даўкім камяком помсты, лейтэнант зашкроб пальцамі па кабуры, з гарачкі не могучы расшпіліць яе, а потым, калі выцягнуў пісталет, машына ад'ехалася далекавата. Скрыгануўшы зубамі, ён стрэліў у пухкія і вялыя клубкі пяршывага пылу, нема зароў ад злой помсты і бяз-

вольна скаціўся ў закурэлую канаву, дзе праз пласт сівага бруду прабівалася маладая зялёна-ільснiстая трава.

Тут на яго якраз і натрапіў Міця.

Натрапіў выпадкам, варочаючыся дадому з Навагрудка, устрывожаны і разгублены сам. Адвагі ды няпэўнага спакою дадавала хіба тое, што быў ужо дома. Ён перажыў і першыя бомбы, што ў ціхі нядзельны дзень з візгам і страшным выбухам упалі на рынкачны пляц, і яны тады з гаспадыняй, выскачыўшы з драўлянага, заглушанага здзічалымі слівамі дамка, дзе Міця кватараваў, налічылі дзевятнаццаць самалётаў з кароткімі чорна-белымі крыжамі, і бачыў ужо смерць — назаўтра ў рэдакцыі несціхана плакала машыністка: узрывам развярнула яе драўляны дом, забіўшы цётку і стрыечную сястру. Цётку кінула ажно ў суседні двор... Збялелы, перапуджаны рэдактар то недзе бегаў, наказваючы нікуды не адлучацца, бо меліся рыхтаваць спецыяльны нумар, то вяртаўся сцішэлы назад. Знік ён нечакана, на трэці дзень вайны. Па полудні тоўстая, заўсёды потная карэктарша ў чорна-стракатай сукенцы, збегаўшы да яго на кватэру, прынясла ўчутае ўжо ад суседзяў: рэдактар, пасадзіўшы ў легкавую машыну жонку з дзіцём, паехаў яшчэ ўчора...

Не звёўшы вока, Міця перабыў ноч ва ўсцішнай кватэры, дзе ўсхліпвала і падвывала, як па нябожчыку, па сваім мужу, што быў недзе за Бельскам на будаўніцтве аэрадрома, разжураная, разжаленая кабета, і раненька, толькі зашарэўся дзень, выйшаў з хаты.

Глыбокаю, ў росных прысадах вуліцаю па настылым мокрым бруку грукацела адзінокая фурманка. Міця дайшоў услед за ёю да райторгаўскага склада, адкуль жанчыны ў звязаных на рагі хустках, у фартухах і прыполах няслі тлустыя, слізкія ад таваоту банкі кансерваў; адна з іх, немаладая, павярнула чырвоны аблезлы нос на Міцю і падтрасла вышай прыпол, паказваючы кароткія таўставатыя ногі, і ўжо сказала, каб, мусіць, чуў ён: «Немцы занялі Ліду, сёння маюцца быць у Навагрудку».

Здумелы, уражаны Міця борзда завярнуў назад да прадмесця і за ім ужо вузенькаю праз сінявата-ружовае з казытлівымі каласамі жыта выйшаў на жвірпетую, абсаджаную шурпатымі, гузаватымі ў камлях ясенямі, яшчэ не пыльную шашу — насустрач, напытваючы кірунак на Мінск, цягнуліся адзінокія здарожаныя байцы. Падляскваілі на выбоістай шашы рэдкія грузавікі, поўныя жанчын, дзяцей, клункаў; там-сям, уткнуўшыся лычаватымі радыятарамі ў канавы,

яны ўжо нерухома і прытоена застылі ў нейкім смяротэльным чаканні, як застывае падбіты звер.

Каля верасаўскай шашы за кузняю Міця ўбачыў пастаўлены трохі ўпоперак дарогі чорны грузавік з зялёным трохствольным, узнятым над кабінай кулямётам, а потым, падышоўшы бліжай,— збялелага лейтэнанта, што сядзеў у канаве, горна схіліўшы русава-кучаравую, без фуражкі, галаў.

Учуўшы Міцевы асцярожна шархоткія крокі, лейтэнант нібы ачуняў — яго рукі заграблі зялёна-тлустую закурэлую траву:

— Братишка, помоги...

Лейтэнант трохі прыпадняўся, вочы яго заблішчалі спакутаваным спадзяваннем і адчаем:

— Там в машине сахар, бери!

Міця, яшчэ не разбіраючы, што ад яго хоча лейтэнант, падышоў бліжай і нечакана сумеўся, убачыўшы на правай, вышай калена, лейтэнантавай назе туга завязаную бінтавую павязку з цёмна-крывяной, падсохлай плямай.

— Немцы? — задыхнуўся Міця.

— Да свои... дурачьё, сволочи! — крывячыся ад болю, лейтэнант намагаўся ўстаць, і ў голасе яго зноў дрыжала жальба: — Братишка!..

— Пачакайце, мы, мусіць, не дойдзем? Я зараз збегаю дадому.

— Не оставь, дружок, ранен я,— цягнучы акрываўленую нагу, лейтэнант на руках папоўз услед за Міцем. Вялікія карыя вочы яго прасілі літасці і спагады.

Міця хацеў запрагчы каня або нават узяць перадок ад воза, каб прывязці дадому і на першым разе хоць чым памагчы зблажэламу, спакутаванаму лейтэнанту, але, убачыўшы, што той упарта паўзе за ім, мусіў вярнуцца.

— Бярыся, данясу,— Міця прысеў, і лейтэнант абхапіў яго шыю рукамі.

На плячах і занёс раненага лейтэнанта дадому. Прытуліўшыся за вуглы, верасаўцы падазрона цікавалі, але падавалі выгляд, што не бачаць, каб не мець дачынення да таго, што рабілася на шарай гадзіне пры кузні. Але счакаўшы, калі Міця вярнуўся, як прасіў лейтэнант, каб забраць мех цукру, што ляжаў у кузаве палутаркі, яго ўжо ўспелі сцішком увалачы. У кабіне, праўда, яшчэ вісеў лейтэнантаў шынель — адзежу са спеху ці не прыкмецілі, ці ўжо збаяліся красці хітраватыя верасаўцы.

Пазней Міця даравацъ сабе не мог, што прынёс дадому

гэты новы з добрага шчытнага сукна афіцэрскі шынель. Праз яго і прылучылася нечаканая бяда, пад самую ўжо глыбокую восень — верасаўцы акурат дакопвалі картоплі. Міця з бацькам завіхаліся каля паграбка — скідалі з воза мяхі. Шары сляпучы поцемак зацерушыў вуліцу, і да мужчын, наровячы не натрапіць на лішняе вока, ціхенька выйшаў лейтэнант. Ужо, здаецца, і не вельмі кульгаў на раненую ногу. Алесіныя лекі — увар купальніку (гарніку), таго высокага, з жоўтай кветачкай горка-пахучага зелля, што якраз на Купалу цвіце ў лесе, ды скручаная з чыстага лапічка старой, парванай кашулі мякенькая пялюшка-кнот, усаджаная ў ранку, каб выцягвала сукровіцу ды гной,— нябось памаглі. Лейтэнант нават лёгенька адапхнуў старога Корсака, беручыся за мех... Заваждаўшыся з работай, мужчыны і не згледзелі, як з-за гумна сюды шыбаваў рослы, дужы мужчына ў цывільным фрэнчы, падпяразаным шырокім рамянём, на якім вісеў рэвальвер. Гэта быў Юзік Адалінскі — польскі асаднік, што недзе туляўся і раптам вынырнуў камендантам паліцыі — і за ім, трымаючы наперавес вінтоўкі, прыспешвалі яшчэ двое: свінабоеў сынок Тадак Пясэцкі і невядомы Міцю дварчанскі падшыванец. Ва ўсіх трох на левых рукавах бялелі апаскі. Грузавік ціха вуркатаў за вёскаю на шашы.

Міця, схаладзеўшы душою, падумаў, што будуць браць яго, як падумаў, пэўна, і бацька, неяк міжволі падаўшыся наперад, шморгаючы далонямі аб порткі і выціраючы наліплы сыраваты пясок.

Адалінскі, змеціўшы гэта, нават зарагатаў:

— Не, мы спярша забяром камісара...

Пераступаючы аглоблі нагружанага воза, што стаяў каля паграбка, ён цвёрда падышоў да ссутуленага, босага, з падвязанымі шнурочкамі ў галіфэ лейтэнанта, зусім ужо не падобнага да вайсковага чалавека ў Міцевым шарачковым каптаніку і ў бацькавай старой кепачцы.

Тады Міця і вынес, збегаўшы ў хату, гэты новы шынель. Абуцца лейтэнанту не далі. Дазволілі толькі ўвапхнуць пад паху круглы бохан хлеба, які, схапіўшы ў стопцы, на абедзвюх руках трымаў бацька...

Што ён, бацька, каб адвесці ад хаты бяду, зарэгістраваў у магістраце лейтэнанта, Міця дазнаўся потым. А спачатку крыўда і дасада была на старую Такараду, што, пэўна, несумысля, па сваёй бабскай дурноце, трапіўшыся на вуліцы паліцыянтам, падказала, дзе знайсці камісара і дзе жыве савецкі міліцыянер Рэпка. Бо ў той жа вечар Ада-

лінскі з гэтымі смаркачамі яшчэ ездзіў на Прылуцкія хутары шукаць Жэніка Рэпку.Ператросшы хату, гарышча, усе сутарэі ў ёй, яны не дагадаліся адсунуць у сенях дошку, што трымалася на верхнім цвічку: Жэнік збіў з дошак сенцы, зрабіўшы з тыльнага боку дзве сценкі, між якіх і быў яго вузкі, як прайсці бокам, схрон.

Павалтузіўшы старую Рэпчыху, паліцыянты павезлі лейтэнанта ўжо аднаго. Але недалёка, усяго ў блізкі лясок. І дзеці, што ў першы шорсткі і белы замаразак пабеглі яшчэ па крохкія пахучыя зеляніны, каля абсмаленай старой елкі на прагале агледзелі яго ўжо труп.

У шарачковым Міцевым каптаніку, без шапкі і босы, лейтэнант ляжаў з прастрэленымі грудзьмі; на ўскалмачаных валасах яго, нібы ранняя сівізна, іскрыўся першы асенні замаразак. Ён яшчэ не растаў, калі, нарэшце, у ясны надвячорак з чыстым высокім небам, што адкрылася пасля туману, Міця з бацькам прыйшлі потайкам у лес, каб пахаваць лейтэнанта.

Верасаўцам, ды нават Міцю з бацькам, думалася, што лейтэнант, уехаўшы ў лес, паспрабаваў уцячы, покуль адзін з трох дварчанскіх паліцыянтаў нарэшце не прагаварыўся, што ім спатрэбіўся шынель і яны, нібы даючы волю лейтэнанту, выпхнулі яго з кузава, а потым пачалі страляць.

Няшчадна і бязлітасна віхор вайны круціў чалавечым лёсам — людзей гінула ўсё больш і больш. Смерці чакалі ўсе, але ўсе і спадзяваліся, што яна міне іх. Першаю ў Верасаве арыштавалі Чуваковую Вольгу: адны казалі, за тое, што паступіла ў партыю, іншыя, што рыхтавала разам з Нікандравай (старшынёй сельсавета) спісы на вываз. Нікандраву паліцыянты не знайшлі, знайшлі Вольгу і разам з местачковымі мужчынамі завязлі ў Наваградак за казармы, дзе ўжо былі загадзя выкапаны ямы, там і расстралялі. Не перанёсшы даччыну смерць, па полі хадзіла, страціўшы розум, старая Чувачыха, покуль не захлынулася ў верасаўскай завоіне.

Бегала ў Дварчаны да святара і падала перад ім на калені, каб заступіўся за Жэніка, што вярнуўся дадому з-пад Негарэлага, і збедаваная Рэпчыха. Але поп адкаснуўся, сказаўшы, што ні прадаваць, ні заступацца ён не будзе: хай кожны ратуецца як знае.

Але ўсіх найбольш устрывожыў, нечакана з'явіўшыся ў Верасаве, худы, з няпоўнымі зубамі, між якіх брыдка чарнелі глыбокія шчарбіны, Янка Вайтовіч. След Вайтовічаў

прастыў даўно, і пра яго, зрэдзь ужо ўспамінаючы, пачалі нават забывацца. І на табе — у глухі і цёмны восеньскі вечар, пад халодны пляскат абрыдлага дажджу ён пагрукаў у прысунутыя на зубчатую засаўку дзверы да чуткага на чужы шоргат Марціна Ваўчка, перад гэтым смутна пастаяўшы на сваім надворку каля гарбатага котлішча з павыварочванымі каменнямі падмурка, на якім даўней стаяла хата.

Там, над дзіркай пограба, што быў калісь у сенцах, нехта паставіў ужо застрэшак, пэўна, усыпаўшы на зіму свае картоплі. Як прызнаўся сам, гэта быў Ваўчок.

— Яма, братка, увярнулася, яма,— апраўдваўся ён, узіраючыся на схуднелага, з паўпаданымі шчокамі Вайтовіча, і нечакана спытаў: — А ты як з таго свету?..

— І праўда, як з мёртвых уваскрос,— сказала Вольга, паварушваючы качалкаю капусту і пускаючы з жоўтай новай кадушкі густога капуснага духу.— А сям'я ж дзе?..

— Вот не дадавай жалю,— убачыўшы, як сінія Вайтовічавы вочкі пачырванелі ад слёз, прыгарнуў з-за вуха на цемя свой абшморганы касмык валасоў устрывожанатрапяткі Марцін Ваўчок.— Пачастуй лепей чалавека сваёю капустай. Як на мой смак, так удалася нябось...

Ходзячы па падсуседах і нават з тыдзень пажыўшы ў Алесі, Янка Вайтовіч расказваў усім верасаўцам «пра той свет» — полацкую турму, дзе ён сядзеў і адкуль ужо ўцёк з калоны, якую прыгналі да саставу на станцыі якраз у часе нямецкай бамбёжкі. Усе ламанулі ад цягніка далей, а ён лёг каля вагонаў, падумаўшы, што ад свайго лёсу не ўцячэш, і астаўся жывы — бомбы адна за адною паляцелі туды, куды разам з вартаю пабеглі «заключоныя».

Што там ужо ўчынілася, хто астаўся жывы, хто — не, ведаць пра гэта Вайтовіч пільнай патрэбы не меў, ціхенька шмыгануў у вільготную цемнату і — дай ужо божа ногі! — паджгаў далей ад станцыі...

Ад жонкі з дзецьмі, што аказаліся за Уралам у далёкай Акцюбінскай вобласці, весцяў ніякіх не было.

Вайтовіч схадзіў у павет, спярша да сваёй брыды, што сядзела ва ўсіх управах, а потым праз перакладчыка ўпрасіўся да гебітскамісара — лысаватага тоўстага немца, які ўжо выпісаў паперу, каб вярнулі гумно, а з хатай, што служыла клубам пры цагельні, а цяпер прыдалася для валаснай управы, прасіў пачакаць. На хату ў Кашалеўскім лясніцтве выпісалі дрэва. Але будавацца па-належнаму Вайтовіч не стаў. Покуль суд ды справа, перавёз струх-

лелы ў вуглах ды падвалінах, але яшчэ смалісты, ружаваты, калі трохі абчасаць, старавечны гуменны зруб, накрыў пазычаным акалотам, адгарадзіў сцяною ды настоліў катух з невялікім у чатыры шыбы аконцам. Спілаваныя ў лесе ды абчасаныя склюдам елкі, накрытыя шурпатымі кажухамі кары, засталіся ляжаць сярод двара, чакаючы лепшага і больш спакайнейшага часу.

Але жыць у халодным гумне Вайтовіч не стаў: напытаўшы пусты закутак у доме, дзе кватаравала, а перад прыходам немцаў уцякла сям'я савецкіх чыгуначнікаў, перабраўся ў Дварчаны. Перагараў зіму і ўжо нават нечакана для самога сябе застаўся ў мястэчку: касавокі папоў сын, што трымаў невялікую краму, гандлюючы крыжыкамі, ружанцамі ды свечкамі, падбіў яго ўступіць у хаўрус, аддаўшы баковачку, і Вайтовіч стаў таксама прадаваць розную драбязу, перакупляючы ў Вільні і збываючы ўжо тут, найбольш іголкі, сахарыну, слабыя, як націна, нямецкія цыгарэткі і ўдушлівыя — не ўкурыць егіпецкія цыгары ды дэрмацінавыя з трыма валікамі машынкі круціць, усунуўшы наслінены кавалачак паперы, з нашаткаванага тытуню цвёрдыя, як біркі з веніка, самакруткі. Гэтыя машынкі дзеля забаўкі купляла дварчанская басата ды падшыванцы.

Належнага прыбытку са свайго гандлю Вайтовіч не меў, і трымала ў Дварчанах яго, напэўна ж, не крама, а прысадзіста-таўставатая, з кароткімі крываватымі нагамі ўзбечка, маладая, на гадоў тры ўсяго старэйшая за дачку, што ўцякла з нямецкага лагера і хадзіла па хатах, наймаючыся на розную работу, покуль не прыйшла да Вайтовіча. Узяўшы нібы за наймічку, каб мыла яму бялізну, гатавала, падмятала краму, ён неўзабаве паставіў яе за прылавак памагаць у гандлі, і ўсе пачалі здагадвацца, што стала яна ўжо яго няшлюбнай жонкай.

Дзевяць гектараў тлустай удобіцы, якія яшчэ прыдбаў бацька, калі распрадавалі прылуцкі фальварак, Вайтовіч аддаў, праўда, без ніякай паперы, нібы ў арэнду, сквапнаму Броніку Літавару, што трымаў ужо двух парабкоў — ленінградскую студэнтку і ўкраінца-кінамеханіка, што прыблукалі ў Верасава з-пад Беластока: спярша падрадзіліся за харчы рабіць брукаваны ток у гумне, а потым ужо ўсё, што належыць у гаспадарцы.

Верасава ж, учуўшы пра Вайтовічаву жаніцьбу, трохі павыскалялася, пагаварыла і сціхла — у кожнага была свая бяда ды клопат. А Вайтовіч ад патаемнага няжданага кахання да паўнявай спакуслівай маладзіцы раптам вылюд-

неў, адмаладзеў, выпрастаўся ў плячах, і яго шара-выцвілыя вочы пачалі вясёла пабліскваць ад шчасця і прыгубленай штодня чаркі. Сухаватыя, патрэсканыя губы крывіў кіславата-хітры смяшок: ён знайшоў больш прыбытковае месца. Спрадаўшы бацюшкаваму сыну сваю недаходную з таннаю драбязою лаўку, Вайтовіч перайшоў у ЦТО[1] — новую кантору, якую немцы адкрылі ў Дварчанах — спярша грузчыкам, а потым ужо, падлашчыўшыся да славака, што быў намеснікам у начальніка-немца, пачаў загадваць складам, ці, як казалі, стаў магазінерам — прымаў гарох. Сюды у ЦТО людзі здавалі падатак — збожжа, кароў, свіней, авечак. Дзеля блізіру гэта ўсё трохі атаварвалася посудам — жаўтлява-зеленаватымі міскамі, сподачкамі, кілішкамі, талеркамі. А хто здаваў цялушку ці авечку, то нават соллю, праўда, яшчэ савецкаю... Яна, скамянелаю шара-іскрыстаю, як лёд на згоне зімы, глыбаю ляжала ў даўнейшым сельпоўскім складзе — драўляным доўгім будынку, накрытым счарнелаю гонтаю.

Сюды, да солі, і маскаваўся перабрацца Вайтовіч, але там непрыступна стаяў Літвінюк, што за польскім часам выдаваў сябе за каталіка, а цяпер пры немцах, апрануўшы новую стракатую ясёнку і надушыўшыся адэкалонам, штонядзелі спяшаў у царкву на «заутреннюю».

Вайтовіч схітраваў — прывёў ад Літавара з Верасава студэнтку, нібы на кватэру ў дом, дзе жыў якраз славак — прыгожы, відны сабою хлопец, і нечакана ўсё перамянілася: Літвінюк пайшоў прымаць гарох, а ключы ад склада з соллю прыдбаў Вайтовіч.

Соль была цяпер у цане, на вагу золата. Насыпаў кішэнь — і ўжо табе і чарка, і скварка. Але, беручы самагон, глядзі, каб не падаткнулі атруты, бо для моцы яго чаго толькі не дабаўляюць: і сіняга каменю, і хмелю, і курынага памёту, і нават, кажуць, чалавечага калу.

Аднак за соль можна было паплаціцца галавою. Смерць на месцы, калі зловіць камендатура. Як гэта прылучылася з чатырма ведраўцамі, што рабілі ў орсткамендатуры грузчыкамі і ўкралі там шарсцяныя коўдры. Іх завялі за дашчаты хлевушок, дзе быў сметнік, дзе капалі ямы, каб кідаць у іх кухонныя адыходы, і загадалі капаць яшчэ адну,— ужо для саміх сябе. Тут ведраўцаў і застрэлілі.

На солі яшчэ ніхто не папаўся. Немцаў там не было, склад, дзе грузчыкі кіркавалі цёмна-шарую скамянелую

---

[1] ЦТО — цэнтральнае гандлёвае таварыства.

глыбу, вартаваў усяго адзін паліцыянт — худы, цыбаты, з падбрытымі вусікамі Алек Сідорык.

Ён ведаў, што здольныя на хітрыкі грузчыкі парабілі доўгія кішэні не толькі пад поламі пінжакоў, а нават спадыспаду ў калошах портак. Але нікога не запыняў, бачачы, як, скончыўшы работу, са склада грузчыкі ідуць ледзьве перастаўляючы тоўстыя, нібы калоды, свае ногі.

Прыжыўшыся ды ўжо добра асвойтаўшыся ў гандлёва-гаспадарчай нямецкай канторы, Вайтовіч, незнарок напаткаўшы Імполя, пачаў падмаўляць яго пайсці грузчыкам — хацелася, вядома, мець тут свайго чалавека. Неразважнага Імполя не столькі спакушала соль, колькі зноў яна, Хрысця, што засталася рабіць у дварчанскім шпіталі, куды цяпер прывозілі параненых немцаў.

Адыходзячы ад памяці, Алеся ж яшчэ раз перагорала нешта агіднае і горкае, калі ўчула ад Імполя гэтую нечаканую весць, што ён збіраецца ў Дварчаны на работу. У душы зноў нясцерпным болем зварухнулася ўсё старое і забытае — тая пясчаная вулічка з валачашчымі сабакамі і ў занядбаным садку дамок з рыпучым ганкам, дзе кватаравала Хрысця і дзе пасля бальніцы туляўся Імполь і адкуль ужо, як пакалечаны, з перакушанаю нагою сабака, што цягаўся за ганнёю, ён прыблукаў дадому. І на табе — яго зноў, як сабаку да разніцы, цягне ў Дварчаны і, вядома ж, да яе, да Хрысці.

Вар'яцеючы ад тупой рэўнасці, невыносна-пакутнай крыўды і злосці, Алеся ўжо закрычала:

— Куды ты пойдзеш гэтакім светам?

— Пайду,— сказаў ён разважна і ціха, нібы і не чуў яе адчаю і крыку.

— Няўжо зноў знябыўся па гэтай нямытай сучцы?

— Калі ўжо так, то, можа, і па ёй.

— Во як,— задыхнулася ў злосці і зніякавела Алеся, і перад вачыма, як пякучая маланка з глыбокай цемені, памяць высвеціла той накрыты драніцай дом на бочнай вуліцы, калодзесь і яе, Хрысцю, з дурнавата-брыдкім смехам, якую яна бачыла тады, калі прыязджала ганяць дадому Імполя.

І ён гэтаксама, як тады, патаемна, гледзячы косым вокам на Алесю, здзекліва ўхмыльнуўся:

— Прыдумала ты нешта, Вайтовіч мяне на работу кліча.

— Хіба ўдома нямашука чаго рабіць?

— Солі там можна прыдбаць.

— Ды бачу, што на салёнае ды кіслае цябе пацягнула.

— Пры чым тут што... На работу іду.

— Ідзі, мо ў Нямешчыне апынешся,— Алеся ўпікнула ўжо тым, што было нядаўнім летам, калі Верасава на сваім сходзе вылучыла адправіць на работу ў Германію разам з неразважнай, трохі хворай на галаў дзеўкай з Прылуцкіх хутароў і яго, Імполя, як чужога ды непатрэбнага ў вёсцы.

Збегаўшы да цёткі Сцяпані ды паслухаўшы яе рады, выратавала Імполя сама Алеся; нарвала на балоце маслянкі — едкага люціку ды загадала, каб нацёрся ім, найбольш пад пахамі ды між пальцаў на руках і на нагах. Нямецкі доктар, што аглядаў сагнаных у дварчанскую школу хлопцаў ды дзяўчат, убачыўшы на Імполю густа-чырвоную, як каросліўую, сыпку, кісла выпнуў тлустую губу і махнуў навотліў рукою: — Вэ-эк!

А дурнаватую Феню, прызнаўшы здаровай, адправілі ў доўгі таварняк, што стаяў у тупіку за вакзалам, адкуль яна ўжо прыбегла дадому на трэцюю ноч: наладзіўшы гучныя провады, нехта перадаў у вагон гармоню, а з ёю няўзнак кароткую пілу. Пад стук абцасаў ды песні прарэзалі ў падлозе дзірку, і смялейшыя вылезлі ўпоцемку з вагона.

Ні Алесіна просьба, ні сварба ўжо не памаглі.

— Пайду,— сказаў ён упарта.

— Поначы гэтакім часам хадзіцьмеш?

— Дзе ноч — там сон, пераб'юся.

Але тады-сяды ён з'яўляўся дадому, прыносячы ў кішэнях шарую, перамешаную з крошкамі ад хлеба, бойную соль, і трохі падагрэты, расчырванелы ад чаркі.

— Ну выпіў, выпіў,— крывячы ў кіслым, гідкім смеху мокрыя губы, ён шырока адчыняў дзверы ў хату, хістка ішоў да стала і выварочваў кішэні з гэтай шарай бойнай соллю: — Але глядзі, што прынёс!..

Алеся, баючыся і за яго, і ўжо за сябе з дзіцем, бо немцы крый бог зловяць — нікому не будзе літасці ды спасу, угневана і злосна закрычала:

— На цэлае жыццё не наносіш! Ды прыпыніся піць, а то гадка глядзець: целяпаешся, як той круцілаўскі Файба.

І ён, ужо раз'ятрана і дзіка вырачыўшы бліскуча-пачырванелыя вочы, нават махнуў рукою, згробшы са стала і пырснуўшы па хаце гэтай соллю:

— На еш, душыся!..

Соль сыпнула і на хлопчыка, што сядзеў каля лавы напроці печы, шаргатліва крэмзаючы кавалачкам крохкага вугля па гліняным току — маляваў, мусіць, дзеда і бабу і,

падхапіўшыся, жалосна заплакаў і ад болю, і ад перапалоху ўжо. Алеся абвіла яго рукою, прытуліла да сябе.

— Ой, граха ты ўжо саўсім не баішся!

— Не думай, не дбай пра мой грэх, глядзі свайго!

Сказаў, нібы ўдарыў, няшчадна кальнуў чым вострым у сэрца, і яно заныла тым даўнім болем, які ўжо быў суціх.

Даўно Алесю ніхто не папікаў смерцю старой Мондрыхі і немай Еўкі. І на табе — ён. Алеся, змярцвеўшы ад крыўды, адчаю, ажно пахіснулася, як п'яная, сама і ўжо, як п'яная, нічога не помнячы, не разбіраючы, што робіць, крычма закрычала:

— Кабель, брыда, кавалак гультая, вон з хаты!..

— І пайду,— сказаў, здаецца, нават спакойна і з радасцю.

— Ідзі ўжо да яе, да гэтай нямытай сучкі!..

— Пайду, падганяць не трэба.

Зніякавалая Алеся нават, здаецца, не чула, не бачыла, як ён вышмыгнуў з хаты: злосць, адчай, боль зацьмілі свет...

Потым ужо, схапіўшы хлопчыка за руку, выскачыла на сцішную, асвечаную ўжо рэдзенькім вечаровым сонцам вуліцу, убачыла ў другім канцы яе белаватую, сцёртую мяшкамі ад гэтай солі яго ссутуленую спіну — ён спяшаўся і зварочваў каля Ваўчка на кладку, каб выбегчы на стары, ужо мала ходжаны гасцінец, што бег у Дварчаны.

Чуючы босымі нагамі гарачы, яшчэ не астылы пясок, прайшла вуліцай да Сымонавага калодзеся, да зялёнай, затравелай жылы-крынічкі і задыхнулася ад адчаю і пакуты: «Няўжо так змарнавалася і скалечылася з ім усё жыццё?»

Яна падняла хлопчыка на рукі, чуючы, як гарачыя слёзы апякаюць шчокі, як маленькай халаднаватай рукою хлопчык сцірае іх і туліцца да яе шаўкавіста-слізкаю галоўкаю.

Накінуўшы наапашкі пінжак, расхрыстаны і нейкі зжоўклы ўвесь назаўтра раненька да Алесі прыбег бацька і ўжо ўстрывожана спытаў, чаго гэта проці ночы ўчора ў Дварчаны пабег п'янаваты Імполь.

— Хто ж гэта прыцікаваў? — зазлавала ўжо спакутаваная і зняверaная Алеся.

— Пытае — хто. Ды наш Змітрык. Гэты ж таксама ніяк не прыпыніцца. Ляціць усё да Грабянкавай сваячкі.

— А што ўжо, тата, зробіш,— Алеся зноў здушыла свой гнеў і пакуту.

Бацька нават закалаціўся ўвесь, заплюшчыў вочы і затрос кулаком, прарочачы нешта несусветна страшнае ды грэшнае:

— Вот папомніш мяне: бегае ён ужо на сваю пагібель.

— Пра каго ты кажаш, тата? — Алеся злякнулася і, млява ловячы рукою лаву, прысела на яе.

— Ды пра яго, пра Змітрыка ўсё.

— Перахрысціся! — закрычала ўжо Алеся і сама апала душою, успамінаючы Імполя.

— Каб гэта адвярнула бяду,— ён падышоў да печы і паглядзеў, як там палаў і патрэскваў агонь.

— Так не наклікай яе!

— Можа, і не трэба гаварыць,— ён павярнуў свой ружовы, асвечаны агнём твар.— Але ўжо раз да слова прыішлося, то скажу. Гэта твой каля чужых спадніц аціраецца, а Змітрык, як муха ў малако, у палітыку абцэсам лезе. Чуе маё сэрца...

— Тата...— і нейкая тугая зашмарга здушыла горла.

І Алеся пачала жыць, як і жыло цяпер усё Верасава, са страхатлівым чаканнем немінучай, наканаванай бяды.

Так ператрывалася, перабылася ды перагаравалася ўжо трэцяя зіма...

## II

Развіваючы за сабою шырокую паласатую стужку епітрахілі і падбіваючы падол доўгай чорнай расы з нашытымі жоўтымі крыжыкамі, па Верасаве хадзіў і высвенчваў перад велікодным постам хаты высокі, адутлаваты з сіваю бародкаю настаяцель дварчанскай царквы Амвросій Дэконскі.

Падбароддзе яго збіралася ў складкі і цяжкім воллем наплывала на шаўкавістую епітрахіль, калі ён, угнуўшы галаў, шырока ступаў у зацярушаныя ружовымі трэскамі ды пілавінамі, забруджаныя за зіму верасаўскія двары.

Услед за ім ад брамы да брамы з густым шахканнем па раздраджджалым снезе пад'язджала фурманка: водле розвальняў нетаропка ішоў, трымаючы злёгку папушчаныя лейцы, ружовашчокі з зухавата-белымі распушанымі вусамі царкоўны стараста. Ён неўпрыкмет, па дамоўленым знаку адказваў Дэконскаму, у якую хату заходзіць, а ў якую не, бо ў Верасаве, як ува ўсіх тутэйшых вёсках, праваслаўныя, што называлі сябе рускімі, змяшаліся з каталікамі, што

ўжо лічыліся палякамі і святкавалі вялікдзень звычайна раней, па новым календары. Рады ў гады святы і супадалі.

Стаяў адлежны дзень з волкім туманам, што з'ядаў аселы, паточаны ў пагоду ясным і высокім, ужо вясновым сонцам шараваты зярністы снег.

У тумане відаць белае, і таму чорна-шарыя верасаўскія хаты размываліся ў сіняватай, як разведзенае малако, глыбіні і бачыўся на вуліцы сыты конь дварачанскага царкоўнага старасты.

І дасужыя верасаўскія бабы, падцікаваўшы, на якую вуліцу заварочвае белы конь, заднімі дварамі ды загуменнямі паспявалі ўскочыць з хаты ў хату ды наказаць адна адной і — гэтак па нітачцы ўжо далей,— што па вёсцы ходзіць поп, і ўжо ўсе спрытном падмяталі хаты, прыбіралі з прыходу чыгуны ды ражкі і скоранька, дастаўшы з куфра, засцілалі бела-іскрыстым ільняным абрусам пачарнелыя, сточаныя шашалем сталы.

Багацейшыя прыспешвалі ў засекі набраць рэшата аўса ці жыта, бяднейшыя, адкінуўшы полку, нагіналіся ў падпрыпек, каб выбраць з дуплявага, аплеценага дротам гаршка драбнаватых ад маладых курэй і назбіраных на гэтакі дзень яек.

У Алесіну хату, задыхаўшыся, убегла Ваўчкова Вольга, пакасілася на вітушкі, што стаялі на драўляным крыжыпадстаўцы, на кошык з вялікімі клубкамі,— усё Верасава рыхтавалася пасля вялікадня ставіць кросны,— і расслабіла пад шыяй тоўстую суконную хустку:

— Гэта ж ці ведаеш?.. Поп вунь ходзіць ды высвенчвае хаты.

— А да мяне, можа, і не зойдзе,— Алеся разблытала ў бардовым, начэпленым на вітушкі матку парцяныя, туга спрадзеныя ніткі.

— Чаму гэта? — вырачыліся бялёсыя Вользіны вочы.

— Хіба ж вёска не знае, што я каталічка?

— Ага ж... А я во з хаты ўцякла. Прымкнула хлопца і ўцякла. У мяне ж і няма чаго даць.

— Смешная ты, Вольга. То я, можа, пазычу.

— Ай, абыдзецца,— адмахнулася рукою Вольга і насцярожана зіркнула ў акно, і брыдкая ўхмылка не то дзіва, не то страху перакрывіла яе твар.— Дальбог, да цябе бацюшка ідзе!

— Столькі ўжо страху, няхай зойдзе,— Алеся, перахапіўшы яе зірк, таксама глянула ў акно і ўбачыла насатага

ў чорнай скуф'і, з-пад якой лезлі пасмы доўгіх, пазавіваных кольцамі цёмных валасоў мажнога, з востраю бародкаю і цяжкім латунным крыжам на грудзіне папа.

Алеся ўзяла за руку, каб не перапалохаўся, хлопчыка, гэткага чарнявага і сінявокага, як Імполь, і адсунула далей ад парога вітушкі.

Поп, ведаючы ўжо вясковыя хаты, разбіраючыся ў закутках і клямках і не блудзячы ў сенях, скоранька адчыніў дзверы, звыклым вокам глянуў за парог, каб не ўсунуцца ў гаршкі ці ражкі, і ступіў у хату. Дзверы за сабою, як злодзей, каб было зручней уцякаць, не зачыніў.

— Во имя отца...— пачаў ён хрыплавата-зычным голасам, але раптам змоўк і сумеўся, убачыўшы на покуці абраз маткі боскай без звыклых белых ручнікоў з чырвонай вышыўкай ці шараватымі, вязанымі з вітых нітак зубкамі. Наліваючыся чырванню, перапытаў:

— Католики здесь?..

— Ага, католікі, католікі,— замаргала сваімі выцвілымі вейкамі Ваўчкова Вольга.

— Но бог един,— бацюшка павярнуў свой насаты твар на Алесю, за якую хаваўся насцярожана-пудкі, стрыжаны ў радкі хлопчык, мусіць, у ёй прызнаючы гаспадыню і чакаючы, што скажа яна.

— Гэта праўда, бог адзін, нас шмат грэшных,— вінавата ўсміхнулася яна, і пастаранілася.— Свянцеця, раз ужо зайшлі.

— Аще кто слово мое соблюдет, смерти не иметь видети вовеки,[1],— дрыготкая вялікая рука падняла латунны, што вісеў на срабрыстым ланцужку, крыж, перахрысціла покуць, а потым ужо дастала з серабрыстага вядзерца махрыстае крапіла і накрыж махнула ім на хату.

Дробныя кроплі вады раптоўным холадам пырснулі на Алесю з хлопчыкам. Хлопчык зажмурыўся і патрос стрыжанаю галавою.

— Крещеный? — бацюшка залацістым крапілам паказаў на дзіця.

— Як жа ж нехрысцем жыць? — варухнула плячом Алеся.

— Слава Ісусу Хрысту,— зашамацеўшы шырокай, у жоўта-залацістай аблямоўцы расай, ён павярнуўся да непрычыненых дзвярэй.

— Слава, слава,— Вольга паспешліва заківала галавою

[1] Хто выпаўняе слова маё, не ўгледзіць смерці давеку *(царкоўн.)*.

ў чорнай аб'еханай хустцы, з-пад якой выбіваўся ўпарты чуб раскалмачаных рыжавата-залацістых валасоў.

— Пабудзь з ім,— Алеся паказала на хлопчыка і бегма падскочыла да печы, дастала з-пад прыпека чыгунок з ружаватымі яйкамі. У стопцы яшчэ адрэзала доўгі, на ўвесь аполец, брус сала.

Збянтэжаны фурман, заходзячы на другі бок саней і хаваючы вочы, нечакана забубніў у свае зеленавата-белыя пышныя вусы:

— Ты ўжо, маладзічка, уваж маю старую галаву, начыста забыўся, што ты да касцёла ходзіш.

— Куды ж іх класці? — Алеся выставіла чыгунок з ружаватымі, адно ў адно яйкамі.

— Во сюды, во сюды, даражэнькая,— ён адкінуў вечка ў лазовым кошыку — там, перасыпаныя мякінай, ужо ляжала з капа яек.— А сала во ў гэты кошык.

Не разгубіўся толькі Амвросій Дэконскі. Падыходзячы да саней сваім шырокім спаважным крокам, ён перастрэў Алесю, і, нечакана ўзяўшы яе за руку, нагнуў галаву з круглай, як даёнка, камілаўкай, і пацалаваў недзе ў пучкі, казытнуўшы вусамі і бародкай.

Збянтэжаная Алеся, чырванеючы, абліваючыся ад брыдкасці ды сарамяжнасці потам і чуючы на руцэ казытлівы дотык барады, убегла ў хату як сама не свая, акрыяўшы трохі, прызналася Вользе:

— Вой, каб бачыла ты.

— А што? — падняла свае выцвілыя бровы Вольга.

— Рукі стаў цалаваць.

— Дзіва што, столькі яец аддала.

— Каб толькі...

— А што яшчэ?

— Цалюткі брус сала, на ўвесь аполец.

— Во дурная,— Вольга ўспляснула рукамі.— Ці памог бы ён табе?.. Ці кінуў бы ён такі кавалак.

— Дзе там.

— Я ж і кажу... Некалі, як Жэнік Рэпка, яшчэ да партызанкі, ад немцаў на полі ў снапах хаваўся, Рэпчыха хадзіла ў Дварчаны, напрамілы бог прасіла, каб заступіўся гэты насач за Жэніка, так нябось не. І ведаеш, што сказаў: «Ні гаварыць немцам, ні прасіць за твайго сына я не пайду».

— Вольга, хай наша прападзе.

— Мы ж гэтакія,— Вольга ўткнулася лобам у аконную раму, выцікоўваючы, дзе паварочваецца фурманка, і ўба-

чыўшы, што ў ружаватым, трохі парадзелым тумане яна заварочвае на папярочную вуліцу, каб выкіраваць, пэўна, на Прылуцкія хутары, лёгка ўздыхнула: — Ці не за рэчку, ці не на хутары паехалі?..

— Дзіва што, людзі там багацейшыя,— Алеся адцягнула хлопчыка ад вітушак.

— Ай, Аляксандра, ці ты не ведаеш, дзе багацтва, там і скупасць,— Вольга пацерла свой лоб, на якім ружавела выціснутая аконнай рамай косая ямка.

Як не здагадваліся яны, так і не здагадваўся бацюшка, што ехаць на Прылуцкія хутары яму не трэба было. Ва ўсякім разе пасля таго, як ён адмовіўся дапамагчы ў бядзе старой Рэпчысе.

Хітраваты, смякалісты дзядок — дварчанскі Язэп Карыба, што служыў пры царкве, нічога пра Жэніка Рэпку не чуў і не ведаў.

Мінуўшы мост, ужо за рэчкаю ён выбраў доўгую касу шараватага снегу і, каб вельмі не кружыць, паехаў наўпрост узбалоткам, каб выехаць, як спадзяваўся, да багацейшага тут на Прылуцкіх хутарах Данілы Баравіка. Але нечакана за крывымі шурпатымі вербамі, за ружаватымі пнямі ссечанага маладога алешніку з волкага туману выпаўзла прыгорбленае з пазелянелаю ад купін моху страхою Рэпкава гумно, а потым і хата, што глядзела на сыры сакавіцкі дзень адным невялікім, у шэсць балонак, акном, другое было закладзена дрэвам і замазана ў пазах глінай.

Дварчанскі Карыба прыпыніўся на нейкі міг, раздумваючы, заходзіць бацюшку ў гэтую нягеглую, недагледжаную хату ці не.

— Что призадумался, сударь? — заўважыў яго маруднасць бацюшка і варухнуў застрэшкамі густых пасівелых броваў.

— Ды, можа, мінём?..

— Нет уж,— Дэконскі спусціў з саней чорна-бліскучую ў наглянцаваным хромавым боце нагу.— Мы сеятели семя божьего, и пусть оно упадет на добрую землю и, взошедши, принесет плод сторичный.

— Яно гэтак...— Карыба саскочыў усё ж першым, падаў руку грузнаму Дэконскаму, якога нечакана схапіў востры боль у крыжы, памог падняцца з саней.

Скрывіўшыся ад гэтага раптоўнага болю і паволі разгінаючыся, Дэконскі зіркнуў на запацелае, скасабочанае акно Рэпкавай хаты, у якім забялеў і схаваўся невыразны

жаночы твар, і, пахрумстваючы лядком, рушыў да падзёўбанага сякерай парога.

Ён не ведаў, што ідзе ў хату да той самай Рэпчыхі, што пазалетась прыбягала да яго, протаіерэя Дэконскага, як бегалі з кожнаю бядою даўней і цяпер, і, падаючы перад ім на калені, адчайна і сударжна пачала хватаць за чорны падраснік, напрамілы бог просячы, каб памог выратаваць сына, што больш ужо сядзіць у жытніх пашарках, чым дома, і што ўжо не раз прыязджаў шукаць яго камендант дварчанскай паліцыі.

Непадступны, насуплены Дэконскі цяжка соп у вялікі нос і маўчаў, слухаючы збедаваную кабету, і нечакана рвануўся, пакінуўшы за сабою пах адэкалону, ажно Рэпчысе забіла дух, і здалёк ужо махнуў вялікаю рукою: «Не, я не пайду ў камендатуру ні казаць, што ваш сын служыў у міліцыі, ні заступацца за яго. Хай ратуецца як умее ды можа сам».

З шорсткіх, што церушылі за карак асцюкамі, пацямнелых ад дажджу снапоў, якія пара было звозіць у гумно, Жэнік Рэпка перайшоў у той вузенькі, зроблены ў сенях схрон, і адтуль ужо глухою восенню перабраўся да клыпатага сваяка ў далёкую прылесную вёску, дзе ўжо на яго разам з акружэнцам, што быў прыбіўся ў адну хату не то за прымака, не то за парабка, натрапіла партызанская група і грозна, нібы падазраючы ў чым, загадала збірацца ў дарогу — іх тады пагналі пад шашу рэзаць тэлеграфныя слупы. Адтуль яны ўжо нават неспадзявана трапілі ў атрад.

Цяпер яны былі зноў разам — вярталіся якраз з задання з Дварчанаў і зазірнулі да Рэпкі ў хату, каб перачакаць да вечара, як тут пад акно з парадзелага ўжо туману, у якім выбівалася белаватае сонца, выплылі сані з грузным дварчанскім папом.

Цяжкі тупат конскіх капытоў і нечаканы лопат курэй і абудзіў усіх у хаце.

Старая Рэпчыха, шмаргнуўшы скурчанаю рукою па шыбе і сцёршы на ёй густую луску поту, вобмельгам зіркнула ў акно і перапалохана забожкала: «Ах божа мой, поп прыехаў». І пачала адступацца да стала, за якім сядзелі асалавелыя, з чырванаватымі вачамі ад бяссонніцы і самагоннай чаркі Жэнік Рэпка і бялявы, вуграваты Пашка Лобаў, што сёння раненька, яшчэ старая не запальвала печы, усунуліся ў хату.

— Хто там? — першым крутнуўся на зэдліку і скочыў

да вінтоўкі, што стаяла пры зеленаватым, распісаным у жоўтыя кветкі, невялікім куфры, Пашка Лобаў.

— Дварчанскі Карыба бацюшку прывёз,— Рэпчыха зяхнула ледзьве жывым, перапалоханым голасам.

— Таго самага... Дэконскага? — Жэнік, выціраючы локцем тлуставатыя, блішчастыя ад падсмажаных скварак губы, таксама азірнуўся на акно.

— А каго ж яшчэ... Хаты, мусіць, высвенчвае,— дагадалася нарэшце і трохі паспакайнела Рэпчыха.

— Ну, мы зараз яго пасвенцім,— Пашка скрывіў свой бялявы, пабіты сінявата-ружаватымі балячкамі твар і захіліўся за печ, прыслухваючыся ўжо да шоргату і глухаватага тупату ў дашчаных дзіравых сенцах.

— Дзеткі, пабойцеся бога, не чапайце,— здушаным голасам зашаптала старая і кумельгам падбегла да дзвярэй, каб адчыніць цяжкую, што западала, клямку.

Угнуўшы перад адчыненымі дзвярмі галаў, каб не зачапіцца чорнаю стаўбунаватаю камілаўкай за папярочку, Дэконскі на міг застыў у сенях і, пазнаючы ў старой Рэпчысе тую кабету, што, здаецца, калісь прасіла заступіцца за сына, нехаця пераступіў парог.

Ён дагадаўся таксама, што насуплены, нацяты хлопец, які сядзеў бокам да стала, перакінуўшы нагу цераз зэдлік, і быў, мусіць, той самы савецкі міліцыянер, за якога і прасіла заступіцца гэта худая, з востра задзёртым носам і сівымі, рэдкімі, што выбіліся з-пад хусткі, валасамі нізенькая жанчына.

На стале, які хтосьці чапіў, калыхнулася недапітая бутэлька з каламутнай самагонкай. Пілі, напэўна ж, ужо яны, партызаны. Чаму ж толькі той дурыла, што застаўся стаяць пры санях, не папярэдзіў, не даў знаць, што ў хаце могуць быць лясныя госці. Але ўцякаць адсюль ужо не было як, і Дэконскі, перамогшы свой раптоўны, задушлівы страх, што гарачым потам шугануў па спіне, звычна гукнуў у нізкую хату:

— Слава Ісусу Хрысту!

Вялікая, жаўтлявая яго рука ашчаперыла бліскучы латунны крыж і перахрысціла той кут, дзе сядзеў таксама трохі ўстрывожаны Жэнік Рэпка.

— Слава-слава,— скоранька зашаптала і махнула ў сябе перад носам рукою старая Рэпчыха.

— Хі-хі,— прарваўся за печчу нечаканы і недарэчны смяшок.

Дэконскі павёў краем вока і змеціў, як з-за белага мурка

выслізнула і схавалася зноў цёмна-сінявата́я руля вінтоўкі з пярсцёнкам мушкі.

— Низыди, сатана,— зычны голас Дэконскага нібы трохі залекацеў, але вялікая жаўтлявая рука, узяўшы крапідла, тыцнула ім у пустое вядзерца і тройчы з глухаватым шумам махнулася на хату.

— А крапідла-то сухое,— з-за нізкай печы нарэшце высунуўся драбнаваты ў плячах, схуднелы, ў рудаватым шарачковым пінжачку Пашка Лобаў. Шчака яго, шчодра ўсыпаная сiняватымі балячкамі ад вугроў, крывілася ад здзеклівага смяшку.

— Дзеткі мае, ці вам ужо вучыць бацюшку,— Рэпчыха баязліва і скрыва паглядала на вінтоўку, якую паставіў сабе на мокры, раскіслы чаравік танклява-худзенькі партызан.

— Чаму ж яму і праўда вады ўжо шкода,— перакінуў сваю кароткую ногу цераз зэдлік і ўстаў ужо каля стала натапыраны Жэнік Рэпка.

— Ты вот памаўчы,— азірнулася на яго старая.

— А чаго маўчаць, помніш, як ты плакала?.. Ручкі яму цалавала, во гэтыя, вялікія, як клешні, і валасатыя.— Жэнік знізу ўверх змераў прыціхлага каля парога і ссутуленага папа. Твар у таго скамянеў да жаўтлявай мярцвянасці.

— Сціхні, нехрысць,— закруціла, затрасла галавою старая Рэпчыха, выцягнуўшы руку, нагнулася ў памялешнік, знайшла там чапялу, падняла над сабою.

— Маці... ты,— закрыўся рукою і пачаў паціху адступацца за стол, брыдка пасмехваючыся, перапалоханы Жэнік Рэпка.

— Во расквашу доўбню аднаму і другому,— яна заплюшчыла вочы і замахнулася чапялою.

Дэконскі нахмурыўся, таксама пабойваючыся гэтай паднятай чапялы, і, угінаючы голаў з высокай камілаўкай, спіною пасунуўся ў чорную прорву сяней.

На надворку, падыходзячы да саней, ён скоса зіркнуў на збедненага, змерзлага з чырванавата-шызым носам Язэпа Карыбу і мармытнуў, кісла крывячы губу:

— Можа, вернемся ў вёску...

— Што вы, бацюшка, пабойцеся бога.

— Бога я не боюсь, а вот дьявола...

— Я ж і казаў вам — не заходзьце ў гэту хату.

— «Казаў»,— сярдзіта крыкнуў на царкоўнага старасту разгневаны Амвросій Дэконскі і сеў у сані, прымошчваючы-

ся на мяккі і шапаткі мех з аўсом.— А почему утаил, что здесь могут быть партизаны?

— Гэ,— патурзаў за лейцы і гаркавата ўсміхнуўся ў свае зеленавата-белыя вусы Язэп Карыба.— Ды іх цяперака поўна ўсюды, як молі.

— Так что же нам делать? — бацюшка пахіснуўся на Карыбу — санкі, шаргочучы па жвірыстым цукраваным снезе, паплылі міма нізкай, прыгорбленай хаты.

— Брыдка ж уцякаць. Ды людзей пакрыўдзім.

— Оно, так...— уздыхнуў Амвросій Дэконскі, думаючы сам-насам, што дабром не скончыцца і тое, што ён усунуўся ў «самапомач» — гэтую шалудзівую арганізацыю, што раздае яўрэйскія неданоскі ды транты. І сам ён, набіты дурань, паслухаўшыся сына, прывалок дадому цёмна-вішнёвы буфецік. Нашто, каб хто спытаў?

Фурманка спынілася каля выбеленай хаты з блакітнымі аканіцамі. За густым і высокім яловым частаколам сіпла загаўкаў жоўты сабака з касматай мызай.

Язэп Карыба, саскочыўшы з саней, адчыніў уездную брамку і першым усунуўся ў двор.

Ад нізкага хлява да пабеленай хаты па нацягнутым, абслізганым да бляску дроце пабегла жалезнае кольца — пазвоньваючы ланцугом, сабака рвануўся да Карыбы.

І Дэконскі ўчуў за яловым частаколам у двары раптоўную раз'юшаную валтузню: здушанае, хрыпатае гыркатанне сабакі і расцяжна-злоснае падгукванне свайго фурмана: «Іх ты, здыхата. Іх ты...» Хілячы набок сваю чорную аксамітавую скуф'ю і падазрона зазіраючы ў двор, Дэконскі сумеўся, убачыўшы, як чырвоны ад натугі Карыба абедзвюма рукамі раздзірае разяўленую сабачую пашчу, а сабака, раскарачыўшы лапы, пнецца назад, з усёй моцы сілячыся вырвацца з Карыбавых рук.

З хаты, баязліва адчыняючы рыпучыя, набрынялыя ад вільгаці дзверы, высунулася і завойкала ад нечаканага дзіва неакрытая, у блузачцы паўнявая маладзіца.

— Ай, божачка, пусці сабаку,— яна замахала белымі круглымі рукамі.— Што ты робіш? Задушыш!

— Гэтакі звер. Задушыш, яна кажа. Вазьмі за нашыйнік, адцягні,— азірнуўся, задыханы гэтай тузанінай з сабакам Язэп Карыба,— а то во і, праўда, пакусае.

Маладзіца, зачвякаўшы збітымі крывымі дзеравянкамі па раскіслым надворку, падбегла да Карыбы, адарвала сабаку і, цягнучы яго, яшчэ больш раз'юшанага, да хлява, здзівілася:

— Дзядзька, як вы яго гэдак?..

— Ці так ці гэтак, а ты звяра добра навязвай,— Карыба шмаргануў мокрымі ад сабачай пены рукамі па зашмуленых, брудных да глянцаватай чарнаты полах кажушка і борзда падбег да бацюшкі, што стаяў яшчэ ўсё за сырым пазелянелым частаколам.

— Заходзьце ж,— Карыба каўзануўся на лапіку накарэлага лёду, але не ўпаў.

— Чудеса,— мармытнуў Дэконскі і, раздзімаючы злыя ноздры, паплыў у сваёй шырокай і доўгай, як бабская спадніца, расе да чорнай праймы расчыненых сяней...

З Прылуцкіх хутароў, забываючыся пра тое прыкрае здарэнне ў Рэпкавай хаце, ён варочаўся давольны — весяўцы не паскупіліся: на Карыбавых розвальнях падраслі да самых жычак мяхі з аўсом ды жытам. Лёгкія лазовыя кошыкі, накрытыя гэтакімі самымі плеценымі вечкамі, пацяжэлі ад ружовых, перасыпаных сечкай ды мякінай яечак. Ад стаўбунаватай, таксама выплеценай з ракітніку і пафарбаванай у чырвоныя і зялёныя паскі круглай карзіны, дзе ляжалі колькі свежых сыроў ды ўкручаных у анучкі асялкоў масла, смачна пахла солкай, падсушанай паляндвіцай. Яе, як кажуць, падсмыроджаную-падпраўленую, пасыпаную кменам, часнаком ды каляндрай і ўнюхалі дварчанскія паліцыянты.

Цяпер на пераездзе, калі што здаралася ў мястэчку, выстаўляўся пост — бывае, немец з паліцыянтамі, бывае, яны адны — паліцыянты, што стаялі на варце дзён два ці тры, правяраючы праезджыя фурманкі.

Сённяшняй ноччу пад нямецкі спальны вагон, што стаяў зводдаль вакзала на кароткай ветцы, нехта паклаў міну, праўда, невялікую — яна, аглушыўшы чыгуначную паліцыю, што спала там, толькі аблупіла на вагоне бляшаную абшыўку.

І сёння зранку перад паласатым шлагбаумам ужо сталі ў чорных, з дзюбавата доўгімі брылямі шапках двое паліцыянтаў, ружова разамрэлых, бо ўскоралі глынуць палкага, як агонь, першака, і ўзбуджаных, з перагарэлым нутром, што пасмоктвала і бурчала ад прагі; і паліцыянты нецярпліва і ўпарта думалі, як перахапіць зноў шклянку гары.

Сціраючы з пачарсцвелых сіваватых губ вялую ўхмылку, яны ўжо з важным, непадступным гонарам падыходзілі да саней, што пад'язджалі да пераезда, і давалі рукою знак з'ехаць на абочыну.

Пашморгваючы за рэмень вінтоўку, няспешна, з цяжкім

шахканнем ялавых жоўтых ботаў, па раз'езджаным, перамешаным з сіняватым вугалем снезе падыходзілі да саней: адзін, каб праверыць, ці ёсць у фурмана аўсвайс — жаўтлявыя, пераломленыя кардонныя вокладачкі з наклеенай картачкай і фіялетавай прадаўгаватай плямкай — адбіткам пальца; другі, каб тым часам перавярнуць у лазовым палукашку пыльна-пяршывую канюшыну ці мяшок з аўсом і знайсці аплецены буталь з самагонам.

Як знарок, сёння ім доўга не шанцавала. Перабраўшы падвод шэсць, яны, раздражнёна-злыя і помслівыя, нарэшце запынілі чорны вазок калекага пана Бернацкага: разбітага паралічом гадоў сарака мужчыну, што, трасучыся як у ліхаманцы, ледзьве мог хадзіць і балбатліва, пырскаючы слінай, гаварыць,— без прывычкі і не разбярэш што. Баючыся ўжо таго, што сённяшнім ліхім часам магло здарыцца ў фальварку, ён са сваёй пакаёўкай, якая слугавала яму хвораму, а цяпер стала жонкай, перабраўся ў мястэчка. На ўладны жэст паднятай рукі яго чырванаватая, нават сіняя ад прыроды Юдаля, што была і за фурмана, сапучы ў руды, што абкручваў шыю, лісіны каўнер, скіравала каня бліжай да канавы, поўнай зеленаватай, у бурбалках, талай вады.

Высокі, худы, нібы з начэпленымі чорнымі пад носам вусікамі, паліцыянт сігануў да вазка, крыкнуўшы здалёк:

— Дакумент!

— Які ж сённяшнім часам дакумант? — кабета недзе з боку каля сябе знайшла карміновы абшморганы рыдыкюль, дастала складзены ў чатыры столкі лісток у зялёную клетачку з чырвонай тоненькай лініяй.

Паліцыянт разгарнуў яго, паўзіраўся на фіялетавы штэмпель, прачытаў, мінуўшы нямецкі, толькі беларускі тэкст пасведчання: «...Выдана ў тым, што Бернацкі Казімір, яго жонка Бернацкая Адольфіна з'яўляюцца жыхарамі мястэчка Дварчаны».

— А дзе фотакартка? Хто гэта паверыць, што гэта вы жыхары, хіба толькі сам гмінны бурмістр спадар Казакевіч.

— Які далі дакумант, такі маем.

— Далі...

І тут нешта пачаў балбатаць, калоцячыся і крывячы адвіслую мокрую губу, пан Бернацкі.

— Праверка, не мыкай,— паліцыянт, паляпаўшы рукою па зялёнай у чорныя вазончыкі радзюжцы, раптам падсунуў пад яе руку, намацаў і выцягнуў «гусака» з чысценькай, ажно сіняватай, гнанай, як для сябе, самагонкай.

— Міна? — зацвякаў падкоўкамі ботаў, ідучы да вазка, другі паліцыянт — ніжэйшы, з даўгаватым, панура апушчаным носам.

— Яна,— прыскаліў адно вока той, што трымаў за доўгае рыльца «гусака» з папяровым размоклым заткалам.— У камендатуру прыйдзецца адвезці.

— Хлопчыкі, на лякарства яму вязу.

— Не дурыся, кабета, праязджай!

— Хлопчыкі...

— Скарэй, сказана,— рука ляпнула па боку дагледжанага гладкага каня, і сані, дастаючы шынамі да бруку, з едкім віскам паплылі на пераезд. На санях азіраўся і, крывячы мокрую адвіслую губу, сіліўся нешта сказаць пан Бернацкі.

Да другога воза паліцыянты падышлі ўжо на добрым падпітку: перад гэтым яны ўкрадкам бегалі за чорны куст бэзу і там пацягвалі гэты моцны, выгнаны, мусіць, з жытняе мукі самагон проста з «гусака», ставячы яго назад у снег між пазелянелых старых камлёў бэзу.

Да пераезда якраз набліжаліся розвальні, на якіх сядзеў, ганарыста падняўшы голаў у аксамітнай камілаўцы, настаяцель дварчанскай царквы Амвросій Дэконскі. Уперадзе яго на мяшку з аўсом курчыўся ад сыраватага адлежнага холаду і хаваў белыя вусы ў чорны аб'інелы каўнер кажушка Язэп Карыба.

Згледзеўшы паліцыянта, што высунуўся з-за шарага пераплеценага пруцця голага бэзу з чорным каўпачком леташняга гнязда, Карыба вяла шлёгнуў мокрай сырамятнай пугай, каб падагнаць каня і скарэй мінуць паліцэйскі пост, але тут няждана з-за спіны напярэймы каню выйшаў другі паліцыянт — высокі, бліскаючы асалавелымі, сінімі вачмі.

— Стой! — гукнуў ён, падымаючы чорную руку з сівым закарвашам і стараючыся злавіць каня за цуглі.

Карыба нібы незнарок праехаў трохі і тады ўжо турзануў на сябе лейцы:

— Тыр-р-р!

— Ты што? — паліцыянту нешта закусала за каўняром, і ён, жмурачыся, пакруціў доўгай худой шыяй.— Паліцыянта не бачыш?

— А хіба паліцыянт не знае бацюшку? — Карыба азірнуўся на Дэконскага, але той, панура звесіўшы свой немалы чырванаваты нос, маўчаў.

— Знаю, што з раю, але як зваць — не знаю,— густым

атрутным пахам тытуню і самагону дыхнуў прыгорблены высакаваты паліцыянт.— Паказвай дакумент!

— Вы што? — прыўзняўся на мяшках насуплены Дэконскі і задраў сваю горка-аксамітную камілаўку — вока ў яго турзалася і касіла ад нервовасці.— Хіба мы падлягаем праверцы?

— Не падлягае толькі войска, паліцыя ды нямецкія дзяржаўныя службоўцы,— да саней, сплёўваючы з губы кантарык размоклай белай цыгарэткі, падыходзіў яшчэ адзін паліцыянт — драбнейшы, з бледна-зялёным худым тварам, і Дэконскі, крышку асядаючы на мяшок, пачаў пазнаваць басякаватага, распуснага свінабоевага сынка, што гадоў колькі назад на прастольнае свята Іаана Хрысціцеля, калі Дэконскі з урачыста-набожнай працэсіяй прыхаджан, над якімі вецер пакалыхваў залацістыя харугві, падышоў да блізкай, схаванай у старых чорных алешынах рэчкі, каб высвенціць Іардан, з-пад берага з аеру, вымазаўшыся сіняватай гразёю і дзіка пасмехваючыся, высунуўся ён, сын Пясэцкага. Тады нехта з прыхаджан шпурнуў у яго сухою трухлявай ламачынай. Пясэцкі, бліснуўшы голым сінявата-худым азадкам, даў нырца і выплыў каля другога берага і во гэтаксама, крывячы мокрыя таўставатыя губы, дурнавата зарагатаў.

— У мястэчку ўведзены паліцыйны выняткавы стан. Мы правяраем кожнага. Прашу падсунуцца,— і чырвоная змерзлая, з пакрэплымі пальцамі рука адчыніла вечка ў лазовым кошыку — якраз там, дзе ляжалі сыры і паляндвіца.

— Уга-а! — выцягнуў губы высокі, з падбрытымі вусікамі і пляскаватым носам паліцыянт і выхапіў з кошыка паляндвіцу.

— Буду скардзіцца ў раён,— бацюшка Дэконскі ад злосці скуб вялікаю жменяю сваю падстрыжаную сіваватую бародку.

— Якая скарга, на каго, калі загад даў штурмбанфюрэр СС,— дыхнуў на Дэконскага густаватым перагарам высокі, з худавата-ўпалымі шчокамі паліцыянт.

— Гіцлі, што скажаш больш, настаяшчыя гіцлі,— сцебануў каня пугаю і рашуча падняўся на каленях Язэп Карыба. Конь нехаця зрушыў з месца.

— Гані, гані,— Пясэцкі падтрос на плячы вінтоўку.— А то зараз агрэю кульбаю па плячах.

— Не пракакайся, едзем з богам,— загадаў ужо і Дэ-

конскі, закідваючы сабе на калені шырокую паласатую стужку епітрахіллі.

— Ну, што ты скажаш, гіцлі,— не мог яшчэ ўсё аціхнуць і супакоіцца царкоўны стараста Язэп Карыба.— Брыда, як кажуць, з брыды. Усё падаянне, ці, як грыцца, прынашэнне, забралі б.

Дэконскі маўчаў, слухаў, як балюча, жалезам па рэйках пераезда, скрыгаталі палазы саней, і калі гэты едка-балючы віск сціх, задраўшы кароткую, з белаватым плешыкам бародку, сказаў: «Делайте не брашно гиблющее, но брашно пребывающее в живот вечный»[1].

## III

Паабапал дзвюх глыбокіх санных каляін, крышачы нагамі хрумстка-звінючы, шкляны лёд-шарпак, ішлі трое: старшы над групаю, але меншы за ўсіх ростам Жэнік Рэпка, стройны ў паставе, высокі, як трасціна, і прыгожы з твару Ярафееў з нязвыклым і трохі брыдкаватым сібірскім імем — Кеша і гэтакі самы хударлявы і дробны, як малады певень, Пашка Лобаў.

Ён, былы вайсковы шофер, з-за Беластока ўлетку сорак першага даехаў толькі да Зэльвы, а там ужо, пакінуўшы заглухлы паштовы «газік» з кароценькім кузавам «пікап», адступаў пеша, покуль пад Дварчанамі не наткнуўся на немцаў.

Звярнуўшы з бойкай шашы на глухія, зацішныя палявыя дарогі, знясілены, змораны дзвюма бяссоннымі начамі Пашка папрасіўся ў невялікай вёсачцы на начлег, якраз у хаце занадта спагадлівай, што жыла з старою глухаватай мацераю і гадоў сямі дзяўчынкай, прынадлівай, раздабрэлай маладзіцы.

Цяжка ўжо сказаць, хто каго ўпадабаў, але гараджанін Пашка застаўся за гаспадара ў вясковай хаце.

Увосень сорак другога, калі партызаны, ідучы на дварчанскую шашу рэзаць тэлефонныя слупы, паднялі яго з пасцелі, сярод хаты стаяла, хаваючы пад наспех накінутым караткаватым каптанікам свой выпуклы жывот нябрыдкая з твару, трохі сумеўшыся ад начных гасцей, чарнявая маладзіца. Яна зацяжарала другі раз, каб другі ўжо раз на-

---

[1] Працуйце ж не дзеля ежы, што зніштажаецца, але дзеля ежы, што астаецца ў жыццё вечнае» (*бібл.*).

радзіць дзіця без бацькі — Пашку партызаны не адпусцілі, забраўшы як кадравага вайскоўца да сябе ў атрад.

Другі з гэтых трох Кеша Ярафееў, па мянушцы Пара, якая прыліпла да яго ад нязвыклай сібірскай гутаркі: замiж «Слушай, парень», ён казаў: «Чуй, паря»,— прыйшоў у атрад з цыгуначнай аховы, што жыла пры рэчачцы ў бункеры, вартуючы жалезны мост, недалёка ад дварчанскага пераезда.

Ярафееву ды палоннаму ваенфельчару, што трапіў недзе аж са смаленскага ў дварчанскі нямецкі шпіталь, знайсці дарогу да партызанаў падказала Хрысця.

Ваенфельчар — бялявы, сарамяжлівы лейтэнант — не вярнуўся з першага задання, калі іх з невялікай групай партызан паслалі здабыць сабе зброю і яны, падпільнаваўшы між грудкоў на шашы нямецкі грузавік, дадумаліся, разяпы і дурні, захапіць яго разам нават з наваградскім ляснічым, не здагадваючыся, вядома, што ўслед за грузавіком з-за абсаджанага маладым хвойнікам пагорка высунецца нямецкая танкетка.

З пецярых партызан, якіх і пачаў касіць на адкрытай шашы нямецкі кулямёт, выратаваўся ён, Кеша, ды немалады, нават трохі клыпаты, былы дырэктар маслазавода, як назнарок і адпаведна дзеля гэткай пасады падабраным прозвішчам — Смятаннікаў, што быў тады за старшага групы.

Як там, каля нямецкага грузавіка, ён пакінуў сваю адзіную, з двума нерастрачанымі патронамі, бельгійскую вінтоўку, Смятаннікаў не помніць. Знайсці ружжо, але ўжо другое, яму памог Жэнік Рэпка, напытаўшы ў недалёкіх Ведравічах мужчыну, які яшчэ ўлетку сорак першага разам з трупамі байцоў закапаў, накрыж кінуўшы на іх, некалькі вінтовак.

Адну з іх у воспах ачышчанай іржы і нёс цяпер, трымаючы за самаробны вузкі рэмень, як носяць іншы раз за абодва доўгія кручкі каромісла, няспешны, трохі таўлуяваты Кеша Ярафееў.

Яна, вядома, не страляла, але вясковых цётак ды дзядзькоў палохала гэтаксама, як спраўная зброя, асабліва на хозаперацыях, калі прыходзілася ў слязлівага, лішне скупаватага гаспадара, што пачынаў плакаць, нібы па нябожчыку, па звязаным і ўкінутым у сані баранчыку ці парсюку.

На хозаперацыях была і чарка, была і скварка, але чагосьці не далягала, душа смылела па іншым. Ярафееў з

Лобавым прасіліся ў Рэпкі, каб ён узяў іх з сабою ў Дварчаны — там было страшна, але і цікава: адтуль яны варочаліся ў атрад, маючы на сваім рахунку ці абстраляную будку з паліцыяй, ці спалены склад, ці падарваны мінай спальны вагон. Сёння, як і заўсёды, ішлі наўгад.

Ноч была чуйная — сцішэў вецер і пачаў зманвацца марозік. З высокіх сіва-жаўтлявых хмар выглядала і хавалася зноў голабелаватая, як бессаромная, поўня. Сіняе святло яе на шарай дарозе, што нібы ўкрадкам убегла ў лес, здавалася маладым, нярушаным і лёгкім, як першы снег.

У лесе з нечаканым шоргатам, разганяючы маўклівы, пануры поцемак, падала, яшчэ не атрэсеная ветрам, звінюча-шкляная снежная наледзь.

Шарая хрумсткая дарога, вышмыгнуўшы з-пад хмурых, калматых елак, згубілася на абветраным полі, і партызаны прыпыніліся, азіраючы белы прастор, што мяшаўся з далёкімі голымі хмызнякамі.

На грудку чорнай няроўна-зубчатай паласою вышчарыўся зноў пералесак. За ім былі Дварчаны. Туды недзе, працяжна і баязліва гукнуўшы, з сіняватай, падазрона-чуйнай, абветранай ночы спяшаўся цягнік — нёс за сабою рытмічны перастук колаў.

— Такі доўгі таварняк, сам у рукі просіцца,— сказаў Жэнік Рэпка, пераступаючы грэбень накарэлага лёду і прытрымліваючы правай рукою павешаны ўпоперак грудзей свой ППШ.

— Да, подкачал наш Аверьянов,— азірнуўся Пашка Лобаў, першым убіраючы пад сябе шараваты, зацярушаны за зіму саломаю і конскімі яблыкамі пасак дарогі.

— А што, сёння на жалезку пайшоў хіба ён? — Жэнік Рэпка задзёр сваю суконную кепку з даўгаватым брылём.

— Он,— Лобаў прыпыніўся і паслухаў, як там за шчарбатаю палоскаю лесу радзее шчодры перастук колаў.

Прыпыніліся і ўсе трое — цягнік, завішчаўшы жалезам, тармазіў на дварчанскай станцыі.

Далей ішлі, покуль не абрыдла, маўчучы. Першым зноў аказаўся Жэнік Рэпка, прыпыняючыся каля Кешы Ярафеева:

— Пара, скажы, што такое тайга?

Кеша, мусіць крыўдуючы на сподзе душы за гэтую мянюшку, памаўчаў, цярпліва і доўга, потым ужо марудна пераступіў на другі бок раз'езджаных каляін ад Рэпкі.

— Тайга, спрашиваешь?.. Сплошной лес. Ночью там не пойдешь. Там летом солнца не видно.

— Скажаш.

— Точно говорю. Ель, пихта, сосна, лиственница — все сплелось.

— Ваўкоў, пэўна, шмат?

— Волков нет, медведи по вырубам за малиной под самые дома подходят.

— Камарыльлі там поўна,— умяшаўся ў гутарку Пашка Лобаў, падтрасаючы на плячы сваю дзесяцізарадку.

— Гнусу да, не продохнешь.

Але гэтую нязначную, трохі пустую гавэнду перапыніў далёкі, глухавата-тупы стрэл, што ўслед за трасіруючай ружовай куляй даляцеў з-за наміткі лесу на седлаватым грудку. Спярша, як падаючая зорка, пакідаючы нават ясны пасачак, праляцела запальная куля, а потым, счакаўшы, бабахнуў гэты баязлівы стрэл. нібы спалохаўшыся яго, за хмару заплыў белы месяц, але нейкае святло ішло ад заснежанага поля.

— З вакзала, ці што?— Жэнік Рэпка зачапіўся за хрумсткі грэбень лёду.

— Нет, с бункера бьют,— падказаў Кеша Ярафееў.

— Скуль знаеш?

— Знаю... Раз палят в воздух, значит, в караул к словакам пришел унтер-фельдфебель Плец.

— Што за ён?

— Начальник железнодорожной охраны. Живет недалеко от вокзала в деревянном доме с двумя верандами. Но его так просто не возьмеш — овчарка и в квартире телефон.

— Целефон і абрэзаць можна... Спярша прабяромся на станцыю...

Рэпка ўслед за высокім Ярафеевым уцягнуўся ў малады, неацярэблены хвойнік, што густою цёмна-нахіленаю сцяною абступіў дарогу.

Яна, прамчаўшы з паўвярсты роўнай стралою, раскалолася на вілаватыя канцы,— адзін з якіх цераз чыгунку дасягаў дварчанскіх магілак, другі загінаўся да рэчкі на мост, па якім хадзілі не толькі цягнікі, а і людзі, покуль немцы не выставілі варту. Леташняй восенню там з аскобленых сасновых круглякоў скідалі і абнеслі гэтым драўляным валам, насыпаўшы між падвойных сцен пяску карычневы бункер. Цяпер адзін канец дарогі крута зламаўся, не дабягаючы паўвярсты да чыгуначнага моста, і лукаткамі ішоў пад разложыстыя старыя вербы і алешыны на гнуткую кладку.

Гэтак цяпер і хадзілі — цераз яе, трымаючыся за

2—3013

ненадзейныя крохкія, алехавыя парэнчы, а далей ужо ровам каля крайніх местачковых хат на шашу і таксама да мосціка, толькі ўжо шашэйнага, вымураванага для вясновай паводкі.

Асцярожна, украдкам да крайніх местачковых хат выйшлі яны, трое партызанаў, зняўшы з плячэй і трымаючы напагатове, Жэнік Рэпка — новы, што пах яшчэ заводскаю змазкай і там на заводзе толькі прыстраляны аўтамат, падораны месяц назад за баявыя заслугі, Пашка Лобаў — сваю дзесяцізарадку, якую здабыў сам, калі перад Новым годам яны ўкакошылі на хутарах каля Світазі ажно трох здаравілаў у зеленкаватых шынялях з украінскага батальёна, што прыехалі па сена і авёс для сваіх коней недзе з Гарадзішча.

Трымаў, па-баявому нарыхтаваўшы, саржавелую вінтоўку і прыгінаўся, прыспешваючы крок, за шпаркім, трапяткім і няўгонным Жэнікам Рэпкам рослы Кеша Ярафееў.

— Ну й семафор, цябе за вярсту відаць,— азірнуўся, зашыпеў на цыбатага Кешу і злосна сплюнуў Жэнік Рэпка, першым высоўваючыся з канавы, каб пераскочыць чысты прагал.

Ад гэтага злоснага шыпення Кеша Ярафееў перапудзіўся яшчэ больш, прыгнуўся і, няўклюдна месячы шорсткі, падмерзлы снег, незнарок для сябе і для ўсіх ужо зачапіўся за ўледзянелы дрот, што тырчаў аб'інелаю, незаўважнаю дугою, і расцягнуўся ў канаве.

Убачыўшы, як капошыцца і смешна — ракам устае няспрытны і не вельмі ўдалы Кеша, не стрываў і дробна запырскаў здушаным смехам Пашка Лобаў.

— Хахінькі,— пераскочыў нізкі плоцік і затуліўся за шырокі, з двума камінкамі туалет задыханы, непадступнагрозны Жэнік Рэпка.

За туалетам выцягнуўся невысокі, скіданы з іржавагнілаватых шпал хлеўчык. Недзе ў ім, учуўшы людзей, дробненька замігікала каза.

З правага боку бялелі атынкованыя, з чорнымі толевымі прасмоленымі дахамі, на якіх доўга не трымаецца і растае снег, дамы дварчанскай чыгункі, занятыя цяпер невядомым людам — пагарэльцамі, бежанцамі, сем'ямі паліцыянтаў з чыгуначнай аховы. Закрытыя аканіцамі, завешаныя шчыльна дзяружкамі вокны хавалі таямнічую глухату.

За дамамі з навіссю голых дрэў падымала кроквы спаленае летась увосень і ўжо адбудаванае з блокаў дэпо вузкай калейкі — немцы зноў збіраліся пусціць яе з Двар-

чанаў у Наваградак, і таму ўздоўж чыгункі па вёсках пачалі размяшчацца на пастой казацкія сотні з арміі паходнага атамана Паўлава.

Арганізаванае на Доне і добра падмацаванае палоннымі, казацкае войска ў шэсць тысяч шабель недзе ўжо з Украіны перакідвалася сюды, на Наваградчыну.

— От, іці іх за ногу, адбудоўваюцца, швабы,— Жэнік Рэпка падняў голаў, паказваючы брыльком свае кепкі туды, на дугаватыя канструкцыі жалезных, зманціраваных кроквaў.

— Из блоков, черт возьми, думают от огня спасет,— пацвердзіў Лобаў.

— А помните, какой фейерверк мы им устроили,— захлябнуўся ад радасці, забыўшыся пра перасцярогу, трохі наіўны Ярафееў.— Ты, Женя, даже телефонный аппарат срезал и в отряд принес.

— Было,— адазваўся давольны Жэнік Рэпка, цікуючы з-за смярдзючага, з адкрытай выграбной ямай туалета ў той бок, дзе злосна і цяжка-глухаватым голасам загаўкаў чуткі сабака.

— Она, унтер-фельдфебеля Плеца овчарка,— падказаў Ярафееў.

— Ці-і-і! — Рэпка прыклаў палец на надзьмутыя губы.

Партызаны, стаіўшы нават дых, счакалі за туалетам і нарэшце па адным пачалі перабягаць за недабудаванае дэпо. Там ужо, затуліўшыся за бетонамяшалку, прыселі каля высокага фундаменту, здушаным шэптам перамаўляліся, куды рушыць далей. І раптоўна Жэнік Рэпка, як ад нязвыклага цуду, застыў і якую хвіліну маўчаў, не закрываючы рот і захлынаючыся ад убачанага, нарэшце аўтаматам паказаў на далёкі пакгаўз — па ім, адсвечваючы ад распаленага паравоза, што стаяў за блізкай рампаю, то падымалася, то ападала ружаватая яснасць: высыпаны з топкі між рэек тлеў недагараны шлак.

— Хлопцы, бяром паравоз! — ён нацягнуў тужэй на галаў кепку і ўжо каротка загадаў: — Бяжымо па адным. Я заходжу з левага боку...

І, як сам не свой, у нейкай раз'ятранай гарачцы бегма прыпусціўся да доўгага, з шырокім навіслым дахам пакгауза. Крохкімі, гарачымі вуглямі пад нагамі ў яго пахрумстваў і рыпеў зледзянелы снег.

Лобаў з Ярафеевым, сцяўшы ў руках вінтоўкі, у дрыготкай нервовай нацятасці пільна сачылі, як знікаў Рэпка, зліваючыся з чарнатою высокага, збітага са шпал і шчыльнага

плота. За ім быў вугальны склад. Недалёка ад яго і чмыхаў парай распалены манеўровы паравоз — у пройме дзвярэй варушыўся калматы цень, шоргаў шуфель, чэрпаючы з тэндэра вугаль.

— Ну, пара,— адлучыўся ад сцяны і паволі патрухаў, несучы перад сабою настаўленую дзесяцізарадку Пашка Лобаў.

Услед за ім, раскідваючы доўгія ногі і слізгаючыся па пацямнелых, пабітых іржою рэйках, што там-сям вылезлі з-пад снегу, спяшаўся Кеша Ярафееў. Абягаючы чорны, з навіслай дзюбай слуп помпы, яны спяшалі да паравоза ад невысокай рампы, заваленай маткамі дроту і застаўленай бялікімі, збітымі, з сырых гаркаватых ад смалы дошак, бельмі скрынямі. Цьмяна адбівалі месячнае святло пастаўленыя ў рад, прывезеныя сюды у Дварчаны, недзе з наваградскіх касцёлаў і цэркваў, вялікія званы. Лобаў нават на які міг прыцішыў крок, дзівячыся на іх. Але з гэтай кароткай радасці і замілаванасці яго вырваў і ачуціў незнаёмы крык, чужая гутарка.

— Koks cia sustojimas?

— Nežinau. Atstok[1].

Ён азірнуўся: напроці вакзала цямнеў, свецячы двума чырвонымі агнямі на заднім вагоне, караткаваты таварняк. Каля яго ў сінявата-скупым месячным святле варушыліся і бегалі ў доўгіх шынялях незнаёмыя салдаты.

— Літоўцы,— дагнаўшы Лобава, цяжка задыхаў Ярафееў.— Шаўлісі[2] ...мацъ іх!

Нечакана каля іх пудкім зайцам марскануў, мусіць, выскачыўшы з паравоза, мужчына ў круглай фуражцы і чорным камбінезоне.

— Куды ён?..— Ярафееў бездапаможна ўзіраўся на чорную калматую пляму, што кацілася, плыла да доўгага саставу з чужою, неразборліваю гутаркаю.

— Уцёк, падлюга,— з клубка белай, падсвечанай ружаватым святлом пары, што шыпела і падала на вялікія колы паравоза, высунуўся Рэпка.

— Да вона дьявол,— паказаў на састаў Ярафееў.— Обузил меня, я вначале и не смекнул.

— Прыкладам трэба было, а то, глядзі, немцам скажа.

— Не немцы тама. Шаулиси.

---

[1] — Якая гэта станцыя?
— Не ведаю. Адчапіся *(літ.)*.

[2] Szaulisi — літоўскія фашысцкія батальёны *(ням.)*.

— Разбяромся потым, цяперака пільнуй, каб і праўда не прывёў іх сюды. А я ў будку падскочу, стрэлачніка прывяду,— Рэпка адступіўся ў ружаватую пару і папярхнуўся яе сухою гарачынёю.— Трэба ж стрэлкі адамкнуць.

Стрэлачніка — высокага сутулаватага паляка, на галаве ў якога сплюснулася зношаная, сцёртая дашчэнту чорная з цёмна-малінавым аколышам рагатыўка,— Жэнік Рэпка прыгнаў скоранька. Разам з ім, прыхаваўшы пад сваю суконную на кудзелі куртку настылы аўтамат, і адамкнуў стрэлкі.

Выстаўляючы нібы незнарок з-пад суконнага каптана свой новы, што пахнуў яшчэ ружэйнай змазкай ППШ, здзекліва пасмехваючыся, сказаў:

— Я думаю, пан Дабрынеўскі не пойдзе заяўляць немцам, што бачыў нас?

— Што вы, пане партызанту,— рука ў Дабрынеўскага, што трымала за круглы вочап нейкага старога, таксама польскага ліхтара, дробна калацілася.

— Ды той, што ўцёк, таксама не скажа.

— Вядома, пане партызанту...

— А хто ж ён?

— Ды тутэйшы. Нядаўна ўзялі памочнікам... Барысюк,— вызірнуў з паравознай будкі і адказаў за Дабрынеўскага стары, з абвіслымі вусамі таксама яшчэ польскі машыніст.

— Знаю падлу, брат у паліцыі,—Рэпка хапіўся за доўгую скабу поручня, падняўся ў паравоз, дзе абапал машыніста стаялі Ярафееў з Лобавым, і ўладна махнуў галавою: — Гані на асноўны пуць, на мост пойдзем.

— Пачакай, успеем з козамі на торг.

— Ты што? — ажно падступіўся на дыбачкі Рэпка.

— Зірні на манометр, хлопец. Не бачыш, што пары яшчэ малавата.

— Гони, говорю! — разам з лаянкай крыкнуў ужо і Лобаў.

— Хлопцы, я вас не перабрашу,— зноў падняў свой наздраваты нос на манометр і спакойна адказаў машыніст.— Але мацюкамі паравоз не падгоніш. Трэба трынаццаць атмасфер.

Нервова сплёўваючы, чакалі яшчэ хвілін пятнаццаць. Паглядалі то на шырокага, гладкага ў плячах і занадта спакойна-маўклівага машыніста, то на хваставы з двума чырвонымі агнямі вагон вайсковага саставу. Покуль не ўбачылі ў даўгаватых шынялях з вінтоўкамі цераз плячо двух падазроных, што, засланіўшы чырвоны ніжні ліхтар

і пераступаючы рэйкі шырокай каляі, ішлі сюды да паравоза.

— Чыгуначная ахова, ядры іх за ногу,— мармытнуў машыніст і ўжо, не глянуўшы на манометр, паволі, але ўпарта, нібы яму таксама абрыдла чакаць, папхнуў ручку рэверса.

Паравоз, прабуксаваўшы на месцы, нарэшце скрануўся і, цяжкавата падляскваючы, паволі пасунуўся, падбіраючы пад сябе цьмяна-бліскучыя, што адбівалі скупое, прыхаванае хмарамі святло месяца, і раўнютка-тугія рэйкі.

Двое ў доўгіх чорных шынялях і дзюбаносых шапках адскочыліся ўбок пад выступ рампы. Адзін з іх патрос кулаком:

— Ну, Інгілевіч!

Паравоз, грузна, з жалезным скрыгатам завішчаўшы на стрэлках, выйшаў з тупіка на шырокую пасму рэек.

— Цяпер куды? — спытаў машыніст, убачыўшы наперадзе чырвоныя агні хваставога вагона з будачкай для кандуктара.

— Гані назад! — важна, з неадступнасцю ў голасе загадаў Рэпка.— На мост пойдзем, на перагон.

— Мне хоць у пекла,— машыніст прыпыніў паравоз, двойчы падсвіснуў, торгаючы над галавою за дрот з трохкутнай ручкай, і абярнуўся да Рэпкі — лямпачка з невысокай столі сляпучым святлом біла яму ў прыплюшчаныя вочы.— Стрэлку перавесці трэба.

— Ярафееў, пара табе,— Рэпка высунуў голаў у акно, шукаючы вачмі тых двух з чыгуначнай аховы.

Як счуўшы што падазронае, яны стаялі якраз недалёка ад стрэлачнага рэгулятара, у ліхтары якога свяціўся малочна-белы трохкутнік, паказваючы, у які бок адыходзіць стрэлка. Паравоз, пасопваючы і чмыхаючы парай і рытмічна пагрукваючы коламі, усім сваім чорным цяжарам набліжаўся да іх. Рэйкі рабілі нябачны паварот, і колы, тручыся аб жалеза, зноў балюча заскрыгаталі.

Двое з чыгуначнай аховы, асветленыя сляпучым, як пражэктар, верхнім ліхтаром, пастараліся далей ад паравоза, пераступіўшы яшчэ адны рэйкі.

«Яны не дадуць Ярафееву перавесці стрэлку. Вядома ж, пазнаюць, што гэта не стрэлачнік».— Рэпка ўчуў, як у руках пацяплела цаўё аўтамата. Нейкая сіла магнэзам цягнула і злосна зманьвала яго націснуць на спускавы кручок... Скасіць гэтых двух, укласці напавал тут, каля пакгауза. Але стрэл пачуюць у вайсковым эшалоне, што стаіць насупраць

вакзала. Тады ці выведзеш са станцыі паравоз, каб потым вярнуць яго назад і з усяго разгону жарнуць у састаў.

— Як там ні было, трэба перавесці стрэлку. Трэба... Нават калі пачнуць страляць.

Не, спачатку, пэўна, не будуць: пад пучком святла, што б'е ім у вочы, Ярафееў неўпрыкмет успее дабегчы да стрэлачнага рэгулятара, адкінуць рычаг з адвесам. Апомняцца хіба тады, калі ўбачаць і пазнаюць, што стрэлку перавёў нехта чужы. А па кім будуць страляць? Спярша, вядома, па ім, па Ярафееву, а потым — па паравозе.

— Ярафееў, іці тваю!.. Дзе ты?

— Тута...

— Час бегчы да стрэлкі.

— Хлопцы, а можа, счакаць? — хрыплаватым голасам аказаўся машыніст.— Вунь стаяць два д'яблы. Той вышэйшы — з гомельскай паліцыі, што перабралася сюды. Хітры, як выжла.

— Можа, баішся, Кеша? — Рэпка локцем падштурхнуў Ярафеева.

— Да так...— мармытнуў той, бліснуўшы на Рэпку вялікімі, усё ж перапалоханымі вачмі. Узяўся рукою за поручань і пачаў спускацца, ловячы нагамі жалезныя сходцы. Скочыў на чорна-брудны, зледзянелы снег і пабег ён нечакана.

Усе трое, што засталіся ў паравозе, ужо бачылі, як ён перакінуў цяжкую з адвесам ручку, як перакруціўся яркі ад карбідкі ліхтар і як да яго, да Кешы, ірвануліся двое ў чорных шынялях — па чырвонаармейскай фуражцы, па падперазанай вайсковай фуфайцы, мусіць, здагадваючыся, што гэта партызан.

Заглушаны грукатам паравоза, стрэл са сполахам агню дагнаў Ярафеева каля самага паравоза,— Ярафееў спаткнуўся і пачаў падаць, яшчэ безнадзейна і ў гарачцы працягваючы рукі.

Рэпкаў аўтамат, захлябнуўшыся кароткаю чаргою, паласнуў туды, дзе мільганулі, застаючыся каля доўгага пакгауза, гэтыя ўдвух у чорных шынялях з чыгуначнай аховы.

Паравоз, набіраючы хуткасць і выблытаўшыся з перакрыжаваных стрэлак, ляцеў на перагон, цяжка ўздрыгваў і пахістваўся.

За блізкім пераездам праплыў белы, з доўгім бляшаным комінам і нерухомым флюгерам дамок дварчанскай вадакачкі, далей, на другі бок чорнай з белымі крыллямі лёду

рэчкі каля фундамента высокага моста прытуліўся бункер — прысадзісты, накрыты дзярном зруб і акружаны чатырохкутным з проймамі амбразур драўляным валам.

Пачуўшы, мусіць, на станцыі страляніну, каля моста замітусіўся і пачаў збягаць па адкосе ўніз перапуджаны вартавы. Лобаў стрэліў у яго, не ведаючы, пацэліў ці не, бо вартавы, спатыкнуўшыся ўжо да гэтага, па чорных, расталых на адкосе праталінах каціўся пад самую рэчку.

Жалезнаю і вялікаю пустатою пад цяжкім нястрымным паравозам прагрукаў мост.

Жэнік Рэпка адапхнуў Лобава і, мацюкаючыся, сарваў з глухім хлапком чаку, размахнуўся і шпурнуў у чорны бункер лімонку. Там, палыхнуўшы агнём, ударыў высокі пругкі выбух.

Паравоз, пачмыхваючы парай, з бесперабойным тахканнем колаў ляцеў далей, за высокі ажурны слуп семафора з чырвоным круглым вокам і паднятым плячом.

— Спыняй! Ядрона вош! — крыкнуў машыністу Жэнік Рэпка.— Ударым у эшалон.

— Ударым... А можна было і таго тоненькага хлопца зберагчы. Не слухаў ты мяне...— машыніст паволі збаўляў хуткасць.

— Ты што, ядрона вош!

— У цябе адно слова — ядрона ды ядрона.

— Ды ты?.. Тваю маць!..— у Жэнікавых руках падскокваў і дрыжаў аўтамат.

Машыніст маўкліва дужаю рукою злавіў рэверс. Паравоз паволі прыпыніўся і, прабуксаваўшы коламі, зачахкаўшы, пачаў зноў набіраць хуткасць, лецячы тэндэрам уперад. Зноў праплыў марны дварчанскі лясок з магілкамі. Паступова пачаў большаць адхон.

— Хлопцы, я да адказу нацягну рэгулятар, паравоз паляціць як шалёны. Уцякаем, бо далей высокі адкос, паскручваем галовы.

— Давай, не марудзь! — крыкнуў Рэпка.

— Скакаць толькі ўперад паравоза.

— Не вучы! — першым у шорсткі снег паляцеў Лобаў. Рэпка скокнуў услед за ім. Як і калі на другі ўжо бок немалога адкосу выляцеў вусаты машыніст, яны ўжо не ўбачылі. Пэўна, зараз жа знік у калматым ляску на магілках. Але Рэпку з Лобавым было ўжо не да яго. Дабягаючы да цёмных круглых, як царкоўныя купалы, кустоў ялаўцу, яны затоена і з вялікім радасна-трапяткім дзівам

у вачах глядзелі, як у шарай ночы ляцеў чорны паравоз, знікаючы на завароце сярод нізкай каламутнай паласы голага прысаддзя, платоў і будынкаў.

І раптам цяжкі жалезны абвал страсянуў чуткую прытоеную ноч. Услед за вялікім грукатлівым лязгатам пасыпаўся і раскалоўся малы, потым яшчэ меншы... На станцыі грымела, трашчала, лязгала, глуха гуло, і яму, гэтаму грукату, здаецца, не было канца. Чуўся неразборлівы гаман і крык.

Партызаны адыходзілі пад далёкі, тупаваты стукат кулямётаў, што стралялі наперамешку: адзін з ачунялага бункера, другі, мусіць, з вакзала, з круглага ў франтоне акна. Лускалі ўжо зусім небаязліва чэргі аўтаматаў.

Пра Ярафеева, пра нечаканы боль у костачцы, бо дзе і калі падвярнуў ногу, ён не помніў — Жэнік Рэпка загаварыў пасля таго, як заціхла ад радасці трапяткое, разгарачанае да бяспамяцтва сэрца.

Каб не садзіцца на снег, ён мастаколіўся злавіць ялаўцовы куст, але куст гнуўся, прутка сцёгаючы кучаравакалючымі ў пацерках лёду лапамі, і Рэпка зморана прысеў на снег.

— Слухай, Пашка, самае страшнае, каб не ўзялі яго жыўцом.

— Да как же мы?.. Ведь он протягивал руки... Не подхватили его.

— Якія рукі? Ты высунуўся б, ці што?..

— Эка сволочи!..

— Ты пра каго?

— Ды пра іх.

— Яны сваё палучылі. Чуў, якая музыка была. Цэлы эшалон грохнулі.

Што менавіта эшалон, пра гэта ўжо перш-наперш, прыкульгаўшы па хрумсткім, падмерзлым снезе дадому і троху адаспаўшыся, пачаў пісаць, слінячы хімічны аловак Жэнік Рэпка.

Кароткі рапарт пісаўся на адваротным боку жоўтай, знойдзенай пад бэлькаю яшчэ польскай квітанцыі: «Група партызанаў у складзе Рэпкі, Лобава, Ярафеева пад камандай камандзіра аддзялення Рэпкі разбіла на станцыі Дварчаны нямецкі састаў, пусціўшы ў яго манеўровы паравоз. Гранатамі быў пашкоджаны бункер і забіта двое вартавых з чыгуначнай аховы. Нашыя страты — забіты партызан Ярафееў».

Напісаўшы гэтае страшна-кароткае «забіты», Рэпка

расшпіліў вялікі зжоўклы гузік на цёмнай у белую клетачку кашулі і цераз плячо зірнуў на Лобава:

— Я пішу, што Ярафеева забілі.

— Кто знает, может, только ранили...— уздыхнуў і пацісннуў правым плячом Лобаў, пазіраючы на ружаваты брусок сала, які наразала на тоўстым днішчы старая Рэпчыха.

Яна перастала ляскаць тонкім, зрэзаным нажом, падграбла локцем з'еханыя на лоб валасы і, павярнуўшы свой звялы, зморшчаны і курносы твар да Жэніка, спытала:

— Каго ж забілі?

— Ды там, на станцыі... Аднаго нашага...

— І ты ходзіш туды?

— Куды я хаджу, ты, маці, не ведаеш!

— І не ведаю. Усё чакаю дзень пры дні. І ўжо дні годам здаюцца.— І па зжоўклым твары яе адначасна пабеглі дзве слязы. Адну з іх яна злавіла ротам і, чуючы яе салёны смак, сказала: — Не хадзі, сынок, на станцыю. Там згінуў наш Сяргейка, згінеш і ты.

— Маці, не хавай мяне, я жыць хачу!

— А я ўжо — не. Во мокрая ўся, хоць ты мяне выкручвай. Пашкадуй мяне...

— Не румзай,— Рэпка, склаўшы ў некалькі столак жоўты квіток, прыгладзіў яго, двума пальцамі сунуў у маленькую, для гадзінніка, кішэньку і падняў на маці бліскучыя вочы: — Сёння ж святая нядзелька. Можа, што прыхавала, маці, чуеш?

— Вой, праўда ж, дзеткі,— вінавата ўсміхнулася яна і, не сціраючы слёзы, нейкая ўся згорбленая, у шарай суконнай камізэльцы, нагнулася пад прыпек, адшморгнула полку і нязграбнаю старэчаю рукою дастала бутэльку сіваватай самагонкі, закаркаванай палатняным заткалам.

У яе, адзінокай, старой кабеты, ціхай крыніцай бруілася свая патаемная, спакутаваная радасць — у хаце сядзіць сын.

## IV

Пляската-мокры, дакураны ўжо так, што нават апякаў пальцы і губы, канчар скручанай з самасаду папяросы Імполь кінуў на мурзаты курган, паслухаў, як ён ядавіта шыпіць, па-звыкламу яшчэ наступіў, крутнуўшы крывым збітым абцасам зношанага чаравіка, і тады ўжо ўвайшоў у расчыненыя дзверы драўлянага склада — колішняга яўрэй-

скага свірна з падгнілымі да жоўтай парахні падвалінамі і пазелянелым гонтавым дахам.

Пасля сляпучага, што асталося ў вачах залатымі здвоенымі кропкамі, веснавога сонца, склад здаваўся чорнай патайной і невідушчай глыбінёю. Імполь зажмурыўся, каб прывыкнуць да цемнаты, і ўчуў у ёй востры, як па камені, цюк жалеза, шоргат цяжкіх крыг і рыпуча-тугія, як па мокрым жвіры, крокі.

Каламутная глыбіня пахла ёдавай гаркаватасцю. Імполю ўспомнілася, што так калісьці пахла з точанай драўлянай сальніцы шарая бойная соль, як пахла яна і з лусты аржанога хлеба.

Ён расплюшчыў вочы, і з глыбіні поцемку выплылі і сталі выразнымі чорныя постаці мужчын, што махалі кіркамі. Іх было двое рослых, трэці — нізенькі, у даўгадзюбай кепцы — шуфляваў, сыпаў бліжай да праходу раструшчаную соль і адсоўваў раскрышаныя крыгі ад скамянелай і высокай, што падымалася да самых бэлек, глыбы. Дробным вострым градам соль ляцела ажно пад парог.

— Імполь? — спытаў нізкі, сутулаваты мужчына, не падымаючы доўтага брыля пляскатай кепкі і набіраючы няпоўны шуфель шапаткога крошыва.

— Ага,— адклікнуўся Імполь, пазнаючы спачатку па голасе, а потым і па сутулаватай спіне Янку Вайтовіча.

— Ідзі пашуфлюй.

— Што тут ужо шуфляваць,— адазваліся з далёкага кута, перастаўшы дзяўбці кіркамі чорную глыбу.— Палуднаваць пара.

— Глядзі ты, выгаладаўся.— Вайтовіч кінуў Імполю шуфель і знайшоў у шырокіх суконных галіфэ, падшытых між ног чорным хромам, брудную пакамечаную хустачку.

— Я збегаю ў кантору, гляну, колькі ж часу.

— А што там бегаць, і па сонцы відаць, што полудзень мінуў.

— Уга, як ты ўжо бачыш з кута тое сонца,— засмяяўся Вайтовіч і выцер, адкінуўшы адною рукою кепку, спацелую ямку лысаватага цемени.— Збегаю ўсё ж,— сказаў, нібы апраўдваючыся, і зняў са сцяны, дзе яшчэ вісела адзежа гэтых двух, свой шара-белаваты, як працярушаны мукою, але злубянелы, з'едзены соллю суконны каптан.

Гэтыя двое паднялі вушы, паслухалі, як глухнуць за сцяною шпаркія Вайтовічавы крокі, і адзін з іх — даўгашыі і тонкі — сіплавата хіхікнуў:

— Гэ-э, ці знаеш, куды бяжыць?

— Чаму ж не.

— Да маладой узбечкі.

— Такія, брат, сцёгны. Дзіва, што не пабяжыш,— зноў засмяяўся сіплаваты і скочыў з высокай укамянелай глыбы на дол, заскрыпеў, як па мерзлым снезе, па нацярушанай солі.— Але ж з маёю натураю перасіліць сябе трэба,— ён зажмурыўся, пакруціў галавою, убачыў маўклівага Імполя і вінавата засмяяўся: — Гэта мы тут пра нашага магазінера гаворым. Можа, ты які сваяк яму?

— Чаму сваяк?

— На работу ўзяў,— цюкнуў кіркаю той, што стаяў на чорнай глыбе.— І да солі адразу прыставіў.

— Мы ж паўгода нямецкіх свіней, каб яны павыдыхалі, кармілі,— высадзіў галаў за дзверы і высмаркаўся туды на снег, прыкладаючы палец спачатку да адной, потым да другой ноздры.

— Чужы я яму,— панура прызнаўся Імполь і спытаў ужо сам: — А што?

— А тое... Цяпер гавары ды азірайся,— гэты, што стаяў у парозе, яшчэ памянціў рукою пад носам.

— Мяне няма чаго баяцца,— Імполь павярнуў галаў і да таго, што стаяў у поцемку доўгага склада.

— Тады слухай,— той, што стаяў на скамянелай глыбе солі, саскочыў да сцяны, дзе на цвіках вісела адзежа, і адкінуў сівы на дзяружнай падкладцы каптан.— Зрабі во такія кішэні.

Ён пацягнуў да сябе шырокую, спадыспаду падшытую да крыса, чырвона-зялёную, мусіць, ад старой радзюжкі полку.

— Нашто гэта? — Імполь убачыў і на другім крысе клетчатую споднюю кішэню.

— Соль у чом насіцьмеш?

— Досіць і гэтых,— Імполь паляпаў сябе па клубах.

— Гэта калі сабе...

— А каму ж яшчэ?

— Сёння ж сыбота. Трэба ж і па кілішку дзюбнуць. Значыць, трэба... на ўсіх...— сказаў высокі, роўны з Імполем, і азірнуўся на пройму дзвярэй — там паперадзе шахкання, па сточаным сонцам снезе бег косы цень.

Высокі мужчына насцярожана змоўк — у пройме дзвярэй спыніўся Вайтовіч. Худыя шчокі яго гарэлі чырванню, ён, падымаючы вострыя, сутулаватыя плечы, задыхана соп.

— Змарыўся? — падмігнуўшы Імполю, спытаў высокі.

— Пытаеш,— аказаўся другі з цёмнага кутка.— Хіба не чуеш? Ледзьве жывы чалавек.

— Гэта праўда, хлопчыкі, ледзьве жывы,— згадзіўся Вайтовіч, не ведаючы пра тыя жарты, што строілі з яго грузчыкі.— Прыходжу дадому...

— А ты ж казаў, у кантору збегаеш.

— Вот любіш перабіць,— зазлаваў Вайтовіч.— І тутака ў канторы быў, а потым дадому заскочыў, мяшкі во ўзяў,— ён кінуў з-пад пахі скрутак белых перавязаных мяхоў.

— Застаў каго?

— Дзіва што,— перабівалі, не давалі дагаварыць адзін аднаму і ўжо душыліся ад рогату грузчыкі.

— Вам смех, а я яшчэ адысці не магу...

— Чаго гэта?..— пасур'ёзнеў і пакруціў пальцам у вусе, што нечакана зазвінела, цікаўны Імполь.

— Падыходжу дадому, а там каля брамы — фурманка. Сядзіць нехта сагнуўшыся і ўтуліўшыся ў каўнер. Я подбегам ад брамы ў хату. Чую, і ён, саскочыўшы з саняў, за мною ідзе. Я не азіраючыся — ў калідор. І тут бачу — падазрона варушыцца занавеска... і жонка збялелая стаіць.

— Так хто ж гэта быў? — нецярплівасць разабрала ўжо і тых двух.

— А што, не дагадаліся? — усміхнуўся Імполь.

— Няўжо партызаны? Днём, каб ужо хоць на шараку...

— Яны... вунь сядзяць у хаці. Па соль прыехалі,— зноў неяк зяхнуў і задыхнуўся Вайтовіч.— Зараз будуць тут.

— Хіба галавы не маюць... Гэта ж во за складам паліцыя.

— Хлопцы, будзе мне, будзе і вам, а дзявацца няма куды.— Вайтовіч падняў і раскруціў белыя мяхі з чорнымі нaштампаванымі нямецкімі арламі.— Насыпай, Імполь.

Тыя ўдвух, выпінаючы губы, з дзівам глядзелі, мусіць, яшчэ не верылі ў тое, што расказаў Вайтовіч, а можа, прыкідвалі, што рабіць далей — бо, праўда, поруч са складам у дварчанскай сінагозе, абнесенай цаглянай высокай сцяною, з леташняй восені стаяла паліцыя — васемнаццаць чалавек, а цераз вуліцу ў двухпавярховым доме з дзвюма драўлянымі калонамі была ўправа, за ёю — у старых парожніх яўрэйскіх дамах — тодаўцы[1], старыя непаваротныя немцы ў дзюбатых з доўгімі памятымі брылямі шапках, што

[1] ТОДТ — ваенна-будаўнічая арганізацыя. Мела назву ад гітлераўскага генерала Фрыца Тодта.

браліся адбудоўваць спалены тартак, а покуль што ўздоўж чыгункі састаўлялі зялёныя шчытавыя баракі.

Але самае небяспечнае было тое, што сюды мог прыйсці Франц — малады прыгожы з залатой каронкай славак, што пасля Роберта — сівага, у залацістых акулярах немца, ганарыстага і трохі непадступнага, здаваўся мяккім, неблагім чалавекам. Ужо з месяц, як Франц кіраваў дварчанскім аддзелам ЦТО. Гэта яму хітраваты Вайтовіч прывёў у пад-суседы ў дагледжаны драўляны дом пад старым каштанам маладзенькую бялявую студэнтку. Тады-сяды яе ўжо бачылі пад ручку з Францам і ў фетравым капялюшыку, з якога звісала дымчатая вуалька ў чорных мушках.

— Хлопцы, чаго маем стаяць? Яны зараз прыедуць,— замітусіўся Вайтовіч, кідаючы грузчыкам белы мех з чорным арлом, што, драпежна раскрыжаваўшы крылы, трымаў у кіпцюрах вянок са свастыкай.

— А ты не трапячыся,— павярнуў да Вайтовіча свой прыплюшчаны і нібы перабіты на сярэдзіне нос плячысты, крываваты ў нагах і, мусіць, дужэйшы тут за ўсіх грузчык.— Падумаць трэба.

— Гэ-э, думаць,— Вайтовіч нагою падмог, падымаючы і сунучы бліжай да Імполя цяжкі, нашуфляваны да палавіны соллю нямецкі мех.— Дзеўка там з імі ў белым кажушку адвярнула во так крысо,— Вайтовіч нават у сябе перад грудзьмі махнуў рукою,— і паказвае аўтамат.

— Ну ж і перапудзіла цябе, гляджу... Але ж прыдзецца ісці табе назад.

— Як назад?

— Узяць тую фурманку ды ехаць сюды. Без партызанаў, вядома. А мы соль прыгатуем.

— Праўду кажа,— шухнуў у мех шарую соль і абапёрся на пусты шуфель Імполь.— Іншага выйсця няма.

Вайтовіч, маўчучы, паглядзеў сабе пад ногі і, тоячы нейкую глыбокую, перамешаную са страхам злосць, сказаў:

— Гінуць, то ўжо адному, нашто ж усім...

— Са смерцю яшчэ ўспееца, падганяй фурманку! — цвёрда загадаў каржакаваты, свідруючы сваімі маленькімі чорнымі вочкамі сутулую спіну Вайтовіча, што з цёмнага свірна выплыла на калючае вясновае сонца.

...З санямі, падсцёбваючы невысокага, касматага, сібірскага коніка, Вайтовіч пад'ехаў скора і адзін, пудка-насцярожаны, азіраючыся на чырвоны чарапічны дах белай сінагогі, па вокны схаванай за цаглянай атынкаванай сцяною, каля якой, не глушачы матор, смуродзіў сінявата-

ліловым дымам папяловы, з адкрытым верхам «фіят». Там стаяў, выставіўшы ўперад ногу з бліскучым ботам, высокі немец у салатавым шынялі з футравым каўняром. Пры боку ў яго, палохаючы Вайтовіча, вісеў страшна-даўгаваты, жоўты маўзер.

Перад ганарыстым немцам знябожана гнуўся ў халаднаватым шыняльку дзюбаносы Антон Бортнік — камендант дварчанскай паліцыі, — за польскім часам дробны гандляр — гаспадар крамы з іголкамі ды ніткамі, цяпер, ачуціўшыся ў нямецкай паліцыі, хітраваў: то дагаджаў немцам, то знаўся з партызанамі, праз свайго паліцыянта падказваючы, калі і ў якім кірунку рыхтуецца аблава.

Згледзеўшы немца, прыцішэлі і грузчыкі. Яны ўжо каторы дзень кіркавалі соль і ўжо каторы дзень цягалі яе дадому не толькі ў шырокіх кішэнях, прышытых пад поламі каптаноў ды курткаў, а нават спадыспаду ў калошах штаноў.

— Не марудзь, іці тваю налева! — дужы каржакаваты грузчык за вобраць здаў каня, каб сані прыйшліся бліжай да парога і каб было спрытней перакуліць у іх белыя, насыпаныя пад завязку, і цяжкія, як наладаваныя каменнем, мяхі.

— І праўда, трэба спяшацца, покуль сюды не падышоў вунь той фельдфебель,— Імполь, двойчы абкруціўшы жычку, туга, на добрую зашморгу завязаў мех.

— Знаю яго. Гэта — ортскамендант[1],— каржакаваты грузчык прыгнуўся і падаў Імполю далоняй угору сваю дужую, з караткаватымі пальцамі руку, каб узяць спадыспаду і перакуліць мех.— Летась за пакражу суконных коцаў ведравіцкіх мужчын пастраляў.

Да цяжкага, пудоў дзесяці, мяха падбеглі яшчэ Вайтовіч і ходарлявы, з доўгай жылістай шыяй грузчык, зарослы рыжаватай густой шчацінай.

І тры круглыя, як сытыя япрукі, белыя мяхі адзін за адным борзда паляцелі ў нізкія, засыпаныя сухім гарохавіннем розвальні. У верхнім мяху раптам распаўзлося шво, і на брудны зледзянелы снег шапаткім, як жвір, струменьчыкам пацякла соль.

— Халера не возьме, едзь, чаго прыглядацца,— рыжаваты, зарослы шчацінай грузчык узяўся за ручку ў санях, каб памагчы выехаць з лагчынкі нядужаму, дробнаму сібіраку.

---

[1] Начальнік гарнізона *(ням.)*.

Вайтовіч, выкіраваўшы каня на вуліцу, абышоў круга саней, пачакаў, покуль праедзе адкрыты з двума немцамі, цёмна-папяловы «Фіят», і кінуў Імполю лейцы:

— Заедзеш спярша да мяне.

— Чаму гэта я? — Імполь падхапіў скураныя, зашмальцаваныя да бляску ляйчыны.

— І квіток вазьмі,— не адказаў на запытанне Вайтовіч, пакапаўшыся ў сваіх суконных і шырокіх, з адвіслымі торбамі галіфэ, захрумстаў складзенаю ў некалькі столак паперкаю.— Тут усё як належыць... Дзвесце пяцьдзесят кіль... І гасцей правядзеш. Пакажаш дарогу, што каля бальніцы... Яна не вельмі бойкая... Зловяць іх — зловяць нас...

— Тут ужо ўсім пятля,— варухнуў сваімі густымі рыжымі бровамі крываногі, каржакаваты грузчык, пазіраючы на смуглавата-прыгожага, у пляскатай кепачцы, з-пад якое лезлі струкавата-чорныя, сіняватыя валасы, высакаватага Імполя і нечакана спытаў: — Бабы, мусіць, любяць цябе?

— Ды крыўды на іх не маю,— Імполь шлёгнуў ляйчынаю па касматым і вузкім крыжы нізенькага сібірака. Пераціраючы засмечаны жоўтаю саломаю і конскімі яблыкамі зледзянелы снег, сані тонка завішчалі і зарыпелі пад цяжарам мяхоў.

Вайтовіч, падымаючы і пакутліва несучы свой гарбаваты, трохі нахілены набок нос, нагнаў Імполя, чапіў леваю рукою за плячо:

— Можа, спраўку дадуць?

— Пра якую спраўку пытаеш?

— Ды во... што соль узялі.

Імполь нават паслізнуўся, шчокі ў яго наліліся чырванню і, бліснуўшы бялкамі, вырачыліся сіняватыя вочы:

— Табе наўме спраўка, глядзі галавы!..

— Не гарачыся, чуеш. Намякнеш. Там убачыцца як.

— Ведаеш, тады вязі сам.

— Ат, чалавек,— Вайтовіч прыцішыў крок, махнуў рукою і адстаў ад саней.

Чуючы прыкрасць і злосць, Імполь праехаў трохі галоўнаю вуліцаю і каля белай аднапавярховай мураванкі, дзе кіпела дварчанская таўкучка, звярнуў у завулак, гукаючы і круцячы над галавою лейцамі і разганяючы перад сабой вясковых кабет з кашамі ды местачковых гандляроў з расскладзенымі на брудным снезе сундучкамі.

— Во ён, той самы гіцаль! — адцягваючы з дарогі раскрыты з нейкай блішчастаю драбязою карычневы абшмор-

ганы чамадан з жалезнымі кантамі, закрычала худая з зелянелым тварам і ўпалымі вачмі кабета.— У мяне некалі прыёмнік забраў. Як буг свенты — ён!

— Ага, ён!.. У рабочай гвардыі быў,— падмахнуў газетамі, што віселі на сагнутай руцэ, падлетак у цёмна-сінім гімназісцкім шынялі і круглай фуражцы.

Імполь не так спалохаўся, як сумеўся, што гэта крычыць Грабянкава сваячка, якую ён, напэўна, ці пазнаў бы — гэтак яна пасівела, звяла, як стары грыб, і апусцілася, апрануўшыся ў нейкія старыя, сточаныя моллю транты. І ён, падпіхаючы сані, прыгнуўся, затуліўся за іх, каб схаваць хоць свой твар, бо, чаго добрага, наклічуць паліцыянта ці якую-небудзь варту з орсткамендатуры.

Выехаўшы на другую вуліцу, перавёў дух.

Успомніўшы тую далёкую глухую ноч, калі разам з байцамі Імполь пастукаўся ў Грабянкаў дом і ім адчыніла замкнутыя на два замкі філёнчатыя дзверы перапуджаная, непадступна-злая Хрысця, што была яшчэ там за служанку, а потым закрычала гэтая трохі, мусіць, хворая на галаў кабета, выскачыўшы з пакоя на калідор, у споднім караткаватай кашульцы, босая, з пазалочаным крыжыкам на звялых, зморшчаных грудзях.

Успомнілася і тая ўжо кіслая позняя восень, калі, сышоўшыся з Хрысцяй, яны жылі ў малым пакойчыку, палавіну якога займала шырокая на фігурных ножках шафа, што пакінуў ім валасны камітэт, покуль у Дварчаны не прыехала з дзіцем Алеся.

Тады Хрысця, як здурэўшы, як адышоўшы ад памяці, прагнала яго ад сябе. І ён, не ведаючы, як перанесці ганьбу і дасаду, і ўжо нават думаючы пра грэшнае ды страшнае, накласці на сябе рукі, бег не помнячыся, куды бяжыць, па калдобістай няроўнай вуліцы з тлустым водбліскам лужын, процi густога пругкага ветру, што ламаў, гнуў прысады, крышачы сушняк. Імполю нават хацелася, каб на яго рухнула цяжкае дрэва, як надоечы, зламаўшыся, яно ўпала і забіла дварчанскую кабету.

Ён нават не помніць, як тады вярнуўся ў Верасава, помніць толькі вакзальны брудны і кіслы ад піва буфет і слепаватага, у акулярах на кароткім чырвоным носе, шапляваблззубага мужчыну, да якога ён падсеў...

Цяпер нешта зноў, ужо праз колькі год, зварухнулася, зашчымела і ажыло ў Імполевай душы. І так балюча, і так адзінока, як для ратунку хацелася ўбачыць Хрысцю, абняць яе, учуць каля грудзей здушаны, ціхаваты голас, лёг-

кае, парывістае і цёплае дыханне і злавіць яе мяккія, да нясцерпнасці жаданыя вусны...

Мінуўшы папярочку, конь раптам уткнуўся ў брамку. За невысокім плотам чорнай гонтавай страхою, што курылася і падсыхала на красавіцкім сонцы, уздоўж вуліцы расцягнуўся ашалёваны дом з двума шарымі атынкаванымі камінамі і жоўтай верандай, што цьмяна паблісквала вузенькімі прадаўгаватымі шыбамі. За шклом варухнуўся, мільгануў цень, і аселыя дзверы, падгрызаючы парог, ядавіта скрыпнулі.

Выйшла паўнаватая дзяўчына ў новых валёнках і вяскова ым, што пах кіславатай рошчынай, пруталеным кажушку. Чарнявы надзьмуты тварок яе моршчыўся ад сляпучага сонца. Счакаўшы і, мусіць, упэўніўшыся, што каля саней, акрамя Імполя, болей нікога няма, высунуліся — адзін з вузенькай, з прарэзаным ромбікам у дзвярах, прыбіральні, другі — з-за нізкага, закладзенага наколатымі ружаватымі дрыўмі хлеўшка,— двое маўкліва-насцярожаных мужчын. Жэніка Рэпку ў белаватай, пашытай з ягнячай аўчыны кубанцы, Імполь пазнаў адразу. Высокі, у чорнай абшморганай і добра падношанай тужурцы, і немалады мужчына быў незнаёмы, як і дзяўчына ў цёмна-карычневым, не зашпіленым на круглы, зроблены на верацяно вузельчык гузіка, дублёным кажушку, пад якім таксама нешта натапырвалася, прыкрытае зубчатым ражком вялікай, шарацёмнай з казінага пуху хусткай.

— Хозяин где? — спытаў высокі ў чорнай тужурцы, сноўдаючы рукою ў кішэні і хаваючы нешта цяжкае пад крысом.

— У складзе ён застаўся,— Імполь паправіў на сібіраку кульбачку і, паглядаючы на Жэніка Рэпку, падварушыў каня.— Я правяду вас. Пакажу, як праехаць каля бальніцы, каб мінуць пасты.

— Ну, показывай,— нібы нехаця пагадзіўся і першым сеў у сані высокі ў абшморганай тужурцы.— Только смотри, не балуй!

У зеленавата-жаўтлявым хвойніку, дзе ўжо цягуча і млосна пахла падагрэтаю смалою і вясёла-звонка, чуючы блізкую вясну, падсвіствалі белашчокія жвавыя сініцы, Імполь прыпыніў каня, каб прычакаць «гасцей», што, пахрумстваючы снегам, ішлі ззаду, саскочыўшы з саней перад крутаватым грудком. Нацягнуўшы тужэй сваю суконную, пасаджаную набакір кепку, нясмела сказаў, што ўжо вернецца назад. Гаварыў, стоячы перад гэтым высокім, у чорнай

доўгай тужурцы, аблушчанай на згібах рукавоў, і прымаючы яго за старшага. Але старшым аказаўся ці не Жэнік Рэпка, бо, прымружыўшы вочы, калюча зіркнуў на Імполя і махнуў рукою, даючы знак і гэтаму ў тужурцы, і курносай з пухлаватым тварком дзяўчыне ў цёплай пуховай хустцы, ісці за саньмі, а сам затуліўся за шурпата-ружовы камель хвойкі і, бурачы на шара-брудным, зацярушаным ігліцаю снезе, жаўтлявую лейку, спытаў:

— Бортніка ведаеш?

— Ды як сказаць...— запнуўся Імполь, цярушачы ў жолаб жаўтлявай паперы густа-пякучы, ад якога аж свярбела ў носе, карычневы самасад.

— А во што перадасі яму.

— Каменданту, ці што?

— Ага, яму.— Жэнік Рэпка з-пад даўгаватай суконнай курткі, падпяразанай шырокім рэменем з начышчанай пражкай, дастаў ужо свой новенькі ППШ, нібы пахваліўся ім, ляпнуўшы рукою па прыкладзе: — Скажаш Бортніку, каб у нядзелю па палудні быў у дамоўленым месці.

— Дзе?..— не разабраўся Імполь.

— Ён знае,— па куртцы, ловячы гузікі і зашпільваючы іх, забегалі кароткія Жэнікавыя пальцы.— Знойдзеш яго і скажаш...— пад белай касматай кубанкай злосна заварушыліся чорныя густыя бровы.— Скажаш толькі яму...

— Ці я ўжо не дурбаю?

— Не будзеш дурбаць...— Жэнік Рэпка паправіў, падбіў вышай сваю кубанку і загрукаў па сіняватым лядку высокімі, з падкручанымі для форсу халяўкамі штыўнымі ботамі,— знойдзем і ў тым свірне каля солі.

Нешта зняважлівае, помсліва-злое працяло Імполя, але ён стаяў нейкі разгублены і сцішэлы, пазіраючы, як бег Жэнік Рэпка, як мільгалі яго збітыя абцасы з бліскуча-залацістымі цвікамі.

Гэтае ненавіснае, пагрозлівае «знойдзем» Іполю ўспомнілася ў халодным, настылым свірне, дзе маўкліва кіркавалі соль і нічога не распытвалі грузчыкі, толькі злосна касіўся і гучна чмыхаў у свой даўгаваты нос недавольны Вайтовіч, што Імполь не прынёс ад партызан даведку, як не забывалася і ў маленькай настылай нейкім вільготным холадам хатцы старога Ладзімера, куды яны прыйшлі на шараку, з поўнымі кішэнямі бойнай, шарай солі.

Стары Ладзімер, здрабнелы, высахлы, у споднят палатнянай, даўно нямытай кашулі, са зморшчанай, загарэлай яшчэ ўлетку і непабялелай шыяй, страсянуў худымі плячмі

не то ад холаду, не то ад таго, што ўбачыў і пазнаў Імполя:

— Уга, які госць! Дзе ні бываем, усё спатыкаемся.

— Ты, дзядзька, анцімоніі не разводзь,— вывернуўшы палатняную кішэню ў здубянелым шарачковым пінжаку, на стол высыпаў соль асадзісты дужы грузчык з шырокім і пляскатым, як лапата, носам.— Шукай, каб было чым соль акрапіць. Бачыш, колькі насыпаў?

— Сып, сабе намалоціш. Чаго ты? Усякі звер свой хвост хваліць,— махнуў рукою і трохі пахіснуўся стары Ладзімер — ён быў на падпітку.— На, вокны завесь, а потым пра самагон спытаеш,— ён пашоргаў рукою па чаране печы і кінуў адтуль парцяную ў ружовыя балонкі радзюжку. Знайшоў там і другую — суконную, залаціста-жоўтую, у крыжы, як рызу, і кінуў яшчэ яе.

Нарэшце, памарудзіўшы, прынёс недзе з сенцаў аплецены буталь і падняў за абедзве ручкі на стол, дзе ўжо курэла, пахістваючы жоўтым касьнікам, гранёная з бульбяным чэрствым кружком на доўгім рыльцы сіняватая газоўка. У керасін, каб ён не так скора гарэў, падсыпалі соль, і газоўка раз-пораз пастрэльвала іскрамі і цьмяна пыхкала агнём.

— Самагону досіць, абыле жыццё было,— зноў страсянуў худымі вострымі плячмі стары Ладзімер.— А тут праз мяне бяда прылучылася. Не чуў? — з глыбокіх вачаніц на Імполя зіркнулі сінія нявыцвілыя вочы.

— Досіць пра адно і тое! — крыкнуў на старога высокі, худы, з тонкімі, злосна падцятымі губамі грузчык.— Прыкусіць дай чым.

— Бяры,— стары, нават не азіраючыся, навобмацак нагою чарпануў пад лаваю і за лучок выцягнуў кошык з цыбуляю.— Во прарасла халера. Затое з пер'ейкам,— ізноў за шырокаю чужою спіною знайшоў Імполя: — Хлопцаў тут, у Дварчанах, пастралялі. Так гэта праз мяне.

— Як праз вас?

— Ды во слухай.

— Яго малітве і канца не будзе,— грузчык развязаў сваю рыжаватую ў тлустых плямах торбу, дастаў брусок сала з акрайцам хлеба, пайшоў за перагародку да печы, прынёс тоненькі нож з драўлянымі тронкамі.— Налівайце, хлопцы.

Імполю падалі бляшаны, зроблены з кансервавай банкі з прыпаянай ручкай немалы кубак.

— Не адужаю.

— Давай не прыглядайся.

— Як з вачэй, кажуць, так і з мысляў.

Імполь ледзьве выцягнуў смуродную, што апякала ўсё ўнутры, сівую самагонку.

Стары не піў, адмахнуўшыся рукою і сказаўшы, што ён начаставаўся ў суседа на свежыне, калі памагаў закалоць «каляду» — на пудкоў пяць кабанчыка. Апусціўшы свае цяжкія, у сінявата-цёмных надутых жылах, спрацаваныя рукі, стаяў над Імполем, што прысеў каля паточанага шашалем і парэзанага нажом, дзе шаткавалі скурачныя лісткі тытуню, хісткага стала, і расказваў, як незнарок прадаў немцам чатырох дварчанскіх хлопцаў.

— Чуеш, купаліся яны. Летам гэта было, як немцы зайшлі, як Ведравічы спалілі, акраз у той дзень.

— І што?..— Імполю ўжо вясёла кружыў галаў і мякка туманіў усё перад вачыма моцны самагон: прыгажэлі аблітыя палахліва-трапяткім, цьмяным агнём ад газоўкі твары грузчыкаў, яснела цеснаватая, з нізкай столлю хата і чамусьці ўспаміналася яна, Хрысця. Нясцерпна-салодкае жаданне мучыла Імполя пайсці да яе, абняць, пацалаваць у белыя грудзі...

— Не слухаеш ты.

— Слухаю,— сказаў Імполь, расцягваючы мяккую скварку і адкусваючы любовы краёк.

— Прыгналі чатырох голых хлопцаў, во сюды, на мой надворак, і пытаюць: «Русіш?» — А я і кажу... Чуеш, што я кажу?..

— Чую.

— Рускія, кажу, у царкве хрышчоныя. Так яны іх... тут, за пяшчаным берагам, і паклалі.

— За што?

— Я ж і кажу, рускімі іх назваў... А нямцы падумалі, што гэта салдаты... А цяпер грэх на сабе нашу,— стары скурчанаю далоняй прыгладзіў чубок белых, ажно зеленаватых валасоў.— Ой, вялікі грэх...

— А дзе ж старая? — нечакана падумаў Імполь, успомніўшы Ладзімераву жонку, яе чырвонае, з вывернутым ніжнім павекам страшнае вока, з якога збягала няпрошаная сляза.

— Старую таксама не ўбярог. Пайшлі пілаваць вярбу, што зламала леташняя бура, і ёй кепска стала. Прысела на калоду і не паднялася. Толькі нешта сказала, як у сне, і па ўсім... Летась на згоне зімы.

— Ты, дзед, усё пра смерць,— першым адсунуўся ад

стала Вайтовіч.— А я во пра жысць думаю. Пара ўставаць, покуль не захапіў выянтковы[1] час.

— Ты і так забавіўся,— засмяяўся і абцёр жменяю з тлуставатых губ з'едлівую ўхмылку ўрэдны і языкаты грузчык.— Узбечка даўно зачакалася...

— Ого, у цябе што ні скок, то ў мой бок,— перакінуў ногу цераз услон і шумна ўздыхнуў Вайтовіч, і яго крывы, косы і вялікі цень хіснуўся і папоўз па сцяне. За ім, ловячы абедзвюма рукамі стол, вяла падняўся разамрэлы Імполь.

— Астаўся б нанач у мяне,— сарамяжліва і смешна, як дзіця, бяззубым ротам усміхнуўся стары Ладзімер.— Расказаў бы пра жысць сваю. Га?.. Інтарэс да цябе маю...

— Дахаты трэба,— у Імполя ўсё не выходзіла з галавы яна, Хрысця.

...Сіняватым поцемкам ён быў ужо на той вуліцы, каля дагледжанага дамка за чорнымі яблынямі і ціха пастукаўся ў тыльнае акно. Яна адчыніла, сумелася, успляснуўшы рукамі, што ён п'яны, увалакла ў хату, распранула, паклала на ложак, а сама лягла каля сцяны на халаднаватай падлозе, дзе хадзіў скразняк. Да поўначы не спала, баючыся, што будзе аблава, знойдуць яго і забяруць... Баялася мо не столькі аблавы, колькі ўрэднага, з падбрытымі вусікамі дарожнага майстра, што з жонкаю і дзіцем жыў за сцяною, перабудаваўшы калідор і зрабіўшы сабе новы ход. У яго быў тэлефон і быў, як яна чула, рэвальвер... Хрысця асцерагалася, каб ён не пазваніў часам у орскамендатуру і не паклікаў немцаў. А п'яны Імполь, аб нічым ужо не дбаючы, спаў як забіты, і яго моцны залівісты храп пераліваўся на ўвесь дом. Яна заснула толькі пад раніцу, ачуціўшыся ад таго, што яе чапіла Імполева рука — такая гарачая і такая жаданая. Хрысця не адапхнула яе, а нават сама, з трывожна-трапяткім, што захлыналася ад радасці, сэрцам пакацілася да гэтай рукі...

## V

Хрысця, прымружыўшы вочы і закрываючыся прыстаўленаю рукою ад ясна сляпучага сонца, вызірнула ў акно. Прыручаны параненымі немцамі, што лячыліся ў дварчанскім шпіталі, да хлеба асвойтана і хрыпата раз за разам каркаў чорны, з ружаватым адлівам, даўгадзюбы

---

[1] Каменданцкі час *(польск.)*.

грак. Ён сядзеў на пазелянелым рагатым і самым большым суку старой хвойкі, што падсохла і амярцвела ад гарача-ржавага шлаку.

Пакарэжаным старым вядром шлак насілі з чаднай, што заўсёды пахла прытарна-саладжавым вугальным дымам, кацельні,— яна, гэтая смуродная кацельня, была пад домам, якраз пад Хрысцінай баковачкай.

Кацельня была ніжай, у падвале, а пад каморай, на першым паверсе, бесперастанку грукаў дзвярмі і шумеў вадою з высокага чугуннага бачка туалет з умывальнікамі. Нейкая лякса бесперастанку ганяла немцаў, і яны, на кастылях, растапырыўшы локці, чыкільгалі туды. І надта ж ужо шыкаваліся і даглядалі сябе: то галіліся нейкімі сваімі брытвамі з жалезкамі, якіх поўна валялася на палічках каля люстэркаў, то колькі раз на дзень мыліся, то чысцілі зубы, выціскаючы з мутна-цынкавых цюбікаў зеленаватую, што прытарна пахла, мятную пасту. Немаладыя, сталыя дзядзькі, стрыжаныя пад кароткую польку, яны ўсе здаваліся непадступна-злыя і чужыя, і Хрысця заўсёды пераляканіць страхам, покуль апрача іхнія палаты. З гэтай зімы ў шпіталь пачалі прывозіць маладых, ужо, лічы, нават падлеткаў. Але з гэтымі было яшчэ горш. Яны ўжо не давалі Хрысці праходу, ліпнучы да яе, як пчолы да мелісы. А тонкі, рослы, з кучарава-натапыраным чубком немчык пачаў нават штодня зазіраць і цімнуцца ў каморку. Хрысця, не ведаючы, якую ад гэтага знайсці раду ды ратунак, папрасіла ўжо качагара — мурзатага, ніколі не прычасанага, з калматымі валасамі дзядзьку Юзіка, каб зрабіў для баковачкі хоць якую зашчапачку, бо ключ ад замка даўно згубіўся.

— Кажаш, чэпяцца,— Юзік падрапаў сваю калматую пад зашмальцаванай кепачкай галаў.—Можа, і сама трохі вінавата?

— Як гэта? — адступілася Хрысця і паглядзела на яго не злую адвіслую губу. Смешная была гэтая адтапыраная, трохі патрэсканая губа.

— Нябось на іх зіркаеш?

— Каб яны павыдыхалі, як я...

— Яны не павыдыхаюць, а цябе во высушылі.

— Баюся я іх.

— Дзіва што, цэлая зграя салдатні. Чаго там — зраблю табе зашчапічку.

А назаўтра прынёс і прыбіў да дзвярэй медную з круглым замочкам, з якога высоўваліся два доўгія язычкі, няхітрую засавачку.

— Дзе ж яе ўзялі? — здзівілася Хрысця, пазіраючы як дзядзька Юзік адчыняе, то зачыняе гэтую засавачку, круцячы за папярочны язычок — правярае, ці добра зрабіў.

— Дзе ўзяў, пытаеш? Адняў ад адных дзвярэй і прыставіў да другіх. А табе ёсць чым зачыніцца, то і зачыняйся.

І калі яна зачыніла дзверы, шчоўкнуўшы гэтай меднай засавачкай, з калідора ўжо загаварыў:

— Усё ж замкі ад добрага чалавека, ад ліхога спасу няма.

Хрысця азіраецца на медную засавачку і думае — не, усё ж нейкі ратунак ёсць. Нават не страшна цяпер, калі за дзвярмі стаіць рогат і гэты невядомы для Хрысці крык:

— Mützen ab! Augen links! Achtung![1]

Хаця Хрысця ўжо тое-сёе з нямецкай гутаркі ведае. Разбірае ўжо, што значыць іхняе schnell (хутчэй), auf (устаць), Haus (хата), Tisch (стол), Tuch (хустка). Ведае, як кажуць на ваду, на крэсла, на падлогу. Можа нават па колеры абмундзіравання распазнаць, што за войска — дзе танкісты, лётчыкі ці пяхота. Бачыць ужо, што закарвашы іхніх фрэнчаў ды порткаў таксама розныя, як розныя і канты — то жоўтыя, то зялёныя. Ведае, як і называюцца яны па-нямецку — Uniformvorstoß — толькі вымавіць не можа. Ой, колькі ўжо ўсяго нагледзелася. Дзіва што, другі год у шпіталі. Спярша была пры дзецях, што прывезлі сюды з Расіі яны ж, немцы, якраз у першую халодную зіму,— мурзатых, абадраных, у вялікіх, часам не па назе валёнках, у смешных, з апушчанымі вушамі і рваных, нібы падзяўблі вароны, шапках. Меншым было не больш як па гадкоў сем, старэйшым — па чатырнаццаць. Большыя, наймаючыся ў пастухі, разышліся па вёсках, меншыя ж — жабравалі па Дварчанах: стануць пры веснічках перад хатаю, працягнуць худыя мурзатыя ручкі і жалосным, тоненькім галаском просяць: «Подайте, ради Христа!» Той-сёй, убачыўшы гэтакую нэндзу ды бядоту, вядома, падаваў. Які бурак, картоплю ці жменьку крупы прыносілі ўсе, хто рабіў тут, у шпіталі. Прыносіла і яна, Хрысця, дзелячыся ўжо тым, астатнім, што ў самой было. Хоць якое там было ці ёсць — у шкапчыку ды паграбку ходзіць адзін вецер. У тую ж зіму дзяцей разам з дзвюма кабетамі, што прыглядалі за імі, недзе вывезлі. Была і трэцяя, Глаша, але яна асталася тут — выйшла замуж за паліцыянта. Як і астаўся хлопец, наняў-

---

[1] — Шапкі зняць! Раўненне налева! Смірна! *(ням.)*.

шыся ў пастухі да дварчанскага дзяка. Астатніх, што разбегліся па вёсках, ніхто і не шукаў..

Праз тыдзень прыехаў высокі ў пазалочаных акулярах немец. Бліскаючы выпуклымі шкельцамі, аглядзеў гэтыя два дамкі, што і да вайны былі пад бальніцаю, загадаў усім, хто тут рабіў, вярнуцца назад і, папраўляючы свае пазалочаныя акуляры і разглядаючы ўсіх, сказаў чысценька апратаць будынкі і пасыпаць карболкаю. Тры жаўтлявыя папяровыя мяшкі яе прывезлі ўслед за немцам... А праз тыдні два да бруднай, размешанай вясновай гразёю дварчанскай платформы падагналі санітарны цягнік і з вагонаў у крытыя машыны пачалі выгружаць раненых немцаў — са Смаленска сюды, у Дварчаны, перабраўся вайсковы шпіталь.

Для Хрысці стала нібы і лепш — пачалі плаціць нават трыццаць марак, а перад іхнімі святамі выдаваць белаваты, мусіць, з дамешкам аўсяной мукі, хлеб, яблычны мутнажоўны мармелад, сухарыкі і нават цыгарэты. Гэтую брыду яна бярэ ўжо дзеля мужчын з качагарні — там жа не толькі дзядзька Юзік, там яшчэ за сваім столікам пад нізка навіслаю на скручаным дроце электрычнаю лямпачкаю горбіцца, прыставіўшы да вока начэпленую на гумку чорную лупу і ўзіраючыся ў разабраныя, без накрывачак, з кветачкамі медных калёсікаў наручныя гадзіннікі, высахлы, занэнджаны Сулін мужык, яшчэ не расстраляны немцамі. Яго знайшлі тры тыдні назад у схроне пад падлогаю дома: некалькі будынкаў, дзе было гета, разбіралі цяпер на дровы. Нехта нібы дзеля жарту шукаў «жыдоўскае золата», палез у пограб і натрапіў на схрон.

Не верылася, што, замураваўшы сябе, мог праседзець чалавек ажно паўгода ў цёмным пограбе. А што еў?.. Але ж, кажуць, і вады і сухароў сабе назапасіў.

Як жа ж не знайшлі, не выпаралі яго паліцыянты з жандарамі? Яны нават з печы выцягнулі аднаго хлопчыка. У пограбы ды сутарэі пускалі сабак ды кідалі гранаты, калі выганялі яўрэяў з гета за чыгуначную станцыю, у даўнейшы кар'ер, што наўкруг аброс маладым хвойнікам.

Але не вельмі расказвае пра гэта ўнураны, нібы адрошаны ад усяго, зарослы ажно па самыя вочы чорна-сіваю шчацінаю, дзядзька Ёсель. Паўзе пагалоска, што яго расстраляюць разам з дочкамі Давыдоўскага. Дзвюх надта ж ужо харошых з твару, што і вачэй не адвядзеш, дзяўчатак паліцыянты не павезлі ў той шырокі за пуцямі кар'ер, а пакінулі ў нейкім хлеўчыку. Нібыта пашкадавалі. Але, ліха ім, вер. Усе Дварчаны гавораць, што бегаюць да іх — па чар-

зе. Дзяўчаты ледзьве жывыя — выцерпі столькі мужчын... Няхай крые ды адносіць бог, што пачало ўжо рабіцца на свеце! Няўжо прыйшоў канец усяму, няўжо людзі саграшылі, як пішацца ў тых святых пісьмах, што ходзяць патайком з хаты ў хату?

З тыдзень назад во тут, каля шпіталя, хірург — немалады высокі немец, за тоўстым шклом акуляраў у якога і не відаць вачэй, ні з таго ні з сяго застрэліў маладога хлопца. А спачатку нават аперацыю зрабіў, перавязаў прастрэленую ногу, а потым, схамянуўшыся, ці не лячыў партызана, выскачыў на двор, дагнаў фурманку і з рэвальвера, які носіць у карычневай похве пры боку, стрэліў хлопцу ў галаў, рашыў на месцы.

Пасля гэтага страшнага здарэння Хрысця наровіць, каб не трапіць на вочы гэтаму немцу ў акулярах з тоўстымі, як дно бутэлькі, шкельцамі, каб не бачыць карычнева-бліскучую кабуру, што заўсёды вісіць у яго пры боку на цёмным шырокім рэмені.

Няўжо ж дзядзька Ёсель чакае ад іх літасці. Хіба думае, што будзе сядзець тут, у качагарні, каля настольнай лямпы з шырокім абажурам і правіць іхнія гадзіннікі. Няўжо баіцца ўцячы? Яго ж ніхто не вартуе. Там, у ляску, у драцяной сетцы, якою абгароджаны шпіталь, ёсць дзірка... А можа, ён не ведае, а можа, трэба падказаць...

Хрысця ўзіраецца ў акно, забыўшыся пра рогат у калідоры,— што ж рабіць? Як памагчы гэтаму неразважнаму, нягегламу чалавеку, што чакае свайго накананага, немінучага лёсу? Хіба падвясці да той дзіркі і падапхнуць у плечы. А там ужо, напэўна ж, памогуць людзі, не дадуць памерці. Хоць цяпер памагчы жыду — смерць. Без ніякага суду, роспыту, следства — расстрэл на месцы. Як застрэлілі дварчанскую бабу, што накарміла жыдовачку, калі немцы з гета прыгналі іх на шашу падсыпаць шчэбенем ямы ды параўняць лапатамі, падрэзаць канаву...

Не, трэба памагчы, яны з цёткай Суляй столькі паспрыялі Хрысці, за цэлае жыццё ці аддзячыш: і на кватэру ўзялі, і адзелі, і накармілі — іншая маці так не дагледзіць.

Пад той рагатай хвойкай, дзе сядзіць, накаркаўшыся і не выпрасіўшы нічога, ужо прыціхлы грак, ад дарогі адлучаецца вузенькая, пратоптаная ў шарым снезе сцежка, што між шурпатых і мокрых у камлях хвоек пятляе да мігатлівай драцяной сеткі. У лагчынцы, куды збягаюць драўляныя высокія слупкі агароджы, сетку нехта ціхенька, але злосна разарваў, каб, ідучы з работы ці на работу, можна

было не патыкацца ў браму, дзе ў паласатай чорна-белай будцы стаіць вартавы. Найчасцей славак Юзаф — малады, прыгожы і, здаецца, не злы хлопец. Бліскаючы залатою каронкай, ён заўсёды першым дасць Хрысці «добры дзень» і зноў засмяецца, пазіраючы на свае залаціста-жоўтыя, вялікія, як начоўкі, плеценыя з саломы чуні, у якія ён уступаецца халоднымі чаравікамі.

Юзаф смяецца-то смяецца, але ж дзядзьку Ёселя, напэўна ж, не выпусціць. Ды каля брамы наткнешся на немцаў, там ужо можна злавіць і смерць. Але хто знае, каго дзе і калі яна чакае.

Хрысця павярнулася ў акне і ўбачыла, як на яе рух падняў чубатую галаў з цяжкім белаватым дзюбам ружаваты грак, што сядзеў на тоўстым суку старое хвойкі і, разявіўшы свой доўгі дзюб, хрыпата каркнуў. Значыць, на надворку нікога няма. Гэтая чорна-ружаватая пташка грача толькі да чалавека.

Сціраючы з вачэй, з твару, што ўжо гарэў як ад агню, ліпкае вясновае сонца, Хрысця пакруціла за папярочны, што сядзіць матылькай, язычок засавачкі, накінула на сябе каптанік, завязала хустку і, падхапіўшы швабру і старое бляшанае вядро, выйшла на калідор. Ад густога паху лякарства запяршыла ў горле. У блізенькім вестыбюлі чуўся сыты і давольны рогат — там, як і штодня, віснучы адзін на адным каля круглага століка з мармуровай плітою, раненыя немцы ігралі ў шахматы. Адтуль, як з качагарні, цягнула дымам, толькі ўжо цыгарэтным, і, пэўна ж, зноў каля плеценай карзінкі ў кутку на падлозе поўна пляўкоў і раздушаных акуркоў. Толькі паспявай выпратваць за імі...

Але Хрысця ўгінае галаў, адварочваецца і ціхенька па шорсткім з рагожы ходніку, які трымаюць, каб не сунуўся па ўсходцах, медныя пруцікі, збягае ўніз. Балазе не зачапілі.

Ціхенька з гэтым самым вядром, нібыта памыць ды апратаць тыя бакавыя ды адгароджаныя, ці, як яшчэ іх называюць, бокс, палаты, куды пераводзяць цяжкахворых і непадлечаных, заварочвае ў качагарню.

Вышчарбленыя цэмянтовыя сходцы з боку каля падмурка крута збягаюць уніз і ўпіраюцца ў вішнёвыя, пафарбаваныя дзверы, з цёмнаю, запэцканаю брудна-тлустымі рукамі плямаю.

На верхнім парэпаным да чорных шчылін вушаку сядзіць, спусціўшы гідка-голы хвост, доўгі, як панчоха, сівы пацук. Ён гіне ў міг вока, што Хрысця нават не паспявае

разабрацца, сядзеў ён, гэты пацук, на верхнім вушаку ці не. Праўду ж нехта казаў, што пацук знікае з вачэй, як нячыстая сіла.

Цяжкія дзверы, як знарок, едка і агідна, ажно шэрхне скура, рыпяць. Хрысця міжволі азіраецца — нібы чуючы некага за спіною.

Там на верхняй прыступцы, дзе накарэў цёмна-сіні слізкі лёд, стаіць і асалавела пазірае сюды ўніз і натапырвае кароткія вушы сівая, з чорнаю спіною і адвіслым жыватом, старая, раскормленая пры сталоўцы аўчарка. «Божа! — жахаецца Хрысця.— Яна ж не выпусціць адсюль Ёселя. Яна ж, як люты звер, яго загрызе. Яна не любіць чужых».

— Пайшла вон! — Хрысця ўжо ледзьве не звярэе сама і ад страху, і ад таго, што робіцца ўсё не так, як яна намеркавала.

Адагнаўшы да сталоўкі аўчарку і супакоіўшы сябе, па шчарбатых, пазелянелых ад вільгаці сходцах вобмельгам спусцілася зноў да вішнёвых, ужо насцеж расчыненых дзвярэй. З качагарні густа тхнула саладжава-прытарным духам перапаленага вугалю, задушліва смуродзіла яшчэ нечым. Хрысця прайшла міма цьмянага закутка, у які скупа цадзілася святло з двух прадаўгаватых зарашочаных аконцаў і ў якім патрэсквала распаленым вугалем і чадзіла ржава-чорная паравая машына, над якою, звіваючыся чорным клубком, падымаліся і паўзлі па сценах трубы.

Цёмна-закураны калідор падвала крута заламаўся направа і згінуў у невідушчай прорве невядомых хадоў і сутарэнняў.

Хрысця, заплюшчыўшы вочы і абвыкаючы да цемнаты, пастаяла які міг перад закрытымі акованымі бляхаю дзвярамі і адчыніла ўжо іх.

І перш што яна ўбачыла — вялікі залацісты абраз з маткай боскай, якая трымала на адной руцэ дзіця. На карычневай, накінутай на голаў і на плечы хустцы, у маткі боскай пераліваліся, пырскалі праменнем тры зоркі... Кругом яе смутна нахіленай галавы, як і галавы дзіцяці, абвіліся два тонкія чырвоныя кругі-німбы.

Залатая фарба адбівала малочнае святло настольнай лямпы, што стаяла перад выпуклым і жаўтлява-бліскучым лобам худога, змарнелага з вострымі плячмі і зарослага шчэццю дзядзькі Ёселя. Прыставіўшы да вока начэпленую на гумку чорную трубку лупы, ён унурыўся ў сярэбраны, з адкрытай накрывачкай гадзіннік.

— Вой, што та вы? — дзівячыся на залацісты абраз,

Хрысця паволі пераступіла парог.— Моліцеся, ці што?
— Каб я ўжо верыў у бога? — вырачылася яго адно вялікае ў чырвоных жылках вока.
— Як жа ж гэта, дзядзька Ёсель? А чый жа абраз?
— Юзік прынёс. З агню, пажару выратаваў. Яму яшчэ можна маліцца.
— Хіба вам не?
Ад стала блiснула на яе шкельцам чорная лупа:
— А што я вымалю? Я памёр ужо. Гэта толькі месяц ажывае на чацвёрты дзень. Ты гэта ведаеш, га?
— Скуль мне знаць.
— Так ведай,— ён зняў з вока чорную трубку лупы.— Месяц жыве дваццаць восем дзён. А потым памірае на тры дні. А мы, людзі, навечна.
— І нічога ты, дзядзька Ёсель, не памёр,— Хрысця сарвала са сцяны шарае ў елачку і сцёртае да рубцоў паліто і гэтакую самую суконную ў елачку кепку.— Пойдзем са мною!
— Ты што, дзяўчына, надумала?
— Акрывайцеся,— і яна накінула на яго худыя, што нечакана пачалі падымацца над сталом, вострыя плечы.— Акрывайцеся, кажу. Пойдзеця са мною!
— Ты звар'яцела, дзяўчына.
— Нас тамака чакаюць.
— Хто мяне будзе чакаць, хіба Суля на тым свеце? — ён злавіў і сцягнуў з сваёй галавы гэтую лупу з тонкай гумкай.
— Цётку Сулю не забілі. Яна ў Верасаве,— Хрысця пачала махляваць, раптам паверыўшы ў тое, што кажа, ужо і сама: — Трэба ісці да яе.
Дрыготкая, жаўтлява-худая з сінімі ўздутымі вузламі жылаў рука пачала тыцкацца ў паліто, шукаючы рукаво. Хрысця злавіла мярцвяна-халодную руку, памагла. Памагла зашпіліць і жаўтлявыя касцяныя гузікі.
— І што ты надумала? — чырвона-лупатыя вочы падняліся і з тужлівым жалосным дзівам паглядзелі на Хрысцю.
— Скажу потым.
— Дзе і што ты скажаш? — спытаў ён, няспешна і слепавата мацаючы нагамі шчарбатыя зялёныя прыступкі.
Яна маўчала, падаўшы яму руку і памагаючы ўстояць на слізкім накарэлым лёдзе. Азірнулася — кругом ні душы, толькі на ружаватай з падсохлай кронай хвойцы, згледзеўшы іх, хрыпата закаркаў і закалываўся на суку, растапырваючы хвост, чорны грак.

«Каб ён ужо выдах, як яму ізноў захацелася есці. Не нажарэцца ніяк. Яшчэ прыкліча немцаў?»

Пераляцеўшы на ніжэйшы сук і падступаючыся на самы кончык, грак каркнуў яшчэ галасней. Гнілы, сатлелы сук, не ўтрымаўшы яго, крохка луснуў, і грак з перапуду залопаў крыллямі і ўжо не сеў, набіраючы вышыню і плывучы недзе за рог карычневага ашалёванага дамка.

— Скарэй, дзядзька Ёсель, скарэй, покуль нікога няма,— Хрысця турзанула старога за халодную, як у нябожчыка, руку і звярнула на цемравую сцежку з наздравата-паточаным ад сонца шапаткім снегам. Перад вачмі мільгалі аблітыя на ранах пацеркамі засохлай, жаўтлява-зеленаватай смалы камлі гонкіх хвоек. Адзінокіх, без падлеску. Хвойнік быў дашчэнту вытаптаны. Тут нават не прабіваліся ўпартыя прысадзістыя елачкі. Зблытаўся толькі жаўтлявы голы малиннік ды спляліся, аблягглі кусты чорнай, у ясных кропачках, як ссыпанай макам, брызгліны.

Толькі ўспець, ускорацць схавацца за гэтыя чорныя кусты брызгліны, а там ужо блізенька і драцяная сетка з угібанай, як калыска, дзіркай.

Як шахкае, як моцна пахрумствае пад нагамі сточаны сонцам, пераплаўлены ў скрылікі лёду снег, што ляжыць у лесе. І будзе яшчэ доўга ляжаць. Хоць надоечы Хрысця бачыла недзе сярод яго, белага і да слепаты зыркага, шарую капу мурашніка і на ёй, каля дзірачкі-прадухі, чырвонабліскучасты, злеплены рой мурашак.

Скора вясна. Можа, як-небудзь дзядзька Ёсель перагорае да цяпла. А там — уга! — можна жыць. Можна... Толькі во дурная, нават хлеба яму на дарогу не дала. Начыста забылася.

Каля драцяной сеткі яна ўздыхнула і ад бегатні, і ад страху. Азірнулася назад: бляшаны памутнелы дах, белыя вокны — усё ўжо хавалася за густою, што і непрасвечвалася, сцяною залацістых хвоек.

— Лезьце,— чапляючыся каптанікам за шаргатліва-звінючую сетку, яна першаю праскочыла на другі бок заржавелага загараду.

Уцяўшы голаў у ссутуленыя вострыя плечы і развёўшы рукамі парваную сетку, услед за Хрысцяю пралез ён, нягегла-марудны, абыякавы да ўсяго стары Ёсель. Выпрастаўся, выцягнуў доўгія ў кароткіх рукавах, мярцвяна-бяскроўныя худыя рукі і падняў на Хрысцю свой няголены, зарослы ажно па вялікія слязліва-чырвоныя вочы чорнаю ў сівых выпалінах барадою, спакутаваны твар.

— Так хто ж мяне чакае? — і апусціў глыбока запалыя слязлівыя вочы: — Хіба смерць...

— У Верасаве, я ж ужо казала,— Хрысця глядзела на гэтага нямоглага хворага чалавека і раптам жахнулася, падумаўшы, што да Верасава ён, можа, не дойдзе.

— Няўжо праўду кажаш?

— Вот яшчэ,— Хрысця ўсунула ў рукавы рукі — да грудзей краўся холад, ледзяніў спіну; каб па дарозе часам не трапіліся паліцыянты ды немцы, шкадуючы, падказала старому:— На шашу толькі не патыкайцеся. Старым гасцінцам ідзіце, праз хмызнякі ды лес.

— Як ужо не ісці, адна бяда,— ён памалу зачвякаў заплеснелымі чаравікамі, абыходзячы лагчыну, дзе жаўтлявы аселы снег заліла і замутнела, закісла ад цяпла, як зброснены бярозавы сок, талая вада.

Ад зеленаватай у бурбалках лужыны адбівалася, бліскала ў Хрысціны вочы мігатліва-калючае сонца. Ад яго сіняватымі плямамі аставалася балюшчая слепата.

Хрысця зажмурылася і ўчула, як па звінюча-крупістым, вільготным снезе марудна зашахкалі Ёселевы чаравікі.

Не могучы супакоіць, суняць сябе ад дрыготкі і нервовасці, што калаціла і трасла яе, Хрысця подбегам вярнулася да двухпавярховага, з белымі вокнамі, ашалёванага дома, каб узяць свае вядро і швабру.

Але там ужо смактаў раз'еханую, што, мусіць, добра не скручвалася з тоўстай рыжаватай паперы, размоклую папяросу ўстрывожаны Юзік.

— Чуеш, Ёселя няма.

— А вам што? — Хрысця ўзяла дзяркаты, што стаяў у шарым з аблушчанай пабелкай кутку, бярозавы венік.

— Яна кажа — «што?» — раз'еханая папяроса смуродзіла моцным атрутным «бесарабам».— Жандары нябось спытаюць — бачыў, а чаму не сказаў.

— Пачакайце да вечара,— Хрысця шарганула бярозавым дзеркачом па цэмянтовай падлозе, падняла стары горкі пыл.— Можа, прыдзе... Куды ён дзенецца зімою.

— Дзенецца ці не дзенецца, а што будзе мне?

— Ці ж вы яго вартуеце?

— Вот галава твая курыная, спрос з нас, што ведалі ды не сказалі.

— Што мы ведаем... Можа, яшчэ вернецца чалавек.

— Можа й, так... Чаго лішні лопат рабіць,— нарэшце трохі абмяк, супакоіўся ўстрывожаны качагар.— Пачакаем, праўду кажаш.

Але чакаў ужо не доўга, праз гадзіны тры, напаткаўшы на хрумсткай, падмерзлай, з падшэрхлымі лужынамі сцежцы Хрысцю, махнуў сваім гарбаватым і мурзатым носам:

— Чуеш, няма Ёселя. Я ўжо як і сам не свой.

— Чаго гэта вы ў порткі ўжо напусцілі? — Хрысцю нават разабраў дурны смех.

— Ёй хахінькі.

— Я ж кажу, мо вернецца. Мо хлеба пайшоў папрасіць.

— Хто сённяшнім часам дасць яму?.. Хібя галавы свае не шкадуе?

— Не ўсе ж баязлівыя, як вы...

— Адважная знайшлася,— ён адвярнуў свой мурзаты, упэцканы ў сажу нос.— Пайду скажу, што счэз чалавек. А то ж з нас спрос.

— Вы, дзядзька, там мяне ўжо не прыплятайце,— папрасіла яна, трохі ўтрупеўшы на гэтай вузенькай, абнятай сцяною лесу, і цеснай дарожцы.

— Яшчэ што скажаш. Патрэбна ты мне, як сабацы пятая нага.

Хрысці верылася і не верылася. Дадому прыбегла ўсё прычуваючы, што нехта ўкрадком даганяе яе. Пераапранулася, распаліла пліту і, паставіўшы пры ёй кошык са звялымі, зморшчанымі картоплямі, абірала іх, кідаючы ў чаганік з вадою, слухала, як шугае, як патрэсквае ў пліце агонь.

На грукат дзвярэй пайшла ўжо як сама не свая.

— Хто там? — спытала з асцярогаю, чакаючы чужога, страшнага голасу.

На дзверы нехта навальваўся і цяжка соп.

— Хто ж там, пытаю? — і ўчула, як у самой акрыяў, памацнеў голас.

— Не пазнаеш? — у Імполя блытаўся язык.

— А сёння якое ж свята? Чаго напіўся? — папракнула, але з радасцю, што за дзвярыма не яны, не немцы, а ён, Імполь, і з гаркатою і жальбою падумала, што і не прагоніш п'янага ў такі ліхі час ні цяпер і ніколі, пэўна, бо на глухую, неразблытаную зашмаргу завязалася іхняе жыццё. Радасці ды любасці ў ім мала, усё больш чорнай бядоты ды цяжкай, нязноснай крыўды.

І, адступаючыся ад парога, зняла з прабоя цяжкі жалезны крук і дастала з вушакоў завалу — драўляны дручок, што сядзеў упоперак філянговых на дзве палавіны дзвярэй.

— Балазе адкрыла,— сказаў ён ужо ў пакоі, дыхнуўшы на яе гарам самагону.

— Ад смерці і любосці, кажуць, не адкупішся,— яна ўзіралася, як на яго зблажэлым, худым твары трапяталася ружаватая чырвань ад пліты.

— Якая тут любасць... Не глядзі так! — ён здрыгануўся і ад холаду — мусіць, даўгавата мёрз на двары,— і ад яе пільнага зірку.— Іншай дарогі няма.

— Хіба ўжо так?..

— Па дварчанскіх хатах, па падсуседах хаджу...

— А чаму ж думаеш, што я цябе ў кватаранты вазьму? Ён рукою абцёр твар і нібы працверазеў:

— Няўжо мне жыўём у пятлю лезці?

— Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. Аставайся. Куды пойдзеш? — яна паволі прысела на табурэцік перад чыгуннымі непрычыненымі дзверцамі: з пліты палыхалі агнём і пастрэльвалі ружовымі вугольчыкамі яловыя дровы. На Хрысціных, пакутна сцятых руках, што ляжалі на шчыльных каленях, ружовым сполахам трапятаўся, мільгаў водсвет полымя.

— Во госць будзя,— Імполь падняў ружовы вугольчык, што глуха стрэльнуў з пліты.

— Які яшчэ госць? — павярнула сваю чорную з белым праборам галаў, ачуціўшыся ад сваіх думак, Хрысця.

— Я сёння ў Бортніка, у каменданта паліцыі быў.

— І што цябе занясло да яго? — пад Хрысцяю чутка зарыпеў табурэцік.

— Рэпка паслаў, каб наказаў яму прысці да партызан на сустрэчу.

— І што Бортнік? — прытоена і сцішана спытала Хрысця.

— Схапіў мяне за каршэнь і штырхануў у дзверы,— Імполь падкінуў з прыгаршчаў у прыгаршчы патухлы вугольчык.— Каб сюды часам каго не прыслаў.

— Не такі ён дурны, як ты думаеш,— Хрысця доўга і маўчучы глядзела на раскіслыя Імполевыя чаравікі і нарэшце цвёрда загадала: — Разувайся! Вады вунь колькі нацякло... А Бортнік знойдзе іншы час, каб нас пакараць. А покуль яго сям'я ў Ведравічах, ён нікога не чэпіць. Ён тут самы добранькі. Ён тут золата яўрэйскае цягае.

## VI

На прысунутым да покуця і засланым абрусам стале ляжала слепаватая, нібы са злінялымі, з'едзенымі зверху літарамі павестка. Нізкаму на вочы Корсаку прачытаць яе без акуляраў было цяжка, але ён ужо і так ведаў, якая страхатлівая грозьба ішла ад тых злітых, слепаватых радкоў, што мігцелі і дваіліся на прадаўгаватай траціне лістка ў косую лінейку:

«На падставе загаду Акруговага начальніка БКА і начальніка павету гр. Корсак Дзімітры, сын Уласа, мусіць з'явіцца к 10 гадзінам раніцы 20.IV.1944 г. у Дварчаны на валасны зборны пункт.

З сабою забраць: вопратку, абутак, тры пары бялья, лыжку, ручнік, асабістыя рэчы.

Хто па гэтым загаду не з'явіцца ў вызначаным часе і месцы, будзе лічыцца здраднікам і пакараны надзвычайным судом — карай смерці».

Павесткі развозілі трое на конях немцаў і трое на санях паліцыянтаў з нейкім цывільным сухаватым, дробным мужчынам у чорным ужо добра абцёртым кажушку з белым каўняром і апушкаю. Мужчына напытваў хаты і раздаваў гэтыя павесткі, выцягваючы пасінелай скарчанелай рукою з карычневага скуранога партфеля з іржава-бляшанымі кантамі.

Ужо другі дзень страхатліва-белым кавалачкам ляжала на стале павестка і ўжо другі дзень Корсак не знаходзіў сабе спакою. То, коўзаючыся па тлустай раскіслай сцежцы, абапал якой ужо ачуняла і цёмна зелянела леташняя дзяцелінка, ішоў да Алесі, гараваў, скардзіўся перад ёю, то, трохі супакоены, варочаўся дадому і, чуючы, як пахне цвіллю, брудам і блізкай вясною свет, дбаў ужо пра сяўбу. Дома на стол не глядзеў, але нават спіною прычуваў, што там ляжыць лісток у косую лінейку, як прычувае чалавек, што поруч у труне нерухома і спруцянела выцягнуўся нябожчык, і чалавек напружана-сцішна чакае, што нябожчык зараз заварушыцца і загаворыць.

На дварэ на прыціхлыя чорныя дрэвы, што пабліскалі кроплямі расы, паплыў мокры дробны снег. Нудна, надакучліва звінела, церушылася і асядала ў хаце цішыня. Ці гэта звінела Корсаку ў левым вусе. Да гэтага ценькага, як нацятая струна, звону Корсак ужо прывык, бо чуе яго не адзін год, мусіць, нават з той пары, як памерла жонка.

І яму чамусьці ўбачылася зноў усё тое, што бачылася

не раз: на дзвюх прыстаўленых заслонах стаіць труна, а ў ёй ляжыць, як жывая, нават з нейкім прытоеным смяшком у сіняватых губах яго Караліна. І, калі ён памкнуўся да труны, гэты смех згінуў і губы сцяліся пакутна і злосна.

Караліну пахавалі, а Корсаку ўсё здавалася, што яна на які міг ажыла, вось так нечакана засмяяўшыся яму.

Корсак нікому пра гэта не гаварыў. Ды каму скажаш, ды хто ўжо дасць веры, што нябожчык можа ажыць. І чым больш уцякала часу з таго далёкага дня, тым болей верылася Корсаку, што Караліна ўсміхнулася і нават хацела загаварыць да яго.

А малы Змітрык тады сядзеў на ложку, падкурчыўшы пад сябе босыя ножкі, і жаласна, адзінока плакаў.

Колькі яму тады было? Ці не восьмы гадок ішоў?.. І вось вырас на лес гледзячы. Ні ўправы, ні ўпынку на яго няма.

І дзе ж ён дзеўся? Што ж будзе з гэтаю павесткаю?

Корсак пастаяў, пакутна і натужліва думаючы, што ж рабіць далей? Не ісці ж у тыя далёкія Дварчаны па такой хлюпаце і не шукаць жа яго. А ці знойдзеш. Бяжыць усё то да местачковай дзяўчыны — любіцца, то да нейкага Царыка — палітыкаваць. Ох, цяпер, пры такой ліхаце, пры такім шаленстве на свеце ўся гэта неразважнасць ды дурнота дабром не скончыцца. Корсак паглядзеў у мурзатае, з сіваватымі паскамі, не мытае за зіму акно, паслухаў, як недзе за ліштваю шалпочацца верабей — пэўна ўжо збіраецца віць сваё гняздо, і, не знайшоўшы, за што зачапіць рукі, выйшаў на двор. Са страхі, набрыняўшы кроплямі, капала вада — раставаў гэты позні, ужо вясновы імжысты сняжок. Каля вугла дрыжала сіняватая лужына. Цыбаты, з гарачымі завушніцамі, чырвона-залацістай шыяй певень, дзюбнуўшы ў лужыну, падымаў разяўлены рот. Здаецца, смакаваў гэтую халодную ваду.

У Корсакавых мыслях закружылася тое, што заўсёды гаварыла на святыя грамніцы, прынёсшы з касцёла пасвенчаную свечку, яго Караліна: «Во сёння адлега. Пятух вады пад вуглом нап'ецца, то ўжо вол на Юр'я травы наесца».

«А калі ж сёлета былі грамніцы? Во, нават і забыўся. Як бяжыць час, не зглядзіш. Ужо і Юр'е на носе».

Мацаючы нагамі цвёрды, зацярушаны жоўтай саломай каля гумна лёд, выйшаў да Алесінай хаты. Пастаяў сярод вуліцы, падняўшы свой зжоўклы нездароўчы твар і чуючы, як пахне вясною і лагодна шуміць за вушамі вільготнапрэсны вецер.

За раўкам, дзе раставаў, сочачыся вадою, пачарнелы курган снегу, на абветраным зеленкаватым ад моху грудку, у Літаваравым, абкладзеным картаплянікам хляве, рыкала, натужліва і моцна, шкадуючы, мусіць, аднятае цялятка, устрывожаная карова.

Што ж робіцца ў Літавараў? Ім жа таксама прынеслі павестку. Корсак азірнуўся на карычняваты вішняк, на Алесіны цемнавата-патайныя вокны і пайшоў напроці гэтага прэснага ветру, што цёк за шыю ласкавым халадком. У прагале сіняватых хмар плыў белаваты кружок высокага веснавога сонца. Ён то хаваўся, то нечаканай радасцю кружыўся, выплываў зноў. І, адбіваючыся ад мігатлівай вады, што бруілася ў звілістых, крывых, як вены на руцэ, латачынах, калюча сляпіў вочы.

Корсак зажмурыўся і навобмацак падняўся на камень перад ганкам, навобмацак увайшоў у сені. Задыхнуўся ад паху вантробаў і свежай крыві — падвешаная заднімі нагамі за прывязаны да бэлькі driven дручок, тут, у сенцах, астывала бела-ружовая цялячая тушка, у чыгун з абрубка шыі сцякала загуслая кроў.

— Свяжуяце? — замiж прывітання спытаў Корсак, не прывыкшы яшчэ да поцемку ў хаце і нікога не бачачы.

— Якое тут свежаванне,— адазваўся недзе тут поруч каля Корсака і заперхаў ад кашлю стары Літавар.— Гэта ж чуў? Мусі — не? Казакаў нямцэ нагналі. Нейкага, кажуць, паходнага атамана Паўлава прывязлі.

— Якіх казакаў?

— Якіх пытаеш? А тых, што па вёсках стаяць ужо.

— Во, не чуў.

— Дак чуй. Коней забіраюць...

— Без коней будзем жыць,— Корсак прымружана паглядзеў у поцемак, з якога ўжо выплыла лава і стары Літавар з жоўтаю глінянаю міскай на каленях, у якой пакалыхвалася зеленаватая саладуха з белымі пярсцёнкамі накрышанай цыбулі.

— Ён будзе жыць...— Літавар счарнелаю драўлянаю лыжкаю злавіў у місе тонкі пярсцёнак цыбулі.— Ятвязь вунь спалілі... Людзі гінуць, як мухі ўвосень, а ён будзе жыць,— і Літавар сербануў з лыжкі гэты белавата-тонкі пярсцёнак цыбулі і пачаў жаваць бяззубымі дзёснамі.

— Не крычы, Ясь,— трохі паспакайнеў ад чужой нервовасці Корсак.— Я ж не ўкінуў табе агню ў хату.

— Гэта ж праўда. Агонь свой — вунь у шуфлядцы ў стале: павестка Броніку... І твайму, кажуць?..

— Ды пецярым,— ад стала нарэшце падняў свой гарбаваты, апушчаны да губы нос Бронік Літавар.— Мне, можа, ужо і не першыня. Служыў у польскім. служыў у савецкім, паслужу і ў беларускім войску.

— Якое яно там беларускае. Нямцэ кіраваць будуць,— махнуў чорнаю вышчарбленаю лыжкаю стары Літавар.

— Хто не будзе — адна халера: вайна,— уздыхнуў і прысеў на лаву Корсак.

— Гэта праўда — людзі пазвярэлі,— стары Літавар зашкроб лыжкаю па місе, ловячы кроплю кіслай, як воцат, саладухі.

— Я пазаўчора сам бачыў, як казакі ў Дварчанах дзяўча білі. Нешта ўкрала,— Бронік засмяяўся і ўстаў з-за стала, пераступаючы слупок сонца, што вірыў сіняватым пылам.— І смех і грэх глядзець было. Паклалі на ржавае кола ад вагона, што стаяла ў тупіку, перагнулі ды нагайкай. Дзяўчына крычала, як голаў сцяць.

— Дзіва што крыкнеш. Ведаю гэтыя нагайкі. Арапнікамі іх называюць. У тую вайну казакі імі людзей у бежанства гналі. Помніш, Ясь? — Корсак павярнуўся да старога Літавара, што трымаў на каленях гліняную місу. Левая рука ў яго калацілася. І Корсак у жальбе падумаў, што Літавар на вачах стаў старэць і чэзнуць.

— Хэ,— усміхнуўся і ажно, здаецца, памаладзеў ад свайго смеху Літавар.— Ён пытае, ці помню. Можа, з месяц насіў на шыі рубец ад гэтага бізуна. Яшчэ і цяперака нарасць не сышла.— Ён хацеў падняць сваю левую, што дробна калацілася, руку і не здужаў, апусціў яе на міску.

— А што ж чакае іх? — Корсак азірнуўся на Броніка, што глядзеў на рамку з картачкамі, на сябе ў польскім мундзіры і рагатыўцы.

— Ад свайго лёсу не ўцячэш,— Бронік тыцнуў пальцам у шкло, за якім трохі перакасілася картачка, з якой глядзеў паўнатвары з савіным носам салдат з мардатым падфарбаваным сяржантам.— Я во ўспамінаю, як мы з сяржантам вырваліся з акружэння. Ішлі дадому. Ён усё казаў, што блізенька дадому асталося. Толькі выткнуліся з лесу, а тут, як на ліха, немцы на матацыкле. Сяржант у ногі. Але ж дабег усяго да блізенькага замежку. Там ужо і тыцнуўся ў белы крываўнік, падкошаны кулямётам.

— Так што і цяпер пойдзеш пад кулямёт? — падняўся з лавы стары Літавар і калатлівай, дрыготкаю рукою шаргануў на прыпек парожнюю з высербанай саладухай міску.— У мяне ж вунь канюшына насенная не змалочана.

— Успееецца, бацька, з тою канюшынаю, змалачу,— Бронік адцягнуў з стала шуфлядку, дастаў павестку, доўга і моўчкі чытаў.

— Можа й, праўда, можа, перахавацца? — няпэўна сказаў Корсак і ўчуў, як пад шапкаю змакрэў лоб.

— Тут справа такая,— Бронік адняў ад павесткі свой склюдаваты, апушчаны да губы нос.— Не з'явімся мы, перастраляюць, папаляць усіх вас.

— Мы ўжо сваё аджылі,— Корсак абцёр куткі сваіх звялых, апушчаных губ.

— Вы аджылі... А дзеці? Дзеці ў іншых ёсць... жонкі...— Бронік націснуў на язычок клямкі і папхнуў каленам дзверы.

— Пачакай,— Корсак паволі з'ехаў з лавы і, не могучы разагнуць балячы крыж, як гарбун, звесіўшы доўгія рукі, услед за Бронікам усунуўся ў сені, там задыхнуўся ад спёртага духу вантробаў.— Ты кажаш, трэба ісці на той зборны пункт?..

— Я нікому не кажу. У такой справе кожны робіць як знае сам.

— Каб сам знаў...

— А Змітрык што?..— Бронік ступіў з сяней за парог на пляскаты камень, падняўшы руку, лавіў цяжкія, што сцякалі па саломіне са страхі, кроплі вады.

— Змітрык,— нечакана ўгнуўся Корсак: вялікая кропля, што сарвалася з капяжа, востра-пякучым холадам апякла карак.— Змітрык мо даўно на тым зборным пункце. Пайшоў у Дварчаны і цеперся няма дадому.

— Вайна... Цяпер усім трэба маладыя мужчыны,— Бронік з прыгаршчаў лінуў сабе за плячо сабраную ваду.— Куды ні кінься — усім... і партызанам, і немцам.— І абярнуўся да Корсака.— А хібя ж адзін чалавек усім угодзіць? Скажы, дзядзька Улас?

— А што скажаш? — уздыхнуў Корсак і закрыўся рукою ад сляпучага сонца, што адбівалася ад трапяткой, зморшчанай лужыны. Пераступіў яе і сказаў не то сабе, не то Броніку Літавару: — А на свеце во вясною пахне... І жаваранак як заліваецца. Ажно я чую. Прырода бярэ сваё. Гэта ў чалавека ладу нямашука, а ў прыродзе...

Ён падняў вочы, каб глянуць на чыстую глыбіню неба, дзе цвірчэў высокі жаваранак, і ўчуў, як яго, нібы ад лішняй чаркі, павяло ўбок і ў голаў хлынуў шум.

Корсак пастаяў, счакаўшы, покуль схлыне з галавы звінючы боль, і выйшаў з Літаваравага надворка.

Трывога за Змітрыка, як усцерагчы яго ад новай бяды, балючым нарывам турзала сэрца.

Цёмна-каламутны ручай, што булькатаў, кіпеў і пеніўся ў раўку, раптоўна паглыбшаў і заступіў Корсаку дарогу.

Каб не набраць у чаравікі вады і не застудзіць ногі, Корсак завярнуў на шашу. Там перад шашэйным з жалезнымі парэнчамі мастком і насыпам вузкакалейкі шырокую лагчыну заліла цёмная вада, што прыйшла сюды з палёў — там яшчэ ў ярах і раўках між грудаў не растаў пачарнелы глыбокі снег.

У шарай трубе пад чыгуначным насыпам, захлынаючыся, шумеў каламутны паток. Густая, чырванаватая, як на асовым лісці, іржа ела стрункія рэйкі вузкай каляі. Вузлавата-крывымі латачынамі талая вада там-сям падмыла недагледжаны, не падсыпаны рамонтнікамі адхон. З леташняй восені, як партызаны спалілі дварчанскае дэпо і недзе пад Кашалеўскім лесам разабралі чыгуначнае палатно, каля Верасава на пераездзе перасталі прысвістваць рухавыя, што цягнулі па тры-чатыры вагоны, чорныя паравозікі. Не з'яўляліся са сваёю ваганеткаю і рамонтнікі. Іх перакінулі, кажуць, будаваць дэпо — немцы ўжо выкапалі і залілі цэментам глыбокі фундамент.

«Няўжо думаюць асталявацца тут надоўга?» — Корсак паглядзеў уздоўж іржавых рэек, што збягаліся ў адну струну на далёкім, абстаўленым белымі цэмянтовымі слупкамі пераездзе, і раптам убачыў двое конных — яны ехалі каля шашы па жоўта-брудным ад раскіслых конскіх яблыкаў паску нерасталага, зледзянелага снегу.

На іх дзіўна і страхавіта чарнелі шырокія з вострымі плечукамі буркі.

Корсак успомніў, што гэтакія чорныя, здаецца, з валенага сукна буркі былі ў тую вайну на царскіх казаках.

Тады іх чацвёрка якраз на каталіцкага спаса прыехалі ў Верасава зганяць мужчын капаць роў, які, вядома, потым і не спатрэбіўся: баёў з немцамі і не было. Па дарозе напаткалі старога Літавара: прыбраўшыся, ён ішоў у Дварчаны да касцёла. Яго завярнулі пад крыж, загадалі стаяць і чакаць іх тут, а самі паехалі ў вёску выганяць з хат мужчын. Сюды, пад крыж, прыгналі тады і Корсака.

Літавар, агледзеўшыся, што казакі схаваліся за гумнамі, як ні ў чым не было, зноў папраставаў на шашу. Дагналі яго на грудку з паўвярсты ад вёскі і вярнулі назад. Тут, пад крыжам, на вачах усіх мужчын і пачалі секчы яго арапнікамі, каб іншым павадна не было. Ад першых двух ці трох

удараў, покуль не зляцела з галавы шапка, Літавар яшчэ ўстаяў на нагах, а потым пачаў ужо прысядаць і млець...

Корсак азірнуўся на стары, замшэлы крыж і потым на чорнабрудную, нерасталую паску снегу каля шашы пад строката-белымі бярэзінамі: падскокваючы на сёдлах у тахт няспешнага бегу коней, казакі заварочвалі не ў вёску, а, зглеДзеўшы Корсака, блізіліся да яго.

Адзін з іх у сівавата-дымнай каракулевай кубанцы, што трохі спадала на правае вуха, з чорнымі ганарыста падкручанымі вусамі, нагнаўшы Корсака, шырокімі персямі каштанавага каня раптам стаў наязджаць на яго; каля бота, усунутага ў стрэмя, паблісквала шабля.

— Стой, говорят!

— А я і не ўцякаю,— Корсак адступіўся на беражок шашы, дзе пад чорнымі камлямі бярэзін бегла раскіслая ў лужынах сцежка.

— Тутошний будешь? — спытаў другі, даўгатвары.

— Ды тутэйшы,— Корсак насцярожліва нацяўся, чакаючы, што яны хочуць распытаць.

— С ентой деревушки?

— Адсюль во,— кіўнуў галавою за плячо Корсак на прытоенае Верасава з шара-карычневымі замшэлымі стрэхамі, дзе ў цяньку за гумнамі яшчэ бялелі гарбатыя курганы.

— Партизаны есть?

— Хто знае, дзе тыя партызаны?

— А ты?

— Скуль мне знаць? Яны ж мне не кажуць, дзе яны.

— А столбы?.. Кто спилил столбы? — з-пад буркі высунулася рука з кароткім і кругла-таўставатым, плеценым, мусіць, у восем столак бізуном.

— Я не рэзаў, я і не бачыў,— Корсак павёў вокам туды, куды выцягнулася кароткая ручка бізуна з круглай, як гадзюка, пляцёнкай, шырокай і пляскатай на канцы, дзе быў зашыты свінец, і толькі цяпер убачыў, як абвіс дрот на белых ізалятарах за блізкім шарым слупом, што стаяў за раўком — далей слупы ляжалі. Калі ж іх зрэзалі? Сённяшняй ночы, ці што? І Літавары нічога не сказалі...

Тыдзень назад яго самога са Змітрыкам партызаны выганялі рэзаць тэлеграфныя слупы. Але ж тады іх валілі за грудком у лагчынцы далей ад вёскі. Назаўтра пад Верасава пад'ехала нямецкая танкетка, павярнулася гарматай да Бортнікавай хаты — чаму менавіта да яе? — і стрэліла ўсяго адзін раз. Балазе дабром абышлося: прабіўшы ў будынку дзве сцяны, снарад праляцеў праз хлеў і ўпаў у

сенях, не ўзарваўшыся. Бортнік вынес яго і закапаў, а дзіркі ў сценах забіў шпунтамі.

«Што ж будзе цяпер?» — Корсак з шашы, ужо не разбіраючы, набярэ ў чаравікі вады ці не, збег па адхоне канавы ў шапаткі, раздраджалы снег, каб наўпрасты выйсці да Алесіных будынкаў.

— Эй, старик, погоди маленько,— яго запыніў падазрона ласкавы і патайны галасок.

Корсак застыў, праваліўшыся ў глыбокі снег.

— Партизаны часто ездют тут?

— Ды халера іх знае?

— Семьи не подскажешь... ихние.

Застаны знянацку роспытамі, Корсак ужо не ведаў, як адкараскацца ад гэтых двух у чорных касматых бурках.

— Няма партызанаў у нас, ні іхніх сем'яў.

— А всё же подскажи, никто ведь не узнает.

— Няма, кажу вам, гаспада казакі.

— Гутарют, вон там, на хуторах...

— Не ведаю, не чуў.

— Фамилия твоя?..— вусаты падшпорыў, падагнаў і асадзіў на самым беразе шашы неспакойнага каня, што глядзеў вялікім пудка-сіняватым вокам.

— Корсак я,— з раскіслага, набрынялага вадою снегу Корсак нарэшце вырваў свае ногі, перайшоў канаву, ужо на заплеснелай леташняй траве, дзе сышоў снег, спытаў: — А нашто вам?

— Если набрехал насчет партизанов, найтить легче будет.

— Што я сабака, каб брахаць,— Корсак паслізнуўся на сівай, як павучына, плесні, дзе надоечы сышоў снег, і размашыста пайшоў па цёмнай, прыліплай да зямлі траве да Алесінага шырокага прысадзістага гумна.

Тупат каня, шахканне снегу ў канаве і гарачы, балючацяжкі ўдар па галаве ён учуў засап разам. Ногі, як спаралізаваныя, адразу заплялiся і падагнуліся. На міг, здаецца, аднялася і памяць.

Праз звон у вушах, праз цяжкі ад нагайкі з зашытым свінцом балючы ўдар па цемені прарываўся чужы, хрыпаты крык:

— Ишо ему! Ишо!

— Пущай ползёт, клещ ентый!

— Вреж ишо! — чуўся хрыпаты абветраны голас.

Казак ад злосці сцегануў нагайкаю па боце, але Кор-

сака ўжо болей на чапіў, рвануў за повад і, раздзіраючы цуглямі рот каню, выехаў на шашу.

Корсак, як сляпы, ад злосці, крыўды і адчаю завярнуў да Алесінага гумна. Пад горла падкатваўся даўкі камяк. Вочы туманілі пякучыя слёзы. На цемені, балюча сцягваючы скуру, рос і ныў насечаны гуз.

Душыла крыўда, што не адпомсціш за ганьбу, гвалт, знявагу, за гэты люты ўдар нагайкаю. Цяпер свет такі — наздзекуюцца, наб'юць,— і не акажыся, а слова вымавіш — застрэляць. Што значыць цяпер чалавек? Хто з ім лічыцца? А ці лічыўся калі?

Корсак у кутку ў сенцах злавіў за абслізганае гладзенькае тапарышча сякеру, з ёю ўвайшоў у хату і, скінуўшы шапку, плашмя прыклаў настылае, халоднае вастрыё да гарачага гуза. Сядзеў на лаве пануры, атупелы ад дасады.

На звыклае «сяло» — схадзіць да Алесі ці да Ваўчка, дзе апошні час збіраліся мужчыны, ды паслухаць, што робіцца на свеце,— не пайшоў. Управіўшыся напаіць ды накарміць скаціну, прылёг на ложак.

Сэрца ўжо грыз неспакой: дзе Міця. Цеперся няма дадому. Каб не прылучылася якая бяда?

У хату праз два акны касаватымі слупкамі цадзіла дрыгатліва-рэдзенькае малочнае святло сіняя поўня. Адзін слупок даставаў да Корсакавага ложка. Не даваў заснуць. І Корсак не ўлежаў. Накінуў на плечы кажух, знайшоў на прыпеку пристаўленыя да засланкі чаравікі, каб высахлі занач, уступіўся ў іх і выйшаў на вільготны надворак.

За садком, за чорнымі дрэвамі, шумела, заняўшы ўжо завоіну, вясенняя паводка. На шырокай вадзе залацістаю дарожкаю пералівалася і дрыжала яснасць ад невысокага месяца. Недзе далёка, пэўна, на Прылуцкіх хутарах у сінечы ночы адгукваўся па два разы засап удод: дук-дук, дук-дук.

«Чамусь пад поўню на згоне зімы бывае паводка,— гледзячы на падсвечанае месяцам неба з дробнымі зорамі, падумаў Корсак і сцяўся, уздрыгнуў плячмі ад сыраватага, вільготнага холаду.— І зоры падаюць».

Але зорка, што адлучылася ад іншых, была зырчэйшаю і ляцела, зніжаючыся на верасаўскія цёмныя хмызнякі. І ўслед за ёю раскалоўся з лускам, як арэх, нізкі, далёкі стрэл. Толькі цяпер дагадаўся Корсак, што гэта была не зорка, а запальная куля.

Ці палохаючы іншых, ці баючыся сам, нехта стрэліў яшчэ раз, і яшчэ раз нізка над хмызнякамі чырвоным, як

ад траскучых яловых дроў, вугольчыкам праляцела не вельмі і хуткая, калі бачыш здалёк, запальная куля.

Надоечы ў трухлявай дзеравіне гумна Корсак выкалупаў адну,— мусіць, нямецкую, бо без сталёвага дзюбка. Яна сядзела плашмя, выставіўшы сівавата-свінцовы бок, на сантыметраў два ўпіўшыся ў трухлявую дзеравіну. А хто і калі стрэліў у гумно, невядома.

Корсак паглядзеў на цёмныя ў святле месяца зарэчныя хмызнякі, і трывога балючым неадчэпным болем кальнула ў сэрца — дзе ж Міця, дзе бадзяецца ў такі ліхі час?

Корсак прыслухаўся і злавіў сваім не вельмі чуйным вухам, як за вёскаю, з'ехаўшы са снежнага, нерасталага шарпаку дарогі, на чыгуначным пераездзе на рэйках скрыпелі палазы саняў і мужчынскі натужліва-сіпаваты голас панокваў на каня.

«Хто ж та поначы ездзіць?» — Корсак захіліўся ад ветру, што дзьмуў з-за вугла, прыпёрся плячмі да сцяны, пастаяў у адзінокім смутку і вярнуўся ў хату.

Заснуць ужо не мог. Варочаўся з боку на бок, не ведаючы, куды дзецца ад месяца, што пачаў чырванець, спускаючыся да страхі чужое хаты і льючы Корсаку на вочы неадчэпнае, надакучлівае святло. Нарэшце месяц пачаў меркнуць і хавацца за комін суседняй **Жыт**ковай хаты. І Корсака, што выбіўся з сіл, перадумваўшы свае аднастайна-горкія думкі пра Міцю, пачаў нарэшце марыць сон. Перад вачыма выплыў хмуры дзень, нейкая хата, не то яго — Корсакава, не то не яго, сутокі, адгароджаныя новымі, прыбітымі на стаяка дошкамі. З далечыні гэтых сутокаў паказалася яго маладая Караліна і пачала нешта гаварыць і махаць рукою, падзываючы яго, Корсака, да сябе, але тут аднекуль з'явіўся Змітрык і першы кінуўся ў той далёкі кут да Караліны. Яны прапалі, зніклі ўпоцемку за дашчанай высокай сцяною, з моцным стукам зачыняючы дзверы.

Гэты стук, моцны і настойліва-ўладны, паўтарыўся. І Корсак нарэшце, выплываючы з дрымоты, разабраў, што стукаюць у яго дзверы.

— Хто там? — ён абмацаў нагамі шурпатыя, нефарбаваныя дошкі падлогі.

— Открой, хозяин! Свои...— па-руску адазваліся на двары, і на белаватае акно наплыў калматы цень.

— Якія свае?

— Партизаны.

Корсак, не акрываючыся, выйшаў у сені, з звінючым шоргатам адсунуў засаўку і адчыніў дзверы.

У пройме іх, на пацямнелым, ужо без месячнага святла надворку стаялі трое, і пад нечымі нагамі недзе далей каля вугла востра пахрумстваў тонкі лядок. Там туліўся нехта чацвёрты. На вуліцы зафыркаў і зазвінеў цуглямі конь.

— Один в избе-то? — спытаў той, што стаяў бліжай да парога ў доўгім шынялі і вайсковай фуражцы з нізкай аселай туліяй.

— Адзін, каму ж яшчэ быць?

— А сынок дзе? — спыталі з-за чужых плячэй далей знадворку, і Корсак пазнаў голас Жэніка Рэпкі і ўжо зласнавата на гэты голас адказаў:

— Скуль мне знаць. Пайшоў недзе.

— Каля нямецкіх сметнікаў бегае. Хітрые ўсё.

— Ён мо такі самы хітры, як ты... Кажы, чаго прышоў? — Корсак памкнуўся з сяней туды на надворак, але яго лёгка за плячо падштурхнуў той, што быў у шынялі:

— Зайдем в дом.

У хату зайшлі ўсе трое, што былі навідавоку, загадаўшы Корсаку завесіць радзюжкаю вокны і запаліць лямпу.

Корсак запаліў газоўку, што стаяла на мурку печы, і яна зашыпела, сыплючы з вузкага агеньчыка траскучыя іскры,— у газе была соль.

Палахлівая яснасць захісталася ў хаце, асвятляючы твары трох начных гасцей. У старэйшага з іх, што быў у шынялі, шырокую вайсковую папругу трохі адцягвала вагкая кабура.

— Отец, нам полотнишка бы? Сколько можешь,— павярнуўся да Корсака высокі, у доўгім шынялі.

— Якое ж у мяне, удаўца, палатнішка, як вы кажаце,— Корсак і стаяў у споднім бялізне сярод хаты, азіраючы то аднаго, то другога, бачыў, як баяўся яго вачэй і туліўся за высокага, пэўна, старшага над імі партызана ў доўгім, шчытна і спраўна падагнаным шынялі Жэнік Рэпка, азіраў цаўё аўтамата і драпаў нешта пазногцем на ім, нібы гэтым толькі і заняты быў.

— Палатна, праўда, у яго няма, а сядло, кажуць, з Дварчан прывалок.

— Якое сядло? — сумеўся Корсак.

— Вайсковае,— нарэшце высунуў на трапяткое святло свой курносы твар Жэнік Рэпка.— І не адно... З аднаго боты пашыў.

— Ах во як. Боты, кажаш?..— Корсак крутнуўся да лавы, там ляжала сякера, ён прыкладаў надоечы яе да галавы, каб сцягнула насечаны казацкаю нагайкаю гуз,—

і шаргануў да сябе, падымаючы за гарбаватае тапарышча.— Я пакажу табе сядло і боты! Я пакажу...

— Ты что, отец? — убачыўшы ў Корсакавых руках сякеру, адступіўся, але пачаў машынальна хватацца за кабуру той, што быў у шынялі: — Брось, не балуй!

— А мне не да забаўкі, і няхай выйдзе з хаты!

У Жэніка Рэпкі ўздрыгнулі пухлаватыя губы, і вочы, бліснуўшы бялкамі, раз'юшана вырачыліся, зубы хрустка скрыганулі:

— Ды я цябе!..

— Тут ужо так: альбо ты мяне, альбо я цябе,— Корсак звярэючы і, мусіць, ужо адыходзячы ад памяці, паказаў сякераю на дзверы: — Выйдзі з хаты, брыда!

Жэнік Рэпка мацюкнуўся, плюнуў і, круцячы наравіста галавою, пераступіў парог, не зачыняючы дзвярэй, з грозьбаю выціснуў:

— Мы яшчэ стрэнемся, як гаворыцца, на вузенькай...

— Страху вялікага няма. А ўжо не баюся ні просьбы, ні грозьбы твае,— Корсак падышоў да лавы і неяк навотліў, размахнуўшы, пусціў з грукатам пад яе сякеру і павярнуўся да гэтых двух, што асталіся ў хаце: — Сёдлаў я ніякіх не браў. Нідзе і ні ў кога.

— На первый раз поверим,— нарэшце аказаўся трэці, сухарлявы і хваравіты з твару, нібы сухотны, што дагэтуль маўчаў, падазрона і цярпліва стрымліваючы злосць.

З хаты яны выйшлі, тоячы ў душы нешта помслівае і нядобрае. Корсак гэта распазнаў па грукаце дзвярэй, што стукнуліся ў вушак, дзынкнуўшы клямкай, і адскочылі назад. Ад іх дзьмухнуў тугі скразняк, злізаў на шкляным пухірку газоўкі ледзьве жывы, траскучы агоньчык, і на Корсака, як цяжкая глыба, як стромы, падкопаны бераг, упала цемната. Ён стаяў, аглушаны гэтаю мігатліваю цеменню, і яго трасла, калаціла неўтаймаваная крыўда, спадыспаду душы высачылася адчуванне,— здаецца, першы раз такое, што яе, гэтай страшнай вайны, з чалавечай помстай, несправядлівасцю, смерцю, адчаем і адзінотай ён, Корсак, не перажыве.

Ён зажмурыў бясслёзныя вочы і ўчуў, як яны пякуць прыступам новага жалю да сябе. Яму ўжо думалася, што свет так нечакана за кожным разам больш балюча і крыўдна чужэе для яго і ён сам чужэе для гэтага свету.

## VII

Дварчанскі рынак, ці, як казалі яшчэ па-даўнейшаму, кірмаш, дзе таўкліся адзін аднаму ненавісныя мястачковыя гандляры з сахарынай, дражджамі, моцнымі, як атрута, нямецкімі цыгарамі, рознакаляровымі на палачках пеўнікамі, смярдзючай, бо дабаўлялі ў брагу курынага памёту, прыхаванай самагонкай і рознымі, найбольш яўрэйскімі, нарабаванымі паднoшанымі трантамі, кіпеў цяпер у канцы галоўнай вуліцы.

Як-ніяк усё ж бліжай да цэнтра мястэчка і далей ад паліцыі, што сядзела ў пачарнелым недагледжаным Суліным доме і сінагозе, круга якой з леташняй восені падняўся цагляны, атынкованы мур.

Недалёка ад паліцыі даўнейшы прыватны яўрэйскі двухпавярховы гатэль займала Дварчанская валасная ўправа. Цяперашні гатэль, дзе спыняліся найбольш нямецкія афіцэры, быў пры самай орсткамендатуры, у другім канцы мястэчка. Там быў вайсковы шпіталь, а праз лясок у двухпавярховай шарай мураванцы размясцілі батальён самаахoвы, у які мабілізавалі вясковых хлопцаў,— хто, спалохаўшыся грозьбы і павесткі, прыйшоў сам, а каго, схапіўшы пры якой рабоце ў Дварчанах, прывязлі ці прывялі ўжо прымусова і пераапранулі ў салатавую форму нямецкай жандармерыі з цёмна-зялёнай акантоўкай.

Орсткамендатура вартавала шпіталь, брала пад сваю апеку гатэль і нават батальён самаахoвы, другая палавіна мястэчка, акрамя вакзала, дзе была свая чыгуначная паліцыя (Bahnschutzpolizei) — некалькі чалавек палонных ды пяць стараватых, не падыходных для фронту немцаў — належала дварчанскім паліцыянтам.

Таму на рынку ў стракатым, найбольш жоўтым, кажушным натоўпе, мільгаючы чорнай уніформай з шарымі каўнярамі і чорнымі, з брылямі, яшчэ зімовымі шапкамі, шнырылі толькі яны. Каб чым-небудзь пажывіцца, асабліва выцягнуць з канюшыны ў палукашку саней «гусак» самагонкі, рабілі аблаву або прачоску з праверкай дакументаў і квіткоў ад збору за гандаль на рынку. Калі падміргне ці падкажа хто свой, дварчанскі, спрытна ўмелі, як смяяліся самі, схапіць за кокі чужых, што завіталі ў мястэчка з далёкай Вільні ці Ліды.

У паліцыю нават не заводзілі. Досіць было запхнуць арыштаванага ў стракатую, расфарбованую ў чорна-белыя косыя палосы дашчаную будку і там ужо ператрэсці кішэ-

ні, ці перарыць чамаданчык, адабраць лішні гадзіннік, ці колькі самаробных, зробленых нават з патроннай гільзы запальнічак, або «падзяліцца» выразкамі мяккага чорнага хрому — на перады ды халявы.

Цяпер апроч дварчанскіх паліцыянтаў на местачковым рынку зрэдзь пачало з'яўляцца і коннае, і пешае войска ў даўгаватых сцёганых куртках, у нямецкіх шынялях, у чаркесках з газырамі на грудзях, у чорных, валеных з воўны касматых бурках, але ўсе ў кубанках з сінім, чырвоным і іншым верхам. Не вельмі давераўшы фронт, немцы перакідвалі добраахвотніцкую казацкую армію, сфармаваную на Доне, Кубані і Цераку паходным атаманам Паўлавым — невысокім, хударлява-злосным і кульгавым дзядком — сюды, у глыбокі тыл, у Дварчаны. Казацкі стан размясціўся ў Наваградку, а данцоў, кубанцаў, церцаў ставілі на пастой у прышашэйных вёсках. У Дварчанах размясцілася сотня, якой камандаваў палонны савецкі афіцэр — малады, гадоў дваццаці сямі, з прыгожым, але заўсёды з бурачковым, апухла-спітым тварам.

І днямі да забруджанай яшчэ казакамі, жоўтай ад конскага гною дварчанскай рампы падагналі састаў з ронаўцамі.

Не чакаючы загаду на выгрузку, салдатня, адзетая ў зношаную, спісаную з рэгулярнага войска нямецкую форму, толькі з новымі жоўтымі шаўронамі на рукаве «РОНА»[1], распаўзлася па мястэчку, шукаючы самагону.

Панапіваліся яны да паўсмерці і ўжо, як быкі, раз за разам хадзілі да ветру, нават сярод вуліцы перад блізкімі вокнамі, нікога ўжо не тоячыся і не саромеючыся. Паліцыянты ды самаахоўцы яшчэ так-сяк асцерагаліся, пабойваючыся немцаў ды наровячыся блізкай радні, што была тут, у мястэчку, ці ў недалёкай вёсцы. А для гэтых ні боязі, ні брыдкасці, ні страху ўжо не было. На душы асталіся толькі прыхаваная помста, злосць і той цяжкі і мулкі, як ярмо, і ўжо не раз перапакутаваны боль, што звароту дадому няма, як не будзе, калі што,— літасці і даравання. І каб гарката не ела душу, лепш заліць вочы гарэлкай, тады свет адразу перайначваецца, харашэ, тады наўме толькі бабы...

Іх чацвёра п'яных, дужых мужчын, змовіўшыся, затаіліся на бруднай з скарынкай лядку сцежцы між штабялёў

---

[1] РОНА — так званая Российская Освободительная Народная Армия Камінскага, фашысцкага паслугача.

x

старых шпал. Яны чакалі, вядома, маладзіц, а трапілася ім чатырнаццацігадовае дзяўчо — дачка акалотачнага майстра, што з'явіўся тут у Дварчанах яшчэ перад вайною, прыехаўшы аднекуль з Цэнтральнай Польшчы і пасяліўшыся ў драўляным дамку пры самай чыгунцы. Далікатны, абыходлівы з людзьмі і відны сабою мужчына поруч з худою, чарняваю з касматымі нагамі, жонкаю выклікаў у староннiх людзей нейкую заўсёды непрытоеную спагаду.

Дзве іхнія дачкі — адна чатырнаццаці, другая сямі гадкоў — былі падобныя да бацькі: курносыя, з чыстымі бялявымі тваркамі, і заўсёды дагледжаныя, выпешчаныя і прыбраныя, як знарок, на бяду. Большая з іх у бурай, вязанай з ангорскага пуху шапачцы, з доўгімі, завязанымі пад бародкай вушамі, у караткаватым бежавым палітцо, з якога прыкметна вырасла, выдаючы ўжо на рослую не па гадах дзяўчыну, варочалася якраз са школы...

Дзяўча агледзілі ўжо беспрытомным недалёка ад гэтай ледзяной сцежкі...

І бабы з блізкіх ад чыгуначнай станцыі завулкаў кінуліся з плачом і гвалтам адны — да акалотачнага майстра, другія — у недалёкі адсюль паліцэйскі ўчастак.

Адзін з гэтых чатырох, не ўспеўшы ўцячы, здурэлы ад атрутнага самагону, ракам поўзаў яшчэ тут за штабялямі шпал.

Камендант паліцыі, выцягнуўшы з кабуры «вальтэр», чарпануў ботам п'янага, але тут якраз надарыўся афіцэр з орткамендатуры, спыніўшы на шашы свой шары, заўсёды адкрыты «Фіят». Немец загадаў каменданту даставіць п'янага да эшалона і далажыць пра ўсё старшаму ронаўскаму начальству. На гэтым усё і скончылася.

Сёння адзін з тых чатырох, як пазналі дварчанскія кабеты, з'явіўся на рынку. З ім быў яшчэ адзін — высокі, з вогненна-рыжымі валасамі, што тырчалі з-пад пілоткі, з плямістым ад рабаціння тварам і, здаецца, менш п'яны.

Міця падышоў да гаманлівага рынку якраз тады, калі гэтыя двое, злосна крывячы кісла-п'яныя губы і сутаргава пацёпваючы плечукамі, прыставалі да старэнькага сутулага дзядка з падагнутымі каленьмі і ўпалымі, зарослымі сівай шчацінай шчокамі:

— Чё искоса смотришь? Партизан, гад? Мать...

— Вялікі гонар на цябе глядзець. Раскараку,— адступіўся дзядок, моргаючы сваімі чырванавата-слязлівымі вачмі і трымаючы ў абедзвюх руках зеленаваты лазовы

кошык з вечкам, у якім, пэўна, ляжала ў мякіне ці грэцкай лусцэ капа яец.

— Чё он сказал? — азірнуўся кругом сябе высокі, папраўляючы на рыжавата-вогненнай галаве чубатую пілотку.

— Да какой чёрт іх здеся поймёт. Стрелять всех надо! — пахіснуўся меншы, шкрабучы з пляча караткаватую бельгійскую вінтоўку.

Нешта нядобрае, злое ўдарыла Міцю ў сэрца. Але што зробіш адзін супраць двух узброеных? З пякучай крыўдай і дасадай Міця прайшоў міма п'яных ронаўцаў і перапалоханага, збялелага дзядка, што цішком туліўся да людзей.

Кірмаш — невялікая, у сотню людзей, купка, што чарнела ўздоўж вуліцы,— гула прыцішаным, як зімовы вулей, гудам. Над ім узвышаўся хіба адзін зычны голас:

— Каму газэты! Каму газэты!

Міця, узрадаваўшыся і абмінаючы пастаўленыя на брудны, засыпаны чорнаю семачкаваю лускою лёд расчыненыя чамаданы з рознаю драбязою — сахарынай, каменьчыкамі для запальнічак, алюмініевымі расчоскамі і грабянцамі — пайшоў на знаёмы голас. Пахла алеем. Міця павярнуў нос на свойскі хатні пах: на драўляным табурэціку стаяла талерка яшчэ цёплых, бо курыліся парай, пухлых грэцкіх аладак. Каўтнуўшы даўкую сліну, выйшаў туды, адкуль чуўся сіплавата-зычны голас:

— Свежыя газэты! Свежыя газэты!

І ўбачыў сутулую постаць у клятчатым, ужо злінялым, добра падношаным паўпаліто і вялікай, таксама клятчатай суконнай кепцы. Вецер шавяліў над вухам іскрыста-белую пасму валасоў, што выбілася з-пад шырокай дзюбатай кепкі.

Жалосна-горкае, да слёз на вачах, шкадаванне зашчымела ў Міцевых грудзях: як асунуўся, высах, змяніўся і пастарэў Лаўрын Царык.

Нібы счуўшы, што за ім нехта цікуе, Царык азірнуўся і, прыціскаючы да сябе левую руку, на якой віселі жаўтлявыя ў стрэмках газеты, прыязна засмяяўся і, мусіць, успомніўшы пра чорную шчарбіну ў зубах, закрыў рукою рот

— Смяяцца, брат, не магу,— і, адняўшы ад твару мярцвяна-белую худую руку, падаў Міцю. І Міця ўчуў ад яе нежывы, адубелы холад.— Усе зубы высыпаліся яшчэ ў Гродні, а потым у Баранавічах, калі ўжо ўзялі свае... Але што пра мяне старога гаварыць. Расказвай ты.

— Няма чаго расказваць. Сяджу дома,— Міця апусціў

вочы, убачыў раскіслыя, перавязаныя ржавым дротам, як лыч у наравістай, што рые гной, свінні, перады даўно неваксаваных Царыкавых чаравікаў.

— А мяне ж ужо сватаюць на работу. Адзін тут, злавіўшы на рынку, цягнуў за рукаво.

— Куды? — Міця паглядзеў у выцвілыя Царыкавы вочы.

— Управу даюць, сакратаром клічуць. Ты, кажуць, пабеларуску знаешся.

— А самі што?

— Самі яны,— Царык абвёў зеленавата-карымі выцвілымі вачмі варухлівы кірмаш і ўздыхнуў: — Самі яны ўжо набраліся жыдоўскага золата, цяпер будуць чакаць бальшавікоў. Ім ужо адкупляцца ад усяго, яшчэ й пасады займуць, кіраваць будуць...

— Не ў кожнага і золата знойдзецца,— усміхнуўся Міця, перабіваючы знерваванага і злога Царыка.— А як будзем мы жыць?

— Не ведаю. Я ўжо зняверыўся. Гляджу, як адзін аднаго прадаюць і топяць, і не веру ўжо нікому,— Царык выпрастаў сутулаватую спіну, выцягнуў худую шыю, заварушыў вострым у стрэмках нявыгаленай шчаціны кадыком: — Во, бачыш, нейкая свалата таўчэ старога чалавека, а ніхто і не заступіцца.

Міця азірнуўся і паверх чужых галоў убачыў таго самага дзядка: ён ужо рукою лавіў гарачую, што капала з носа, неўтаймаваную кроў і размазваў па твары.

— Ідзём разбаронім, што яны маюць да чалавека,— падмахнуў гэтым пераломаным пуком жаўтлявых газет, што віселі на сагнутай руцэ, узнерваваны Царык.

— Роўнаўцы там, п'яныя ды ўзброеныя.

— Вінтоўкі-то ў іх ёсць, а патронаў няма.

Кісла, асалавела ўсміхаючыся, двое п'янаватых ронаўцаў ужо адышліся ад сухаватага, з акрываўленым тварам мужчыны, што стаяў зводдаль ад абыякавага мітуслівага натоўпу пад невысокім у кароткіх куксах спілаваных сукоў чорным ясенем.

— За што ж гэта вас? — Царык паслізнуўся на мутнасіняватым, паточаным сонцам і вадою лядку.

— Ці цяперашнім светам знаеш за што? — чалавек адступіўся пад капеж, чарпануў з бруднага кургана, разгробшы зверху, мокрага шараватага, як буйная соль, снегу, прыклаў яго да расквашанага носа.— Не так, бачыце, глянуў на іх. А як жа на іх, злыдняў, глянеш інакш.

Тыя двое ў абношаных нямецкіх шынялях, убачыўшы Міцю з Царыкам, нечакана прыпыніліся і, змоўніцкі падміргнуўшы адзін адному, павярнулі назад, паслізгваючыся на чорным зледзянелым снезе, збітымі падкоўкамі і шыпамі на старых, таксама нямецкіх чаравіках.

— Ты чё-ё? — пырснуўшы з-пад падковак і шыпоў белаватым накіпам лёду, меншы з ронаўцаў пад'ехаў аж да самага Царыка. Большы насуплена і скоса пазіраў зводдаль.

— Што ж вы чалавека так? За што? — Царык, падхапіўшы праваю пук газет, апусціў самлелую левую руку.

— Я спрашиваю, ты че, в харю хочешь? — шырока расставіў ногі і пахіснуўся ронавец.

Міця стаяў, ледзьве стрымліваючы злосць і гледзячы то на збялелага ўжо Царыка, то на чырванаватую шырокую, як у ката, морду п'янага ронаўца, за плячом у якога падкутым прыкладам угору тырчала караткаватая вінтоўка. І ўжо не ведаў, чапацца з п'янаю брыдою тут на рынку ці не. Сорамна ж біцца. І брыдка слухаць і зносіць знявагу ад п'янага да паскуднасці агіднага, што нават памачыўся ў штаны, смярдзючага ронаўца. Ён, калі што якое, яшчэ і страляць будзе.

Міця, нават сам не ведае, як выйшла, ударыў нагою па падкутых, зношаных да слізгаты нямецкіх чаравіках — ронавец, задзёршы ўгору ногі і бліснуўшы збітымі падкоўкамі на абцасах і абслізганымі, некалі гранёнымі шыпамі, паляцеў у плыткую, але жаўтлявую ад раскіслых конскіх яблыкаў лужыну.

Тут ужо Міцю за локаць турзануў Царык. У вузкую глухую вулачку між чорных пазелянелых платоў ронаўцы сунуцца пабаяліся ці, можа, не паспелі згледзець, як раставалі з вачэй, трапіўшы ў кірмашовы мурашнік, двое мужчын.

— Няма ў іх патронаў, я ж казаў,— задыхаўся Царык, прыспешваючы крок і папраўляючы пад пахаю скрутак газет.

— Хто знае,— Міця пераступіў раўчачок, што сачыўся з-пад плота, дзе раставаў мурзаты, як абсыпаны сажай, курган, і выйшаў таксама ўслед за Царыкам з вузенькага смярдзючага ад хлевушкоў і сметнікаў завулка на шырокую небрукаваную і раскіслую вуліцу.

— Стралялі б яны,— Царык адкінуў з вачэй і падгроб пад кепку сівую пасму валасоў.— Напэўна, стралялі б.

— Тады я добра падставіў лабаціну.

— Нічога, хоць помніць будзе, вашывец.

— Каб была там памяць... Розум адпіў.

— Гэта праўда... Але ўсё ж іншаму закажа. Так грымнуўся ў конскую кучу,— Царык ціхенька засмяяўся і раптам змоўк: з папярочнай вуліцы высунуліся двое, не то немцы, не то тыя самыя ронаўцы — здалёк ды з гарачкі разабраць было цяжка.

— Трэба сысці з вачэй,— Царык бокам прыціснуўся каля чужой брамы і, пераважыўшыся, левай рукой адкінуў у фортцы зашчапіцу.

Паджары з касматай мызай сабака нават быў ірвануўся з-пад дашчанага, абкладзенага наколатымі дрыўмі хлеўчыка, хрыпата забурчаў, але згледзеў, што Царык адважна і размашыста ідзе праз лужыну па дзвюх нешырокіх, пакладзеных на цэглы дошках, і баязліва прытуліўся да шарых хлеўчыкавых дзвярэй.

У сівое з дубэльтам і закурэлае за зіму акно ткнуўся малады кабечы твар і, сумеўшыся чужых людзей, захіліўся за зморшчаную, сабраную на нітачцы занавеску.

Толькі тады, калі за радужным шклом, дзе на белай ваце чырванела зморшчаная гронка рабін, знік паўнявы тварок, Міця здагадаўся, што за белую зморшчаную фіранку схавалася, напэўна, Хрысця — яна ж даўно кватаруе ў гэтым доме.

У яго нават міжволі сцішэла хада. Але падагнаў ужо Царык:

— Чаго ж зазяваўся. Барджэй!

«Саромеецца, значыць, зноў прыняла да сябе Імполя»,— падумаў Міця, мінаючы цёмную з ружаватым кругам, як разлітая на вадзе газа, шыбу, за якой у міг вока знікла белая пляма твару.

З глухіх двароў яны ўжо выйшлі на даўнейшы свіны рынак, дзе цяпер па пабурэлай і прыплясканай да зямлі леташняй траве коўзаліся, абвучаючыся, маладыя нямецкія салдаты. Невялікія па чалавек пяць купкі разышліся па ўсім рынку.

— Навабранцы, ці што? — спытаў скарэй у самога сябе Царык, задзіраючы галаў і аглядаючы пляц.

— Мусіць, бо драбнаватыя ўсе,— Міця паслізнуўся на тлуставатай гразі.

— А дзе набярэшся, пяты год Нямеччына ваюе.

— Падграбаюць усіх мужчын.

— Ды лічы, што ўсіх. Днямі тодаўцаў прывязлі — адны старыя карчы, гэтакія, як я,— Царык абышоў вялікую глыбакаватую лужыну ў шыпучых, як зброснелая саладуха, бурбалках.

— А што ж будуць рабіць тут? — Міця ішоў наўпрасты па размешанай нагамі сцежцы з глыбокімі ямамі ад слядоў, поўных вады.

— Пытаеш што? Тартак маюцца адбудоўваць.

— Няўжо вераць, што яшчэ з год уседзяць тут?

— Кабыла здыхае, а за траву хватае, так і яны: вераць не вераць, а будаваць збіраюцца. Каб у нас быў лад, як у іх... Уга. А так што? Я ж кажу — мы нікуды не варты.— Ён злосна загаварыў пра тое, з чаго пачаў на кірмашы.

Не сціх яшчэ і на падсохлым рыпучым ганку, прыпыніўшыся і прапускаючы наперад сябе Міцю.

— Усё бубніш, каб што добрае калі сказаў? — адвярнулася ад пліты, дзе нешта булькатала ў вялікім чыгуне, схуднелая з высокімі касцістымі плячмі, сіняя ў губах Царычыха.

— Развяла тут мылаварню,— ловячы шапкай драўляны доўгі зубок у вешалцы, Царык падмахнуў бела-сіваю галавою, каб раздзяваўся і Міця.

— Мусіць, зашмат укінула сіняга каменя. Якое ўжо тут будзе мыла.

— Магла б памыць і лугам.

— Вот ідзі, не ўказвай!

— Гэта праўда, жонцы не ўкажаш,— Царык падгладзіў абедзвюма рукамі растрэсеную сівую грыву валасоў, згроб іх растапыранымі пальцамі за вушы і выйшаў з кухні.

Услед за ім, парыпваючы ўедліва-рыпучымі дошкамі, Міця прайшоў святліцу з вялікім махрыстым абажурам і апынуўся ў знаёмым вузенькім пакойчыку. На залаціста-паласатых шпалерах, каля фарфаравага выключальніка са звітым у дзве столкі провадам, цёмна-масляністая ад пальцаў пляма. І той самы саладжава-едкі пах густога чарніла, што адсвечвала залацістасцю з плескаватай цэлулоіднай незакрытай чарнільніцы. Каля яе — раскрытая канторская кніжка. Ярка-чырвоныя лінейкі абапал жаўтлява-ласканых старонак. У вачах балюча стракацелі роўныя, сплеценыя з віціеватых літар фіялетавыя радкі. У базёнцы разгорнутай кніжкі спачывала драўляная з вугравата-тым узорам ручка.

Царык кінуў сюды на стол і пук жаўтлявых газет.

— Пішу дзённік. Хоць на паперы хачу пакінуць след,— і загарнуў канторскую кніжку ў плямістых мармуровых разводах.— Але засушы кветку, ці будзе яна падобна на жывую? Не, мусіць... Так і засохлае чарніла, ці перадасць яно жыццё?

— Нейкі след астанецца.

— След во такі, што сам з сабою пагаворыш, і гарката спадзе з душы.

— Балабоніш там,— крыкнула з кухні Царычыха.— Снедаць калі будзеш?

— Якое тут ужо снеданне, тут ужо і вячэраць пара.

— Я зараз...

— Ну тваё зараз, як жыдоўскі пачакай,— гукнуў туды за перагародку Царык і, узяўшы за локаць Міцю, пасадзіў поруч з сабою на рыпучую ад мулкіх і звінючых спружын канапу.— Давай паталкуем, як жыць будзем.

Але ў пакойчык зноў увайшла Царычыха, прынёсшы на талерцы нарэзанай скрылямі ад галоўкі і палітай алеем квашанай капусты.

Міця задыхнуўся ад падгарэла-гаркаватага і густога паху залацістага алею.

— Ты вот шмат не талкуй, а садзіся да стала ды еш ды хлопца запрашай.— Царычыха прынясла яшчэ і чыгунок з шара-зеленкаватай неабіранай картопляй і, паглядзеўшы на Міцю, залілася чырванню: — Што ўжо маем...

— Не апраўдвайся, маці, усё добра,— хватаючыся рукою за крыж і зморшчыўшыся ад болю, Царык падняўся з канапы.

— Якое тут дабро. Ты во ці чуў?

— А што, маці?

— Казакі турму робяць... Муруюць вунь за той белай хатай, дзе сотнік стаіць, дзе штаб іхні.

— Хто з нас саграшыў на гэтай зямлі. Няўжо прадзеды нашыя, што мы пакутваем за іх? — уздыхнуў Царык і доўгімі пальцамі мярцвяна-белай рукі ўзяў з міскі злінялы ў расоле, хрумстка-тугі скрылік квашанай капусты.

— Не наракай на прадзедаў,— Царычыха павярнула чыгунок і высыпала на стол шарыя, звараныя ў лупінах картоплі.— Наракай на язык. Бо ты яго ўсюды ўткнеш, дзе трэба і не трэба.

— Праўду, мусіць, кажуць, што кабета з нічога зробіць капялюш і сварку,— Царык павярнуўся да Міці і хрумстка адкусіў мокры скрылік капусты.

— Сцерагчыся трэба, во што раджу,— і яна сваім лупаватым вокам зіркнула на Міцю.

— Рада без помачы, што дзверы без клямкі,— махнуў худою, у сініх вузлаватых венах рукою трохі ўжо раззлаваны Лаўрын Царык.

— З табою пагаворыш,— зацялася ў злосці Царычыха

і пачала скоранька здзіраць пазногцем з разварыста сопкай бульбы слізкую лупіну.

Маўчаў, перадумваючы нешта таямнічае і сваё, зжоўклы ў твары, нездароўчы Царык. Выцвілыя, кара-зеленкаватыя вочы яго драмалі.

Аджылі, хітравата і весела заблішчалі яны ўжо тады, калі пад Царычыхаю сухавата зарыпела крэсла і яна прыпаднялася над сталом:

— Можа, прынясці?..

— Хіба ў нас знойдзецца што?

— Я выхавала. Пераліла ў тую пляскатую бутэлечку.

— Ну ты, маці,— не то пахваліў, не то паганіў жонку Лаўрын Царык.

— Ад цябе не схавай...

— Не гавары шмат, нясі.

Асалавелы ад моцнага першака з нейкім перайначаным, каламутна-дрыготкім і мяккім светам у вачах, Міця потым ужо, калі яны засталіся сам-насам у вузенькім пакойчыку, дзе духмяна і густа пахла яшчэ свежым алеем, слухаў і не слухаў Царыка, што збедавана жаліўся і на свой лёс, і на цэлы свет.

Міцевы думкі шукалі ў гэтым каламутна-мяккім свеце яе, Чэсю. Як даўно ён не бачыўся з ёю.

Царык з нейкай падазронай, як у сухотніка, ружаватасцю на бледным твары павярнуўся да Міці і затрос растапыранаю і перавернутую дагары жменяю:

— Хто памажа нам сляпыя вочы. Хто зробіць нас відушчымі? — уздыхнуў усімі грудзьмі, нібы апаў.— Няўжо толькі ў святых кніжках такі цуд бывае. Плюнуў на зямлю, учыніў балота са сліны і памазаў балотам вочы. І сказаў яму: «Ідзі памыйся ў сажалцы...» Пайшоў тады, і памыўся, і прыйшоў відушчы.

Пякучая навалока зачырваніла яго вочы, і ён заплюшчыў іх. Адкінуў сіваватую голаў, абхапіў яе сашчэмленымі рукамі. З правага вока, што нервова тарганулася, высачылася і расцягнулася па жаўтлявай вачаніцы звілістым чарвячком дрыготкая сляза.

Міцю нечакана і першы раз, можа, падумалася, што плача Царык і ад гарэлкі, і ад затоенай крыўды, што цёмным каламутам паднялася ў душы, і, мусіць, ужо ад старасці.

Царык нібы счуў, нібы ўгадаў Міцевы мыслі, балюча звёў раскінутыя локці, нібы закрыўся імі:

— Ты ўжо мне выбачай, што я распесціўся тут. Старэю...

Ён зняў з галавы рукі, кусаючы сінявата-бяскроўную губу, выпрастаўся:

— Ды шкадаваць не мяне трэба, іншая рэч — цябе, маладога. Колькі гіне і яшчэ згіне вас. А я ўжо сваё, лічы, пражыў, так што можна ісці і ў тую ўправу. Абрыдла зубамі па паліцы ляскаць — шукаць кавалак хлеба. За гэтыя жоўтыя газеты ці ёсць прыбытак. Дарэчы, пачытай і ты. Я тут знайшоў неблагі вершык.

Царык крутнуўся туды-сюды, шукаючы, мусіць, акуляры. Але не знайшоў іх і, адносячы ад сваіх вачэй зашархацелую, разгорнутую газету, тыцнуў пальцам:

— На пачытай. У цябе ж зрок лепшы.

На сярэдзіне другой паласы чорнымі сходцамі ламаліся доўгія радкі. Над імі тлуставата чарнелі не вельмі зразумелыя для Міці два словы з латыні.

— Momento mori,— прачытаў і трохі сумеўся Міця.

— Не ведаеш, як перакласці?

— Mori — смерць. Здаецца, так?..

— Ага, помні аб смерці,— Царык заварушыўся, і пад ім пачала страляць звінючымі спружынамі разбітая канапа.— Але ты чытай услых, каб чуў і я.

Міця паволі, расцягваючы словы, пачаў чытаць. А Царык, сцішыўшыся, падпіраючы рукою лоб, слухаў і, калі Міця скончыў, паківаў галавою, не падняўшы вачэй:

— Страшна, але ж праўдзіва напісана: «Жыццё — нішто, як смерць, а смерць — жыццё».— І Царыкава рука злавіла за локаць і сціснула Міцеву руку.— Каб гэта напісаць, мусіць, таксама трэба нямала адпакутаваць. Праўду ж кажуць, хто перажыў свой боль, той зразумее чужы. Але чаму ж чалавек не шануе і не шкадуе чалавека? Чаму ж адсякалі галавы ды на калкі насаджвалі... уздоўж дарог. Так звеку было.

За акном ужо зашарэўся вечар. Нанач браўся і дужэў марозік. Высока падняліся і разарваліся цяжка-густыя хмары. На небасхіле, дзе сінеў край чыстага неба, то сінім, то ружаватым водсветам слязілася нізкая зорка.

Царык, згледзеўшы, што Міця цікуе ў акно, схіліў набок сіваватую галаў, прымружыўся, убачыў невысокую, што міргала калючым святлом і плыла, здаецца, сюды, да акна, пераліўчатая, як кропля расы на траве, бойную зорку і падняў палец:

— Во яна — сведка ўсяго, браце. Зорка Сірыус. На яе яшчэ кажуць Соціс, што азначае «зіхатлівая». Яна з'яўляецца ўвосень, калі ўваходзіць пасля паводкі ў свае берагі Ніл.

Тады егіпцяне пачынаюць сеяць ячмень. У прыродзе, браце, усё звязана... Улетку на семдзесят сутак гэтая зорка знікае. Цікава?..— рады, што здзівіў Міцю, заварушыўся на ржавай канапе Лаўрын Царык.

— Цікава,— прыхаваны смех торгнуў Міцевы губы: брала дзіва, што з Царыкавай душы не выветрыліся наіўная чалавечая дабрата і дзіцячая шчырасць.— Але мне пара...

— Куды гэта?

— Дахаты.

— Вот яшчэ,— Царык злавіў Міцю за рукаво.— На ноч гледзячы. Маці, чуеш? — Царык абярнуўся і, трасянуўшы валасамі, крыкнуў за перагародку: — Дадому хлопец рвецца!

Бразнуўшы посудам, недзе з кухні аказалася, а потым і выйшла, падвязваючы жоўтай у сінія яблыкі хусткай растрапаныя валасы, расчырванелая ў твары і такімі ж чырвонымі, закасанымі да локцяў рукамі Царычыха:

— Гэтакім ліхім светам... Адумайся, хлопец!

— Праўду кажа. Нарвешся яшчэ на якую варту ці засаду. Хто цяпер упоцемку будзе разбірацца,— Царык упёрся абедзвюма рукамі ў канапу і цяжка ўстаў.— Пагамонім яшчэ. У мяне таксама нешта выхавалася.

— Досіць піць! І так налімоніўся! — прыкрыкнула ўжо на Міцю: — Ідзі, хлопец, за мною! Пасцялю ў тым пакойчыку, дзе спаў. Помніш?

— Чаму ж не,— засмяяўся Міця, прыгадаўшы, як калісь Царычыха, калі ён кватараваў тут, прыбягала перад сном праверыць, ці выключыў ён лямпачку.

— Кладзёмся мы рана. Электрыкі ў хаце няма. Як партызаны падарвалі на электроўні дынаму, так і няма. Ужо трэці тыдзень. Немцы аж шалеюць. Але што ім. У іх свае маторы ёсць. Нябось у шпіталі і на вакзале гарыць электрыка.

Яна скоранька заслала ложак і скоранька выйшла са сцішнага, прапахлага нафталінам пакойчыка, дзе ўжо затухала рэдкае святло вясновага вечара.

І Міця не паспеў яшчэ легчы ў чыстую, што пахла сыраватымі, зляжалымі ў камодзе прасцінамі, як ціха, але ўедліва заскрыпелі дошкі падлогі і ў пройме дзвярэй здушана зашаптаў Царык:

— Не спіш?

— Не,— Міця зноў пачаў лавіць і зашпільваць у расхрыстанай кашулі гузікі.

— Я тут,— Царык выцягнуў з кішэні плескаватую з за-

кручанай накрыўкай-чарачкай бутэльку,— са сваёй ялаўцоўкай. Пяршак, настоены на ялаўцовых ягадах. Куды лепш за які-небудзь джын. Каштаваў?

— Не йдзе яна мне.

— Змушаць не буду,— Царык адкруціў каўпачок-чарачку, набулькаў у яе.— Тады я прычашчуся сам.— І, задзіраючы голаў, перакуліў чарку, закалаціўся.— Як агнём смаліць. Дзіва што — пяршак. Дарма адмовіўся. Але як сабе хочаш... Тады слухай.

Міця прыўзняўся на крэсле, павярнуўся да Царыка.

— Я ўсё талкую пра магістрат, управу тую. Можа, усё ж пайсці туды нам?

— Як — нам? — нешта падняло Міцю з рыпучага, як крохкі снег, крэсла.

— Удвом, я думаю.

— Дзеля чаго?

— Зберагчыся трэба. Мая не ўсё табе сказала. Гатуюцца спісы на арышт.

— Кім?

Учуўшы Міцеў перапалох, Царык марудна выдаў сваю таямніцу:

— Ды тымі ж казакамі... Вядома ж, ім памагаюць свае, тутэйшыя.

— Свае не пашкадуюць нас і ў магістраце. Помніце, як згінуў старшыня воласці Саўка Аўсянік. Нехта падкінуў у жандармерыю дакументы... І немцы яго за каршэль.

— Гэта так,— Царык зноў адкруціў чарачку на пляскатай бутэльцы.

— Не, туды я не пайду... Як ужо ні будзе,— цвёрда сказаў Міця і павярнуўся да акна, за якім ужо гусцеў сіні поцемак.

— Нешта між намі няма згоды,— Царыкава рука марудна апускала ў кішэню пляскатую бутэлечку.

Услед за Царыкавымі крокамі ў другім пакоі падымаўся, як прытоптаны, сухі і калючы скрып дошак у падлозе.

Устрывожаны, збіты з тропу Міця нават не мог разабрацца, куды і нашто падмаўляў яго Царык. Заснуць ён не мог, недзе папісквалі, разгуляўшыся, мышы, і за акном у белай ночы спадцішка рваліся адзіночныя стрэлы. Ачышчалася ад хмар неба, і холадна міргалі калючыя зоркі.

Нібы маланка, палахліва і нечакана, за акном шугануў сінявата-зыркі водсвет, і ўслед за ім грымнуў тугі, расцяжны, ажно скаланулася хата і адазваліся надломаным звонам шыбы, жалезны грукат. Нешта хрустка крышылася,

скрыгатліва падала і гуло, будзячы падшэрхлую нямоцным замаразкам чуйную вясновую ноч. Тупавата, як у глухую непрабойную сцяну, у бясконцую цемнату застукаў кулямёт, і пачалі лёгкімі нямоцнымі пухірамі лускаць вінтовачныя стрэлы.

Міця саскочыў з ложка, ткнуўся лобам у халодналядовую шыбу, цікуючы на двор — за чубкамі гарбатых дахаў з камінамі, за цёмнымі кронамі хвоек, што рваным рыззём віселі над імі, марудна падымалася, падсвечанае знізу, жоўтае пухкае воблака дыму, трапятаўся і кідаў палахлівую чырвань нябачаны за цёмнымі сілуэтамі будынкаў прычахлы агонь.

Ад яго ў пакойчыку ўздымаліся і ападалі вялікаю цемнатою дрыготкія цені.

— Ці не вадакачка? — адначасна з сухім хрумсткаедкім рыпам падлогі пачуўся Царыкаў голас.

— Не сунься ў акно, чуеш? — перавярнуўшы штосьці цяжкае, упоцемку за перагародкамі адазвалася злосная Царычыха.

— Вот ты глядзі, сама не рассадзіся,— адкінуў занавеску і ў Міцеў пакой усунуўся Царык, прыцішана, расцягваючы словы, загаварыў: — Цяпер гэтак штоночы... А раніцаю пачнецца аблава. Пабяруць людзей. Сколькі згіне нявінных.

Міця маўчаў, слухаючы, як спадцішка набраклую ціш ночы рвуць кулямётныя і, мусіць, не меткія чэргі. Яны, пачаўшыся густа і раптоўна, як бойны дождж, раптоўна і перасціхалі.

«Дзе ў гэтай раз'ятрана-неспакойнай ночы Чэся? Дзе яна? — балюча сціскалася, горача калацілася і падступала да горла Міцева сэрца.— Пэўна ж, таксама не спіць. І пэўна ж, глядзіць у акно на гэтае трапяткое, поўнае бяды зарыва».

Змоўк і Царык, стоячы поруч з Міцем і пахнучы ялаўцоўкай і сваёй патнаватай бела-кужэльнай бялізнай з шырокімі рукавамі і доўгімі калошамі. Яго немалы, гарбаваты нос густа і доўга соп, падымаючыся ўгору і шумна ападаючы ўніз. Нарэшце Царык нават затрубіў ім, пацягнуўшы свежы і марозны халадок акна:

— Але пойдзем спаць. Пераначуем, то болей пачуем.

І, як сляпы, абмацваючы рукамі падсвечаную радкаватачырвоным святлом перагародку пакойчыка, адкінуў занавеску і паволі схаваўся за ёю.

Сціхлі, зрэдку лускаючы, як авечыя пухіры, далёкія

стрэлы, ападала і зноў выблісквала, падымалася барвовае зарыва.

І яно нечакана згасла. І Міця ўбачыў сябе з Чэсяй у нейкім таварным вагоне, што са скразняком і жалезным грукатам ляцеў у невядомую чорную ноч і, зарыпеўшы, завішчаўшы тармазамі, раптам спыніўся перад платформай з чорнымі, накрытымі брызентам грузавікамі. Ад грузавікоў да вагона, да яго адчыненых дзвярэй кінуліся ўзброеныя жандары ў чорных шынялях, у чорных з доўгімі брылямі шапках.

Рвануўшыся да рыпуча-ржавых цяжкіх дзвярэй, Міця толькі паспеў прычыніць іх, як у трухлява-нямоцныя дошкі, што закурэлі пяршывым сухім пылам, тупа і раз'юшана загрукацелі кутыя прыклады. У кутку вагона, млеючы ад страху, заенчыла адчайна тонкім віскам, як перапуджанае зайчаня, яна, Чэся. «Не бойся, я з табою!» — крыкнуў Міця і прачнуўся ад свайго голасу і моцнага груку прыкладаў...

Стукалі, ажно пазвоньвала шкло, у раму акна...

На дварэ, дзе пачынаў ужо яснець хмуры, з заспаным, ахрыплым крыкам пеўняў дзень ранняй, яшчэ па-зімоваму сцюдзёнай вясны, чуваць былі басавітыя ад недаспанай ночы галасы. Гаварылі па-тутэйшаму, па-дварчанску. Нехта нават па-польску крыкнуў у другое акно:

— Отвераць! Прэндзэй, прэндзэй![1]

На вуліцы за хатай на глухіх абаротах вуркатаў і, мусіць, падрыгваў грузавік.

За шыбай Міця бачыў чорную, што ледзьве трымалася на бялявай, высока падстрыжанай галаве, пілотку і шэры каўнер чорнага шыняля — паліцыянты. Бліжай да акна ён — Пясэцкі. Далей ці не насаты Сінюта?

Там, недзе ўжо ў хаце, у адчыненых Царычыхай сенях гаварыў камендант дварчанскай паліцыі Антон Бортнік.

— Рабіць вобыск ці не? Кажуць, што нехта яшчэ ёсць. Хай выходзіць сам.

— Выйдзе, дзе дзенецца. Божа мой!..

— Паглядзі,— не паверыўшы, усё ж загадаў некаму Бортнік.

Па сухой падлозе, пазвоньваючы адарванай падкоўкай, загрукалі боты.

Міця спешна пачаў адзявацца, каб не выгналі часам ва ўсім споднім.

---

[1] — Адчыняць! Скарэй, скарэй! *(польск.)*

Шмаргануўшы леваю рукою занавеску і трымаючы ў правай нагатове настылую вінтоўку, у пакой зазірнуў рыжы, з белаватымі, асмяглымі ад перапою губамі паліцыянт. Як здалося Міцю, гэта быў Імполеў брат.

— Восьдзека яшчэ адзін,— крыкнуў сабе за плячо паліцыянт у караткаватым чорным шынялі з шарым каўняром і закарвашамі, і, ужо набычана павярнуўшыся да Міці, ціхавата, але з націскам працадзіў: — Пайшлі...

У калідорчыку, завязваючы белую палатняную торбу з нагатванымі харчамі, сутуліўся ўжо адзеты ў карычняватае, да калень, паўпальтцо з белымі плямамі на з'едзеным моллю каўняры, ззелянелы ў поцемку раніцы, нездароўчы Царык. Падаючы Міцю вопратку, цяжка і вінавата ўздыхнуў:

— Гэта ж трэба ўпрасіць цябе пераначаваць. Гэта ж трэба...

— Ад свае долі не ўцячэш,— скрывілася ад ціхага плачу Царычыха.

— Ці ж хто вінаваты? — Міця злавіў і сціснуў халодную Царыкаву руку.

— Вінаватага знойдзем,— хмыкнуў невысокі мурлаты Бортнік, што таптаўся тут у кісла-затхлай кухні.— Бяром усіх падазроных.

— І за што ж гэта, божа мілы? — шмарганула носам Царычыха.

— А што, не бачылі? Тартак сённяшняй ночы спалілі. Поўна мястэчка брыды развялося. І нейкую «Ластаўку» ў Спірыдона Нагорнага забралі. Тэхнічкаю на станцыі была і радыёперадатчык мела.

— А мы ж во з ім,— Царык павярнуўся да Міці,— чым вінаватыя?

— Не тужы, і з вамі разбяромся. А цяпер з хаты марш! — і кароткаю нагою Бортнік папхнуў у сенцы непрычыненыя філянговыя з ромбікам дзверы.— Да вас мае інтэрас жандармерыя. Мы тут — прышый кабыле хвост.

Пад расцяжны жаласлівы плач Царычыхі, ападаючы сэрцам, Міця ступіў у цёмны і азыраваты поцемак сяней і нечакана ўспомніў сон, таварны, з разбітымі дзвярмі, вагон і яе, змярцвелую ад страху Чэсю, што сцялася ў кутку вагона.

«Няўжо арыштавалі яе, няўжо?» — Міця, зачапіўшыся за сук на выбітых, вытаптаных у сенях дошках, спатыкнуўся і згубіў гэты страшны сон.

## VIII

Беражонага бог беражэ. Спадзяваючыся на бога, берагліся, як маглі, і верасаўцы — абапал вёскі ставілі па крыжы. З аднаго канца — праваслаўны, з другога — каталіцкі. Гэтак жа, як дзяліліся самі — на рускіх і польскіх. Рытуал застаўся, пэўна, даўнейшы — ад дзядоў і прадзедаў, калі людзей касіла халера ці крываўка: спілаваць у лесе дзеравіну, прывезці яе ў вёску, ачасаць, зрабіць крыж і ўкапаць яго да ўсходу сонца. З гэтым за ноч павінны былі ўправіцца мужчыны.

На кабечую долю прыходзіўся ручнік: напрасці пражы, аснаваць кросны, выткаць губіцу палатна і па канцах яго з суконных нітак выплесці тры зубкі.

Ручнік вешалі на крыжавіну.

На шарай гадзіне, калі ўжо прыціх лёгкі вясновы вецер, што ўвесь дзень густа шумеў пад саламянымі застрэшкамі хат і гумнаў, верасаўскія бабы з калаўротамі, прасніцамі ды кудзелямі сабраліся пад высокім Алесіным плотам. Пашапталіся і раздзяліліся — каталіцкая палавіна завярнула да Алесі, праваслаўная, ці, як яшчэ на яе казалі, кацапская, са сваім красённым начыннем — вітушкамі, сукаламі — у нейкай ціхай набожнасці пайшла ў другі канец вёскі, у прасторную хату да Наталі, гэтакай самай, як і Алеся, адзінокай маладзіцы; яе неразважны Андрэй яшчэ перад вайною, паслухаўшы вярбоўшчыка і пагнаўшыся на вялікія заработкі, паехаў у Данбас на шахты і адтуль не вярнуўся. Адны, злосна ды помсліва падсмейваючыся, казалі, што ён спазнаўся там з «васточніцай», іншыя з жалем, з прыхаваным шкадаваннем шапталіся, што яго заваліла ў шахце. Ціхая, не вельмі гаваркая Наталя маўчала і, не зважаючы на перамовы і плёткі, іншы раз прымала нанач немаладога партызана, што нахабна прыводзіў да яе, а найбольш п'янага валок Жэнік Рэпка. Наталя спярша не прымала, баранілася як магла, уцякала з хаты, а потым ужо і сама вяла з вечарынкі таго немаладога, з апаленай шчакою мужчыну.

Сёння ж да яе і хлынула ў хату гаманкая, гудлівая, што забылася ўжо пра сваю набожнасць, бабская чарада.

Мужчыны, знарок ці незнарок, сустрэўшыся дзвюма падводамі на вузкім, сціснутым яловым частаколавым плотам завулку, ужо разам паехалі ў малады, што не набраў яшчэ моцы, верасаўскі лясок.

На першым, без драбінак, возе, звесіўшы шарыя абшморганыя чаравікі, сядзеў нахмураны і задуманы Улас Корсак.

На другім, які цягнула, трохі накульгваючы на заднюю ногу, каштанавая, шырокая ў крыжы і персях кабыла, падымаў свой шыракаваты нос і кісла ўсміхаўся, мусіць, украдкам ад хатніх прычасціўшыся дзе-небудзь у стопцы ці пограбе шклянкай самагонкі, Язапат Змысла.

— Што тут маем дзяліцца, га, мужчынкі! — ён чухаў свой худы, зарослы вострай сівай шчацінай падбародак.

— Яно так, усе пад гэты крыж ляжам — і польскія, і рускія, хрышчоныя і нехрысці,— аказаўся малады ў пакамечанай, нібы яе жавалі цяляты, кепцы мужчына з Прылуцкіх хутароў.

— Няма чаго гарадзіць,— абсек яго, падпяразваючыся нешырокай, зрэзанай пілой МарцінВаўчок.— Я ў гэтыя крыжы не веру. Але не такі пісіміст, як ты.

— І што ты з сябе ўсё выдумляеш, га,— рагатаў Язапат Змысла.— То фэйчар быў, то цяпер — пасіміст.

— Гэта ён па-вучонаму ўсё закідвае,— не азіраючыся сюды, на заднюю падводу, аказаўся нарэшце Улас Корсак.

— Тады хай скажа, што значыць па-нямецку Forstschutz?

— Не знаю,— пакруціў галавою Марцін Ваўчок.— Знаю іншае: Frontmachen — стойка «Во фрунт!». Во так: — Ваўчок спыніўся, выцягнуў рукі ўздоўж цела і, збіваючы шараю леташнюю траву, прыстукнуў абцасамі.

— Ат, халера на цябе,— засмяяўся Корсак Улас, выкіроўваючы каня за гумны, да шашы.— Усё дзяцінішся. Век зжываеш, а ўсё як маленькі.

— Так я скажу,— падбег да Корсакава воза малады худаваты мужчына на нягнуткіх, як у старога, і цыбатых нагах.— Лясная ахова. У Дварчанах чалавек дванаццаць набіраецца.

— Х-э-э,— пакруціў галавою Язапат Змысла, услед за Корсакам падганяючы сваю клыпатую кабылу. І будуць лавіць нас?

— Чаго нас,— падцвельваўся нехта з купкі мужчын, што ішлі за падводамі.— У цябе забяруць бельгійскую кабылу, і досіць.

— Гэтую жывёліну ледзьве жывую нямцэ ў кустах пакінулі... Я во выхадзіў. І да жарабца звадзіў.

— Глядзі, разжывешся. Га-га-га!

— Досіць выскаляцца,— не ўтрываў і крыкнуў нарэшце на мужчын Улас Корсак.

— Ты не крычы, а паганяй там.

— І праўда, корпаецца як сляпы ў торбе.

— Вот менцяць языкамі,— плюнуў сабе пад ногі Корсак і ўжо кіўнуў галавою да худаватага мужчыны на нягнуткіх цыбатых нагах.— Расказвай, Валодзя, што меўся нам расказаць.

— А што тут расказваць, зноў будуць браць мужчын.

— Што ні ліхата, то ўсё на нас,— уздыхнулі ў купцы мужчын, што ішлі ўслед за Корсакавым возам.

— Праўду кажуць, ты за мора, а за табою бяда і гора.

— А нашто куды хадзіць,— на камені заскрыгатаў, падскочыў і падкінуў Язапата Змыслу пусты воз.— Не шукай бяды, яна цябе знойдзе. Вунь уланаўская маладзіца знайшла смерць на шашы.

— Як?

— Шашу баранавала, а там міна якраз.

— Кажуць, пагоняць і нас з боранамі шукаць падкладзеныя міны.

Дзве чароды мужчын, што ішлі каля сваіх вазоў, раптам захлынуліся ад даўкага ў горле камяку. Моўчкі глядзелі на белаватую, у цёмных, зацярушаных ужо блізкім змрокам выбоінах не рамантаваную пасля зімы шашу. Над ёю спляталася карычневае голае вецце смутных, абветраных бярэзін.

За шашою, за дашчаным пераездам, што быў услань між іржавых рэек глухой калейкі, у якой ужо з паўгода як партызаны спалілі дэпо, не ныў і не адзываўся грукат жалезных колаў, акрыяла і чуйна пачала зяляніць збляклая за зіму рунь. Недзе за грудком у прымрэлай цішыні з ясна-ружовым небам падсвістваў заяц.

— От ты халера, бяда бядою, а яму жаніцца трэба,— засмяяўся Ваўчок, паказваючы рукою на чорныя грывы быльнікавых межаў, што падымаліся туды на груд.— Заяц во зайчыху кліча.

— А што ты думаў. Кожнае дыханне любіць папіханне.

— Во да чаго звялі гутарку,— махнуў пугай Улас Корсак.

Конь фыркнуў і пайшоў трушком. За ім подбегам зашаркалі чаравікамі мужчыны. У нялёгкіх, падшытых тоўстымі кавалкамі апоны хадаках смешна ступаў Марцін Ваўчок.

З-за грудка шчарбатым грабянцом падымаўся малады, падсеяны яшчэ перад першаю вайною хвойнік. Чатыры гектары яго дзяліліся на шэсць верасаўскіх гаспадароў; на крыжы па хвойцы адшкадавалі стары Пыцель і Язапат Змысла.

Няспелая маладнічына непрыдатная была не толькі на

будоўлю, але і на крыж, ды старалесіну ■ дубам немцы высеклі ў тутэйшых лясах яшчэ за тою вайною, і хочаш не хочаш, а верасаўцам прыйшлося ехаць па тонкія, як верацёны, хвойкі.

Перад вёскаю, распасцёршы дзве перакладзіны-крыжавіны, нязносна стаіць яшчэ прадзедаўскі дубовы крыж, але каб адхіліць раптоўную і страшную бяду, што кулямі, агнём і нечуванымі хваробамі нішчыць людзей, трэба ўжо рабіць і руціцца, як робяць усе блізкія і далёкія вёскі,— ставіць новыя крыжы.

Ахрыплыя ад гутаркі на пустым абветраным полі верасаўскія мужчыны нечакана, нібы змовіўшыся, сціхлі перад глухою, непрыступнаю сцяною ляска, што блізіўся і наплываў на іх, глытаючы ў свае нетры ломкі і хрусткі ляскат калёс.

За ляском за яго рваным і зубчатым, як у старым ручніку, краем трывожна і радасна-велічна зелянела неба. І наіўны, як дзіця, маладзік з сіняватай зоркай, што пагойдвалася ніжай яго, глядзеў на гэты нязвыклы з дзвюх фурманак абоз. У задушліва-смолкай цішыні ляска, дзе тройчым рэхам адазваўся перастук калёс, ускрыкнула палахліва-трывожная пташка.

— Пугач, ліха яму,— азваўся нарэшце Ваўчок.

— Ты ўсё прычуеш,— падхіхікнуў і ўпікнуў яго Язапат Змысла, скіроўваючы трохі ўбок марудна-сытую каштанавую кабылу, каб не зачапіцца воссю за крывую, чэзлую, з абшморганай карою хвойку.

Яловы падростак, што налягаў густымі лапамі на дарогу, таіў ужо сухі мігатлівы поцемак.

Незнарок марудзячы, услед за старым Пытлем, што ішоў паказваць адшкадаваную сасну, усунуліся ў калючагусты пахучы ельнік маладзейшыя мужчыны. І нехта раптам гукнуў, як успуджаны япрук, і, шахкаючы і патрэскваючы подлескам, перапалохана гэльцнуў назад, на дарогу.

Перад ім, перавальваючыся, як з падбітымі крыллямі, ляцела нешта невідочна вялікае. Мужчыны таксама знямелі, пазіраючы, як перавальвалася ўлукаткі, ляцела невядомая, нібы падстрэленая пташка.

— Савы ўпудзіліся, во мужчыны,— Улас Корсак тузануў да сябе лейцы, прыпыняючы каня і ссоўваючыся з нізкага, без драбінак воза.— Яна ж мыш вунь лятучую ловіць.

— Халера яго ўпоцемку разбярэцца,— апраўдваўся

асарамачаны Марцін Ваўчок.— Ды і вока рассадзіў у ельніку, кепска бачу.

— Затое яна цябе добра асачыла.

— І праўда, чуць не схапіла за каршэль.

— Во было б! Га-га-га! — Нехта ўжо тросся ад здзеклівага і хрыпатага рогату.

— А думаеш, не панясла б? — пыталіся з цёмнага нізкага ельніку.— Колькі ж заважыш, Марцін?

— Вага і праўда невялікая,— уздыхнуў Ваўчок.— Пяцьдзесят чатыры кілі некалі быў.

— Добры баран глядзі што больш пацягне.

— Дзіва што.

Забыўшыся на які міг пра вайну, пра неспакой на свеце, доўга смяяліся з Ваўчка, покуль усіх не ацверазіў, не ачуціў і не насцярожыў калматы цень, спачатку адзін, што выплыў з-за нізкага падлеску на белаватую ўбітую дарогу, а потым ужо і другі.

Невядомыя людзі, прыспешваючы крок, ішлі сюды да фурманкаў, што стоена спыніліся пры сцішным лесе. Коні, згледзеўшы цені, таксама пудка застрыглі вушмі і нервова ўстрапянуліся.

Першага пазналі адразу. Трымаючы напагатове кароткі з круглым дыскам аўтамат, да фурманак падыходзіў зухавата-вясёлы ў вайсковай, зухавата пасаджанай фуражцы і падпяразаны шырокім скураным рэменем Жэнік Рэпка. За ім — размашыста ступаў высакаваты, у кароткім шарачковым пінжаку і злінялых, ажно белаватых галіфэ, завязаных на шнуркі каля чаравікаў, малады, вузкавокі, мангольскага тыпу хлопец. Трэцім, ужо счакаўшы, няспешна, нібы з развагаю, падышоў у кажушку, у кубанцы і таксама з аўтаматам гарбаносы, шырокі ў плячах мужчына з апаленай шчакою. Ён павітаўся непадступна-грозна і па-руску:

— Здравствуйте!

І ўсе пазналі таго самага Наталінага каханца, што іншы раз з Жэнікам Рэпкам прыходзіў на рэдкую ўжо цяпер у Верасаве вечарынку і, напіўшыся смярдзючага, што пах чыгунамі, самагону, падаў каля хлевушкоў упоцемку, скрыгатаў зубамі, панура-страшна крычаў, адыходзячы ад патаў, і трос рэвальверам. Сунуўся як сляпы каля абкладзенай кастрыцай ці сухім картаплянікам сцяны ў хату, дзе за шчыльна завешанымі вокнамі задыхалася і сапла гармоня і звінеў дзіравымі, збітымі талеркамі стары, латаны барабан.

Жэнік Рэпка доўга тузаўся з п'яным, бяспамятна дужым

мужчынам і, ужо не могучы даць яму рады, пасылаў дзяцей наказаць, каб з хаты на двор выйшла Наталя.

Учуўшы голую да локця і цёплую Наталіну руку, адурэлы, раз'ятраны, як яго называлі партызаны, Яўцей, нечакана дабрэў, працвярэжваўся і, слухаючыся Наталінага ласкава-прытоенага голасу, пакорна і ціхенька ішоў да яе ў хату...

Цяпер Яўцей стаяў на жвірыста-вузкаватай, крывой, што спадала ў лагчыну, прылеснай дарозе і зноў, знарок ці незнарок абмацаў у кішэні сіняватых галіфэ і дастаў вагкі, з доўгім дульцам рэвальвер. Наставіўшы дульца ў белавата-жвірыстую дарогу і паварочваючы барабан, загаварыў:

— Мы ішчам людзей, а іх тута...

— І піла тож есть,— падказаў яму вузкавокі худы туркмен, якога ўсе партызаны ў атрадзе і верасаўцы тут, на дарозе, прымалі за ўзбека. Вузкія вочы — значыць, узбек.

— Гэта праўда, і пілы іскаць не нада.

— Таварышок,— адазваўся з ліпкай цемнаты падлеску і нячутна па мяккім, як падушка, моху выйшаў на дарогу лісліві Васіль Блажэвіч,— мы дрэва на крыж прыехалі рэзаць.

Учуўшы за спіною голас, Яўцей крутнуўся і зашоргаў рукою па кішэні, у якую толькі што схаваў рэвальвер.

— Свой ён, наш,— падказаў разгарачанаму Яўцею і адвярнуў голаў у пляскаватай фуражцы Жэнік Рэпка.

— Памяр хто? — нахмурыўся і шавяльнуў шырокім плячом Яўцей.

— Крыж перад вёскаю будзем ставіць,— накульгваючы на ногу, што ўжо каторы дзень балела ў калене, падышоў да купкі мужчын Улас Корсак.

— З крыжамі пачакаецца,— не таячы сваю злосць і, мусіць, помнячы нядаўну патачку ў Корсакавай хаце, падмахнуў вайсковаю фуражкаю Жэнік Рэпка.

— Як гэта пачакаецца? — з цвёрдым хрустам наступіў на нейкі гніляк Улас Корсак.

— Паедзеш туды, куды скажам,— расцяжна, націскаючы на кожнае слова, сказаў і турзануў на шыі свой аўтамат Жэнік Рэпка.

— Ён праўду кажаць. Сабірайся, паедзем усе,— загадаў Яўцей і ўзяў за цуглі Язэпатаву клыпатую, шырокую ў крыжы кабылу.

— Куды ж гэта, таварышок? — зноў падбег да яго ўстрывожаны, але лісліва-ліпкі Блажэвіч.

— Куды скажам.

— З крыжом жа ж як? — пад грукатлівы перастук колаў дрыжаў голас у Язапата Змыслы.— Там жа ж бабы ручнікі вытыкаюць, каб на крыж раніцай павесіць.

— Таварышок,— забягаючы наперад высокаму Яўцею, нізкі, лісліва-прыгорблены Блажэвіч хітравата чухаў над вухам распэтланы касмык валасоў.— Грашно крыж не паставіць, вельмі грашно перад богам. Можа, трэба як паразумецца. Адныя — там, другія — тут...

Гэта памагло — Яўцей спыніўся, перакрывіў рот, смактануў губу і нарэшце цмокнуў ёю:

— Ладна. Толькі памаложа — усе за мною. Да і піла, как грыцца, не лішняя.

І верасаўцы здагадаліся, што іх, як было ўжо не раз, павядуць рэзаць тэлеграфныя слупы, Трывога падкралася і раскроіла сэрца, каб не паўтарылася тое, што здарылася два тыдні назад, калі, агледзеўшы за вёскаю некалькі спілаваных тэлеграфных слупоў, конныя казакі секлі нагайкамі Уласа Корсака, а потым прыехала нямецкая жандармерыя і, спыніўшыся каля Змыславых будынкаў, стала выганяць з блізкіх ад шашы хат усіх людзей — малых і старых. Паставіўшы каля гумна, лёгка, як не на мароз адзетых людзей, пратрымалі мо з гадзіну, але балазе не стралялі. Двое высокіх і дужых немцаў у касках вывалаклі з грамады толькі нізкага на вочы, што мае трохі касаваты, нядобры пагляд, недарослага, год шаснаццаці Раковага хлопца. Як ужо верасаўскія бабы, нават падаючы на калені, ні ўпрошвалі чарнява-вуграватага перакпзчыка, што Раковыя ўсе «слепаке», што ўсе глядзяць гэтак з-пад лоб'я, нічога не памагло — невінаватага падлетка падапхнулі ў кузаў тупарылай, накрытай стракатым у карычневыя і зялёныя плямы брызентам машыны, і жандары паехалі. А конныя казакі пачалі секчы людзей нагайкамі, ганяючы ўсіх назад у хаты. Хлопца, кажуць, нібыта завязлі ў навагрудскую турму, Старая Рачыха хадзіла то ў Навагрудак, то ў воласць, нічога нідзе не дазналася і з бяды пачала трохі адыходзіць ад памяці.

Цяпер верасаўцы, думаючы пра гэты выпадак, гнуліся і ад лёгкага вясновага прымаразку, што браўся нанач, і ад таго, што трэба ізноў, рызыкуючы ці сваім, ці чужым жыццём, ісці рэзаць тэлефонныя слупы.

— Гэй, што там? Варушыся, ядрона вош! — крыкнуў уладарным голасам Яўцей.

— Пашёль, пашёль,— засмяяўся і вузкавокі туркмен. Пяцёра верасаўцаў, шаркаючы нагамі на хрумсткім жві-

ры, паволі закалыхаліся на белаватай дарозе, што агібала лес. Вясновы вечар церушыў на шарае сцішэлае поле негусты, як мараслівы дожджык, змрок.

Поцемак хаваўся за далёкія шарыя грудкі, дзе чорнаю зубчатаю намíткаю падымаліся хмызнякі. Чарнела роўнымі гонямі рунь, і, злосна перасякаючы яе, бялела дарога. Якраз каля дарогі, дзе распасцерла шчодра-густое, доўгае, гнуткае, як дрот, голле, адзінокая дзікая груша, нібы кропля расы, паблісквала зорка. Над ёю пачырванеў і счах белаваты серп маладзіка.

— Ну, мужчынкі, досіць пазіраць,— парушыў маўчанне Язапат Змысла.— Трэба ж нарэшце і дрэва валіць.

Улас Корсак глядзеў, як ішлі белаватай дарогай пад гэты прычахлы маладзік верасаўскія мужчыны з партызанамі, і ўспомніў Міцю, калі вёз яго якраз во такою вясноваю ноччу з нізкім маладзіком у Дварчаны да доктара: Міця тады праглынуў дваццаць грошай. Колькі было трывогі і ў нябожчыцы Караліны, і ў яго самога, покуль разбуджаны сярод ночы местачковы доктар Пятроўскі не суцешыў і не супакоіў: «Жыць будзе. Страху вялікага няма. Во ўчора да мяне дзяўчынку прывозілі — бляшку з вострымі краямі праглынула. Стрававод можа парэзаць. А тваім хлопцам страху няма».

І праўда, на чацвёртыя суткі выйшлі тыя дваццаць грошай на сметнік.

Але з Міцем як быў клопат, так і застаўся, ці Міця малы, ці сталы. Во і сёння думай, як ён там? Падсунуўся ж ізноў: другі тыдзень сядзіць у сырым паграбе. Чаго было валачыся ў тыя Дварчаны?

— Дзядзька Улас, пад'язджай ды расцялеждвай воз! — крыкнулі з поцемку з-за ялаўцовых кустоў, дзе густа і звінюча шоргала піла.

«А ці знае чалавек, што з ім прылучыцца»,— уздыхнуў Корсак і чапіў ляйчынаю каня.

...У Верасава ехалі з дзвюма не тоўстымі, але гонкімі дзеравінамі.

Каб адагнаць спакуслівыя, цяжкія думкі і смутак, што ныў у душы, знарок знайшлі зачэпку, каб падсмяяцца ды падкусіць Броніка Літавара. Тыдняў тры назад ён падмовіў застацца ў сябе маладое дзябёлае дзяўча, што хадзіла па Верасаве, жабруючы хлеба. Днямі па яго не то з Мінска, не то яшчэ адкуль, прыехаў бацька і Літавар, насыпаўшы па добрай торбе ячных і грэцкіх круп ды яшчэ паставіўшы на стол «бусла» з панівою яечні, угаварыў асалавелага ад

кілішка мужчыну, ледзьве не свайго равесніка, аддаць замуж дачку. Але сватаўство расклеілася: дзяўча цішком шмыганула нанач да Алесі, а потым ужо і з вёскі...

Цяпер, нібы не ведаючы пра гэта і крывячы ўпоцемку ад прытоенага смеху дрыгатлівую губу, да Броніка з жартачкамі пад'язджаў Язапат Змысла:

— Чуеш, Бронік, ты, кажуць, узяў наймічку?

— Узяў,— нехаця адгукнуўся Бронік Літавар.

— Дзеўка, кажуць, ого, хоць вады напіся?

— Не вельмі прыглядаюся.

— Ды ты каб удраў абмылку. Няможа быць. Уночы нябось падкочваешся?

— А табе што?

— Ён пытае...

І ўслед за хітра-ўедлівым Язапатам Змыслам пачыналі смяяцца ўсе. Маўчаў толькі Улас Корсак, каторы ўжо раз вяртаючыся ў мыслях да Міці.

Мужчыны то рагаталі, забываючыся, што кругом панавала бяда, што наперадзе была яшчэ трывожная ноч, то нечакана сціхалі, падазрона і таемна думаючы кожны пра сваё. Пра тых, што пайшлі рэзаць тэлефонныя слупы, загаварылі толькі на пераездзе, перад сцішнаю, чуйнаю шашою.

— Глядзі ты, стаяць слупы,— торкнуў пугай перад сабою Язапат Змысла, паказваючы на шарэнгу адзінокіх слупоў, што высока і маўкліва цямнелі між белаватаю шашою і насыпам вузкакалейкі.

— А чаго ж яны маюць рэзаць напроці вёскі,— адазваўся мужчына, што ішоў поруч каля самага вазовага задка, дзе абсечаным вяршком паварушвалася і нават парыпвала ўвязаная ланцугамі, пахучая ад смалы, на метраў дзесяць даўжыні гонкая хвойка.

— Ці не ведаеш, як летась было?

— Што летась, то не цяпер.

— А можа, і не слупы яны пайшлі рэзаць. Можа, у іх быў іншы інтэрас.

Нейкі насцярожаны, шапаткі паўзмрок атуліў прытоеную вёску. Пераехаўшы з моцным, нечаканым грукатам чыгуначны пераезд і шапаткую жвірыстую шашу, падводы спыніліся на папярочнай, абкладзенай абапал вялікімі белаватымі каменнямі вуліцы — мужчыны меркавалі і радзіліся: ці скідаць з вазоў ды абчэсваць дзеравіны тут, ці везці за вёску і рабіць крыжы там, дзе меліся яны ўжо стаяць.

— Едзьма! — гарачыўся і трос локцямі, выкіроўваючы з вузкай папярочкі на шырокую вуліцу свайго каня, Улас Корсак.

Католікі — трое мужчын — рушылі ўслед за доўгім расцялежаным Корсакавым возам, што, суха парыпваючы заднім колам, паплыў пясчанай верасаўскай вуліцай, на якую кустамі навальваўся, хаваючы нізкі поцемак, востра-дзяркаты голы бэз.

— Вот ты скажы, што значыць палякі і, праўда, голыя сракі,— падняўшы руку, дробненька шкробся пад пахаю Язапат Змысла.

— Гонару ды пыхі, хоць адбаўляй.

— Ён не б'е, не лае і ніц не дае.

— Ну і кацап'ё,— ужо нарэшце адазваліся ад Корсакавага воза.— Едзь, чаго шчэлепы там разявіў?!

— І што ён крычыць, гэты падскрэбак? — пытаўся Язапат Змысла, абыходзячы каня і перакідваючы лейцы, каб выкіраваць расцялежаны з доўгай дзеравінай воз у другі бок вуліцы.

— Хай яму там зарве!

Учуўшы мужчынскую басавітую гутарку, скрып і грукат вазоў, зласнавата-заядлы брэх устрывожаных звяглівых сабак, на двор выбягалі верасаўцы, тулячыся ў паўзмроку, што ліпнуў да платоў і сцен, пазіралі, што робіцца на вуліцы, смялейшыя падыходзілі да вазоў.

— Балазе дачакаліся,— чуваць было ў шараватай ночы трохі сонныя, хрыпатыя галасы.

— А дзе ж астатнія? — пыталася Ваўчкова Вольга, абегшы доўгі з вастраверхай хвойкай воз і азіраючыся на вуліцу, дзе бубнілі тоўстыя мужчынскія галасы.

— Пайшоў і няма тут,— Язапат Змысла цвёрдым шырокім крокам аддаляўся ад аслупянелай і застылай каля высокага пераплеценага частаколу Вольгі.

— Чаго ж гэта нямашука?

— Но-о, каб на цябе норат! — крыкнуў ад злосці на каня, каб болей нічога не гаварыць, разгневаны Язапат Змысла.

— І нашага хлопца не відаць,— агледзелася нарэшце падслепаватая Жыткова Алена.

Бронік Літавар, счакаўшы, покуль праедзе расцялежаны воз, на якім ляжала доўгая хвойка, памахваючы стрункім канцом, перайшоў пясчаную вуліцу і нахіліўся да прыгорбленай, ухутанай у суконную хустку Жытковай Алены, нешта ёй ціха сказаў.

— Вой! — успляснула тая рукамі.— Каб хаця вярнуліся!

— Вернуцца, дзе дзенуцца.

— А дзе ж яны, дзе? — залямантавала Ваўчкова Вольга.

— Дазнаешся сама,— махнуў рукою Бронік Літавар, даганяючы падводу.

— Божачка мілы, чуе маё сэрца, што будзе бяда,— усхліпнула ў глыбокім стогне Жытковая Алена.

Да яе, задыхаўшыся ад трывогі, падыходзілі верасаўскія бабы.

З Мондравай, завешанай дзяружкамі хаты, дзе прыстуквала ляда, ажно ў лямпе турзаўся каснік агню, дзе па чарзе бабы датыкалі ручнік — звычайную ў дзве ніткі полку шарага палатна,— на тупат і галасы на вуліцы разам з усімі выбегла і Алеся. Спытала пра бацьку і вярнулася ў хату, прыгнечаная, прыбітая сваім нечаканым горам — ужо каторы дзень у дварчанскай турме сядзіць арыштаваны паліцыянтамі Міця. І дзе гэты недавярак Імполь, што сышоўся зноў і жыве з Хрысцяю. Няўжо няма дабра, спакою на свеце і не будзе? Няўжо на людзей упала боская кара? Але чым жа вінаваты Змітрык? Чым жа ж ён угнявіў бога?

Алеся падышла да ложка, дзе, скурчыўшыся, ляжаў змучаны гаманою, беганінаю баб, ляскатам варштата і нарэшце такі заснуў яе хлопчык, яе спадзяванне і шчасце, яе некалі ўжо і падпора, і падмога ў хаце. Будзе каму і заступіцца за яе. Алеся змахнула з вока пякучую слязу, накрыла хлопчыка цяплейшым коўдрам і сама прыхіліла да падушкі галаў, як заснула і не згледзела.

— Уставай, Алеся, чуеш? — яе тармасіла старая Такарада.— Бабы пабеглі...

У хаце, дзе знялі ўжо з вокнаў радзюжкі, займаўся дзень.

Алеся падняла галаў, працерла вочы, зморaная сном, хістаючыся, падышла да акна. Перад вёскаю за пясчаным раўком, дзе стаяў шары стары крыж, ляжаў ужо новы — ачасаны белы. За ім падлятаў угору рыжаваты пясок — і выдавала, там трапяталася, падмахвала крылямі падбітая пташка. Там капалі яму.

Каля замшэлага дубовага крыжа нехта гарцаваў на сівым у яблыкі кані з цёмнай храпай. Яздок быў у шарым шынялі, у сівай кубанцы. Да яго, падскокваючы на сядле, пад'ехаў другі з трохкутным, як касынка, чырвоным башлыком на плячах.

— Што там робіцца, цётка Тэкля?

— Ваўчка вуньдзека казакі злавілі?

— Дзе?

— Слупы рэзаў разам з партызанамі і дадому ішоў з пілою.

— Матка святая, што ж будзе? — голас у Алесі залекацеў, але Такарада нібы не ўчула яе: адшмаргнуўшы ў другім акне занавеску, насуплена глядзела праз рэдзенькую навісь голых вішняў на вуліцу і неўспадзеў адскочыла ад чорнай, нефарбаванай аконнай шуфляды:

— Ах вой, людзей гоняць!

— А што ж нам рабіць? — Алеся адбеглася ад ложка, дзе спаў хлопчык, прысела на край і сцішылася, быдта пасля ўдару перуна.

— Сядзем ціха.

— Ці ж уседзім? — Алеся ўжо чула, як на надворку, заехаўшы недзе з прыгумення, затупаў капытамі конь і поцемак яго наплыў на акно.

— Выходи-и! — грозна-расцяжны голас, перамешаны злымі, страхатліва-помслівымі мацюкамі, пачуўся за акном.

Хлопчык уздрыгнуў, адкрыў сінія вочкі, убачыў маці і зноў звёў сонныя павекі.

— Выходи-и! — па шуфлядзе акна, па раме, ажно зазвінела незакітаваная шыба, кароткай рэзкай маланкай секанула плётка.— Выходи-и, партизанская зараза, да попроворней!..

Такарада, косячыся на акно, на якое насоўваліся шырокія конскія персі, памаленьку адступалася на сярэдзіну хаты.

— Не смотри чертом, выходи! — пераважыўшыся на сядле, зіркнуў пад нізкі застрэшак шыраканосы, немалады, гадоў за сорак, казак у чорна-рудаватай, злінялай кубанцы.

Такарада мільганулася да сцяны між акон і прыліпла там сутулаватымі плячмі. Алеся змярцвелася, як сама не свая сядзела на ложку, баючыся адыходзіць ад сынка, што палахліва і цікаўна стрыг расплюшчанымі вачмі.

— Выходи, а то стрелять буду! — з сіняватага, залітага ўжо рэдкім раннім святлом надворка пачуўся зноў моцны, хрыпаваты голас.

— Пойдзем, цётка,— укруціўшы ў радзюжку, Алеся ўзяла на рукі цыбатага, ужо і не лёгкага пяцігадовага сынка.

— Куды ж пойдзем, Аляксандрачка? — жалосна-слязлівым голасам спытала Такарада.— Няўжо на пагібель сваю?

— Калі не выйдзем, застрэліць тут, у хаце,— і Алеся першаю ступіла ў чуйныя непрычыненыя сені.

...За пясчаным раўком напроці прыгорбленай з пляйстрамі карычневага моху на страсе Літаваравай хаты, поруч са старым дубовым крыжам бялеў высокі і новы. На верхняй крыжавіне яго настылы за ноч вецер страхатліва падкалыхваў зашморгнутую шыракаватай пятлёй доўгую вяроўку.

Гэтую вяроўку Алеся ўбачыла ўжо тады, калі мінула пляскаты камень, а за ім ужо і прылізаны вясноваю паводкаю, занесены гнілавата-чорнаю з поля саломаю, струхлелымі трэскамі і лубінам шырокі равок.

Тут, у грамадзе насцярожана-маўклівых мужчын і дрыготкіх, заплаканых кабет у цяжкіх суконных хустках убачыла бацьку. Твар у яго сцягнула, абяскровіла нейкая свая глыбокая задуманасць і нездароўчасць, ён здаваўся яшчэ больш пастарэлы.

Размахваючы плёткай і няшчадна секучы таго-сяго па плячах, малады казак з чорнымі падвітымі вусамі, у сіняй з чырвоным аколышам фуражцы падганяў бліжай да крыжа перапуджаных, збялелых ад бяссонніцы і страху верасаўцаў.

Глыбока і доўга ўздыхнуўшы, яны ўсе разам раптам павярнулі галовы да белаватай стужкі шашы, якую абапал абступілі чорна-карэлыя бярэзіны.

Пяцёра конных казакаў, падтрасаючы высока паднятымі локцямі, з'язджалі ў канаву, гонячы перад сабою скрываўленага, апухлага, са знявечаным тварам і звязанымі назад рукамі Марціна Ваўчка. Блытаючыся нагамі ў счарнелым леташнім крываўніку, Ваўчок, як п'яны, ішоў лукаткамі і подбегам.

Ломячы над праставалосаю галавою рукі, гэтаксама трушком услед за коннымі казакамі, што гналі пабітага, змучанага на допыце Ваўчка — яго катавалі ў далекаватым ад вёскі Раковым гумне, каб ніхто не бачыў і не чуў крыку,— бегла распэтланая Вольга. У адной руцэ яна трымала хустку. Твар у яе быў падпухлы, сіняватыя губы дрыжалі і брыдка крывіліся.

— Людцы, упрасіце,— махнула яна хусткаю і павярнула сюды, дзе нямелі ад жудасці сагнаныя верасаўцы.

Учуўшы гэты здзічала-бяспамятны крык, верасаўцы пачалі паволі цісн'уцца адзін да аднаго.

— Людцы, ратуйце!..

І цяжкі ўздых ускалыхнуў знямелы натоўп.

— Людцы-ы-ы!..

Алеся, заміраючы ад страху, гарнучы да грудзей перапуджанага Вользіным нядужым, асіплым крыкам хлопчыка, убачыла, як з грамады, сцяўшы папяловыя губы і сціскаючы худыя пашчэнкі, ціснуўся бацька.

— Не вінаваты ён, гаспадзін казак! — Улас Корсак падышоў і падняў вочы на маладога ў шарай папасе казака, што, узяўшыся ў бокі, сядзеў на чорным дагледжаным і ганарыстым кані.

— Что ты сказал, старая стерва?

— Кажу, не вінаваты ён!

— Брешешь, сволочь! — раптам страпянуўся казак,і рука яго знайшла каля сядла і выцягнула шашку.— Зарублю, мать твоя курица!..

— Тата,— ледзь во ўжо дайшла да бацькі, чуючы, як млеюць ногі, утрупянелая Алеся і злавіла за рукаво, пацягнула да сябе.— Тата, адступіся. Тата, ці чуеш?

Тым часам вузкавокі, вусаты з ліловым спітым тварам казак падапхнуў вострай і доўгай пікай да белага крыжа адчуджанага, як самога ўжо не свайго, згорбленага, знябожанага Ваўчка. Ён, Ваўчок, толькі няўцямна глядзеў міма людзей на вёску, нібы шукаў там сваю хату, нібы толькі з ёй хацеў развітацца.

— Людцы, заступіцеся, папрасеця яшчэ, можа, вам не адмовяць,— упала на калені і папаўзла, ловячы разяўленым ротам паветра і задыхаючыся, мусіць, ад сардэчнага прыступу, счарнелая, з распушчанымі валасамі Вольга.

— Людцы!.. Мілыя! А божа мой, а за што, за якое?!. Вольга не дапаўзла — самлела, раптам зрабіўшыся мярцвяна-белай і ўпаўшы на рыжаваты гліністы пясок каля крыжа, дзе пагойдвалася доўгая, перакінутая цераз крыжавіну, з шырокай пятлёю вяроўка.

Малады ў шарай папасе казак, засоўваючы ў похву страхатліва вострую шашку, кіўнуў галавой, і двое конных спешыліся. Схапілі Вольгу за слабы, што раз'ехаўся на плячах, сачык, і пацягнулі пад канаву на шараваты марозік, што не растаў яшчэ на леташняй закурэлай і не акрыялай траве.

Каля крыжа асталася ляжаць толькі клятчатая Вользіна хустка.

Ваўчок раптам стаў на калені, нагнуўся і, выцягваючы над спіною свае звязаныя дротам, пасінелыя рукі, пацалаваў гэтую белую, спярэшчаную сіняватымі клеткамі хустку.

— Встать, сука партизанская! — да яго падбег высокі, што трымаў заслончык, казак у даўгаватай, як паўпаліто,

сцёганай куртцы і падняў пад пахі Ваўчка, паставіў на адрэзаную ад дзеравіны, неакораную калодачку.

Алеся адвярнулася, не глядзела, што рабілася там, пад новым крыжам. Учула, калі нехта каля самага вуха сказаў:

— Глядзі, яшчэ жывы, яшчэ ўсё варушыцца,— пазнала голас старой Такарады, але не ўзглянула, не падняла вачэй. У памяці плыло гумно, чуўся той далёкі, спакутаваны крык не то Вольгі, не то старое Мондрыхі:

— Людцы, ратуйце, людцы-ы-ы!

## IX

Іх, дванаццаць вязняў, пазарастаных хто чорнасіняй, хто рыжавата-залацістай шчацінай, што сядзелі ў аслізлым, затхлым падвале, дзе пахла нявыветраным, чарвівым салам, белай мураванкі, якую трымаў нядаўна расстраляны немцамі кручаны гандляр Станчук-Дранчук, штодня выганялі за пажарную вышку капаць катлаван для нейкага будынка, па местачковых чутках — турмы, што мелася адысці казацкім сотням паходнага атамана Паўлава.

Зямля ў засені старых кляноў трымала яшчэ лёд, ніжай за ржавым пяском ішла цвёрдая ўкамянелая гліна, а глыбей — лабатыя каменні, якія трэба было выбіваць ломам.

Сёння ім, пецярым, астатніх пагналі на чыгунку разгружаць тодаўцам цэмент ці дашчаныя шчыты, дастаўся вялікі, што сядзеў якраз пасярэдзіне ямы, выставіўшы седлаваты, як конскі зад, пудоў на пяць, ружовы камень.

Падкапаўшы і падважыўшы ломам, яго вывернулі так неспадзявана, што Міця толькі пад нечы крык: «Го, сцеражыся!» адно паспеў адскочыцца. Але ўсё роўна, перакуліўшыся, ружаватая глыба прыхваціла нос чаравіка, няшчадна-балюча прышчаміўшы і ледзьве не раструшчыўшы вялікі палец.

Міця, скрыгануўшы зубамі, адно ціха перакрывіўся.

Пасінелы ад холаду, што шморгаў усё пад носам шарым закарвашам чорнага шыняля, паліцыянт Пясэцкі, зазіраючы, як певень, адным вокам у глыбокую яму, шалёна-радасна зарзаў:

— Можа, каго задушыў?

— Не-е-е! — не ведаючы, што ён гідуе, гукнулі з ямы.

— А я думаў, аднаму ўжо капец. Менш і клопату на аднаго было б.

— Які ж клопат, пускайце дадому,— азваўся смуглявы,

падобны да цыгана, мужчына, што накульгваў і крывіў у хадзе ступню.

— Куды спяшаешся? Каму вісець, той не тоне,— цыркнуў слінай сюды, у яму, помсліва-злы Пясэцкі.

— А што з намі будзе? — абапёрся на лапату і падняў свой гарбаваты нос трохі як перапуджаны гэтай навінай Лаўрын Царык.

— Я ж і кажу: сёння здароў, а заўтра роў,— Пясэцкі злавіў рукою прыклад вінтоўкі і падтрос яе вышай на плячо.— Але менш гавары. Работы па вушы. Камень даставай!

— Камень без вяроўкі не дастанем,— абцёр рукавом парны лоб, на якім двума чарвячкамі віўся і збягаў пот, смуглявы, падобны да цыгана мужчына.

— Ха-ха-ха, вяроўкі,— зноў цыркнуў слінай Пясэцкі.— Каб хацеў вас павесіць і то не знайшоў бы.

— Падысці ў блізкую хату і папрасіць,— падказаў смуглявы мужчына.

— Я пайду па вяроўку, а вы — хто куды...

— Можна паслаць каго з нас.

— А ён вернецца? — Пясэцкі крутнуўся на задніку.— Хаця можна... Корсака вунь. Не вернецца — Чэсю возьмем у заклад.

— Ідзі,— падміргнуў Міцю лупаватым карычневым вокам Лаўрын Царык.— Можа, стрэнеш каго. Можа, хто свой надарыцца...

Міця ўсімі грудзьмі ўздыхнуў на міг, стаўшы, як на страмёны, на сашчэмленыя рукі двух мужчын, вылез з глістай азызлай ямы. Нечаканаю воляю вясновы вільготны вецер дыхнуў у спацелыя грудзі, свежым холадам казытнуў шыю.

Мястэчка было за раўком. Пад старымі ружаватымі хвойкамі, што палахліва адступіліся ад пясчанага касагора, бялелі першыя атынкованыя хаткі.

Наўпрасты, калі прабегчы да касцельнай, за паўкіламетра будзе Паштовая, там — ашалёваны, з аблушчанай карычневай фарбай, з выбітым аконцам, дзе заўсёды сядзіць пара насцярожана-палахлівых шызых галубоў, Грабянкоў дом — дом Чэсі, Але ці ўдома яна?

— Давай не думай,— лілова-чорнай руляй вінтоўкі Пясэцкі штурхнуў Міцю пад лапатку.

І Міця, нават забыўшыся, што шчыміць і ные прыдушаны палец, зашастаў па чорным леташнім крываўніку.

Адным, здаецца, махам узбег па вільготна-ліпкай, што паскрыпвала пяском, дарозе на стромы груд, дзе мякка і

густа шумяць, адхіляючыся ад падточанага сыпкага берага, круглаверхія з тоўстымі, пакручанымі, як раматусам, лапамі старавечныя хвойкі.

Далей, за імі, у маладым падлеску, у круглых, як насенны кутасік у цыбулі, ялаўцовых кустах, велічна і ўзнёсла падымалася ружаватая, з шыза-зялёнай і маленькай ад вышыні кронай, задумлівая, з нейкім сваім, непадступным гонарам хвойка.

І Міця задыхнуўся, успомніўшы зіму, глыбокі снег, непраглядна-сівую кудасу, трэск разгайданага галля і сушняку, і яе, цёпла-пахучую Чэсю. Даверліва і аддана-мяккую вільгаць яе вуснаў, яе глыбокі і захватліва-парывісты, балюча-стомлены, сутаргаваты ўздых...

Як ачаравала, як перайначыла і абвеяла зіхатліва-раду́жнай яснасцю свет гэтая першая блізкасць.

Міця завярнуў на цвёрдую сярод вузлаватых у нарасцях белай смалы пераплеценых карэнняў вузкую сцежку, што ўмела роўненька бегчы між непрыступных камлёў сосен. Ногі заслізгаліся па карычняватай, летась увосень нацярушанай ігліцы.

Калі ён вернецца, калі ён прыйдзе з Чэсяй да гэтай прыгожай сасны, каб абняць іх абедзвюх разам?

Няўжо ніколі?

І нечакана тугі, звінючы, як струна, і адначасны з глухаватым вінтовачным стрэлам свіст кулі ачуціў Міцю. Ён азірнуўся — страляў Пясэцкі, стоячы каля чорна-белага, стракатага камля старой, што расла зводдаль ад струхнела-гнілаватых, дашчаных хлевушкоў, вілаватай бярэзіны.

Толькі цяпер Міця зразумеў, што будзе далей, калі ён ступіць хоць адзін крок — Пясэцкі стрэліць зноў.

Брыда! Гад! Паскудства! Ён выправіў Міцю знарок, каб напалохаць, паздзекавацца, а калі Міця паспрабуе ўцякаць, то і застрэліць. Апраўданне лёгкае — хацеў уцячы. Чуючы, як усё гарыць і пераварочваецца ад страшнай нянавісці, болю і адчаю, Міця памалу пайшоў назад. Ногі дрыжалі і спатыкаліся на шарай, латочанай ужо ружаватымі дзюбкамі травы і няроўнай сцежцы.

Пасмоктваючы танную нямецкую цыгарэтку, што вісела на адкапыленай губе, Пясэцкі кляцнуў замком, выкінуў патрон, што курыў яшчэ смярдзючым дымком, спытаў пісклявата-бабскім голасам:

— Чаго вярнуўся?

— Бо хацеў,— Міця сціснуў зубы, прымяргоўваючыся на выпадак чаго вырваць вінтоўку.

— А я думаў, ты пойдзеш далей...
— А ты страляў бы, падлюка?
— Ха-ха...— Пясэцкі двума пальцамі зладзіў на губе расслiненую цыгарэтку.— Шкада, што і так злямзіў.
Нешта балюча і цяжка абарвалася ў Міцевай душы.
— Гніда...
— Маўчы! А то! — Пясэцкі зноў кляцнуў замком.
— Што? — Міця стаяў збялелы, увесь ужо дрыготканапяты.
— Ідзі лепш па вяроўку, пакуль я з цябе не злупіў шкуру.
З ямы высунуліся вязні, аблёгшы локцямі на край берага, глядзелі, што робіцца каля адзінокай тоўстай у камлі звіслай бярэзіны.
— Што, яшчэ не прынеслі вяроўку? — спытаў высокі шыракаплечы мужчына, задзіраючы свой ліловы нос.
— Ды во не ідзе,— здзекліва ўсміхнуўся Пясэцкі.
Міця злосна спадлоб'я зіркнуў на Пясэцкага і, памалу адыходзячыся ад бярэзіны, ступіў на ружаватую, скрыпучую ад вільготнага пяску дарогу. Яна падымалася туды, дзе была Чэся, дзе быў іншы, здаецца, вольны, хоць на міг і яснавелічны, поўны хараства свет.
Азірнуўся. Пясэцкі, паставіўшы каля бота вінтоўку, маўкліва і падазрона глядзеў з-пад свае чорнай даўгадзюбай шапкі. Паклаўшы аблакачоныя рукі на бераг, выцягваючы галаў, сцішана вызіралі з ямы і нічога не разумелі ўсе чатыры здзіўленыя вязні.
Раз'юшаны Пясэцкі раптам крутнуўся, падбег да жвірыстай гурбы свежага пяску, злосна і дзіка чарпануў па ёй ботам і сыпнуў вязням у твар:
— Чаго вызверыліся? Марш працаваць!
— Валам і то даюць перадыхнуць,— аказаўся малады, падобны да цыгана мужчына.
Пясэцкі махнуў чорным рукавом з шарым закарвашам.
— Гэй, Корсак, варочайся назад, лезь у яму, покуль я цябе не прыстрэліў! Хай ідзе ён, гэты стары чмут,— і бот, упэцканы ў рыжаватую гліну, ткнуўся ледзь не ў самы Царыкаў чорна-сiняваты, з сівай іскрыстай, як замаразак, шчацінай няголены твар.
З чужой добрай помаччу Царык выкарабкаўся з ямы і, угнуўшыся, трохі нават накульгваючы і падвалокваючы ногу, пайшоў на жоўты, з падточаным берагам касагор, дзе пад вартай старых круглаверхіх хвояў свіцілiся пабеленымі сценамі местачковыя хаткі.

Адтуль ён прынёс вяроўку і нечаканую ўжо для Міці навіну, якую пераказаў, упёршыся зморана на лапату, калі выцягнулі з ямы цяжкі камень.

— Забег да Карыбы. Ён мой даўні таварыш,— Царык згроб жменяй з броваў кроплі поту.— Хай ратуе. А то, думаеш, мы не дагадаліся, што гэты пэцкала, што выдае сябе за палячка, хацеў цябе прыстрэліць. Трэба ратавацца. Наказаў і тваёй...

— Каму?

— Ну, не прыкідвайся. Хіба не знаю. Хай таксама шукае якога ратунку. А то не бачыш — згінем.

У Міці ўстрывожана закалацілася і заныла ад нейкага шчымлівага болю пякучае сэрца — ён убачыць Чэсю. Яна не выцерпіць і, напэўна, прыбяжыць сёння. І праўда, Чэся з'явілася скора, калі іх гналі на абед,— хоць які там абед — пойла з гнілаватых буракоў, белавата-сыпкі, гаркаваты з выметкаў рознай мукі і вотрубяных дамешкаў хлеб.

Не даходзячы мураванкі, з боку брукаванай вуліцы пад шара-бліскучым, навіслым над тратуарам яблыневым голлем Міця нечакана ўбачыў на дамскім, з радужнай сетачкай веласіпедзе знаёмую постаць у карычневым капаніку са стаячым каўняром, абшытым чорнай апушкай, і ганарыста нацягнутым на адно вуха берэтам.

З дробным, нібы шкляным звонам, веласіпед саскочыў з тратуара на мутны ружаваты брук і, бліснуўшы руляй, спыніўся напроці маўкліва-панурых вязняў. Яны, заклаўшы назад рукі, павалі ішлі сярэдзінаю шашы, прыгорбленыя і сцішэлыя ад прытоеных цікаўных позіркаў стрэчных людзей; за імі, трымаючы пад пахаю ацяжэлую вінтоўку і насунуўшы на вочы дзюбаватую шапку, падкоўкамі ботаў цокаў Тадак Пясэцкі.

— Міцек! — задушлівы, глыбокі ўскрык вярнуў Міцю нешта даўняе, шчымліва-радаснае.

— Да арыштаваных не падыходзіць! — прыкрыкнуў Пясэцкі і, апярэджваючы Чэсю, падбег да калоны вязняў.

— Міця, за што? — Чэся, саскочыўшы з веласіпеда і вядучы яго блізенька каля сябе, здзіўлена-вялікімі вачмі глядзела на Міцю.

— Не ведаю, Чэся.

— Што перадаць табе?

— Нічога.

— Я во наспех нешта ўзяла,— з кіраўніцы яна зняла белую торбачку з вышытай у двух зялёных лісціках ружай.

— Я сказаў адысці ад арыштаваных! — злосна ўжо

зароў Пясэцкі і рвануў з Чэсіных рук вышываную торбачку.— Падаянкі трэба перадаваць толькі праз паліцыю.— І махнуў гэтаю торбачкаю.— Там, у камендатуры.

Чэся нечакана павярнула веласіпед і нечакана загарадзіла дарогу Пясэцкаму.

— Тадэк, ты ж быў добры.

— Добрыя даўно звяліся,— ён адвярнуў сваю дзюбаватую чорную шапку і падняў палатняную торбачку.— На і адыдзі, калі не хочаш мыць у паліцыі падлогу і сходы.

Міця ледзьве трываў, душа гарэла ад нянавісці і гневу, што не можа ўдарыць, забіць Пясэцкага. Перасільваючы сябе, папрасіў толькі:

— Чэся, не трэба, не прыніжайся.

— Што рабіць, Міцек? Можа, схадзіць куды, папрасіць? Можа...

Міця маўчаў, угнуўшы галаў, пазіраў, як слізгала на няроўных каменнях калекая ў чаравіку з высокім скрыўленым заднікам нага дужага, падобнага да цыгана мужчыны. Ён усё спатыкаўся і пахістваўся набок. Поруч шоргаў доўгімі, як ночвы, збітымі, упэцканымі ў гліну і размоклымі туфлямі Лаўрын Царык.

Пішчалі ад вады і Міцевы, каторы ўжо дзень не сушаныя, расквашаныя і ажно сівыя чаравікі.

І праўда, што рабіць, каго прасіць, як ратавацца? Вайна разагнала, раскідала ўсіх.

— Міцек, я ведаю. Я дагадалася, куды ісці,— наскочыўшы ў выбоіну, заляскаў і балюча зазвінеў Чэсін веласіпед.

— Куды ты пойдзеш, Чэся? — Міця, прыгледзіўшыся, бачыў, як змянілася, як пасталела яна, як нешта смутнахваравітае абяскровіла яе твар і пасініла, сцягнула яе падпухлыя вусны.

— У Навагрудак.

— Каго там знойдзеш ці дапытаешся цяперашнім часам?

— Знайду... Камашылу...

І тут ужо зусім выйшаў з цярпення, не вытрываў Пясэцкі, але голас яго сарваўся і захрас у пракураным горле. Нарэшце, адкашляўшыся, ён крыкнуў па-польску:

— Холера! Псякрэў! Не вольно розмавяць![1]

— Як ты, Чэся? — нібы не было гэтага злога, помслівага напамінку Пясэцкага, задраў сваю кепачку Міця.

---

[1] — Халера! Псякрэў! Не дазволена гаварыць! *(польск.)*

Яна махнула перад тварам рукою, нібы хацела заслапіцца ад раптоўных слёз, доўга маўчала, пракоўтваючы свой даўкі боль, нарэшце адазвалася, ужо таксама па-польску:

— Не мартві сень о мне. Чуень сень добжэ[1],— і падняла руку ў карычневай шоўкавай пальчатцы, скоранька перабіраючы скурчанымі пальцамі, струнка прыпаднялася ўся, каб бачыць за чужымі плячмі і галовамі Міцю: — Цалуень ці моцна[2].

І асталася стаяць на шарым, выкладзеным квадратнымі плітамі тратуары пад доўгім галлём чорнай грушы, што пераважылася цераз мігатлівы, зліты ў адзін пас штыкетнік.

— Шыбчэй, холера! — зноў уедліва гаркнуў Пясэцкі.

За навалам пераплеценага, аблашчанага вясновым сонцам прысаддзя, за гонтавымі жаўтлява-замшэлымі дахамі местачковых будынкаў падымаўся мутна-бляшаны, пабіты ржавымі плямамі дах мураванкі.

Міця азірнуўся: Чэся, падаўшыся яшчэ да крутабокай, абклеенай афішамі тумбы, спынілася за ёю і, трымаючы адной рукою сціпіана-паслухмяны веласіпед, а другою, бездапаможна-скурчанай, закрыла вочы і здрыганулася ад сціпінага плачу. І Міця нечакана пачуў яе стогн і ўсхліпы. Стрэчныя людзі азіраліся то на яе, то на купку вязняў, што глухаватымі крокамі ступала па старым выбоістым бруку. На вузкую вуліцу ў чорным адчаі хілілася калюча-голае і крывое галлё прысадаў.

У Міцевай душы нязносна зашчымела і запяклася балючым, як вытрываць, згусткам крыўда на гэты пусты, сінявата-хмуры вясновы свет: няўжо яны не стрэнуцца болей, няўжо не будзе той пяшчоты, салодкага адчування адно аднаго? Няўжо не вернуцца хвіліны кароткага шчасця, няўжо наперадзе чэрствыя, пакутныя дні чакання блізкай смерці?

Нібы здагадваючыся пра гэтыя цяжкія, трывожна-затоеныя Міцевы мыслі, ужо вечарам на цвілых, слізка-азызлых ад падвальнай вільгаці нарах да Міці падсунуўся Лаўрын Царык, здушана зашаптаў, падмахваючы галавою назад, на паўкруг закратаванага, нібы ў касцёле, тоўстымі прэнтамі акна, што выходзіла на глухі дзядзінец даўнейшай сальнай лаўкі дварчанскага гандляра і прайдзісвета Станчука-Дранчука:

---

[1] — Не гаруй пра мяне. Чуюся добра *(польск.)*.

[2] — Цалую цябе моцна *(польск.)*.

— Гэ, гляджу, ты ўжо саўсім скіс,— і штырхануў локцем.— Дзень-два трэба патрываць, а там — на волі...

— Хто знае, як будзе,— Міця верыў і не верыў, бо было нешта па-дзіцячы смешнае ў Царыкавай радасці.

— Праўду кажу... Сам бачыш: нас пакінулі тут, у паліцыі, а астатніх перадалі казакам. Там людарэзы горшыя, чым паліцыя.

— Няўжо Пясэцкі пашкадуе нас?

— Гэты, каб прымеў, жыўцом з'еў бы. Але наш лёс не ў яго руках.

Сёння і праўда тых сямёра мужчын і сярод іх здаравеннага, пад два метры ростам, дварчанскага балагола Таўкуна не прывялі ў гэты смярдючы, з нявыветраным духам елкага сала падвал. Значыць, Царык кажа праўду, Пасля вячэры, на якую разам з закурэлым аплеценым дротам ліхтаром, што падвесілі за ржавы крук пад шурпатай столлю, прынеслі па кансерваванай бляшанцы несалёна-цёплага пойла, зверху якога густа, як раска на цвілой сажалцы, плавала грэцкая луска, усіх па калейцы пачалі вызываць на першы допыт.

Сутулаваты, з падбрытымі вусікамі, што чорнай, нібы наклеенай кажурынкай зачапіліся пад наздраватым носам, Сідорык першым паклікаў калекага, з падвернутай ступою мужчыну.

Нясмела ступіўшы і зачапіўшыся няспрытнаю нагою за парог, цыганаваты мужчына вярнуўся праз паўгадзіны, а то і менш, з падпухлым, апаласканым халоднаю вадою тварам і акрываўленаю ў пальцах праваю рукою, якую ён пагушкваў, прытрымліваючы левай, і крывіўся, падкусваў губу, каб перабіць і суняць боль.

І ўсе, зіркнуўшы на акрываўленую руку, таксама астуджаную ад гарачага болю шчымліва-халоднаю вадою, без ніякага роспыту, маўчучы, здагадаліся, што яе раструшчылі, усунуўшы каля завесаў у дзверы.

Цыганаваты мужчына прысеў на азызла-слізкі ад вільгаці палок чамусьці поруч з Міцем і зноў ад болю, ажно трасучы падбародкам, уцягнуў са свістам у сябе гэты затхлы дух падвала.

Ён нават нешта сказаў, але яго перабіў востры неспадзяваны, нібы ляскат перуна, голас Сідорыка:

— Корса-а-к!

Цяжкія, акутыя цынкавай бляхай дзверы ўедліва зарыпелі, адсланяючы паўцёмны і вузкі калідор.

Міця, чуючы ўсё яшчэ тупаваты боль у прыдушанай

каменем назе, выйшаў у калідор, дзе ў малочнай, падвешанай да столі лямпачцы слепаватай чырванню датляваў валасок. Тут панура туліўся ад настылага холаду падвала яшчэ адзін паліцыянт.

Халаднавата і не вельмі светла было і ў прасторным пакоі на другім паверсе мураванкі, куды Міцю падапхнуў, мацюкнуўшыся і астаўшыся сам у калідоры, сутула-сухарлявы злосны Сідорык.

Шары, забэрсаны поцемкам вечар ціснуўся да двух шыракаватых вокнаў на шэсць балонак з ніжняй форткай, якую, пэўна, пабаяўшыся скразняку, локцем штырхануў немалады ўжо сіваваты немец з вітымі пагонамі на салатавым мундзіры.

«Жандармерыя»,— вызначыў Міця, спыніўшыся каля венскага крэсла.

Тут жа за сталом сядзеў яшчэ адзін у нямецкай зеленкаватай форме. Далей і абапал стала яшчэ двое — у чорных мундзірах з шарымі каўнярамі і з шарымі закарвашамі. Ужо свае, з паліцыі: камендант Бортнік і тутэйшы паляк Ядлоўскі, меншы па званні, бо нават у абмотках.

З боку ад Міці на шыракаватай абслізганай з жалезнымі падпорамі лаўцы, што стаяла сярод няроўнага, з тупаватым вуглом пакоя, зашчаміўшы між каленяў тоўстыя кулакі, сядзеў асалавелы, недаспаны з чырвонымі, як у ангорскага труса, вачмі, ужо нават і добра знаёмы па шостым класе, бо далей не вучыўся, Стась Дабрыян. Міця сумеўся і апаў душою, убачыўшы яго тут.

Не хацелася верыць, што ціхі, сарамяжлівы і ўжо зусім баязлівы Стась Дабрыян, якога папіхалі ўсе, а найбольш здзекаваўся Тадак Пясэцкі,— уссунуўшыся яму на спіну і трымаючы за вушы, ездзіў па класе і нават яшчэ пад рогат усіх расцяжна бэкаў,— ачуціўся тут у катоўні? Няўжо час, вайна, чужая смерць, на якую кожны нагледзеўся, так змяніла, так перайначыла і знявечыла людзей?

Міця краем вока зіркнуў на жоўтую, як выскаблены стол, лаўку і ўжо між Дабрыянавых зашчэмленых каленяў убачыў абшмарганы да бляску шомпал, які востра і балюча ўпіраўся ў халяўку кепска зашнураванага, з высалапленым языком чаравіка.

І ўспомнілася ўжо іншае, чутае нядаўна ад кабет у Верасаве, што ў паліцыі лютуе нейкі кат, які замучыў дварчаскую кабету, поручы і круцячы шопмалам у незагоеную прастрэленую рану.

Няўжо гэта ён, сарамяжлівы Стась Дабрыян?

— Не азірайся,— пачуўся адтуль, з лавы, Стасеў і не Стасеў грозлівы голас.— Часу няма, ноч на двару. Распранайся.

— Пачакай,— падняў левую руку Бортнік, правай ён круціў, раструшчваў кончык прымоклай жоўтай цыгарэты.

Але Міця ўбачыў, як Стасю падміргнуў сіваваты ў зялёным фрэнчы немец і Стась у міг вока, падхапіўшыся з лавы, ужо нават спрытна і звыкла, з хлёсткім свістам махнуў шомпалам.

Удар прыйшоўся па карку — нечакана цяжкі і балючы. Міця ледзьве ўстояў на нагах, ледзьве стрымаўся, каб не закрычаць, не адказаць на гэты ўдар азвярэлым, свірэпым мацюком. Ён толькі бязвольна заскрыгітаў зубамі.

Бортнік, абцёршы рукою губы, павярнуўся да немца:

— Тут за яго прасілі.

— Хто? — па-польску спытаў другі — бялявы, з прыгладжанымі лысаватымі валасамі і з вялікімі вачмі.

— З Наваградка.

Міця, гатовы ўжо да новага, гарачага, што апякаў, як распаленае ў горне жалеза, удару шомпалам, напята і напружана заціх.

Немец разгарнуў чорна-мармуровы ў кардонных вокладках з паўкруглымі кантамі сшытак, што ляжаў перад ім, і выцягнуў з кішэні жоўты скураны футляр. Шчоўкнуў кнопкаю. Расшчаміўшы тонкадрацяныя, спружыністыя вушкі, надзеў акуляры на тонкі нос:

— Прозвішча?

— Корсак,— падсунуўся на кароткім, са спінкай, зэдліку мардаты Ядлоўскі.— Знаўся з бальшавікамі.

Нямецкі афіцэр пацягнуў на тонкім носе серабрыстыя акуляры і зіркнуў зверху шкельцаў.

— Быў сакратаром сельсавета,— Міця цяжка паварушыў перасохлым языком.

— Значыць, уводзіў жыдоўскі парадак? — зноў па-польску спытаў немец.

— Ён і за нашую справу пацярпеў,— нервова пачаў смактаць запаленую цыгарэтку ўстрывожаны Бортнік.— Сядзеў у польскай турме.

— Та-а-ак,— немец адною рукою трымаў, каб не загарнуўся чорны сшытак, другою падсоўваў на носе акуляры.— А дзе жывеш?

— У Верасаве.

— Далёка адсюль?

— Пяць кіламетраў.

— Та-а-к... Як ачуціўся тут падчас узрыву вадакачкі?

— Прышоў купіць газеты. Пра здарэнне на станцыі нічога не ведаю.

— Не прызнаецца, халера,— выскаліўся Бортнік.— Дзявулю тут мае. Да яе, мусіць, прыбягаў.

— І хто ж яна? — зноў спадлоб'я, угінаючы голаў, зіркнуў немец.

Гарачая злосць апаліла Міцю — нашто ж яшчэ выдаюць Чэсю.

— У вайсковым шпіталі робіць... міласэрнай сястрою,— падказаў Бортнік.

Пад вачмі ў немца праз акуляры высвечваліся яркія дужкі святла. Ён падняў лысаватую голаў, і дужкі расплыліся і збеглі ніжай.

— А хто там з іх пераводзіць у лес палонных?

— Тую ўзялі,— нарэшце за спіною ў Міці азваўся Дабрыян.— Была тут у мяне на дыбе.

— Што гэта значыць?

— Голую во на тапчан палажылі, ды па кумпяках...

Міця ўявіў, як ірваў сукенку на асарамачанай, перапалоханай да смерці дзяўчыне, прагнучы яе болі, пакуты, крыві, разлютаваны Дабрыян.

І ён, мусіць, таксама ўспамінаючы ўсё, што тварылася тут на тапчане з раздзетай дзяўчынай, здурэла зарагатаў:

— Раўла, як свіння пад плотам.

— Дзе цяпер яна? — нібы забыўшыся пра Міцю, спытаў немец.

— Казакам перадалі. Тыя ўмеюць на локаць кішкі накручваць.

— З гэтым што? — адкінуўшы крысо мундзіра, недзе з кішэнькі немец дастаў залаты, на ланцужку, гадзіннік, пазногцем адкалупаў накрывачку.

— Мы яшчэ перамовімся,— скоса, адным вокам зіркнуў туды, на белы цыферблат, Бортнік.

І тады з лаўкі порстка падскочыў Дабрыян, падкусваючы край губы, шомпалам парнуў Міцю ў плячо:

— Пайшоў, гніда.

Мацаючы нагамі цемнаватыя сходцы, Міця сунуўся паперадзе Сідорыка, што, прычакаўшы ў калідоры, гнаў яго назад у затхлы, з нявыветраным духам азызлага, гнілога сала глыбокі, вымураваны з каменняў і настылы за зіму падвал. Нешта крыўднае да адчаю, брыдкае і агіднае пераварочвалася ў душы, сціскала за горла: «Колькі ж можна за сваё кароткае жыццё сядзець у азызлых сутарэннях? Каго

вінавaціць? На каго наракаць? Хібя толькі на сябе, на свой лёс? Няўжо выпала такая доля — пакутаваць і бедаваць? Дзе літасць, дзе бог, дзе праўда? Дзе ж усё?.. І пакутую не я адзін — увесь народ. І ўжо не адзін год — цэлыя вякі!»

Прысеўшы на слізкія нары і сцішыўшыся, учуў зноў, як гарыць неачахлым агнём шыя... Успомнілася, выплыла з падводнай глыбіні зноў тое далёкае: на запараным, задыханым Дабрыяне конна сядзіць і рагоча малахольны Тадак Пясэцкі. І ўбачылася, так выразна і блізка, ужо цяперашняе: гвалтам і дагала раздзетая і кінутая на дыбу-лаву з жалезнымі ножкамі — бездапаможная, квола-дрыготкая, як пташка, у дужых мужчынскіх руках зганьбеная дзяўчына. І яе раз'юшана і няшчадна, заплюшчыўшы ад асалоды вочы, сячэ плёткаю з ушытым на канцы волавам азвярэлы Стась Дабрыян.

— Білі? — перачакаўшы, покуль у Міці перагарыць, ападзе злосць, спытаў Лаўрын Царык.

— Не-е... Замахнуліся раз. Дарэчы, свой, тутэйшы, у школе вучыліся разам.

— Яно ж так...— густа і расцяжна засоп Царык.— Свой свайго і душыць. Свет так створаны,— ён прысунуўся бліжай, запах даўнім потам, густым тытунём: — А пра мяне нічога не распытвалі?

— Не...

— Значыць, памагае Карыба. Дайшоў да Наваградка.

— Пра Наваградак намякаў немцу і Бортнік.

— Ого, у лесе пэўна здох воўк,— і ляпнуў цяжкаватаю, як пранік, рукою па Міцевым калене.— Будзем на волі. Я, можа, і не пайшоў бы да гэтага Карыбы, але, як кажуць, і да грыба трэба нагнуцца.

— Го, мужчынкі, досыць шаптацца,— гукнуў з другога дашчанага, наспех збітага палка, невялічкі з задзірыстым носам Васіль Самахвал: — Частуйцеся хлебам. Жонка прынясла. Я ж усяго як два тыдні жанаты.

— Ну? — Царык павярнуў туды свой гарбаваты, цяжка спушчаны нос.— Што ты кажаш?

— Праўду кажу.— Самахвал развязаў на рудаватай, старой торбе туга звітую аборачку, выцягнуў паўакрайца, разламаў на кускі.

— Чорны, мусіць, з гірсаю? — спытаў чарнявы, нядаўна пабіты, з падпухлым і пабрыдчэлым, як не сваім, тварам цыганісты мужчына.— І на смак во гаркаваты,— сказаў ён, пажаваўшы хлеб.

— Можа, і з гірсаю. Хутар пры балотцы. Шмат яе там у збожжы расце.

— Так ты кажаш, цябе яшчэ цёпленькага ад жонкі адарвалі. Не далі і рассмакавацца,— загаварыў маўклівы, немалады мужчына з сівымі пасмамі валасоў, што лезлі з-пад кепкі.

— Не далі,— махнуў рукою Самахвал, пазіраючы на «лятучую мыш», што пакалыхвалася над яго галавою, сеючы жоўтае дрыготкае святло.— Я ж пра гэта і немцу сказаў.

— І думаеш, выпусцяць? Га-га-га,— зарагатаў тоўстым дужым голасам чарнявы мужчына і зноў пагайдаў за сваю скалечаную, з раструшчанымі пальцамі руку.

— Ціха ты, мала табе адной балячкі? — прыстрашыў яго Самахвал.

Гэты рогат і праўда, мусіць, учула варта, бо зараз жа за дзвярмі цяжка і ўедліва заскрыгатала жалезная засаўка.

У нешырокую пройму з-за дзвярэй гаркнуў ўладна-пагрозлівы голас:

— Тушы «лятучую мыш»! Досыць выскаляцца, а то зараз пералічу зубы.

І калі з едкім скрыгатам дзверы зачыніліся і недзе на сходах заціх тупат і шоргат крокаў, пабіты мужчына сваім таўставатым голасам зноў ускалыхнуў порсткую іскрыста-мігатлівую цішыню падвала:

— Хлопцы, чуеце?

— Чаго табе?

— Я ў срачы ціхенька паадрываў дошкі.

— І што?

— Хлопцы, можна ўцячы.

— Улезеш у калатушу і не выберашся.

— Не дурыся. Каб у мяне не калекая нага, фігу ён мяне дагнаў бы.

— А пуля што?.. Хібя пуля не дагоніць?

Пад гэтую гутарку Міця ціха драмаў. Цемната падвала змянілася на цемнату і скразнякі цягніка: ён недзе ехаў у гулкім, пустым вагоне, што скрыпеў на паваротах, палахліва мільгаючы агаркам свечкі ў ліхтары пад круглаватаю столлю над дзвярмі, то ішоў зялёным лужком, і кругом яго падымаўся вялікі — сасна ў сасну — бор, то ўцякаў праз чорныя сутарэнні, праз доўгія дашчаныя баракі ўжо разам з ёю, з Чэсяю, і нехта ў міг вока дужаю рукою схапіў Чэсю, і яна знікла ў вялікай цёмнай пустаце...

Міця прачнуўся і пачаў макрэць ад ліпкага поту.

Цяжка, уедліва рыпелі ўжо грымотныя, акутыя бляхай дзверы, і ўчарашні хрыплавата-злы голас клікаў яго, Міцю.

Яшчэ санлівы, неакрыялы ад нядаўняга страху за Чэсю, яшчэ ўсё бачачы тую чорную прорву, куды знікла яна, Міця, подагнаны паліцыянтам, выйшаў на двор, на сцюдзёны дожджык, што рэдзенька пакрапіў каменні бруку — і знямеў: сярод двара каля куста вербалозу ў жоўта-пухкіх катках зьнябожана сутуліўся бацька.

З цярплівым прытоеным чаканнем з-пад чорных і зласнавата навіслых броваў глядзелі яго вочы.

— Тата, ты чаго тут? — Міця падбег да бацькі, абняў, учуўшы пах вільготнай, едкай воўны ад яго суконнага каптана.— І так рана?

— Для мяне ўжо ні вечара, ні раніцы няма. Не сплю каторую ноч.

— Поцемкам ішоў. Маглі і застрэліць.

— Мяне ўжо куля не бярэ. Цэлае мястэчка прайшоў, і каб адзін сабака агукнуў. Дасі веры ці не, а ні адзін.

— Што там удома?

— Што пытаеш, хібя не чуў? — бацька пакасіўся на паліцыянта, але той, нібы нічога не чуючы, цёр крывым, сагнутым пальцам вока.— Ваўчка павесілі...

— Хто?

— Казакі... Во як цяпер робіцца. Адныя прымушаюць слупы рэзаць, другія за гэта вешаюць.

— Калі гэта прылучылася?

— Пазаўчора, Крыжы мы перад вёскаю ставілі. Ад бяды ўсё ратуемся, а ратунку-то і няма.

— А як ты сам?..

Бацька ўздыхнуў, адхіліўшы голаў, пазіраў на жоўты ад пухкіх каткоў, саладжава-прытарны смярдзючы куст вербалозу, што разросся тут сярод бойнага бруку, марудзячы загаварыў:

— Нож у сэрца. У Дварчаны ўжо ледзьве прышоў.

— А чаму ж не фурманкаю? — здзівіўся Міця.

— Шкада каніну. Ці мала якой злыбяды — забяруць.

— А сябе не шкада?

— Сябе ўжо — не. Во й прышоў. Бо хто ведае, што з кім будзе на гэтым свеце.

— Ну што ты разгараваўся, тата? — У Міці задрыжала, засланяючы свет, мроіва пякучых слёз.— Скора буду на волі.

— Дай божа,— дрыготкая рука працягнула Міцю туга завязаную палатняную торбачку.

— Ну, досіць! — крыкнуў знерваваны паліцыянт у чорным шынялі з шэтым каўняром і шырокай, насунутай на нахмураны лоб пілотцы.— Давай, стары, прашчайся.

Міця зноў абняў бацьку, зноў учуўшы знаёмы пах яго шорсткага суконнага каптана.

— Не бядуй, тата.

— А што, праўда, маюцца выпусціць?

Міця ледзьве пракаўтнуў даўкі камяк:

— Ага, праўда...

Глухаваты бацькаў шэпт стаяў у вушах і тады, калі Міцю ранічкаю прыгналі ў тлуставата-раскіслы, заліты даждживою вадою катлаван, і тады, калі перад полуднем яму разам з Самахвалам загадалі сесці ў цьмяна-алавянага колеру і вусаты, бо на крыллях капота тырчалі доўгія драціны з булаўкамі, грузавік, што дрыжаў нутром за чырвона-цаглянай ксяндзоўскай плябаніяй на шашы.

Міця толькі паспеў паціснуць гарачую і ад нязвыклай работы і ад расцёртых, раздушаных крывава-вадзяных мазалёў руку Лаўрына Царыка, і яны абое, разгубленыя, паўзіраліся адзін аднаму ў вочы, не ведаючы, дзеля чаго і куды гоняць Міцю разам з Самахвалам двое чырванавата-аплыўшых ад перапою, непадступна-маўклівых, надзьмутых, як сычы, паліцыянтаў.

Надзея на ратунак была ў тым, што не звязалі рук: значыць, не на расстрэл, значыць, на нешта іншае. Грузавік завярнуў на чыгуначную станцыю, да чырванаватых вагончыкаў вузкакалейкі, што стаялі пад шырокім насупленым прычолкам пакгаўза, адтуль выгналі яшчэ трох, запыленых нават на вейках і на кончыку носа шара-зеленаватым цэментам, маладых, зморaных работаю грузчыкаў.

У старым счарнелым свірне, дзе цяпер ляжала соль, а даўней яўрэйскае збожжа, засталі толькі стараватых мужчын — нехта ж паспеў ужо наказаць маладзейшым грузчыкам,— і паліцыянт вярнуўся да шарага, вусатага грузавіка з жалезным люкам на кабіне, гнучы злыя мацюкі.

Іх, пяцёра маладых хлопцаў, пасадзіўшы на цвёрдае дно кузава, забруджанага чорнай, як графіт, і мазкай пацярухай ад дравеснага вугалю, павезлі ў кірунку Наваградка.

Дарога пазнавалася па дахах і шчытах дварчанскіх будынкаў, па цёмна-карычневым крыжы перад пераездам, паднятым паласатым шлагбауме з чорным ліхтаром, а потым нават па старых струпаватых і абвіслых абапал шашы бярэзінах, з якіх вецер зрываў густы вадаспад халодных набрыняных кропель.

Міця гнуўся, курчыўся ад вострага скразняку, што віхрыў у кузаве грузавіка, чуючы чужую спіну і пырскат вады, што ляцела на яго і сцюдзёным, лядовым холадам сачылся за каўнер.

Грузавік з натужным вуркатам выскачыў на грудок — блізілася Верасава: Міця пазнаў па сухаверхай старой бярэзіне з голымі абломленымі сукамі, якая адзінока і смутна памірала на абочыне шашы.

Ці злічыш, колькі разоў Міця прайшоў міма яе? Куды ж цяпер праводзіць яго гэтая старая, ссохлая бярэзіна, аблепленая тоўстымі нарасцямі шарай губіны? Няўжо ён не ўбачыць яшчэ раз гэтую ўжо струхлелую бярэзіну, што абрасла наўкруг камля бондамі губіны? Няўжо не будзе зваротнай дарогі дадому?

Міця, упёршыся ў мокра-азызлае дно, прыпадняўся на руках, вызірнуў з-за дошак, прыбітых паверх жалезнай скрыні, неспадзявана ўбачыўшы зеленавата-замшэлую страху Літаваравай хаты з цёмным тыльным акном, шары дубовы крыж, поруч якога жаўцеў, ачасаны сякерою, вышэйшы і новы. За крыжам у равок, бачачы перад сабою толькі карычняваты сыры пясок сцежкі, спускаўся бацька. Цяжка падымаў боты, сутулячыся пацямнелаю, намоклаю ад дажджу спіною. Няўжо ён толькі цяпер вярнуўся ў Верасава?.. «Та-та-та!» — турзануўся і крыкнуў у думках Міця. Але бацька ўсё гэтаксама памалу, хоць яго і падганяў парывісты, змяшаны з дажджом вецер, як конь з цяжкім возам, натужліва ішоў далей, угінаючыся, не падымаючы мокрую і пацямнелую, як і спіна, карычняватую кепку.

Цвёрда б'ючы халодна-настылаю скрыняю Міцю ў рукі, грузавік палясквау на выбоінах, шумна распырскваў ваду і ляцеў стрымгалоў далей — бацька, рудаваты з ледзь прыкметнымі плямамі зазелянелай травы грудок, стрэхі гумен і хат з адсырэлымі купінамі моху, як бясконцая вада ў паводку, кружыліся і адплывалі далей.

Павярнулася і адплыло прыгорбленае Алесіно гумно, чорныя, пахіленыя ў адзін бок кронамі невысокія яблыні, шчарбаты, з вылушчанай цэглай комін на страсе хаты.

Нешта пякуча зашчымела, зайшло вострым болем у Міцевым сэрцы, засмактала салодка-нязносным смуткам. Міця прыпадняўся на самлелых руках яшчэ больш.

Але ў гэты міг тупавата-балючы ўдар ботам у спіну збіў яго, кінуўшы на мокра-чорнае, зацярушанае дробным вугалем дно кузава.

— Чаго разявіўся? — гаркнуў з-пад высокай кабіны па-

нуры, прыгорблены, як крумкач, азяблы паліцыянт.— Сядзіся, а то прыстрэлю.

— Мусіць, вёску ўбачыў,— адазваўся другі.

— Я ж і віджу. Да маменькі захацелася.

У лесе з хмурымі, што блішчалі дажджавою расой, елкамі, з пакручаста-сукаватымі дубамі, з пруткім галлём голага граба, гарэшніку, што ўжо дрыжаў набрынялымі шаразеленаватымі, доўгімі, як пасмы дажджу, таўкачыкамі, шаша крута завілася ў лагчыну, да адзінокіх хутароў, што палахліва адступаліся ад глыбокай канавы.

Дождж забарабаніў гусцей. Машына перастала ляскаць, прытарможваючы недзе на глыбокіх ямах. Тут, у лагчынцы, не даязджаючы яшчэ жоўтых двухпавярховых будынкаў — даўнейшых кашараў, дзе калісь стаяў полк польскай пяхоты, а цяпер то немцы, то паліцыя,— з левага боку, метраў васемсот ад шашы, ёсць, кажуць, выкапаныя, гатовыя для расстрэлу равы.

Міця схаладзеў: «Няўжо сюды?»

Паліцыянт зноў дзюбнуў акутым наском бота якраз у балючы крыж:

— Уставай! Расселіся, як мокрыя куры!

Асцярожна ўстаючы, Міця ўбачыў старыя, карычнева-бліскучыя ад дажджу рабіны, а за імі — жалезную браму, высокі, у некалькі столак, сіва-калючы дрот, паласатую будку і худавата-пасінелага хлопца ў шара-зялёнай нямецкай форме.

Ад будкі жвірыстая, выкладзеная абапал цэглай на востры кант, дарожка вяла да жоўтых на два паверхі цагляных будынкаў, абсаджаных маладымі бярэзінамі.

На нейкі міг у Міці адхлынуў і адлёг страх — покуль што жывы.

— Нешта ж мало? — па-беларуску, але з націскам на «о», запытаў пасінелы вартавы і высунуўся з будкі.

— Сённячы ўлоў скупы. Учора во было, як кялбоў,— засмяяўся вартавы, паказваючы два зломленыя верхнія зубы.

— Затое сёння, здаецца, прывязлі шчупачка,— засмяяўся паліцыянт і, саскочыўшы з шэра-блакітнага грузавіка, стаў трохі зводдаль, каб часам хто з гэтых пецярых прывезеных хлопцаў не рвануў убок.

Мінаючы адчыненую фортку, Міця пачынаў ўжо здагадвацца, куды яго прывязлі і дзе апынуўся.

## X

Каторы ўжо дзень імжэў несціханы, кіславата-ліпкі, як увосень, і азызлы дождж, з'ядаючы ў абрывістых ярах, у зацішку хмурых лясоў і за вугламі будынкаў зляжалыя, шаравата-брудныя, быдта прыцярушаныя сажай, топкія шапаткія курганы.

Тут, на гарыстай лясной Наваградчыне, снегу было яшчэ шмат. Тады-сяды па канавах уздоўж шашы, што абапал зарасла чорна-гузаватымі, з куксамі абсечаных галін, невысокімі ясенямі, па шахаткой снежнай расквасіцы цягавіта і марудна валаклася адзінокая фурманка.

Туды, у блізенькі белы гарадок, што абсеў зарослаю чорнымі прысадамі гору, на самай макаўцы яе дзвюма ружаватымі раскрышанымі вежамі значыўся даўнейшы замак, і ніжай яго зырка свіціўся бела-чырвоны касцёл.

Міця, перастаўшы шпурляць вялікія скрылі іскрыста-белага, як цукар, сіняватага снегу, упёрся на ручку старога, шчарбатага шуфля і паглядзеў туды, на ружаватыя з прадзьмутымі ветрам праймамі вежы, што плавалі ў сіняватай смузе вясны. У памяці выясніўся далёкі дзень лета, калі яны з Чэсяй стаялі на зялёнай гары, там, між гэтых раскрышаныў вежаў, і, абвеяныя лёгкім ветрам, нібы плылі над светам — дух займала вышыня, і ад радасці расло сэрца. Як скінуць вокам, у маладой цёмна-зялёнай ярыне, у сівавата-ліловым, што выпусціла колас, жыце, бушавала поле, і жоўтыя ад перацёртага пяску дарогі знікалі ў далекаватай градзе насупленага зубчатага лесу, над якім вісела першая круглая, як пухір, хмарка — знак на нечаканы дождж.

Да Чэсіных загарэлых, у белых шкарпэтачках ног лашчыўся сыраваты, што дзьмуў з лагчыны, скразняк, бессаромна падымаў лёгкую сукенку. Чэся, заціснуўшы падол між калень, жмурыла вочы і слухала, мусіць, як цякуць за шыю і шчодра казычуцца залацістыя кудзеркі валасоў. На яе падпухлых вуснах сутаргава мільгаў, трапятаўся прыхаваны смех. І Міця не стрываў, неяк баязліва-асцярожна даткнуўся да гэтых мякка-трапяткіх вуснаў. Але яны не спалохаліся, задыхана растуліліся для пацалунку.

— Што так загараваўся? — Міцю ачуціў хрыплаваты, трохі гугнявы ў нос голас Нікодыма Самахвала.

— Ды так сабе,— Міця сцёр са скроні пякучы пот, што казытлівым чарвячком поўз ніжай, на шчаку.

— Знябыўся, мусіць, па ёй,— Самахвалу, пэўна, хацелася пагаварыць.— Дзяўчына відная. Ці, можа, жанаты?

— Не,— Міця чарпануў шуфлем вялікі скрыль беласяняватага снегу і павярнуўся спіною да Самахвала, каб адчапіцца ад ліпкай гутаркі, ведаў, той ізноў будзе саладзіць пра сваю жаніцьбу.

— А як мне?.. Два тыдні ўсяго, як жанаты. Толькі пярэзвы справіў.

— Аб жонцы не бядуй: адна жонка, кажуць, ад бога, другая — ад людзей.

— Выскаляешся, а нябось дрыжаў як асінавы ліст, калі пад ямы пад'язджалі. Сёння зранку чуў, як кулямёты лапаталі? Тут за казармамі лоташаць людзей.— Самахвал паправіў на падстрыжанай пад кароткую польку круглай галаве зеленавата-шарую з аранжавай акантоўкай пілотку.

— Ды чуў, не глухі, здаецца.

— А што ж будзе з намі? — Самахвал падважыў крыгу зледзянелага снегу, натужыўшыся і чырванеючы, кінуў яе.

Ды нешта будзе, раз форму адзелі.

— А яна табе пасуе,— усміхнуўся Самахвал і зноў двума пальцамі злавіў у сябе на галаве зеленавата-шарую пілотку.

— За такі строй, глядзі, каб галавой не расплаціліся,— Міця ўчуў, як да спіны ліпне настылая, вільготная ад поту кашуля.

— Мы салдаты. Які з нас спрос. Прымусова бралі.

— Яно так... Але ці будзе хто разбірацца? Возьмуць за кокі, ды ўсё,— Міця падышоў да раскопанай гурбы і са злосцю ўбіў у крупчасты, як бойная соль, шапаткі снег свой шчарбаты шуфель.

Пазаўчора яго, яшчэ без гэтай шара-зялёнай формы, вадзілі на другі паверх у невялікім жоўтым дамку, тут жа за казармай.

Вартавы нехаця пастараніўся, і Міця з пасланцом увайшоў у чысты, падлізаны, падфарбаваны, што пах свежым пакостам, калідор.

Па рыпучых драўляных сходах яны падняліся ў немалы пакой, другія дзверы якога выходзілі на прыгожы, ажурны балкон, якраз там, дзе павінен быў быць рог дома.

Трохі з боку ад шырокіх на дзве форткі дзвярэй, каб, мусіць, не праймаў скразняк, стаяў шырокі прысадзісты стол з зялёным, трохі ўжо працёртым сукном, па краях абабіты лакіраванымі планкамі ў рубчыкі. На рагу яго за шкляным сіняватым чарнільным прыборам і точанай драўлянай вазай для алоўкаў блішчаў нікеліраванай трубкай на высокай вілцы белы тэлефонны апарат.

За сталом у цяжкаватым крэсле з выгнутымі падлакотнікамі рухава адкінуўся чарнявы, віхраваты мужчына гадоў трыццаці ў зялёным нямецкім фрэнчы, з партупеяй і чырвона-бела-чырвонай апаскай на левым рукаве, у белым крузе якой ламалася чорная свастыка. З боку ад стала, заклаўшы нага за ногу, пакалыхваў цяжкім ботам схуднелы, жаўтлява-адутлаваты Костак Камашыла.

— Далей заходзь,— махнуў ён цяжкім ботам і павярнуўся да чарнява-прыгожага з вайсковай зухаватай выпраўкай афіцэра: — Я казаў — гэта Змітры Корсак.

— Так,— афіцэр акінуў Міцю трохі касаватым позіркам і апусціў чарнява-віхрастую галаў.

— Беларускі паэт,— лісліва, зазіраючы афіцэру ў сінія з чыстымі перламутравымі бялкамі вочы, падхвальваў Міцю жаўтлява-нездароўчы Камашыла.

— Вершаў даўно не пішу,— рэзка сказаў Міця, каб скінуць гэтую агіднасць.

— А я думаў рэкамендаваць вас у газету. Але добра,— тонкая рука паднялася і прыляпнула па вышмарганым, працёртым да белаватасці зялёным сукне.— Паслужыце покуль што ў нас. Нам патрэбныя тыя, хто адчувае дух народа, хто верыць у непераможную сілу і моц нашай Бацькаўшчыны. Беларусы даўно зняверыліся. Саромеюцца нат прызнацца, хто яны. Адракаюцца ад мовы, ад свайго паходжання. Ці я не праўду кажу? — Але не дачакаўшыся, што адкажа Міця, з цвёрдасцю ў голасе зноў прыляпнуў рукою па вышмарганым сукне.— Трэба будзіць народ. Але перш быць самому прыкладам для народа. Трэба пачынаць з самога сябе.

— Ты ж, пэўна, дагадваешся,— улучыўшы момант, калі задыхнуўся, ажно закашляўся ад свае прамовы афіцэр, зарыпеў на крэсле і павярнуўся да Міці, косячы лупаватымі вачмі, жаўтлявы адутлаваты Камашыла.— Мы ж цябе выцягнулі з турмы.

— Дагадваюся,— прызнаўся Міця.

— Гэта трэба цаніць,— падмахнуў бялявою, што пачынала ўжо лысець, галавою нездароўчы Камашыла.

— Вам спярша прыдзецца паслужыць тут,— цвёрдыя сінявата-бліскучыя, як у дзяўчыны, вочы зіркнулі на Міцю.— А з цягам часу пашлём вас на афіцэрскія курсы. Не важна, што яны нямецкія, важна іншае — вы мацьме магчымасць атрымаць веды. Без сваіх кадраў мы, беларусы, нішто. Наша слабасць у тым, што няма нацыянальнай інтэлігенцыі. Адрадзіць нацыю могуць толькі самаахвярныя, моцныя

духам, поўныя веры ў неўміручасць народа і ўзброеныя трывалымі ведамі людзі.

Прыпамінаючы цяпер нядаўнюю гутарку, Міця прыкідваў сабе — таіўся гэты чарнява-прыгожы, адзеты ў нямецкую форму афіцэр, зманьваў лісліва-ўгодлівай размовай пра ўсё балючае, непадступна-святое, стараючыся падкупіць Міцю, ці, рызыкуючы ўсім, рабіў гэта праўдзіва, адкрыта і свядома.

Ці распазнаеш цяпер людзей! Які настаў час. Але ж калі чалавеку жылося лепш? Да нас — не, пры нас — не. Хібя пасля нас?.. Смешна гадаць і прыкідваць. Як мы горка і балюча раскайваемся, калі прыходзіць тое, чаго з такою прагай, адчаем і жаданнем даўно чакалі. Як горка і невыносна тады бывае на душы...

Міця не заўважыў, як паменшыў да горбачкі сіняватага чыстага снегу той шары вялікі курган, да якога яны падышлі з шуфлямі з гадзіну назад.

— Трэба ўзяць лом,— Самахвал дзяркатa шаргануў шуфлем па сінявата-бугрыстым лёдзе, ажно ў Міці па скуры прабег пякучы мароз.— Без лома тут не ўгрызеш. Я збегаю...

Вярнуўся ён скора і без лома, устрывожана-радасна крыкнуўшы:

— Наказалі паклікаць цябе.

— Куды? — Міцю зноў убачыўся той невялікі з усечаным вуглом пакой і жоўты з зялёным сукном канцылярскі стол.— У штаб, ці што?

— Патрэбны ты ў штабе, як у мосце дзірка,— засмяяўся Самахвал, прыскальваючы адно вока.— Бяжы, вунь за брамаю сястра чакае.

Міця, чуючы, як туга і хрустка парыпвае пад нагамі вільготны жвір, падбегам мінуў жоўта-цагляную казарму і задыхнуўся ад радасці — за перакрыжаванымі прантамі жалезнай брамы стаяў буланы з белай храпай і ноздрамі конь, выменяны Алесяй за адзежу яшчэ ў польскіх кавалерыстаў, ужо трохі змораны і падтупаны за гэтыя гады.

На возе, засланым малінава-стракатай, што калола ў вочы, новай радзюжкай, сядзеў хлопчык у вушатай шапачцы з брыльком.

Алеся, крышку горбячыся, у суконнай, у цёмна-зялёныя балонкі, накінутай на плечы хустцы, хадзіла каля ўспуджанага, нечым знерваванага каня,— ён, трасучы звінючымі цуглямі, ускідваў голаў і бэрсаў канюшыну, што ляжала на зямлі пад нагамі.

— Во, не дабярэш, што есці,— яна махнула рукою і пе-

рад яго задранай храпай з вялікім сінім вокам, што страхатліва і пудка паблісквала.

— Чым ты яго, сястра, угнявіла? — паказваючы вартавому, што ён ідзе за браму да воза, гукнуў вясёлы і радасны Міця.

— Відаць, вайсковы конь — не зносіць баб,— выскаліўся каля паласатай будкі сутулаваты, гадоў пад сорак, вартавы.

— Ай, божачка, няўжо ты, Змітрык? — ускрыкнула Алеся і, слізгаючыся па сатлела-гнілым і кіслым леташнім лісці, пайшла насустрач Міцю, перакасіўшы ў балючай слязлівай міне твар.— Ледзьве напытала цябе. Увесь Наваградак аб'ехала.

Яна абхапіла, абвіла Міцю рукамі за шыю і, падступаючыся, пачала цалаваць у шчаку.

— Зблажэў, божа мілы,— нарэшце адступілася, ловячы папушчаны рог вялікай, цёмна-зялёнай хусткі.— Адмяніўся, не пазнаць. Ды яшчэ ў гэтай адзежы... Але балазе жывы ды здаровы.

— І ты нейкая збедаваная,— ён паглядзеў на яе звялыя сiняватыя губы, з куточкаў якіх пярсцёнкам маладзіка разбегліся зморшчынкі.

— А вунь тых, што сядзелі з табою ў дварчанскай цюрме, казакі замардавалі. Няхай бог адносіць ды не дапускае, якое на свеце шаленства пачало рабіцца.

— І Царыка?..— абмёр душою Міця.

— Таго чорнага, насатага?.. Кажуць, услед за табою павязлі.

— Куды?

— Ці сённяшнім светам дапытаеш. Чуткі да пагалоскі ідуць,— яна абярнулася да воза, адкінула радзюжку і знайшла пад ёю белую палатняную торбачку, пашытую, мусіць, са старой кашулі.— Во груш сушаных табе прывязла і сухарыкаў, што напякла на мёдзе.

— А сама як жывеш? — Міця, развязаўшы, зазірнуў у торбачку, жменяю чарпануў цьмяна-карычняватых сухарыкаў і кінуў перад хлопчыкам на стракатую радзюжку.— І яго во ў гэтакую далеч пацягнула за сабою.

Учуўшы, што пра яго гавораць, хлопчык апусціў шарыя вялікія вочы, моргаючы выгнутымі густымі вейкамі. Нешта Імполева было ў ім і чужое для Міці. Міця заўсёды раўнаваў сястру да патайнога, да ненавіснага яму Імполя.

— Пытаеш, як жыву? — у Алесі сутаргава ўздрыгнулі губы, балюча сцяліся, яна пракаўтнула даўкі камяк і на-

рэшце сказала праз слёзы: — Во з ім... Гаспадар расце. А далей ужо сам знаеш...

— Ды знаю...— уздыхнуў Міця, успамінаючы Дварчаны, тое акно ў чужой хаце, за якім мільгнуў і знік Хрысцін перапалоханы твар.— Бацька як?..

— Па табе гаруе. Пра нейкія сны, пра чорныя і шэрыя пташкі, што сняцца яму, расказвае. Навін, кажа, шмат чорных будзе.

— Навіны-то, праўда, чорныя. Невядома, калі вырвуся дадому,— Міця туга зашмаргнуў торбачку, падмахнуў ёю.— Але чаго гараваць, кормяць ды адзяюць во.

— Можа, калом у горле тая яда стаіць, а ты мяне суцяшаеш, Змітрычак,— і, азірнуўшыся на вартавога, Алеся вышмаргнула з-за пазухі плюшавага пералівістага чорнага сачыка, перашытага з даўнейшага, яшчэ з дзявочага паліто, нешта сціснутае ў жмені.— Я табе мамін крыжык прывязла. Нават у касцёле яшчэ раз пасвянціла яго. Схавай і беражы. І ён цябе берагчы будзе.

Міця, разглядючы на далоні пацямнелы, з чырвонай нітачкай рабавата-залацісты крыжык, сумеўся:

— Няўжо ён, той самы пазалочаны крыжык?

— Сцёрся ўжо, але схавай... Мяне бярог ад смерці і цябе зберажэ.

— Нешта выдумала,— Міця, не хочучы, запхнуў крыжык у кішэню.— І дзе ён цябе ўжо бярог?

— Там, дзе была мая смерць. На калеі... Хіба ты, Змітрычак, забыўся ўжо?

Ён зачырванеўся і ад брыдкасці, што распытаў не тое, і ад таго, што не браў талісмана:

— Даруй, Аляксандрачка, я незнакрок, я не хочучы... Зляцела з языка.

— Ат, перагораю,— і, распасцёршы рукі, як крыллі, з гэтай клятчатай хусткай, яна зноў абхапіла яго за шыю і пачала цалаваць у твар.

Абняўшы яе, зноў заплаканую, ён тыкаўся чуткімі губамі ў шорсткае брыво, і скроню са слізкімі валасамі, у халаднаваты яе лоб з randaвачкай.

— Беражыся. Не кажы нічога проці помслівых людзей. Кепскія людзі цяпер, страх і казаць,— яна адступілася ад яго і паправіла на плячах цяжкую суконную хустку.

— Ці я ўжо такі...

— І не прастудзіся. Тут во снег, зіма, а ў нас ужо сяўба. Авёс сеюць.— Сказала з гаркатою і схавала вочы.— А мой, сам ведаеш, як сабака каля рэзьні, у Дварчанаў круціцца.

— Забыцца пра яго трэба,— сказаў Міця і не паверыў чамусьці сабе, што кажа праўду, устрывожаны, уджалены рэўнасцю да Імполя.

— З вачэй можна прагнаць, а з галавы,— яна падышла да воза і аправіла, падтаўкла пад хлопчыкам суха-порсткую, шапаткую салому.

Памагаючы выкіраваць праз вузенькі з'езд на шашу непаслушнага, унароўленага каня, Міця прайшоў услед за возам, паціснуў Алесіну цёпла-мяккую, бязвольную руку і, вяртаючыся назад, каля паласатай будкі стрэўся з Камашылам. Той, заўважыўшы Міцю, выпнуў вастравата-тонкія губы, нягучна засмяяўся і грузна ўроскідку пайшоў насустрач, скрыўленыя боты з чуйным шоргатам таптаді збуцвелае лісце пад дзяркатымі абрэзанымі ясенямі.

— Ты яшчэ ўсё гневаешся, як маленькі,— падбіваючы каленьмі караткаваты нямецкі шынель, ён дайшоў да Міці і, наровячы, каб, мусіць, не прыкмеціў вартавы, падаў Міцю тоўста-халаднаватую руку.— А цябе мы, скажу, ледзьве выбавілі з тых дварчанскіх лёхаў. Балазе да казакаў не трапіў. Тады хто ведае, што было б. Тут іх, як молі, поўны Наваградак. Тысяч пяць будзе. У вёсках каля шашы стаяць. Ды пёс з імі, расказвай пра сябе.

— А што тут расказваць, бачыш сам, што робіцца кругом.

— Пытае, ці бачу? Не было і няма спакою на нашай зямлі,— загароджваючы дарогу і не пускаючы да брамы, Камашыла злавіў Міцю за рукаво: — Пройдземся.

— Ды я ўжо так забавіўся. Снег паслалі раскідаць за брамай.

— Нічога, управяцца і без цябе. Дарэчы, я сказаў, што забіраю цябе ў свой узвод,— Камашыла прыпыніўся, паглядзеў удалечыню на роснае, там-сям яшчэ ў плесні і не акрыялае пасля зімы жыта за снежнаю, разбітаю саньмі канаваю, на адзінокі прысадзісты дуб з рэдка-круглаю чорнаю кронаю і блізкі смутны шары хутар, акружаны крывымі, нізкімі яблынямі. Там на мокры пазелянелы плот лез і гаўкаў вялікі жоўты сабака.— Зірну во на гэты хутар і кожны раз успамінаю сваю хату. Гэтаксама садок быў... Ты ж ці ведаеш — спалілі.

— Хто? — Міця вырваў з яго ўчэпістай рукі сваё рукаво.

— Ты як маленькі... Свае. Хто ж?!

— Даўно?

— Летась... Праз гэта, пэўна, і бацька памёр: шампаламі ссеклі. За мяне. За мною ўсё палявалі. Раз нават пры-

скочылі, калі я ўдома быў. Нехта падкусіў. Не ведаючы, куды дзецца, я на бярэзіну залез. І не дагадаліся, не паднялі галаў. У хаце, у стопцы ўсё перапаролі, а галаў не паднялі. Во тады ў мяне на вачах бацьку білі. Якраз пад бярэзінаю. Я ж кажу, найбольш стараліся свае. Ім яшчэ адрыгнецца...

Ён перастаў чвякаць цяжкімі ботамі па раскіслай з прытоптанай чорнай травою зямлі, прыпыніўся, засоп у нос:

— Але нагаворымся потым. А цяпер ідзі збірай свае манаткі. І скажы, што цябе перавялі да мяне ва ўзвод.

— А што тут збіраць? — засмяяўся Міця, падмахнуўшы палатнянаю торбачкаю.— Дзве торбы маю, адну во з сушанымі грушамі, другую — з пэндзлікам ды брытваю.

— Балазе торбы ёсць, а ў торбу нешта знойдзем,— і Камашыла падміргнуў недаспаным вокам з чырванаватым бялком.

А вечарам ужо ў затхлай казарме, што пахла сапрэлымі ботамі, паказаўшы на пусты жалезны ложак поруч са сваім, што стаяў зводдаль ад салдацкіх, ткнуў Міцю адломаны кавалачак зманліва і смачна пахучай ад каляндры і кмену падсушанай кілбасы:

— З'ясі потым упоцемку пад коцам,— ён прысеў на рыпучы ад жалезных спружын Міцеў ложак.— Я тут, у Навапградку, з мацерaю жыву. Перавёз яшчэ да таго, як спалілі хутар. Спачатку думаў прыжаніцца. Недзе з-пад Бугуруслана з Расіі тут ачуцілася адна шмара. Але ці возьмеш такую? Кажу ёй, звары булён, а яна пытае, дзе мяса. Нават не знае, што падскваранe картапляны булён можна зварыць без мяса. Але ліха з ёю. Як той казаў, абы шыя, хамут знойдзецца,— і падазрона азірнуўся.— Трэба неяк выратавацца ў гэтым пекле, падсцерагаць будзем адзін аднаго... Я гляджу, тут усе — то сват, то брат, то кум. Словам, людзі горнуцца адзін да аднаго. А мы што — лыкам шытыя? Пачуеш што, так падказвай, не таіся. Трэба ж нам ведаць, хто чым дыхае.

Пад несціханае парыпванне ложкаў, свіст насоў, удушлівы прастудны кашаль, хрусткі скрыгат зубоў, мармытанне, пацмокванне ў сне і нечы ў далёкім кутку пералівісты храп Міця доўга не мог заснуць. Думалася то пра агідную Камашылаву просьбу быць у яго за нейкага падказчыка, выведніка ці паслугача, то пра адзінокага бацьку, то нечакана пра тую крыўду, што так і не зажыла да гэтай пары, калі бацька да смерці зняважыў Міцю, нечакана секануўшы яго нейкім пугаўём па галаве,— тады Міця ў жніво, у самую падхватную работу перад світаннем вярнуўся з вечарынкі дадому, то ўжо са шчымлівай радасцю і нечаканай трывогай

зноў пра яе, пра Чэсю: ці не арыштавалі яе? Да Грабянкаў, як ведаюць усе Дварчаны, нават з Варшавы прыходзілі сувязныя. Кажуць, нейкі «Рысь».

— Хі-хі-хі,— раптам нехта здушана і не ўтрываўшы зарагатаў над Міцевым ложкам.— Чуеш?

— Што! — перарваўшы нітку сваіх думак, Міця ўзняўся на локцях, прыслухаўся да залівістага, з прысвістам далёкага храпу.— Грае, як арган.

— Ды не... Сюды глянь,— затхла дыхнуў на Міцю бялявы і цыбата-сутулы хлопец, засланяючы слабенькую, ледзьве жывую пад столлю лямпачку.— Бачыш, укрыўся коцам і дрочыць сябе, аж ложак калоціцца. І так кожны вечар. Я яго, падлу, зараз правучу...

Адною рукою падцягваючы шырокія ў паясніцы кальсоны, другую выцягнуўшы наперад, цыбаты хлопец перагнуўся цераз свой ложак і на суседнім, што стаяў упрытык і дзе ўздрыгвалі накрытыя злінялым коцам вострыя калені, ірвануў на сябе гэты злінялы коц.

— Гы-гы-гы! — зарагатаў ён, паказваючы на раскрытага вугравватага салдата.— Дрочыцца во, хлопцы.

— Глядзі, каб часам з табою чаго не зрабіў.

— Праўда? Няўжо?

— Нагледзеўся на дзеўку.

— Ды жанаты ён,— паднімаліся, глядзелі сюды і крычалі з усіх старон салдаты.

— Што такое, Падліпскі? — падхапіўся нарэшце і злосна вызверыўся на цыбатага хлопца, што стаяў каля свайго ложка, трымаючы злінялы коц, злосна-пазелянелы Камашыла.

— Во дрочыцца.

— Што пляцеш. Чаму ўсе не спяць? — Камашыла, не апранаючыся, у шарых трыкатовых падштаніках, што абцягвалі яго тоўстыя крываватыя ногі, выбег на сярэдзіну казармы, крыкнуў, аж перасеў яго голас: — Узвод, устаць!

Рыпнуўшы ложкамі, шэсцьдзесят салдат у міг вока падскочылі і прыліплі босымі нагамі да настылай цэментнай падлогі.

— Сесць! — крыкнуў і зверавата азірнуўся Камашыла. Усе прыселі, паклаўшы рукі на калені.

— На дупу сесць! На дупу!..

Салдаты мяшкамі аб'ехалі на цэментную падлогу. Міця ўчуў настылы холад цэменту і агідную нянавісць да Камашылы.

— Устаць!

Гэтая нянавісць і падняла Міцю.

— На дупу сесць!

— Устаць!..— роў, што было моцы, Камашыла, узяўшыся ў бокі і падышоўшы сюды, дзе падымаўся і садзіўся Міця. І нават паказаў яму стаяць, але Міця, нібы не зметаўшы Камашылавага падморгвання, падаў і ўставаў разам з усімі. Чуў, як пад каленямі баляць, ажно гудуць з непрывычкі стомленыя ногі.

Нездароўчы, задыханы і збялелы Камашыла змогся нават ад свайго хрыплаватага крыку. Чарнатою разяўленага рота выдыхнуў:

— Ну, быдла, я вышкалю, я прывучу вас да вайсковага парадку!

Употай ды няўзнак ад іншых, паклікаўшы Міцю ў туалет і цэдзячы з сябе доўга і з уздрыгваннем, пачаў дакараць.

— Ты дарма... Я ж міргнуў, мог і не выконваць мае каманды.

— Ну як жа ж я адзін буду стаяць як слуп.

— Гэта і праўда,— ажывіўся ён і перабраў пальцамі гузікі.— Так, пэўна, лепш. Не трэба паказваць перад іншымі, хто мы. А гэтае быдла трэба добра школіць. Бачыш, нават у канаўку зрабіць што трэба не могуць, цураць во пад ногі,— шырокім натужлівым крокам ён пераступіў едкасмуродную лужыну на жоўтай кафельнай падлозе і выйшаў з мураванага, з аконцамі і камінкамі, чыстага пабеленага туалета.

У гэты час раптоўнаю маланкаю палыхнула высокае вогнішча, і, счакаўшы, сюды дакаціўся і грымнуў тупаватым ляскатам далёкі ўзрыў.

І нібы папхнуў у плечы Камашылу — той пакаўзнуўся на сцежцы:

— О, падлюкі, грымнулі, аж...

— Ды вунь у прадмесці,— Міця махнуў рукою на залацістае полымя, што шугала між доўгіх будынкаў, і ад якога поўз угору вялы, падсвечаны чырванню, дым.

— І пад носам у казачкоў,— задзёр голаў і паглядзеў на гэты пажар Камашыла.— Ці не нафтабаза?.. Зараз трывога будзе. Прапала наша ноч.

І праўда, на шапаткі, усыпаны жвірам двор з глухога з зацемненымі вокнамі будынка казармы выскоквалі салдаты.

— Прыспешым крок,— Камашыла першым ірвануўся туды, да цёмна-вірлівай купы людзей.

За ім пабег і Міця, удыхаючы на поўныя грудзі свежы

вецер, што пах полем, раскіслаю зямлёю, блізкасцю зялёнай вясны.

Асвяціўшы высокай яснасцю неба, пажар кідаў рэдзенькія водбліскі сюды, на маладыя з белымі камлямі бярэзінкі, на перапуджаных, што перамаўляліся, салдат, на жоўтыя сцены казармаў, адбіваўся, як трывожны захад сонца, ломкай чырванню ў частых, нібы пакратаваных, шыбах вялікіх вокнаў.

...У казармы вярталіся, ужо згасалі зоркі, і ў бярозавым гайку тонецька адзін перад адным высвіствалі дразды. У горадзе, перабраўшы ўсе вуліцы і завулкі, яны так нікога і не знайшлі. І нехта падказаў, што група — чалавек сем узброеных — пасля пажару нафтабазы была відаць на балотцы: грэбляю праз лазнякі ўцякала за груд, на блізкія ад горада хутары. Кінуўшыся і ўжо, вядома, позна, акружаць хутары, яны на полі насцігнулі пустую без фурмана падводу, а ў блізкай да дарогі хатцы, дзе ляжаў хворы на тыф, Камашыла дагадаўся падысці да ложка і адкінуць на хворым коўдру — там аказаўся адзеты і нават у ботах малады і, як можна было пазнаць па гутарцы, нетутэйшы хлопец.

— Гэта той, што біў майго бацьку,— ідучы за возам, у якім ляжаў са звязанымі назад рукамі невядомы хлопец, Камашыла, шалеючы ад нейкай гарачкі, штурхаў локцем Міцю.— Той, кажу.

— Адпусціць трэба было. Якая халера пагнала цябе да ложка.

— Успомніш некалі мяне, калі ты нарвешся на іх, як яны цябе адпусцяць... Хіба на той свет.

— Злы ты, Костак, стаў.

— Дабратою на гэтым свеце не выратуешся, запомні, Корсак! — і ў Камашылы заскрыпелі зубы.

## XI

Двое конных — адзін у чорнай шыракаплечай бурцы, другі ў нямецкім шынялі, але абое ў сівых кубанках і абое на добрым падпітку,— уз'ехалі на цёмна-зялёны ад ільснiстай руні і крутаваты грудок.

Чорства-хрумсткая жвірыстая дарога закруцілася разарваным чарвяком і папаўзла ў даліну да верасаўскіх хутароў, гэтакіх шара-папяловых, як і сама яшчэ незазелянелая веснавая зямля.

Хмурачыся ад нізкага сонца, што вызірала і хавалася ў

навале сініх з сляпуча белымі краямі хмар, і яны задралі тлуставата-чырвоныя набрынялыя твары і абвялі вачмі сінятую, завешаную смугою далечыню. Адзін з іх, маладзейшы, даўгашыі, у расшпіляханым шынялі раптам прыўзняўся на голай калодцы сядла і замёр,— праз шум вільгатнаватага мяккага ветру ён учуў песню.

Пасярод шара-злінялага лужка з першымі лапічкамі акрыялай травы пераліваласяі трапятала рабенькае азярцо. Да вады, дзе выскачыла першая трава, лезла ненаежная, згаладалая вішнёвая карова, і гуртом пры дарозе пасвіліся тры сівыя авечкі з двума чорнымі асенчукамі-ягняткамі. Седзячы пры дарозе на замшэлым пляшывым валуне, спявала не вельмі моцным і стройным, што зрываўся, голасам дзяўча-падлетак.

— Слушай, поймать бы,— яшчэ вышэй на страмёнах падняўся казак у расхлістаным шынялі.

— Ково? — сонна і драмліва адазваўся той, што быў у чорнай бурцы.

— Да вон поет, едри ее вошь,— даўгашыі аблізаў перасмяглыя губы і шпорамі падцяў каня пад бакі.

Балюча ўздрыгнуўшы, конь ірвануўся супраць шумлівагугога і парнага вясновага ветру.

— Ты это шутейно, аль всерьёз? — захлябнуўся ад ветру старэйшы.

— Какие еще шутки, если я по бабе соскучился.

— Ты погоди, Терентий.

— Не боись, старый хрыч.

— Партизаны могут быть там.

— А черт их поймет, где они есть, а где их нету. Держи за мной. Слышишь?

Казак у чорнай бурцы моўчкі турзануў повад, і конь, бачачы перад сабой другога, паляцеў наўскапыты.

— Я уже не помню, когда бабу имел. Думаю, и тебе невтерпеж. Правду говорю, аль нет? Ха-ха-ха,— зарагатаў малады, падтрасаючыся на цвёрдым без лямцу сядле, і пачаў заязджаць ад хутара, каб пераняць дзяўча, калі яно шмыгане дадому.

Але, крутнуўшыся на камені, дзяўча толькі ўстала, учуўшы, мусіць, у сябе за спіною стукат конскіх капытоў і ўстрывожана-пудка пазірала на конных, што галопам імчалі сюды, да трапяткога, зморшчанага азярца, і, як чуючы якую бяду, падняла пысу, уцягнула ў вялікія чорныя ноздры паветра вішнёвая карова.

Даўгашыі нечакана спешыўся, скінуў шынель, махнуўшы

яе на голую люльку сядла, а падаў повад таму, што быў у шырокай з вострымі плечукамі, нібы павешанай на калок, бурцы:

— Подержи, Гаврилыч, я ее зараз,— і засмяяўся, жмурачы чырвоныя вочы на адутлавата-набрынялым ад перапою твары.— А девка хороша. Нерожалая, как у нас говорят.

З карабінам наперавес, няцвёрдым крокам пайшоў да сівага замшэлага валуна, за якім баязліва, чуючы трапяткі, адчайна-халодны стук і боль у сэрцы, стаілася чатырнаццацігадовае бялява-курносае дзяўча.

Яно то сціскала ад страху кулачкі, ажно рабіліся белымі пучкі, то расціскала іх.

Казак, шоргаючы аб леташнюю чараду ботамі, блізіўся да яго і, нечакана працягнуўшы руку, прыжмурваючы адно вока, лісліва зацягнуў:

— Милушка, не бойся, иди сюда.

— Што вы, адчапецеся,— уздрыгнула і замахала локцямі, як падбітая пташка крыллямі, збялелая дзяўчынка.

— Не вздумай тикать,— казак зачапіўся за купіну і падняў з вачэй сівую з сінім верхам кубанку.— Видишь винтовку — убью.

— Вой, дзядзечка, не чапай мяне! — з плачом заенчыла і замільгала ружаватымі босымі нагамі на другі бок азярца перапуджаная дзяўчынка. На плячах у яе толькі запузырылася і затрапятала ражком выцвілая лёгка-паркалёвая хустка.

— Ишшо чего,— зняверaны казак прыляпнуў рукою па гладкім прыкладзе вінтоўкі і марудна пераступіў высокую з пучком леташняй цыбулі рудую купіну.— Этак и убежит, гадина.— І азірнуўся на напарніка, што спакойна сядзеў на мокрым, што льсніўся да поту, чорным кані: — Не давай уйтить, Гаврилыч!

— Ай дурак, ты Тереня, ай дурак,— засмяяўся ў адказ Гаўрылыч, скоса паглядаючы цераз вуглаватае плячо свае буркі на блізкі хутар: адтуль, мінуўшы прысадзістае з аб'еханай страхою гумно, наўскос па карычневай раллі, што пырснула рэдзенькімі ўсходамі ружаватага аўса, бегла праставалосая маладзіца. У руцэ ў яе бліскаў вастраваты, абслізганы да пякучага халоднага бляску стары капач. Яна крыкнула здалёк, захлынуўшыся стрэчным ветрам:

— Адступіся ад дзіцяці, людарэз!

— Вона еще одна, ух шустрая какая,— паварушыў шырокімі плячмі варсістай буркі той, што быў на кані, ужо не-

малады, з ружаватай, мусіць, алергічнай чырванню на лобе.— Уж эту я не обойду милостью. Эта уж моя,— і, калоцячы локцем, ён затурзаў за повад, падагнаў насустрач раз'ятранай, безпамятнай кабеце свайго каня, загарадзіў дарогу.

— Адыдзі, злыдзень! — яна махнула капачом перад ашчэранаю, з вялікімі жоўтымі зубамі канёваю храпаю.

— Ма-ма-чка-а, сцеражыся, яны з руж'ямі! — крыкнула з-за сіняга азерца дзяўчына, пазіраючы, як з каня злазіць той, яшчэ страшнейшы, вусаты, у чорнай варсістай бурцы.

— Двух смерцяў не бывае. Але няхай ужо крые бог, каб гэта рабілася на вачах у мацеры,— яна занясла над галавою капач — страшная, з брыдкай мінай адчаю на твары, і ўпаркапача, бяспамятна пайшла на вусатага ў шырокіх, запраўлета, бяспамятна пайшла на вусатага ў шырокіх, запраўленых у боты шараварах, што ўжо скінуў бурку, застаўшыся ў цёмна-сіняй гімнасцёрцы, падперазанай вузенькай, з меднымі наклёпкамі папружкай.

— Ма-ма-чка-а! — заенчыла з-за азерца дзяўча, бачачы, што зараз мае быць нешта страшнае,— уцякай ты ад яго. Ма-ма-чка, уця-ка-й-й!

— Брешешь, не уйдешь, и ты, гадюка! — раз'ятрана трасучы кулаком і падмахваючы сабе карабінам, расчырванелы і задыханы маладзейшы казак абягаў азярцо.

— Злыдзень, злыдух, не зловіш ты мяне,— зларадліва і адчайна закрычала дзяўча.— Партызанам вось скажу!

І, выбегшы з лужка на поле, пачала гразнуць у карычневай васпавата-мяккай, падзёўбанай дажджом раллі, на якой востра-ліловаю шчоткай угледзіўся ўжо порсткі авёс.

— Стой! — крыкнуў малады даўгашыі казак, раздзімаючы чорныя злыя ноздры.

— Не пацэліш, не! — адазвалася яна і нават са смехам.

Казак, падкусваючы ад злосці губу, ускінуў карабін, прыкленчыў і турзануўся ад вострага з кароткім ляскам стрэлу.

Нізкі стрэл, што тройчы рэхам аддаўся ў лагчынцы за Прылуцкімі хутарамі, дагнаў дзяўчыну якраз на сцежцы — палявой дарозе, што адлучалася з шырокага гасцінца на хутар з трыма будынкамі — доўгім замшэлым гумном, хлеўчыкам і хатай, перакрытай новым, яшчэ непацямнелым з восені акалотам.

Дзяўчына, як ад жаху, узмахнула рукамі і паляцела плячмі назад — на шарую кудзелістую траву, праз якую ўжо тачылася маладая, і моцна, захлынаючыся крывёю,

застагнала, не ўчуўшы ўжо, мусіць, свайго астатняга стогну.

Барабанячы па тонкіх каленях падвязанай качалкай, з перапуду гэльцнула старая авечка, і ўслед за ёю пудка панясліся астатнія.

Карова, падняўшы цяжкую галаў, вялікімі сіняватымі вачмі з дзівам глядзела, як распаўзаўся, спуджаны стрэлам, чорны клубок, што віўся на пухкай, падзёўбанай дажджом раллі,— там, распараны, разамрэлы да чырвані немалады казак у шырокіх, запраўленых у жоўтыя юхтавыя боты шараварах ніяк не мог адужаць пруткай у руках, шустрай маладзіцы, хітра кінуўшы на яе бурку і падножкай падкасіўшы на раллю.

Ён першы і падхапіўся, устрывожаны гэтым тупаватакароткім стрэлам і першы дабег да чорнага няскладнага каня, што адарваў ад паўмежка галаў і чуйна стрыг вушмі. Кінуўшы на локаць шырокую бурку, злавіў нагою пабітае ржою стрэмя, што калыхалася пад бокам у каня, і ўспоўз на сядло.

Боты кованымі абцасамі жорстка падшпорылі каня, ажно той, задзіраючы расшчэмленую цуглямі пеністую храпу, ірвануў галопам. За ім, трасучы сядлом, на якім ляжаў кінуты шынель, нібы прывязаны, пабег другі. З яго памалу спаўзаў, нарэшце шухнуў пад конскія ногі зеленкаваты нямецкі шынель.

— Стой-й-й, в гроб твою мать! Вертай назад, говорю! — трос вінтоўкай і бездапаможна азіраўся малады даўгашыі казак, папраўляючы кубанку: хутары падазрона пачалі ажываць, бегалі людзі, адтуль чуўся голас і крык.

З-за крайняга прадаўгаватага гумна з прадранаю да зялёных лат страхою пачалі бухаць расцяжна-тупаватыя, яшчэ не меткія стрэлы.

Казак дабег да шыняля, падхапіў яго, перакінуў на руку і заспяшаўся па чорствым гасцінцы, чуючы, як блізка ў пясок чвякаюць кулі і ззаду, недзе каля дзяўчаці, адчайна, бяспамятна енчыць і поўзае кабета:

— Вой, людцы, вой родныя, забіў!..

Убачыўшы чорна-калючую разложыстую грушу з сівазамшэлай пад ёю крушняй, казак што было моцы стараўся дабегчы туды, каб там ужо залегчы і адстрэльвацца. Тлела кволае спадзяванне, што за грушавым камлём і крушняю будзе хоць які ратунак.

Але раптоўны агністы боль раскалоў вышай калена левую нагу, і ён, страціўшы прытомнасць, нячутным мяшком

пачаў аб'язджаць на жвірысты цвёрды грудок. Ачуняў праз хвіліны дзве-тры, чуючы нязносны боль уназе і сілячыся абмацаць рану рукою.

Але за гэтую руку нехта схапіў яго і турзануў да сябе, зноў развярэдзіўшы нязносны боль у назе. Перасільваючы яго, мярцвяна-белы ў твары казак адкрыў цяжкія, зліплыя павекі: над ім разгарачана соп малады курносы хлопец у збітай набок кепачцы. Чорныя вочы яго блішчалі вар'яцкай радасцю.

— Жывы, гадзіна! — крыкнуў хлопец, падбіваючы вышай сваю кепачку. За ім, нізкім і дробным, стаялі яшчэ двое — рослых: адзін чарнамазы, вуграваты, другі — бялявы, з шара-лупаватымі на выкаце вачмі.

— Цягні яго на дрывотню пад калодку. На такога і пулі шкада,— сказаў вуграваты, падтрасаючы на плячы дзесяцізарадку.

— Памагай, чаго стаіш,— павярнуўся да яго курносы, перамяняючы ў руцэ аўтамат і зыходзячы на другі бок за ледзь жывога, збялелага ад страху і ад болю казака.

Гэта быў Жэнік Рэпка. Конных казакаў з мурзатага акна свае хаты ён згледзеў адразу, як тыя паказаліся на грудку. Яны, трое партызанаў, якраз адмываліся ад балотнай руды і падсушвалі манаткі, прыбіўшыся на Прылуцкія хутары з-пад Дварчан, дзе напароліся на засаду. Іх знянацку і няждана абстраляла чыгуначная ахова, затоеная пад каменным мосцікам, пад якім прашмыгвала кружная мястэчковая дарога. Балазе вартавыя не ўтрывалі і не падпусцілі іх бліжай. Але і так першая кароткая чарга падкасіла каня і фурмана, якога яны, як на бяду, узялі з сабою ў недалёкай вёсцы. Яны трое, як мага — і паўзком, бокам і скокам — даперлі да блізенькага балоцістага алешніку. Вывазгаліся, як чэрці, у гразкую смярдзючую руду, але асталіся жывыя. Праўда, адзін з іх у гэтым перапудзе пакінуў на возе сваю вінтоўку, і яны якраз мергавалі, дзе ўзяць зброю; ці не ісці ў суседнія Глінішчы і не адкапаць забітых яшчэ ў сорак першым чатырох байцоў, якіх людзі пахавалі разам з іхнімі вінтоўкамі. І тут на грудку нечакана выраслі двое конных. Што гэта казакі, добра ўгадвалася па чорнай бурцы.

Вышмыгнуўшы ў міг вока з хаты і прыгорблена перабегшы да гумна, партызаны затоена цікавалі, намагаючыся разгадаць, ці гэта разведка, за якою можа з'явіцца казацкая сотня, ці проста выпадковыя прыблуды, што шукаюць самагонку.

Што яны ўжо добра налімоніліся і ім наўме толькі кабеты, выразна распазнавалася па тым, як адзін з іх, кінуўшы на маладзіцу бурку, падтаптаў яе пад сябе, а другі кругом азярца пачаў ганяцца за шпаркім дзяўчом.

Падкрадваючыся паўзком да недалёкага трапяткога пералівістага азярца, партызаны лавілі на мушку гэтага, што, скінуўшы шынель, лётаў за дзяўчом, мяркуючы падстрэліць хоць яго, каб узяць вінтоўку, але тое, што ён нечакана стрэліў у дзяўча, змяніла і перайначыла ўсё. Яны, убачыўшы ўжо, што казакі могуць уцячы, падняліся з разоры і пабеглі сюды. Памог ім болей конь, што, перапудзіўшыся стральбы, кінуў свайго гаспадара і памчаў за конным казакам.

З чацвёртага ці пятага стрэлу куля ўсё ж дагнала перапуджанага казака, што задыхана, з астатніх сіл уцякаў гасцінцам, у адной руцэ несучы згамтаны нямецкі шынель, а ў другой — караткаваны карабін.

Ногі ў яго пачалі заплятацца, і ён, ранены разрыўною куляй у калена, ляпнуўся між каляін шарага гасцінца і замёр, страціўшы ад болю прытомнасць.

— Наш, ядры яго за ногі! — крыкнуў радасна-ашалелым голасам высокі вуграваты партызан, які і падстрэліў казака.

— Вінтоўку хватай,— загадваў, спяшаючыся ўслед за рослым, нізкі і дробны Жэнік Рэпка.

— Глядзіце, хлопцы, каб не прытаіўся ды не шпурнуў гранату,— папярэдзіў трэці, мусіць, баязлівейшы.

— Якая граната, калі ён лапкі адкінуў,— ганарыста сплюнуў высокі, стоячы над параненым казакам.

Цяпер яны, узяўшы яго за рукі, цягнулі па раллі да блізкага за чорнымі крывымі вішнямі і старымі развіслымі яблынямі неагароджанага хутара, дзе збіліся ў купку перапалоханыя хутаранцы.

На шарую з глыбокімі калдобістымі каляінамі сценку, дзе над мёртвым застылым дзяўчом ірвала свае валасы здзічэлая ад гора кабета, ківалася толькі старая нямоглая баба і потым ужо, адважыўшыся, пабеглі іншыя.

— Шкада, што той уцёк, сцерва,— набычыўшы галаў, услед за партызанамі, што валаклі збялелага, які толькі зяхаў разяўленым ротам, хватаючы паветра, параненага казака, няспешна ішоў, несучы яго сівую з сінім верхам кубанку і караткаваты кавалерыйскі карабін — свой аўтамат пакалыхваўся на грудзях — Жэнік Рэпка.

Згледзеўшы партызан з параненым казакам, ад дзяўча-

ці раптам ірванулася, вытрашчыўшы і перакасіўшы звар'яцелыя вочы, нізкая з ледзьве прыкметнай сівізною на скронях, прываблівая сваім хараством круглаліцая кабета.

— Што ён нарабіў, божа літасцівы! Дайце я яго задушу. Божа, што ўчынілася?! Дайце...

І завярнулася назад — яе страшны з падвываннем плач ірваў вільготна-цеплаваты вясновы вецер.

Сюды ўжо, да крайняга пры ржавым у спалавелых барадах сушніку балотцы хутара, перачакаўшы бяду, бо бачылі ўсе з патайных схронаў ды аконцаў, збягаліся хутаранцы, найболей кабеты і дзеці. З дзівам і страхам глядзелі то на Жэніка Рэпку, што, падмяніўшы чарнявавуграватага партызана, разам з другім, высокім, цягнуў да прысадзістага доўгага гумна ледзьве жывога, мярцвянабелага са скалмачанымі чорнымі валасамі мужчыну ў сіняй касаваротцы і ботах, то на дзяўчыну, якую няслі ў радзюжцы і да якой кідалася, трасла і падымала бяспамятная маці, бесперапынку пытаючы:

— Лёрця, Лёрця, ці чуеш? Ну, Лёрця!

— Дзе яна табе ўжо ўчуе.

— А я ж бачыла, як стрэліў... І яна, бедная, толькі ручкамі ўзмахнула...

— Вот кат, такое дзяўчо загубіў.

— Трэба і яго... Напаліў жалеза ды пячы...

— Людцы, лепш не чапайце яго, наклічаце бяду. Людцы, лепш не чапайце.

— Што, даравашь? — крыкнуў нехта тоўстым і гнеўным голасам.

— Ой, мусіць, на гэтым не кончыцца,— чуваць быў ціхі і збянтэжаны голас.

І гэтую чужую перасцярогу і бедаванне перабівала сваім енкам спакутаваная кабета і працягвала да ўсіх рукі:

— Людцы, мілыя, людцы! За што так карае бог? За што? Людцы!

Бабы адступаліся, журыліся адна з адною і з жахам азіраліся, балюча войкалі, убачыўшы, як Жэнік Рэпка з дужым чарнявым партызанам падцягнулі да сырой дрывотні і кінулі пад старую з падсохлым галлём яблыну збялелага, што цяжка і пакутна, як у сне, стагнаў, параненага з заплюшчанымі вачмі казака.

— Сякеру нясі, чуеш? — крыкнуў Жэнік Рэпка нізкаму, даўгарукаму, з вострым гарбом на плячах мужчыне.

— Сякеру не дам. Досіць адной смерці,— адвярнуўся

нізкі, гарбаты мужчына і пайшоў, махаючы доўгімі рукамі, туды, дзе ляжала дзяўчо і дзе збіліся купаю жанчыны, здалёк ужо крыкнуў: — І на якое ліха ты прыцягнуў яго сюды, пад нашыя будынкі?

— Пашкадаваў,— злосна цераз плячо бліснуў бялкамі злых вачэй Жэнік Рэпка і ўскочыў у хату, неўзабаве выбегшы адтуль і несучы ў апушчанай руцэ цяжкую сякеру.

— Божачка, што ж тут робіцца? — Сутулячыся і падымаючы з абодвух бакоў, каб не чаплялася за зямлю, доўгую спадніцу, з раз'еханаю анучай на сівай галаве, спяшалася да дрывотні і коўзалася на плыткай лужыне старая Рэпчыха.

— Маці, не падыходзь, кажу! — крыкнуў Жэнік Рэпка і адбегся да чорнай адзінокай яблыні, дзе на пласце ружаватых трэсак курчыўся і прасіў піць, аблізваючы сухія губы, паранены ў ногу, звар'яцелы ад болю казак.

— Нехрысць, што робіш, нехрысць! — узмахнула худымі пакурчанымі рукамі старая Рэпчыха.— Хай бог карае яго!

Убачыўшы, як казака, узяўшы за рукі і ўшчаперыўшыся жменяю ў яго чорныя калматыя валасы, цягнуць да шарай перакуленай калодкі, старая пачала хрысціцца і падаць на калені.

...Да казака з адсечанай галавою, што ляжала тут жа, ля калодкі, ніхто з верасаўцаў не падышоў, ніхто не збіраўся і хаваць яго. Адчуваючы жудасць і страх у душы і чакаючы новай немінучай бяды, усе скоранька разбягаліся дадому.

Укінуўшы адсечаную з незакрытымі сінімі вачмі галаў у мех, а труп прывязаўшы да гужоў, Жэнік Рэпка разам з двума незнаёмымі партызанамі канём зацягнуў яго ў блізкі хваёвы лясок, там, дзе звыкла верасаўцы хавалі здохлых кароў ды коней, і наспех прысыпаў пяском ды мохам.

На трэці дзень над маладым ружавата-зялёным хвойнікам закружыліся, зляцеўшыся з усіх старон і ўчуўшы труп, чорныя крумкачы. Чуючы ў сінявай сляпучай вышыні панурае крумканне і бачачы чорныя сілуэты з распасцёртымі крыллямі, хутаранскія бабы хрысціліся і ўсплясквалі рукамі: «Ой, гэтыя крумкачы на нешта ліхое ўкажуць». Мужчыны, каб не чуць страшнае жаночае прароцтва, угіналі галаў і ціха адыходзіліся, падмахваючы сабе доўгімі, гаротна апушчанымі рукамі.

## XII

Корсак адчыніў стопку, задыхнуўшыся ад кіславата-віннага паху хлеба — цёмна-карычневыя прадаўгаватыя боханы ляжалі на падвязанай дротам да бэлькі дашчанай палічцы,— і ступіў у настылы поцемак.

За карак зацерушылася нешта казытліва-шапаткое. Падняўшы балячую ў плячы правую руку і мацаючы ёю за каўняром, пальцамі ўчуў слізкія, калюча-пераціёртыя зярняткі і дагадаўся: з падвешанага вяроўкаю да бэлькі палатнянага мяха з аўсом, з праетай дзіркі, жывым раўчуком на гліняны ток плыў, сачыўся паточаны пацукамі авёс. Пад нагамі шапацела слізкая пацяруха.

Ад пацукоў, нібы на якую ліхую бяду, не было ратунку. Яны развяліся кругом: і ў стопцы, і ў гумне, і ў хлеўчуку, а ў нядаўнія марозы цэлым кодлам ляжалі і грэліся на карове, абгрызаючы ён нават загрывак.

«Фу, брыда!» — каб абвыкнуць да поцемку, Корсак заплюшчыў вочы, а калі адкрыў іх, то ўбачыў, як па сцяне ў пазе між дзеравін, спусціўшы хвішчавата-голы хвост, марудна поўз сыты і доўгі, як панчоха, сівы пацук. Корсак павярнуўся кругом сябе і, згледзеўшы пруток ад даўнейшых нічальніц, што стаяў пры вушаку, схапіў яго ў руку і ляснуў ім па сцяне, не мяркуючы, што пацэліць у пацука, але той няждана ляпнуўся на накрыўку кубельца, што стаяў тут пры сцяне, і задрыгаў бела-дзяркатымі лапкамі.

«Каб ты выдах, яшчэ і трапечацца». І Корсак яшчэ раз пацягнуў прутком па мяккім пацуку і, узяўшы яго за халодны ружаваты хвост, панёс са стопкі на двор, шукаючы, дзе будзе той гультаяваты кот, які іх зусім не ловіць і наўрад ці есць.

Прайшоў надворкам і, нідзе не згледзеўшы ката, шпурнуў, размахнуўшы за гэты доўгі хвост, пацука за прыбіральню на сметнік, ганяючы адтуль варону, што хрыпата закаркала, перасеўшы на страху гумна і склікаючы, пэўна, іншых.

Нечаканы тупат коней на вуліцы прыпыніў Корсака каля самага парога — Корсак азірнуўся: у адчыненыя веснікі ўехаў конны вусаты казак у чорнай, пахіленай на адно вуха кубанцы.

Рыжаваты, з нагнанай дыхавіцай конь, скрыгатліва грукаючы падковамі па няроўным бруку, шырокімі персямі наблізіўся да Корсака і цяжка дыхнуў вільготнай парай з глыбокіх чорных ноздраў.

— Лошадь имеется? — казак махнуў караткаватаю, вітаю ў некалькі столак, цемнавата-шараю і круглаю, нібы гадзюка, плёткаю.

— Я ж казаў, ёсьцека ў гэтым двары конь,— Корсак учуў глухаваты, нібы патайны голас Броніка Літавара.

— А табе што да чужых коней? — Корсак насупіў бровы, вызіраючы туды, на вуліцу, і ўбачыўшы асарамачанага, чырвонага ў твары, што гнуўся каля плота, папраўляючы кепку, нібы закрываючыся ёю, Броніка Літавара і яшчэ аднаго, рабога, таўстагубага казака на буланым недагледжана-здыхляватым кані.

— Гэты ж тыдзень я за старасту,— схаваўся за коннага казака Бронік Літавар.

— Быў, здаецца ж, і я, але да цябе ніякай брыды не прыводзіў.

— Ты, старый хрыч, вот что,— заварушыў тоўстымі, вывернутымі і патрэсканымі губамі той самы рабаваты казак, што спыніўся на вуліцы.— Седлай коня!

— Як сядлаць? — развёў рукамі Корсак.

— Запрагайце, дзядзька Улас,— падказаў Бронік Літавар.— На хутары Прылуцкія едзем.

— И крепко запомні,— зварочваючы каня на вуліцу, адазваўся гэты, што быў на надворку, і, хрыпата адкашляўшыся, грозна прыстрашыў: — Запрагай шибко, а то бить буду.

— Біць ды катаваць людзей вы здатныя, ого.

— Ты чегой-то толмачишь, старый хрыч? — прыпыніўся і прыляснуў сябе па халяве плёткаю вусаты казак.— Собирайся, да живо! Не неволь, а то возьму ды взаправду череп проломаю.

... Пад Ваўчкову хату, дзе збілася фурманак дзесяць, Улас Корсак пад'ехаў астатнім. У душы яшчэ ўсё кіпела, пераварочвалася злосць за знявагу ды ганьбу, за гэтае лютае падстрашванне на казака з апушчанымі рыжавата-падпаленымі вусамі, што ўсё свянціўся, падмахваў сабе шарачорнаю, круглаю плёткаю з пляскатаю, як у гадзюкі, галавою.

І да гэтай злосці дамешвалася нешта яшчэ ненавісна-агіднае, як да таго доўгага, нібы панчоха, з ружавата-голым хвастом пацука, якога ён шпурнуў на сметнік.

— Ты, сударик, сюда, поближе подъезжай,— зноў востра зіркнуў на Корсака той самы чарнабровы з падкуранымі рыжаватымі вусамі казак, таксама не забыўшыся пра сваю нядаўнюю злосць.

Каб не зачапіцца воссю за вялікі сіва-замшэлы камень, што ляжаў каля бэзу, які набрыняў почкамі, Корсак аб'ехаў колькі фурманак і стаў каля другога воза, не вытыкаючыся наперад.

— Дзеля чаго ж нас сагналі? — кінуў вокам на апанураната, што нібы драмаў, угнуўшы голаў і трымаючыся абедзвюма рукамі за вяроўку, якою была падпяразана яго шарая, паточаная моллю гаматная сярмяга, Язапата Змыслага.

— Ці не знаеш? — не падняў галавы Язапат Змысла, смокчучы пляската-расслінены канчар папяросы.— Пажыткі будзем звозіць, дабро людское. У Прылукі едзем. Ці не спаляць іх.

— За што гэта?

— За забітага казака помсцяць. Глядзі, каб і нас з дымам не пусцілі.

— Што ты кажаш?

— Кажу?..— Змысла сплюнуў недакураны канчар.— Ці сам не дагадваешся?

Але гутарку перарваў сіпаваты крык вусатага:

— От-ста-вить разговорчики! Трогай за мной!

Зарыпелі хамуты, кручаныя сырамятныя гужы, што пахлі свежым дзёгцем, заляскалі, перавальваючыся і трапіўшы скрыгатліваю, ажно шэрхла скура, шынаю на камень, пустыя вазы з торбамі аўса, на якіх сядзелі, спусціўшы праз драбінкі ногі, маўкліва-пакорныя фурманы.

Корсак ехаў другім за Бронікам Літаварам. Убачыўшы за раз'еханым частаколам у Ваўчковым гародчыку каля прызбы малых дзяцей, што капашыліся, як куры, у прыгрэтым пяску, сціпша і ніякавата падтуліў плечы, угнуў голаў. Чорная хмара засланіла свет — на вочы навярнуліся гарачыя слёзы: успомніўся новы, пастаўлены перад вёскаю крыж, на якім вешалі Ваўчка, яго Вольга, што, распусціўшы валасы, бяспамятная і адрошаная поўзала каля гэтага крыжа...

Падбіўшы пераломаны з тлуставатаю плямаю, дзе трэба брацца пальцамі, брыль выцвілай кепкі, Корсак азірнуўся на маўкліва-цёмныя з радужным адлівам вокны Ваўчковай хаты, на маладую гонкую грабінку, што высока паднялася над ражнамі частаколу і выпускала скурчанае, нібы абвітае сівым павучыннем лісце.

«Няўжо ўсё будзе расці, красаваць і пасля нашай смерці? — Корсак машынальна турзануў лейчыну, выкіроўваючы каня на папярочную вуліцу, што з жоўта-разбітага,

пясчанага касагору спаўзала да мігатліва-сляпучай, у асколках разбітага сонца рэчкі пад старыя, тоўстадуплявыя ў камлях, пахілыя вербы.— І кожнае вясны будзе першаю зелянець пад плотам цыліндра; як зелянее цяпер? Няўжо ўсё паўтарыцца нанова? І няўжо гэтаксама чалавек будзе катаваць чалавека, як катуе цяпер?»

Ад вады трапяткое мігатлівае сонца біла Корсаку ў вочы, лезла пад насунены на вочы брыль. Корсак адвярнуўся, схіліўшы набок галаў, і ўбачыў, як, чапляючыся за дзяркатае галлё старых, у жоўтых лішаях вербаў, па сінім небе плыў растала-белаваты месяц. І перад Корсакам уваскрэс той сухі з прымаразкам дзень позняй восені, калі хавалі Караліну: ён, Корсак, стаяў над глыбокаю сінявата-жвірыстаю ямаю, куды на двух раскручаных сувоях палатна апусцілі труну і па якой ужо мярцвяна-глуха грудкамі і каменнямі бухаў халодны пясок, і, каб не ўпасці, адхіліўся ад ямы, закідваючы набок галаў і заплюшчваючы вочы. А калі расплюшчыў іх, то ўбачыў паверх густых, натапыраных хвоечак збляклую поўню.

«Няўжо на нешта ліхое і кепскае варожыць і сёння гэты сярод дня, падталы, як лёд, высокі месяц? Няўжо блізка мая смерць?» Пад нагамі ў Корсака раптоўна і густа зашумела вада, разбітая конскімі нагамі і калясьмі — падводы адна за адною пераязджалі рэчку. У твар нясло жоўта-залацістую напроці сонца радугу холадна-пякучых пырскаў.

Ззаду з чорнага асядланага каня пакрыкваў злосны гарбаносы казак у цёмна-сіняй фуражцы з малінавым аколышам:

—Погоняй-й-й, волчий блуд!

— Едзем, чаго ж там.

— Погоняй-й! — і па нечых плячах, па кажусе, з кароткім ляскам секанула плётка.

Корсак турзануў ляйчыны, падганяючы каня, што прагавіта нагнуўся да вады, заварушыў аксамітна-сівымі дрыготкімі губамі. Воз з цяжкім шумам выплыў на цвёрды, аблізаны вадою пясок. Горка запахла маладым падпараным алешнікам, зялёнаю раскаю ў завоінцы, жабінаю чорна-дрыготкаю ікрою, што цэлымі аладкамі пухка ўздымалася пры беразе. Надзімаючы абапал шырокага рота пухіры, краталі зялёныя жабы і адна перад адною, выцягнуўшы доўгія лапкі, боўталіся ў ваду, выплывалі на другі бок завоінкі.

«Няўжо гэтыя зялёна-лупатыя жабы, якіх ты гадзішся

і да якіх чуеш непрыязнь, лепшыя за чалавека?» — думаў Корсак, пазіраючы на сіняватае шкло вады, якое ламалі і ўскалыхвалі няспешна-лянівыя кругі хваляў.

Расцяжна-глухаваты, далёкі стрэл неспадзявана разарваў Корсакавыя думкі — Корсак азірнуўся. На задняй падводзе з-за каня, што цяжкім капытом дзёўб пясок, вызірнула чорна-пляскатая кепка.

— Людзей там страляюць, ці што? — перакрывілася і адвісла ніжняя губа ў Язапата Змыслы.

— Можа й, так,— сцяўся Корсак.

— Не, пэўна, страшаць,— учуўшы мужчынскую гутарку з пярэдняга воза адазваўся Бронік Літавар.— Кажуць, што арыштавалі старую Рэпчыху.

— Яна ж то пры чым, што сынок удаўся,— сказаў і схаваўся за каня Язапат Змысла.

Нешта жудаснае і балючае кальнула Корсаку ў сэрца — ці намякае і пра Змітрыка. Душа аблілася гарачаю крыўдаю: колькі ўжо начэй і сам не спіць, думаючы пра сына. Даўкі камяк падступіў пад горла — што будзе на свеце, ці вернецца жывы ды здаровы дадому Змітрык? Каб з Наваградка не павязлі на фронт?

— Бацькі ці вінаватыя, што вырабляюць дзеці? Я во сам быў на фронце...— гаварыў Літавар з пярэдняга воза.

— Быў,— аказаўся Змысла...— Але нашто было чапаць казака?..

— А ён? Дзіця рашыў. Няўжо дараваць?..

— Цяпер во ўбачыш, чым абыдзецца ўсё гэта.

Корсак маўчаў. У душы пераварочвалася, кіпела нешта страшнае — няўжо і яго Змітрык недзе там, у чужой старане, дзе чалавек не вельмі тоіцца сваіх грахоў ды ўчынкаў, страляе таксама людзей. Няўжо?.. Няхай крые і адносіць бог!

Фурманкі ўцягнуліся ў смолкі распараны хвойнік з высокімі ялаўцамі, што падступалі да самай дарогі, шоргаючы пруткаватымі калюча-мяккімі лапкамі па восях вазоў і набіраючыся чорна-тлустай каламазі.

На калюча-сухаватай, загнутай хвосцікам верхавінцы высокага ялаўцовага куста пагойдвалася і пацмоквала, пэўна, выгнаная ляскатам калёс са свайго гнязда, перапуджаная карычнева-стракатая пташачка.

Корсак, не бачачы яе, па расцяжным з прыцмокваннем, што паўтараўся па тройчы, чыркаце дагадаўся — янчык. Ён заўсёды вядзецца ў ялаўцах, і яго заўсёды ў звітым з сухой травы гняздзечку шэсць галубенькіх яечак.

«Няўжо самая шчаслівая на свеце істота — яна, пташка?» — Корсак прыслухаўся да далёкага ўжо недзе на другім кусце, куды пераляцеў растрывожаны янчык, пацмокванне і ўспомніў, як днямі ў садку пры завоінцы каршун задраў яго белую, самую нясушчую курыцу: як няма літасці і дабра між пташак, так няма дабра, згоды і павагі між людзей. Няма! Бо няма ўжо нічога святога ў чалавечай душы. Нейкі злы д'ябал, раздзіраючы душу і пад'юшчваючы, змушае чалавека чыніць і тварыць усё злое і грэшнае. Помсціць за сваю крыўду невінаватым. Піць і гвалціць, каб знайсці сабе ўцеху і наталіць сваю прагнасць. Катаваць, калечыць, каб ужо нават з гэтага мець сабе слодыч. Страшную, звярыную слодыч.

Калі ж чалавек пераменіцца? Няўжо было так спакон веку і так застанецца?

Фурманкі, парыпваючы на жоўтым, перасеяным ветрам пяску, што паводкаю падступаў да дарогі, выплывалі з мяккага шуму раскалыханых ялаўцоў і хвойнікаў на звінючы ў вушах палявы скразняк. І праз тугі шум ветру Корсак учуў ужо далёкія чалавечыя галасы — плач дзяцей, трывожна-адчайны крык і галашэнне жанчын.

Каля першага, недалёкага ад фурманак хутара на цёмных конях уздоўж тлуста-льсністай руні, загароджваючы дарогу, грацавала пяць конных казакоў. Адзін з іх, зняўшы кубанку, махнуў ёю, мусіць, даваў знак спыніцца верасаўскаму абозу.

— Ну, чаго он там паникует? — каля Корсака, секучы круглаю нагайкаю каня і пакідаючы пасля кожнага ўдару ўздыбленую шэрсць, да хутара рвануўся скуласты, шырокі ў твары казак з чорнаю шабляю.

— Погоди маленько,— абярнуўся да абознікаў і крыкнуў асіплым голасам другі, хударлявы, на лысым і беланогім кані.

— Ты-р-р! — фурманы лейцамі асаджвалі, прыпынялі сваіх марудных, няспешных коней.

— Што там? — Корсак выцягнуў ногі з драбінак і, узяўшыся за ручку, скочыў з воза на дробна-ружаваты, вытачаны з зямлі спарышнік.

— Людзей, мусіць, зганяюць у гумно,— азіраючыся на коннага казака, ціхавата адклікнуўся Бронік Літавар.

— Няўжо будзе, як у Лезнявічах было? — папаляць людзей? — Корсак, учуўшы нечаканы холад у душы, папускаў у руках лейцы.

— Глядзі, што так,— злавіў з воза ўстрывожаны і Яза-

пат Змысла.— Цяперака і ў ясную пагоду пярун стрэліць.

— Чым жа ж людзі вінаватыя? Чым?! Няўжо бога няма? — Корсак затрос сырамятнымі адшліфаванымі да бляску ляйчынамі.— Мужчыны, трэба ратаваць людзей! Трэба сказаць гэтым нехрысцям, што людзі ж невінаватыя. Трэба хоць шукаць немца — ён разбярэцца.

— Немец тамака, мусіць, ёсць,— сказаў Язапат Змысла, падыходзячы да Корсака.

— Паглядзі каня,— Корсак кінуў Язапату канец лейцаў і падмахнуў сабе вузлаватай з ялаўцовым ружовым пужэльням лёгкай пугай.— Пайду ратаваць людзей. Адзін з адным біся, рэж адзін аднаго, а людзей не чапай! Людзей ды дзяцей не вінаваць ні ў чым.

— Пачакай, Улас! — пачуўся з задніх фурманак перапалоханы голас.— Пашкадуй свае галавы.

— Што сябе шкадаваць,— Корсак свіснуў па пыльнай дарозе вузлаватай пугай.— Калі ўжо тут усяму цаны ды меры няма.

Падводчыкі, сцінаючыся ад дзіва і страху, глядзелі, як ён, угнуўшы голаў, настырна, нібы супраць буры, ішоў да конных казакаў, што бузавалі маладое жыта. Адзін з іх нечакана павярнуў насустрач яму:

— Куда прешь, кормілец?

— Да начальства, да сотніка іду,— не прыпыніўся Корсак.

— Смотри, какой прыткий,— засмяяліся астатнія.

— Вертай назад,— злосна дасмактаў і сплюнуў размяклы канчар папяросы конны, бліжэйшы ад Корсака казак.

— Я сказаў, да старшага іду, сказаць нешта маю.

— Говори здесь — там в беду угодишь.

— Цяпер так: каму бяда, каму нажыва. Я старшаму ... пра парцізанаў скажу.

— Пущчай идет!

— Знамо. Врет он все,— нехаця павярнуў каня злосны казак, прапускаючы Корсака на шарую з глыбокімі выбухтаванымі каляінамі дарогу, што бегла да хутара, дзе ўздымаўся і глух раптоўны жаночы плач.

Там, каля доўгага гумна з аб'еханай саламянай страхою вірыў, бялеючы жаночымі хусткамі, натоўп. Яго акружалі конныя казакі. Востра, раз'юшана, успыхваючы, як маланка, уздымалася ў нечай руцэ шабля.

«Мусіць, праўда будуць паліць людзей»,— Корсак, чапляючыся за леташні сухі быльнік, праз які рэдкімі

пэндзлікамі прабівалася трава, звярнуў з палявой тупкай дарогі на пухка-мяккую раллю, каб выйсці наўпрасты да гумна.

Між хлеўчыкам і хатай, уткнуўшыся дулам гарматы ў камлі чорных крывых вішняў, стаяла танкетка. Адтуль, ад танкеткі, двое рослых мужчын у чорных кубанках, у сцёганых, нападобе фуфайкі, даўгаватых куртках вялі акрываўленую, знявечаную кабету.

Корсак, глытаючы сустрэчны густы вецер і прыспешваючы крок, усё намагаўся прызнаць, хто гэта, але не пазнаваў. «Няўжо яна? Няўжо Рэпчыха?»

Гумно, нібы вышчарыла свой чорны бяззубы рот, нечакана расчынілася. І наступаючы, падціскаючы коньмі, казакі пачалі ўганяць у чорную, вышчараную прорву яго невялікі варухлівы, што закіпеў мурашнікам, натоўп хутаранскіх кабет і дзяцей.

— Пачакайце! — крыкнуў і задыхнуўся густым ветрам Корсак.

Але крык яго, заглушаны енкам, і крыкам, і плачам кабет, ніхто, мусіць, не ўчуў. Не. Адзін малады, курносы ў шынялі з партупеяй цераз плячо казак абярнуўся і турзануў за повад каня.

На сухой спалавелай траве надворка, дзе тлела шараскручанае леташняе лісце ад адзінокай крываватай яблыні, на Корсака наткнуўся цёмнымі персямі конь. З похвы са скрыгатам выцягнулася і балюча бліснула, рассякаючы са свістам вецер, крываватая шабля:

— Стой! Кто такой?!

— Корсак я.

— Какой еще такой Корсак?

— Да немца іду! — крыкнуў Корсак, каб перакрычаць плач і енк, што душыўся і млеў ужо ў гумне.

Але ад танкеткі бліснулі прадаўгаватыя шкельцы ў залацістай аправе акуляраў, і высокі немец у караткаватым шынялі, у фуражцы з серабрыстай кукардай і арлом, у чорных скураных пальчатках, ганарыста падцягваючы плечы ў вузенькіх пагонах, ступаў сюды. Збоку ў яго доўга, ажно да калена вісеў і пацялепваўся жоўты, невядомы Корсаку «кольт».

— Пан, за што гэтая брыда катуе людзей? — Корсак абмінуў коннага казака, наткнуўшыся нечакана на казацкага афіцэра, што ішоў поруч з немцам, таемна прыхоўваючы плётку і задзіраючы голаў у серабрыста-дымнай каракулевай папасе.

Немец нечакана павярнуўся да каракулевай папахі.

— В чем дело? — на лілова-сінім твары казака з тонкімі, падцята-злымі губамі злосна захадзілі, заварушыліся пашчэнкі.

— Перакладзі пану немцу, раз ты перагаворшчык, за што яны б'юць людзей,— Корсак, чуючы, як вар'яцее сам ад наглай злосці, махнуў пугаю на гумно.— Чаму не ловяць партызанаў? Чаму яны ваююць з людзьмі?

— Здесь все вы... Всех вас,— у казака бліснулі касаватыя з чырвонымі ад перапітку бялкамі вузка-падпухлыя вочы, і ён ужо загаварыў па-нямецку: — Ён папракае нас, што мы ваюем з людзьмі.

— Was für ein Mann ist das? Was braucht er nun?[1] — папытаў коратка немец.

— Der Mann ist aus dem Banditendorfe da.[2].

— Warum geht er denn auch nicht in Flammen auf?[3] — немец адвярнуўся, пазіраючы на гумно, дзе праз расчыненыя дзверы рваўся адчайна-балючы плач і енк.

І тут Корсаку на голаў вогненна і пякуча, як маланка, упаў удар плёткі. Перад вачыма, пырснуўшы іскрамі, змерк ясны вясновы дзень. Адступаючыся, Корсак паспеў яшчэ крыкнуць:

— Я не бандыт?! Што ты сказаў немцу?!

Але ад другога ўдару Корсак прыкленчыў і ўбачыў, як перад ім пахілілася, махнуўшы шарым падсохлым галлём, крывая яблыня, як паплыло, закружылася чыстае неба, карычневая ў купінах падсохлага моху страха нізкага хлява.

Ачуняў Корсак ужо ад гвалтоўнага крыку ў халаднаватым гумне, лежачы на току на копцы перацёртай мышамі шапаткой саломы. Нехта памагаў яму падняцца. Гэта была яна, акрываўленая старая Рэпчыха. І, трымаючыся за яе руку, Корсак устаў, цяпер ужо ясна разумеючы, дзе ён і што з ім. Проставалосая, перамурзаная і апухлая ад плачу маладзіца з трохгадовым, таксама сплаканым дзіцем на руках ірвалася туды, да зачыненых ужо дзвярэй, дзе праз густыя шчыліны шчодра лілося святло ратунку, спадзявання і жыцця. Туды цягнуліся, выставіўшы рукі і захлынуўшыся ў астатнім енку, усе. І па іхніх мокрых скамянелых і спакутаваных тварах, прабіўшыся ў гумно, косымі промнямі бегала астатняе, але яшчэ непамерклае сонца.

---

[1] А што гэта за чалавек? Чаго ён тут? *(ням.)*

[2] Ён з той самай бандыцкай вёскі *(ням.)*.

[3] Дык чаму ён тады не ў агні? *(ням.)*

Корсак, нібы схапіўшыся за шарыя з залаціста-мігатлівым пылам слупкі святла, таксама падаўся да дзвярэй, але нечакана гарачы стукат кулямёта папхнуў яго ў грудзі і ён пачаў падаць у мяккую, як салома, і бясконцую пустату. На які, яшчэ астатні міг учуў, што за ім падаюць іншыя.

«Няўжо смерць?» — паспеў ён яшчэ падумаць. І раптам убачыў сябе сярод яснасці дня на пухкай раллі: да яго, распасцёршы рукі, як анёл крылы, плыў Міця. І з астатніх сіл Корсак ірвануўся насустрач яму, раптам перад сконам сваім учуўшы на сабе наваленых людзей і вільготны холад глінянага току, што студзіў нязносны гарачы боль у грудзях, што глыбокай вадою абдымаў і паліў усяго яго.

— Змітрык! Змітрык! — прабіты навылёт трыма кулямі, ён намагаўся яшчэ крыкнуць, але голасу ўжо не было. У яго толькі працягнулася і нерашчымна сцялася ў цвёрды кулак правая рука. І халодная, нікім не бачаная, астатняя сляза пабегла і набрыняла ў кутку яго застылага, адкрытага вока.

## XIII

Апрытомнеўшы, старая Рэпчыха ўчула нязносны, што разрываў пашчэнку, боль і прытарна саланаваты смак крыві. Яе набралася поўны рот. Рэпчыха паварушыла языком, злавіўшы і намацаўшы яшчэ нешта цвёрдае і калючае, як жарства. «Дзе я і што са мною?» — яна хацела падняць голаў, але ў патыліцу стрэліў і нібы раскалоў яе той самы нясцерпны боль. «Я забіта ці жывая?» — Рэпчыха паварушылася і разабрала нарэшце, што ляжыць на току, а на ёй мяккім цяжарам упокат навалiліся сцішэлыя людзі. «Ах, божа, нежывыя!» — у халодным страху варухнулася яна, і ў правай пашчэнцы зноў аддаўся боль. «У мяне, мусіць, выбіты тры кутнія зубы. Адзін — верхні, два — ніжнія: тыя тры здаровыя зубы...» — Рэпчыха абмацала языком калючыя асколкі і выплюнула іх з рота, учуўшы ўжо, што ад болю камянее язык.

«Гэта ж у нас стралялі! Божачка літасцівы!..» — яна пацягнула да сябе самлелую руку і, нарэшце, вырвала яе з-пад шорсткага суконнага каптана, і ўспомніла, што ў суконнай сівай куртцы быў Улас Корсак. Рэпчыха з намаганнем адкрыла цяжкія, як налітыя чым, павекі і ўбачыла поруч каля сябе застылы, у сівавата-радкаватай шчаціне

няголены твар Уласа Корсака. У кутку рудога вока дрыжала, адбіваючы святло, круглая неразлітая кропля слязы.

— Улас, Улас, чуеш? — яна патармасіла яго за плячо, але Корсак не аказаўся.

«Матка святая, пастралялі... Няўжо ўсіх?» — яна павярнула голаў і ўбачыла каля сябе круглявыя ў плюшавай камізэльцы жаночыя плечы,— на іх спадала тоўстая русявая каса, з-пад якой на плюш сачылася рудая кроў. «Аленка, Сяльвестарава Аленка гэта. А дзе ж яе дзіцятка?» — за плячом у маладзіцы, каля цёплых яшчэ грудзей Рэпчыха намацала кучаравую дзіцячую галоўку. «Жывое ці не?» — яна падсунула руку пад слізка-кучаравыя валасы і падняла галоўку, чуючы, што тая каменем ападае з растапыраных пальцаў.

«Людцы! Людцы!» — Рэпчыха прысела, убачыўшы крута сябе груду абы-як пападаных жанчын.

Каля дашчанага пярыла далей ад яе, куды з пабітых, зрашэчаных дзвярэй падалі коса-сіняватыя слупкі сонца, нехта заварушыўся і застагнаў.

«Во жывы»,— не то ўзрадавалася, не то перапалохалася старая Рэпчыха. Вырваўшы ногі, яна пералезла праз Корсака і папаўзла туды, адкуль чуўся гэты спакутаваны, страшны стогн.

За дзвярмі нехта загаварыў, потым пачуўся рогат. Зводдаль ад гумна крычалі па-нямецку: «Штрайхгольц!»[1]

«Што гэта? Няўжо паліць будуць?.. Няўжо шукаюць запалкі?»

Рэпчыха яшчэ з той вайны, калі рабіла ў Дварчанах на нямецкай бойні, прыносячы дадому трыбухі і каровіныя пыскі, ведала, што значыць «штрайхгольц». Тады яна на ваганетцы вывозіла ў выкапаныя зводдаль бойні глыбокія ямы смярдзючыя вантробы. І за ёю нават падходжваў лупаваценька-бялявы і не брыдкі з твару немец, што рабіў на канюшні, даглядаючы сытых коней. І бог адзін ведае, што было б з гэтым немцам, каб яе, тады маладую ветраную дзяўчыну, не адшлёгаў папружкаю і не прагнаў з той нямецкай бойні ўстрывожаны бацька.

І цяперашні голас немца здаўся Рэпчысе чамусьці падобны да голасу таго маладога лупаценькага бялявага немца:

— Штрайхгольц!

«Пэўна ж, будуць падпальваць гумно, як падпалілі ў

[1] Streichholz — запалкі *(ням.)*.

Лезьнявічах, во гэтаксама з людзьмі».— Рэпчыха сцялася і ад болю, што разрываў пашчэнку, праймаючы сэрца, і ад страху, што яна жыўцом згарыць.

Абдзіраючы калені аб халодны палушчаны ток, яна падпаўзла да жанчыны, што, прываліўшыся тварам да дошак, стагнала і курчылася, то выцягваючы, то падцягваючы пад сябе ногі.

Рэпчыха павярнула яе і ўбачыла бялявы ў жоўтых плямах твар цяжарнай маладзіцы — суседчынай нявесткі, што летась прыйшла на Прылуцкія хутары замуж недзе з далёкай вёскі.

— Ты жыва? — спытала Рэпчыха з перапалоху, болю і адчаю, забыўшыся нават маладзічына імя.

— Ой, якая вы, цётка, страшная,— у маладзіцы вырачыліся вочы.— Вы ўся ў крыві.

— Дзіва што,— Рэпчыха падняла руку і на вогненна-балючай шчацэ ўчула цёпла-ліпучую кроў.— Але ўцякайма. Пад падрубу, ці як... Бо згарымо, жыўцом згарымо. Няхай крые бог!

— Я, цётачка, во радзіць буду...

— Можа,ператрываеш?.. Можа, як уцячом...

— Буду радзіць, хоць мне і не пара. Вой!..— застагнала і затраслася ў сутаргах маладзіца, то падкурчваючы, то выпростваючы ногі.

— Во гарыць, дальбох, гарыць гумно,— азірнулася Рэпчыха на сухое патрэскванне і шум агню, што выпаўзаў з-пад застрэшка ў сярэдзіну гумна.

— Цётачка, пад падрубу лезце. Можа, уцячыцё.

— А ты, дзеткі мае?!

— Я ж не магу, у мяне рука прастрэлена і перабіта плячо. Як нежывое, адзервянела ўсё.

— Я ж памагу. Што ты, маладзіца?

— Не, цётачка, не. Ужо з дзецем сваім дайду тут, дзе ўсе.

— Божачка літасцівы, вунь агоны! — закрычала Рэпчыха, азіраючыся на клубок полымя, што віўся пад самую кладку гумна, злізваючы сівыя лапікі павуціння.

Яна пераваліпася цераз пярыла і ў гарачцы, забываючыся пра боль, што камянеў у пашчэнцы, пра кроў, што залівала яе, папаўзла па леташняй, перацярэблянай мышамі саломе, да дзіркі, што свіцілася ў падрубе. Ткнулася лобам у сцяну і пачала грабці халодны сыпкі пясок, каб выграбці камень.

Па гумне ўжо віўся і пах старою саломаю гаркаваты дым.

Пад страхою гуло, як у вялікім коміне, а за пярылам на току нема ўскрыквала і з падвываннем стагнала маладзіца.

«Ах, божа літасцівы, яна, мусіць, родзіць»,— ткнулася назад да пярыла, але, убачыўшы полымя, што бушавала і вілося там каля дзвярэй, пад якімі ляжалі купаю пабітыя людзі, павярнула назад і нарэшце тут, у застаронку, на вышыні грудзей у сцяне згледзела забітае аполкамі аконца. Праз яго, мусіць, лазілі ў гумно каты і ўзляталі нясціся куры — свае і чужыя.

Рэпчыха, ловячы рукамі шурпатыя, патрэсканыя дзеравіны, ускарабкалася, паднялася да аконца і ў бяспамяцтве, у шалёнай гарачцы пачала адрываць закурэлыя пылам аполкі. Дзе ў яе знайшлася і сіла — са сцяны з балючым скрыгатам і віскам лезлі вялікія ржавыя цвікі.

Яна ўсунулася ў праломанае аконца, звалілася на затравелую зямлю і пад чорнаю хмараю дыму, што смурodзіў ужо гараным мясам, адпаўзлася ад гумна, пакідаючы на руні крывяны след. Рэпчыха нават не помнілася, што рабіла. Яе гнала нейкая страхатлівая, нечуваная сіла, што трэба ўцякаць, што трэба ратавацца ад агню. «Не дай божа згарэць жыўцом».

І яна паўзла разам з чорным дымам далей ад хутара, паўзла па кусцістым саладжавым жыце, што не завілося яшчэ ў трубку, покуль не знемаглася зусім і не звалілася ў разору. На нейкі міг яна зноў страціла прытомнасць, ачуняўшы ўжо ад агню — на галаве, прысмальваючы патыліцу, гарэла хустка.. Яна сарвала яе і, глытаючы едкі, смярдзючы дым, папаўзла далей у ялаўцовыя кусты. Ад гумна нязносна і моцна смуродзіла падпаленае мяса — там у гумне гарэлі пабітыя людзі. Там у пякельным полымі гінула з народжаным дзіцем суседчына нявестка.

«Вялікі божа, дзе ж які ратунак, дзе ж якая рада на гэтым свеце?» — Рэпчыха застагнала і ад болю, што хватаў за сэрца, і ад таго, што перажыла, што бачыла тады, калі яе Жэнік прывалок да калодкі раненага казака, што застрэліў суседчына дзяўча, каб адсекчы яму — няхай крые бог! — голаў,— і сёння, калі прыехала танкетка з немцам і хутары пачалі акружаць конныя казакі, зганяючы на выган людзей. І першае, што яна згледзела, усунуўшыся ў акно, як выгналі з Дабруковай хаты, як жонка з хлопчыкам цягнулі хворага на тыф, бяспамятнага ад гарачкі самога Дабрука.

А потым ажно трое з вінтоўкамі падышлі да іхняга ху-

тара. У хату ўсунуўся толькі адзін — двое стаялі напагатове абапал дзвярэй на надворку,— і дыхнуў перагарам ёй у твар: «Выходи-и!»

Да купкі перапалоханых кабет (мужчыны з хутароў уцяклі яшчэ ўчора, пасля той перадрагі, калі казак застрэліў Юзікаву дзяўчыну) яе, старую Рэпчыху, падагналі, мусіць, самай астатняй.

Перад дрыготкімі збялелымі хутаранскімі кабетамі стаяў высокі ў сівай каракулевай, трохі закінутай на патыліцу папасе чырванашчокі, як яна дагадалася, казацкі начальнік і малады бялявы ў скураных пальчатках і вітымі пагонамі нямецкі афіцэр.

— Бандытэн есть? — спытаў нямецкі афіцэр.

Рэпчыха, зразумеўшы, што дапытваюцца, мусіць, наконт таго, хто забіў казака, падышла бліжай да немца — ад яго атрутна, ажно забіваючы дух, пахла адэкалонам,— і цікавата, нават спакойна сказала:

— Я тут адна вінавата, пан германяц... Застрэльця мяне. Нашто ж усіх.

Нямецкі афіцэр, моршчачы злосна лоб, зірнуў лупаватымі вачмі на высокага казака і пачаў здымаць мяккія скураныя пальчаткі — яму, пэўна, зрабілася горача.

— Кто еще знает, где скрываются бандиты? — перакасілася тонкая дрыготкая губа ў казацкага афіцэра.

Жанчыны, сутаргавата ўздыхаючы і тулячы да сябе дзяцей, адступіліся далей. Іх, мусіць, спалохаў гэты нечаканы крык.

— Я ж кажу, адна я вінавата,— Рэпчыха, абыходзячы рослага ў доўгім шынялі і сівай з чырвоным верхам папасе злога казака, падступалася да нямецкага афіцэра.

— Ты, старуха, постой-ка,— казак дужаю рукою хапіў Рэпчыху за плячо і адкінуў ад сябе.— С тобой разберемся.— І сцегануў плёткай сабе па халяве.— Долго думаете... Ну-у-у?!

На нечых руках з перапалоху заенчыла і заплакала дзіця. І, трацячы прытомнасць, збялелы ўвесь абсунуўся з жаночых рук хворы на тыф Дабрук.

— Тогда я прикажу всех вас сжечь... Все-е-ех! — затрос галавою і, заплюшчыўшы вочы, адвярнуўся казак.

— Кажу ж вам, я адна тутака вінавата,— Рэпчыха ўпала і на коленках папаўзла да яго ног.

І тут ёй нечакана, аж зазвінела ўсё ў галаве і пацямнела ў вачах, у голаў смальнуў, як вялізны камень, цяжкі акуты бот.

Там, на раскіслым лужку, дзе зелянілася нізкая першая трава, пачалі яе біць. Ботамі. Афіцэру, падскочыўшы, памагалі яшчэ двое маладых казакаў. Як яна вытрывала і не сканала там на сырым лужку, на маладой траве, ведае адзін толькі бог. Казак з немцам, здаецца, пачалі потым пра нешта распытваць, але яна ўжо нічагутка не чула. Чула толькі боль і шум у галаве. Ачуцілася, прыйшла да памяці, калі прывялі ў гумно.

Гэты шум вірыў у галаве і цяпер. Адчуваючы, што страціць прытомнасць, што яе могуць убачыць, на голай сіваватай ад моху ялавінцы, Рэпчыха з астатніх сіл, падпіхваючыся нагою, марудна на боку падсоўвалася да высокага і вастраверхага, як верацяно, ялаўцовага куста. На яе дыхнула густым пахам сырога моху, гаркаватымі ялаўцамі, і яна, учуўшы радасць выратавання, адкінулася на спіну і паплыла зноў у чорную прорву...

Прыйшла да памяці яна ўжо шараватым вечарам, убачыўшы спачатку на сінім небе вышай ружаватай, трохі блеклай паласы ясную палавінку маладзіка, а над ім і трохі збоку дзве зоркі: адну чырванаватую, дробную, другую — большую і зырка-калючую, а потым учула ўжо і голас.

— А я думала, што ўжо і не даклічуся вас, што вы памерлі ўжо.

Гаварыла Алеся. Толькі цяпер, павярнуўшы трохі галаў, Рэпчыха ўбачыла апухлы ад плачу і акружаны бела-сіняй клятчатай хусткай Алесін твар. Яго абліло рэдкай чырванню нізкае вечаровае сонца. І Алесіны слёзы на шчоках таксама рдзелі, пераліваліся чырванню, выдаваючы кроплямі крыві.

— Я знайшла вас па следу. Ён увесь у крыві... Спадзявалася, што гэта бацька.

— Ён...— Рэпчыха хацела сказаць: там, у гумне, але ўчула, што не можа паварушыць языком,— скамянела ўся пашчэнка і баліць, ные нясцерпным болем косць недзе далей, на патыліцы.

— А божачка мілы,— Алеся здрыганулася ад свае страшнае здагадкі, што бацька там, у гумне, у купе прысыпаных чорным пластом попелу абгарэлых трупаў.— Вы толькі адна вырваліся з гумна... А людзі яшчэ і цяпер баяцца падысці да пажарышча. Людзі адцураліся ды выракліся ўжо самыя сябе.

— Смажыць мяне, смажыць,— зяхнула толькі ротам, але не вымавіла гэтага старая Рэпчыха.

Але Алеся дагадалася:

— Я зараз збегаю. Прынясу вады і акрыцца чым, бо

скалееце за ноч. Вунь які страшны ў вас твар. І распух. Мусіць, разрыўная куля папала, ці што.

Рэпчыха, пазіраючы на месяц, што калыхнуўся пад калючай зоркай, чула, як тупка аддаляліся Алесіны крокі на вузкай сцежцы, што, абягаючы ялаўцовыя кусты, вілася поруч з дарогай.

Яна закрыла вочы і зноў паплыла ў бясконцую і мяккую, як хмара, цемнату, ачуціўшыся ўжо ад таго, што нехта падымаў яе пад голаў і ліў у рот са збанка шчымліва халодную ваду.

— Алеся?..

— Я гэта, я,— азвалася Алеся і знямела ўжо сама, успомніўшы гумно, старую Мондрыху з Еўкай, той вечар, як яна во гэтаксама паіла іх са збанка,— атрутаю. «Пэўна, за гэта да бацькі прыкінуўся грэх, бо згарэў у гумне»,— падумала ў страхатлівай гарачцы яна і адступілася ад Рэпчыхі.

## XIY

Алеся сядзела на парозе і безуважна пазірала, як б'ецца каля карытца з цестам рабенькая чубатая курыца, ганяючы іншых — маладых, танкашыіх, і старых — з касматымі, паабрастанымі пер'ем лапамі.

Каля прызбы ў пяску забаўляўся хлопчык: заганяў у «хлеў» — дзве загарадкі са шчытна забітых у зямлю калочкаў — «карову» і «каня» — два круглыя камяні; чырванаваты меншы — карова і большы, чорна-сіні,— конь.

Алеся глядзела з ласкаю на сына і думала, што ўсё страшнае, што прылучылася на верасаўскіх хутарах, магло прылучыцца ў самой вёсцы. І Алесі ўспомнілася неабгаранае дзіцятка, што ляжала пад мацерай як жывое, толькі язычок дзёснамі сціснуты. Учора на папялішчы гумно верасаўцы разбіралі, выкочвалі з чорнай горбы астанкі людзей — хто пазнаваў па прыкметах, а хто не пазнаваў сваіх. Па недагараным суконным каптане Алеся прызнала, што першым ад дзвярэй ляжаў, як і ўпіхнулі ў гумно, яе бацька.

Цяжка было даць веры, што скручаны, чорны, як корч у рэчцы, гэта труп чалавека, як проста не верылася, што адразу столькі і да агіднасці страшна можа згінуць людзей.

Абгараныя смуродныя косці выграблі з-пад пласта чорнага попелу і склалі ў адну скрынку. У адным шыро-

кім доле, выкапаным пасярод каталіцкіх і праваслаўных могілак, і хавалі, паклікаўшы папа ды ксяндза, што па чарзе гаварылі жалобнае казанне, гэтую вялікую скрыню.

Гора было настолькі нябачанае ды нечуванае, што слёзы, плач, енк ды жалобнае галашэнне здаваліся ўжо нават здзекам.

І ўсе маўчалі, глытаючы цяжкія камякі жалю, і душыліся ад задухі, што гарачынёю падступала да сэрца.

Алеся, варочаючыся з могілак, ішла нібы сляпая, нічога не бачачы і дрыгатлівымі рукамі сціскаючы каля горла вялікую суконную хустку. Рабілася шкада не толькі тых, хто загінуў у агні, а тых, хто застаўся, хто паспеў уцячы з хутароў, каб жыць і ў вечнай пакуце ўспамінаць і бачыць перад вачмі абгараныя косці дзяцей ды жонак. Бо засталіся найбольш мужчыны, якія, прадчуваючы, што не мінецца без аблавы, сышлі з дому.

Будынкаў, акрамя Дабруковага гумна і Рэпкавай хаты, больш не палілі. Адноператраслі, усё перавярнулі ў куфрах ды стопках, хватаючы што лепшае з адзежы і ладуючы нават з падушкамі на падагнаныя фурманкі.

Скаціну забіралі ўсю як ёсць. Не могучы злавіць, стралялі перапуджаных, паўцяканых з хлявоў авечак.

Назаўтра ў Верасава прыбегла мокрае, выкачанае ў гразь Дабруковае цялятка. Як яно адбілася ад грамады і дзе начавала — ніхто не ведаў. Яшчэ не адвучанае ад пойла, яно праз непрычыненыя весніцы прашылася на Алесін надворак і жалосна замыкала. Да часу Алеся і паставіла яго ў сваім хляве.

Бацькавага каня, прывязаўшы да свайго воза, прывёў дадому Язапат Змысла.

Цяпер, стаіўшыся на парозе, Алеся з гаркатою ды смуткам меркавала, што рабіць з дзвюма гаспадаркамі — сваёй і бацькавай, і як наказаць Змітрыку пра гэтую бяду, што ўчынілася на Прылуцкіх хутарах. Трывога брала і пра тое, дзе ён сам? Застаўся ў тых, абгароджаных калючым дротам казармах, што стаяць у маладым бярэзніку перад горадам, ці мо пагналі дзе на фронт?

Учора аб'явіўся ў Верасаве, прыехаўшы з фурманкаю, Жэнік Рэпка. Аб'явіўся белым днём, нават не асцерагаючыся, што можа наляцець на казакаў. Прыпыніўся перад Алесіным дваром, паспешліва пераскочыў цераз драбінкі воза і, папраўляючы на сабе скураны, мусіць, нямецкі рэмень, якім перапаясаў шарачковы пінжак, увайшоў у двор.

Усюды дападная Алесіна сучачка счула чужую фур-

манку яшчэ пад крыжам за вёскаю і на ўсялякае ліха, палахліва заскавытаўшы, шмыганула за хату.

Алеся толькі ўправілася падаіць карову і высунулася з хлява, трымаючы за доўгую ручку старэнькую, прыкрытую па звычцы ад чужога вока злінялым фартухом даёнку.

— Здарова была,— цвёрда і паспешліва павітаўся ён і пыляпнуў рукою па аўтамаце, што вісеў на грудзях.— Ты, кажууць, мацеру знайшла...

— Знайшла,— сказала Алеся, пазіраючы на фурманку, дзе ў палукашку, у саломе ляжаў нехта яшчэ.— Старая Дабручыха яе забрала.

— Як яна?..

— Нічога — жыцьме. Пашчэнку ёй ушкодзіла. А так жыцьме. А ці ж ведаеш, што з хатаю?

— Ведаю. Усё ведаю... Ведаю, што і Змітрык ваш за драпянку прадаўся — пайшоў служыць.

— Ты Змітрыка не чапай!.. Ён бяды нікому не зрабіў.

— А я што?..— нечакана прыпыніўся і пакусаў перасохлыя губы Жэнік Рэпка.

І Алеся тут ужо не стрывала, зіркнуўшы ў яго прымружаныя чырванаватыя ад бяссонніцы вочы, сказала: — Ці не знаеш, што праз цябе вунь колькі людзей згінула? І бацька мой...

Ён рэзка павярнуўся, ад злосці патурзаў аўтамат, прасвідраваў Алесю прыплюшчанымі вачмі:

— Ты гэтыя смерці мне не прыпісвай. А з Змітрыкам не давядзі бог сустрэцца на вузкай дарожцы...

— Паскудства ты! Нават дзякуй не сказаў, што мацеры памагла.

У весніках, збіўшыся з хады, ён прыпыніўся, папярхнуўся нейкім невыразна вымаўленым словам і праз драбінкі перакуліўся ў воз.

«Божа літасцівы, як людзі нішчаць сябе, як шалеюць ад спакусы, каб адпомсціць адзін другому. Няўжо не будзе на свеце праведнасці? І калі ж скончыцца вайна? Чалавек гіне, а свет наўкруг гэтаксама цвіце, красуе. І гэтаксама свеціць сонца. Вясна ўбіраецца ў сілу. Пара прыйшла сеяць ячмень... І трэба ж людзям жыць сярод немінучай смерці».

З-за хаты выкацілася і залілася брэхам сучачка, і кудахнуў з перапуду рабы з бялёса-залацістай шыяй пятух, задзіраючы галаў, закалыхаў цяжкімі цёмна-чырвонымі завушніцамі. На ядзерцы вока падазрона міргала сівая плевачка.

6—3013

Алеся паднялася з парога, борзда зіркнула ўздоўж надворка і знямела ад утрапення: каля гумна, трымаючыся за сцяну, сунуўся зараслы чорна-сіваю барадою, прыгорблены, нямоглы мужчына ў доўгім паліто, што вісела на ім як на калку.

— Ах, матка святая, хто ж гэта? — Алеся азірнулася на сынка, каб хаця не ўбачыў ды не ўстрашыўся гэтага зараслага, у абвіслым паліто, як страшыдла, мужчыны, і пайшла подбегам да гумна.

— Што ты тут робіш, чалавек? — спытала, затуліўшыся пад чорнай, з навіслым галлём яблыняй.

— Смерці шукаю,— ён паволі падняў свой твар з вялікімі ўпалымі вачніцамі.

— Што ты кажаш, чалавек, хто смерць шукае? — яна сумелася яго нечаканых слоў.

Адапхнуўшыся ад сцяны і растапырыўшы дрыготкія апухлыя рукі, мужчына марудна, ледзьве падымаючы нямоглыя, што падгіналіся, ногі, ішоў да Алесі.

— Ты не пазнала мяне? Я — Сулін мужык з Дварчан. Ты чула, ты ведала Сулю? Я — Піня, але ўсе ведаюць маю Сулю. Усе. І ты, пэўна.

— Чаму ж не ведаю. А ты як з таго свету...

— Праўда, як з таго... Кажуць, у гаспадара бога ўсяго многа, а я во апух ад голаду. Я во тры тыдні туляўся па лесе, галадаў і халадаў, а цяпер іду ў Дварчаны, хай немцы страляюць...

— Хто сам ідзе па смерць? — яна нарэшце пасмялела, узіраючыся ў яго страхатлівы, зараслы скалмычанаю барадою твар, на чырвоныя, абсыпаныя жоўтай лускою лішаі на лобе.

— А дзе ж мне дзецца? — ён падняў на яе тужлівыя, аплеценыя чырванню жылак, счахлыя вочы:— Хто сённяшнім часам пашкадуе жыда? Хто пусціць нанач? Кожны сцеражэ сваю голаў.

— Дзе тут усцеражэш. Во надоечы ў нас немцы з казакамі папалілі людзей,— і сцішным, апалым голасам сказала пра сваё гора.— І бацьку майго замардавалі...

Пякучым мроівам на Алесіных вачах задрыжалі слёзы. Яна зграбла іх жменяю, сказала ў паяснелы, як пасля туману, свет:

— Божа, ідзіце ж у хату, хоць пакармлю.

І пабегла першаю, каб падняць на рукі, а то і праўда перапалохаецца, свайго хлопчыка. Адчыніла сенечныя дзверы: Піня доўга, трымаючыся за вушак, пераступаў парог.

У хаце, распрануўшы сваё суконнае на баціставай падшыўцы паліто, ён застаўся ў шапцы і прысунуўся па лаве да стала, да міскі з заскварaным гарохам і пачаў скоранька з прагаю сёрбаць.

Потым, нібы апомніўшыся, азірнуўся:

— Ты даруй, што я перад тваім абразом не скінуў шапку. У нас свой закон.

— Хто знае, дзе наш большы грэх, ешце,— яна падышла да стала, каб узяць міску і наліць яшчэ, і жахнулася: па чорна-рудаватай шапцы яго паўзлі белыя, пляскатыя і нейкія замораныя, як сам ён, вошы. Яны гвіжэлі па каўняры яго зашмуленага, што пах цяжкім потам, пінжака.

Уздрыгнуўшы, скалануўшыся ад гідкасці, Алеся павярнулася да сына, схваціла за руку і выправадзіла за дзверы:

— Ідзі, Генічак, ідзі пазабаўляйся... Я толькі пакармлю дзядзьку, і пойдзем упраўляцца з скацінаю.

Варушачы чорна-сівою барадою, зарослымі няголенымі сківіцамі, Піня ўсё гэтаксама прагавіта сёрбаў добра ўвараны ў гарачай печы гарох.

«Чаму ён гэтак многа есць? Гэта ж з галаду няможна»,— Алеся скоранька прыняла парожнюю міску і сказала:

— Нябось гарох спажыўны, досіць, пэўна.

— Ага, досіць. Дзякую, вельмі ж дзякую вам. І пайду, каб не нарабіць бяды.

— Няўжо ў Дварчаны?

— Туды пайду. Там мая Суля, там буду і я. Некалі казаў ёй: «Едзьмо ў Амэрыку... У пісанні гаворыцца: «Вочы мудрага ў галаве яго...» Я бачыў, што так будзе. Бачыў, паверыце ці не?»

— Чаму ж не? Чалавек чуе, што з ім будзе, чуе,— Алеся пазірала на яго прыгорбленага, занэнджанага, з чырвонымі лішаямі на жоўта-блішчастым, як у нябожчыка, лобе, і сама сабе думала, што да Дварчан ён, можа, і не дойдзе.

А Піня няспрытна, усё не трапляючы апухлымі, на якіх шалушылася скура, рукамі ў рукавы, апрануў паліто і ўсё гаварыў:

— У святым пісанні сказана: «Вочы мудрага ў галаве яго». Пайду куды глядзяць мае вочы, пайду ў Дварчаны, хай страляюць мяне гэтыя недавяркі і людаеды. Іх пракляне бог, ім усё гэта адрыгнецца... Праўду кажу?..

— Праўду, ага праўду,— падтакнула Алеся і адчыніла перад ім дзверы.

Калі ён задушліва засоп у поцемку сяней, падскочыла

да ложка, вырвала з-пад дзяружкі пук саломы, падпаліла яго і порсткім, што суха патрэскваў, агнём, пачала абпальваць лаву, дзе ляжала паліто, стол, пры якім сядзеў ён, згаладалы, апухлы і прагавіта еў гарох.

Прытаптаўшы нагамі ў памялешніку падпаленую салому, узяла з прыпека жалезную засланку, змяла абшморганым дзеркаватым венікам і чорныя чарвячкі перапаленай саломы, і ўсё каля стала і пад лаваю і выйшла з гэтым смеццем на двор.

Стогнучы і трымаючыся абедзвюма рукамі за жывот, на прызбе качаўся ён, Сулін Піня.

Прытуліўшыся да частаколу, палахліва вытрашчыў вочы і збялеў хлопчык.

— Не бойся, сынок,— Алеся шпурнула за частакол смецце і падышла да прызбы.

«Божа літасцівы, сканае яшчэ тут...» Падняўшы чорную бляшаную засланку і нібы засланяючыся ёю, ціха спытала:

— Што з табою, чалавек?

— Рэжа жывот. Як вытрываць. Памру, мусіць, памру,— ён, абсыпаны ўвесь жоўтым сухім пяском, перавярнуўся на коленкі і, згубіўшы шапку, папоўз прызбаю да самага вугла, ткнуўся ў яго лысаватым бліскучым лобам і застагнаў зноў.

«Што рабіць?» — яна ўзяла за спацелую, вільготную ад страху руку сына, прытуліла да сцягна. З перапуду вішчала і круцілася каля ног трапяткая сучачка.

— Чым памагчы? Гэта ад гароху вам...

— Не ведаю... Я пяць дзён не еў... Я ж сядзеў у тваім гумне і баяўся паказвацца.

— Во чалавек, во што ты нарабіў... Але як ратаваць цябе, як? — яна, трымаючы ў адной руцэ вільготна-ліпкую хлопчыкаву руку, у другой — засланку, ускочыла ў прычыненыя веснікі, уважліва зіркнула на вуліцу: там, прыгнуўшыся, памалу да Сымонавага калодзеся яшчэ па бацькавай сцежцы ішла Жыткова Алена.

— Цётка Алена,— не вельмі голасна гукнула Алеся.

— Што? — павярнулася і падазрона глянула з-пад насунутай дзюбком хусткі старая Алена.

— Хадзеця сюды.

Сунучы старыя разбітыя атопкі і парыпваючы драўляным на жалезным вочапку вядром, устрывожаная Алена нехаця падышла да Алесінага двара.

— Гляньце во,— махнула засланкаю Алеся за шаразялёны частакол плота.

Развіжна-марудная Алена зірнула спярша на засланку, потым павяла вачмі пад хату, дзе, скаціўшыся з прызбы, на коленках стаяў і пакалыхваўся, трымаючыся аберуч за жывот, лысы са скалмачанымі доўгімі на патыліцы валасамі дварчанскі Піня.

— Ах, ліха ліхое, што ж гэта? — старая паставіла нялёгкае акованае вядро на ружовы вытачаны шчоткаю спарышнік і падступілася да плота.

— Сулін мужык. Прыбіўся.

— Во як? Няўжо?..— у старой вырачыліся выцвілыя, зеленаватыя вочы з рэдкімі, нібы вышчыпанымі вейкамі.

— Накарміла гарохам, а ён во — канае.

— Ах, божа, мала табе бяды? Гэта ж за жыда, што накарміла, нямцэ ў Дварчанах бабу застрэлілі,— і, задраўшы звялы, зморшчаны твар, затрасла галавою:— Ой, шукае твая лабаціна гуза.

— А дзе дзенешся, цётка, хіба не накорміш галоднага чалавека?

— Пачакай, зараз дамо раду. Выведзем хоць з двара,— старая выступілася са зморшчаных цяжкіх апоркаў і спорным, рухавым яшчэ крокам падбегла да прызбы.

— Можа, вам палепшала? — яна патармасіла Піню за плячо.

— Ага, палепшала,— ён нібы ачуціўся, падняў на яе свае вялікія з жаўтлявымі бялкамі вочы і трасянуў гэтаю лысаю, з сівымі калматымі валасамі галавою.

— Дай, божа... Тады я памагу табе ўстаць, добры чалавеча,— яна ўзяла яго абедзвюма рукамі пад пахі і паставіла на слабыя, гнутка-дрыжачыя ногі.

— А цяпер пойдзем,— сказала яна, і ён паслушна, сунучы дрыготкія падагнутыя ногі ў чорных валёнках з мутнымі старымі галёшамі, выйшаў за веснікі двара.

Старая, маргнуўшы, каб Алеся скоранька прынясла шапку, выправадзіла яго ўжо ў равок, і ён гэтым зялёным раўком пайшоў сам, унурыўшыся, апусціўшы вялыя рукі. І калі яго сутулая, абсыпаная жоўтым пяском спіна пачала хавацца ў глыбокім раўку за вёскаю, у Алесі нечакана тупым болем зашчымела сэрца.

Яна стаяла, трымаючы за руку хлопчыка, і глядзела на сіняватую смугу голага алешніку — і гэты боль рос, горкім адчаем слязіў вочы. У мяккім смутку ўжо думалася, што стары Піня далёка не зойдзе.

— Во і выправадзілі,— засмяялася Алена, паказваючы чорную шчарбіну ў верхніх зубах.

Яна зноў уступілася ў старыя, цвёрдыя, зморшчаныя апоркі, падняла драўлянае вядро і, парыпваючы ім, пайшла да калодзеся.

— Хадзем, сынок, напоім дзедаву скаціну,— Алеся турзанула за тонкую ручку задуманага хлопчыка.

Падыходзячы да бацькавага гумна, Алеся першы раз, здаецца, учула, якая глухата, сціशнасць дыхнула на душу, які смутак абвеяў усю яе. І першы раз у жыцці адзінокія прыгорбленыя будынкі — гумно, пограб з пазелянелаю стрэшкаю, стары хлеў і знябожаная, паточаная шашалем хата — усё гэта здалося ёй адчужаным, далёкім, ніякавата пустым і да адчаю нямым. І Алеся наўзрыд заенчыла і загаласіла:

— А татачка-а-а!.. А любы мой!..

Хлопчык нервова затурзаў яе за руку і ад крыўды, шкадуючы маці, таксама заплакаў.

Нехта чуў гэты плач, спачуваў і думаў пра сваё гора.

## XY

Скінуўшы золкую, цяжкую вечнасць хмурых дажджоў, ясна і высока сінела чыстае неба. У выш да яго абса старых, сівавата-замшэлых дуброў цягнуўся гонкі, абсыпаны дробным лісцем бярэзнік.

Падходжаным, кіславата-цёплым цестам пахла зямля, і па ёй ужо лёгка і шчымліва-радасна было ступаць босаю нагою.

На адзінокім, велічным і прасторным полі, раскалыхваючы на грывастых межах звінючы быльнік, захліставаўся густы вясновы вецер.

Глытаючы яго і чуючы радасна-аднастайны шум у вушах, за плугам ішоў унураны ў свае думкі араты. Босыя ногі адбіваліся чуткім следам на блізкім змалку і свежым халадку раллі. Забываючыся на кароткі міг пра вайну, смерць і пакуты, людзі, пасеяўшы авёс, выходзілі араць пад грэчку. Жывым трэба было жыць.

Зазеляніліся маладою травою лужкі, сыры зацішак лясоў і ялаўцовых кустоў быў белы ад ветраніцы. Адцвіў ружовымі непрыкметнымі ды мала каму знаёмымі кветачкамі, адкурыў жоўтым пылам ды адсыпаў на зямлю дрыготкі дождж расцягнутых таўкачыкаў шары гарэшнік. Каля рэчак, на аблізаным паводкаю і падсохлым пяску расплюшчваў ясныя жоўтыя кветкі нізкі, яшчэ бязлісты падбел.

І першыя, нядужыя яшчэ пчолы стомлена і зманліва падалі на махрыстыя кветкі.

Прыйшло зялёнае Юр'е, але яго ніхто ўжо не страчаў з пастуховай торбаю ды песняю пад вокнамі:

Прыслаў бог па пірог,
А гавечка — па ясчка.
А баран — па соль,
Што мы яго пасём.

Цярпліва, пакутна-сцішана чакалі канца вайны і гаманліва-вясёлыя некалі, разбуджаныя грукатам вазоў на бруку, расцяжна-п'янаю песняю фурмана, а цяпер непадступныя з бункерамі, з вартаю на крыжавых дарогах, затоеныя Дварчаны.

Пераўжыўшы фронт, параненыя немцы, што прыбывалі на папраўку ў вайсковы шпіталь, сцішком сядзелі за калючым дротам, зрэдзь вытыкаючыся на вуліцу. У мястэчку піла і шалела ў гульбе казацкая армія паходнага атамана Паўлава, і ўжо не ведалі ніякага супынку разбэшчаныя ронаўцы. Апранутыя ў старыя, зношана-абшарпаныя нямецкія шынялі, яны з каламутна-чырвонымі вачмі, узбуджаныя і нервовыя, шукалі па мястэчку спярша самагонку, потым ужо з п'янай ашалеласці і дзявок.

Нібы каламутная рэчка ў паводку, чыгунка ў Дварчаны прыносіла і розную іншую брыду; тут круціліся, як у затоне шумавінне, шукаючы прытулку, бежанкі з дзецьмі, адзінокія кабеты, свая і не свая распуста. З валачашчымі дзеўкамі ды маладзіцамі піла і круціла любошчы салдатня ронаўцаў і белаказакаў, цішком ды ўпотай, тоячыся ад сем'яў і знаёмых, падгульвалі дварчанскія паліцыянты.

Адны маўклівыя і ўпарта цягавітыя тодаўцы, найбольш сталыя, гадоў пад пяцьдзесят мужчыны ў белавата-шэрых ад цэменту камбінезонах, у чубатых з доўгімі брылямі шапках, акуратна, не спяшаючыся, адбудоўвалі спалены партызанамі тартак — залівалі выкапаны экскаватарам катлаван і ставілі на пустэльзе каля чыгуначных пуцей, дзе чарнеў высокі леташні быльнік, цёмна-зялёныя для гаспадарчай патрэбы шчытавыя і дашчаныя склады.

Пасля карных аблаў паліцыя з абознікамі прывозіла і ссыпала ў іх збожжа — яўрэйскія пустыя стопкі ды свірны былі малыя, як малыя былі ўжо хлявы для кароў, свіней і авечак — іх таксама зганялі сюды, у Дварчаны. Днямі прытурылі скаціну з Прылуцкіх хутароў.

У тупікі да гэтых, наспех скалочаных дашчаных складоў з цяжкім жалезным лязгатам бufераў і свістком

счэпшчыкаў падганялі пустыя саставы — кароў грузілі ў вагоны і адсылалі на фронт — згаладалым у акопах салдатам патрэбна было мяса.

Даглядаць скаціну — карміць ды паіць яе падрадзіліся местачковыя гандляры, найбольш тыя, хто накраў, не баючыся, што нарвецца на кулю, з былога яўрэйскага свірна шарай скамянелай солі, а цяпер мяняў яе на сала ды мёд, словам — на харчы, каб пусціць ужо іх на абутак ды адзежу.

Гэтая дарога за няпарнымі, садранымі з нямецкіх трупаў ботамі магла таксама каштаваць жыцця, бо вазілі кароў то ў далёкую Вязьму, то ў Рослаўль, трапляючы пад бамбёжкі, а потым, калі фронт прыблізіўся на Захад, дабіраліся ў разбіты, няшчадна спалены з шара-чорнымі каробкамі пустых камяніц, з белымі печамі і грубкамі на пажарышчах Віцебск.

Асцерагаючыся, што немцы могуць злавіць ды пакараць за накрадзеную соль, Янка Вайтовіч кінуў работу ў складзе і зрабіўся сталым памочнікам у немаладога, панурага немца, што суправаджаў кароў на фронт, кожны раз падбіраючы сабе ў помач трох-чатырох надзейных мужчын ды хлопцаў.

Цяпер ён, прынёсшы нават бутэльку каламутнай самагонкі, закаркаваную драўляным заткалам і неачышчаную ад карычневага сургуча, умаўляў Імполя кінуць цэнтральна-гандлёвае таварыства, ці як казалі дварчанцы, ЦТХО, і паехаць разам з ім у Воршу.

— Куды ён паедзе? — насцярожылася Хрысця, паглядаючы на аблыселага, у ценькім, нібы на птушаняці, пушку даўгаватую голаў Вайтовіча.— Хронт, кажуць, бліціцца...

— Яна кажа фронт...— крывіў п'янаватыя губы Вайтовіч.— А чула, што немцы ўвайшлі ў Венгрыю і Румынію?

— Я чула во іншае: казакі прыгналі ў Дварчаны прылуцкіх кароў.

— Мы тут пры чом? — Вайтовіч падняў шырокую ў горле і вузкую ў паяску чарку, калыхнуў ёю да Імполя, разліваючы на абрус самагонку.— Праўда, Імполь?

— Ды чорт ведае цяпер, дзе тая праўда! — Імполь выпіў і пацягнуўся рукою да нарэзанага брусочкамі ружаватага сала з любовымі паскамі.

— Мы не за праўдаю едзем, а па чаравікі... Глядзі, якія выменяў на соль,— Вайтовіч выцягнуў з-пад стала нагу і прытупнуў акутым нямецкім чаравікам з блішчастымі кручкамі на халяўцы.

— Ой, каб за гэтымі чаравікамі ды галавы не пакінулі,—

Хрысця падышла да акна і зашмаргнула пругкую накрухмаленую занавеску.

— Смерць у кожнага за плячмі. Калі захоча, то знойдзе, чаго дбаць,— адкусіў скварку і зачвякаў Імполь.

— Але не дай бог такой, як была ў Прылуках. Страхата не толькі бачыць, але слухаць пра тую смерць,— уздыхнула Хрысця і, абгладзіўшы чорна-паркалёвую спадніцу, прысела на рыпучы табурэцік зводдаль стала.

— Што казаць, гаркаты ды бяды на свеце хватае,— Вайтовіч доўга круціў перад носам у тлуста-слізкіх пальцах кароценька-шырокую, прысадзістую чарку, успамінаючы, мусіць, нешта сваё, балючае, потым прыстукнуў яе таўставатым донцам.— Ну, што ты мне паставіў? Хто такою чаркаю п'е? Хібя лякарства?

— Бяры маю,— нахмурыўся Імполь.

— А твая хібя лепшая?

— Сціхнеця! — павярнулася на рыпучым табурэце Хрысця.— А то Місан за сцяною чуе. Тэлефон сабе правёў. Зараз немцам і патэлефоніць.

— Баюся яго,— папярхнуўся самагонкаю Імполь.

— Глядзі, каб шапка ад страху не паднялася. Адважны.

— Можа, праўду кажа,— і памякчэў ад перасцярогі Вайтовіч.— Воўк сабакі не баіцца, але звягі наравіцца,— і ціха спытаў:— І што гэта за ён?

— Майстрам робіць на вузкай калейцы. Паскудны — усё падслухоўвае, усё віжуе за намі.

— Цяпер на кожнага зважай,— Вайтовіч шмаргнуў жменяю па тлустых губах, абцёршы іх, даканчыў гутарку:— Людзі помсцівыя ды хцівыя пайшлі. Падкусваюць адзін аднаго, як сабачукі. Але ліхата з імі,— ён перакінуў ногу праз заслончык, нібы знарок паказваючы свой новы чаравік у блішчастых гранёных шыпах і падкоўцы на абцасе.— Справу скончым, мусіць, так: я падмоўлю славака адпусціць цябе... Паслязаўтра едзем.

— Ой, і праўда, баюся яго адпускаць,— паднялася з рыпучага табурэціка і паправіла, абцягнула на сабе прыталеную з кароткімі да локцяў рукавамі баціставую блузку збедненая, трохі жаласлівая Хрысця.

Вайтовіч уважліва зіркнуў на яе і па асалавелых, прыгаслых карых вачах, па кругліва-патаўсцелым, ганарыставыпучаным жывоціку яе разгадаў і з нейкім нават нядобрым дзівам падцвердзіў сам сабе — цяжарная. І здзекліва ўсміхнуўся:

— Не бойся, не пакіну там яго.

— Абяцанага тры гады чакаюць,— Хрысця скрывіла падпухлыя з цёмным налётам губы.

— У сераду радзіўся — на ўсё гора згадзіўся,— фарсіста, зухавата разгарнуў і выпучыў свае грудзі Імполь і прыстукнуў кулаком па паласатай са зломленым гузікам кашулі.— Паедзем, чаго там!

Назаўтра прачнуўся ён сцішна-вінаваты з цяжкаю, нібы чаднаю, налітаю звінючым болем галавою, і маўкліва стаў пакаваць фанерны куфэрак, кладучы туды апольчык пахучага ад кмену сала, што нядаўна выменяў на соль, бохан хлеба і, старонячыся, каб не бачыла Хрысця, загорнуты ў старую злінялую анучу паўтарак самагонкі.

Але яе не абхітрыў.

— Нешта ты там падазрона сапеш,— яна падышла да яго і зазірнула ў адкрыты фанерны чамаданчык.

— Слухай, не чапіся,— ён рэзка павярнуўся да яе спіною.

— Перажываю, таму і чаплюся,— яна злавіла яго слізкі ад валасоў карак, пагладзіла па кудзерках у раўку, здушана, працяжна ўздыхнула, потым сказала:— Дый адна баюся астацца.

— Чаго ж гэта? — павярнуўся да яе і зірнуў на жаўтлявы твар з сіняватымі вачаніцамі.

— Чуе маё сэрца нешта нядобрае.

— І што ты прычуваеш?.. Чаго гэта?

— Не казала табе, ці ж ведаеш?

— Пра што? — замёр ужо ён, стаіўшы дых і чуючы, як у самога стукае і абліваецца холадам сэрца.

— Учора мяне напаткаў Жэнік Рэпка.

— Няўжо?.. Дзе?

— Да, як кажуць, на сабачай сцежцы. Недалёка ад бальніцы, у тым прагале, што ў лагчынцы.

— Ці не ён гэта ўчорачы вагон падарваў, што ў тупіку стаіць?

— Які нам інтэрас. Можа, і ён,— яна зацерабіла на грудзях на баціставай блузцы пацерку чырвонага з белым абадком гузіка.— Просіць, каб яшчэ якога лякарства прынясла.

— Ну во, будзеш голаў сваю падстаўляць. Досіць, што мяне тузаў...— Імполь нагнуўся, закрыў вечка фанернага куфэрка. Седзячы на кукішах, паволі замкнуў бліскучаржавы з тонкім вушкам замочак.— Яму лёгка: падкінуў тут агню, ногі пад пахі ды ў лес. А нам?.. Навідавоку ў немцаў...

— І гэта яшчэ не ўсё...— у яе сцішэў голас.

— Ну-у?! — ён, абапёршы рукі аб калені, паволі ўстаў.

— З табою цяжка гаварыць, можа, потым скажу, як з Рослаўля прыедзеш?

— Ды ў Воршу мы з Вайтовічам едзем, чуеш!

— Не крычы, Імполь, крыкам ужо не паможаш. Трывала як магла, не казала. Але ўжо з цярпення вышла — скажу.

— Ну кажы, чаго мучышся,— у Імполя палахліва і насцярожана паднялося адно плячо.

— Надта просяцца пленныя, што ў шпіталі са мною робяць, каб да партызанаў перавяла. Баяцца, што іх у Нямеччыну перавязуць.

Імполь цяжка ўздыхнуў, насупіўся, не знаходзячы месца, пераступіў цераз чамадан, злосна зіркнуў на Хрысцю — яна ўгнула галаў, паказваючы пад з'еханай на патыліцу хусткай сіняваты ў чорных валасах прабор,— і, падкусіўшы край верхняй губы, сказаў:

— Сцеражыся сама.

— Надта ж шкада... Адзін худы, як чапля. Толькі вочы на твары засталіся.

— Нешта расшкадавалася ты...

— Ну во, бачыш, і казаць не трэба было.

— Цяжарная ты. Вунь як зблажэла. Можа, і не пакідаць цябе адну — спытаў і замёр у чаканні Імполь.

— Не, едзь! Перабядую як-небудзь,— яна запясцем размазала на шчацэ слязу, што раптам набрыняла на воцы.

Ён прысеў на заслон, маўчучы паўзіраўся на самаробны фанерны куфэрак, што ляжаў пры нагах, і сказаў сам сабе, але ўголас:

— З'езджу, раз ужо сабраўся.

Хрысця выбегла ў калідорчык і вярнулася са скруткам пахучай у шапаткой кішцы кілбасы.

— Выхавалася ад вялікадня. На, вазьмі.

— Ну, дзякуй табе.— У Імполя ад непрытоенай радасці дрыжалі чырванаватыя губы.

У старэнькай чорнай шафе, у ніжняй шуфлядцы яе з бліскучай фігурнай ручкай ён знайшоў кавалачак лашчонай з сінім малюнкам паперы, укруціў кілбасу, утаптаў у чамадан і падсунуў яго ў куток між сцяною і шафай, кінуўшы наверх яшчэ нялёгкі, хоць, здаецца, на трэцю часць насыпаны соллю, ужо з учарашняга вечара нарыхтаваны мех. І, чуючы ў душы ласкавую дабрату і шчымлівае шкадаванне да Хрысці, выйшаў на двор — трэба было ісці на

станцыю, як напамінаў ўчора Вайтовіч, і загружаць у састаў тыя, пазганяныя з прылесных вёсак каровы. Учора Імполь бачыў параненую ў сцягно: яна накульгвала і цяжка стагнала, і з вачэй у яе капалі слёзы. Імполь завярнуў да брамкі. Няярка, коцячыся белым кружком у сіня-жоўтай хмарцы, у вочы свяціла мяккае сонца. З далёкага гародчыка пахла свежым гноем. На чорнай ліпе, абсыпанай ружовымі пацеркамі яшчэ ненабрынялых пупышак, вясёла-радасна вызвоньвала сініца. З карычневых пікаў, што высунуліся старчма на чорнай горбачцы кветніку, выкручваліся, нібы разяўлялі дзюбкі, ліловыя лісты невядомых для Імполя кветак.

І Імполю нечакана ўбачыліся зялёна-сіваватыя шаблі перакрыжаваных касачоў у далёкім адсюль Мондравым, абгароджаным яловым частаколам гародчыку, Алеся ў бурачковым ватовым каптаніку, у белай у сінія балонкі хустцы і свой сынок. Які ж ён ужо там? Бачыў яго летась, якраз, мусіць, гэтай парою ўвесну тут, на дварчанскай вуліцы — Алеся прыводзіла хлопчыка да доктара.

Імполь цяжка ўздыхнуў, дастаў з кішэні кісет з шапаткім, дробна нарэзаным самасадам, скруціў папяросу, прыкурыўшы і са смакам глытаючы дым, выйшаў на вуліцу, чамусьці падумаўшы, што зноў сустрэне Алесю. Раз думаеш, значыць, яна недзе блізка ці таксама думае пра цябе.

Каля мігатлівага да болю ў вачах шчыкетавага плота, на які аблягалі чорна-шыпаватыя разлапістыя грушы, Імполь прайшоў няроўнаю, з каламутнымі лужынамі пясчанаю вуліцаю, за белым атынкаваным домам з дзвюма драўлянымі патрэсканымі калонамі, што падпіралі фігурны вытукаваны ганак, звярнуў на шырокі ў дзве пліткі тратуар і зняверыўся — пасярод ружаватага бруку вуліцы, цокаючы падковамі, ступаў буланы з белымі паскамі на стройных нагах знаёмы конь.

Няўжо Алесін? Той самы салдацкі конь, што хмыліўся, убачыўшы кабечую хустку, і кусаўся.

У грудзях нешта нядобра і балюча турзанулася — на возе, трымаючы лейцы, сядзела Алеся — зжоўклая, схуднелая ў твары — і да яе каптана туліўся ў з'еханай брыльком трохі набок велікаватай кепцы хлопчык.

Імполь не ведае і сам, чаму гэтак выйшла, пайшоў насустрач каню і схапіў яго за цуглі. Косячы падазрона сіняватым вокам і задзіраючы разяўленую, балюча падцятую цуглямі храпу, конь пудка здрыгануўся і стаў.

— Пусці! — прыўзняла голаў у махрыстай, той самай,

у сінюю балонку, хустцы і разгневана крыкнула Алеся.— На зборны пункт пазнюся.

— Які зборны пункт?

— Пытае які... Нямецкі. Коней выбракоўваць будуць.

— Дай зірнуць на сына.

— Ці сын табе абыходзіць?..

Хлопчык, здагадваючыся, хто, пэўна, перад ім стаіць, сарамяжліва пасміхаўся, хаваў свой дробны рудаваты тварок за маміна рукаво.

Нечаканае шкадаванне, вінаватасць аблілі гарачым болем Імполева сэрца. Але і нейкае патаемнае шчасце падымалася спадыспаду душы — расце сын.

— Расказваюць тут пра верасаўскую бяду,— Імполь падняў проці ласкава-цёплага ветру свой твар.

Алеся паволі, заплюшчыўшы вочы і душачыся слязьмі, адвярнула галаў. Сінявата-бяскроўныя, моцна сцятыя губы яе крыўдна і балюча ўздрыгвалі.

— І пра бацьку чуў?..

Алесіны губы бязмоўна перакрывіліся яшчэ больш у пакутнай несцерпнай міне.

— Можа, чым трэба памагчы? — спытаў ён, ужо адымаючы ад цугляў руку і даючы свабоду нервова-чуйнаму каню.

— Пра помач ён гаворыць... Пастараніся. Но-о! — сутаргавы смех перакрывіў яе схуднелы жоўты твар, і яна махнула, нечакана свіснуўшы перад Імполем пугаю.

Турзануліся і пачалі з вострым ляскатам падскокваць на бруку лёгкія калёсы. У сутоках за белымі мураванкамі разбівалася крохкае рэха. Адступіўшы на крок да тратуара, Імполь слухаў гэты востры і лёгка прыгучы ляскат колаў, глядзеў, як трося на возе і тужыўся і ўсё ніяк не мог азірнуцца сын.

Імполь заплюшчыў вочы, замёр ад шчымлівай, нязносна-балючай крыўды, чуючы пякучую вільгаць слёз у куточках вачэй.

Надвячоркам ужо, вярнуўшыся з чыгуначнай станцыі, дзе ён разам з Вайтовічам і яшчэ трыма местачкоўцамі заганяў па дошках у вагоны перапуджаных і баязлівых кароў, Імполь зморана прысеў на табурэт, нечакана прызнаўся Хрысці:

— Сына сённячы бачыў.

Хрысця, раптам папярхнуўшыся кашлем і задыхнуўшыся, адазвалася не адразу, цярпліва, з адчайным болем памарудзіла:

— Дзе гэта?

— На вуліцы стрэў Алесю з фурманкаю... Падрос хлопчык.

— І цябе прызнаў?

— Саромеўся... Мусіць, прызнаў.— І Імполь засмяяўся, бліснуўшы белымі роўнымі зубамі, і гэты смех Хрысці здаўся брыдкім і дурнаватым.

— Паедзеш у тую Воршу, так купіш яму што,— Хрысця падышла да кафельнай печы з жалезным слупком і дастала чыгунок з уваранай пахучай бабкай.

— У мяне і так ужо хаваецца для яго.

— Што? — гарачы чыгунок апёк Хрысціны рукі — яна з грукатам выпусціла яго на стол.

— Пінжачок вунь у шафе ляжыць. Глянь, на соль выменяў.

Хрысця выцерла рукі аб фартух, асцярожна, нібы баючыся, адчыніла рыпучыя дзверы ў шафе, знайшла там карычняваты ў чорныя балонкі пінжачок. Доўга, маўчучы, разглядала, маўчучы паклала назад. Маўчала і ўночы, старанілася, адводзіла шурпатыя Імполевы рукі, калі ён хацеў прыгарнуць яе да сябе. Толькі наранку, выйшаўшы з хаты і азірнуўшыся на акно з кружком ачышчанага поту, ён згледзеў у гэтым кружку яе заплаканы твар і руку, якою яна хрысціла яго, жадаючы шчаслівай дарогі.

Нешта ўжо добрае перавярнулася ў Імполевай душы да Хрысці, апала даўкая задуха, што мучыла ўсю ноч. Ён ведаў і дагадваўся, пра што з азызлай прыкрасцю маўчала яна, чаго не магла даравагь яму,— ён не адцураўся, не выракся і любіць сына і можа вярнуцца да яе, да Алесі.

Гэтая маўклівая дагадлівасць, неадступная, нелітасцівая злосць між імі ўзнікала ўжо не раз. Нешта помслівае зноў і нечакана ахапіла Імполя. Расхацелася ўжо ехаць у тую Воршу, гібець у гэтым саставе з каровамі дзеля нейкіх лахманоў ці абутку. Нашто і каму ўсё гэта? Няўжо і з Хрысцяй, якую ён любіў так ашалела і моцна, ажно да страшнага, да вар'яцтва, не ўдалося, не выйшла жыццё.

Млеючы ад саладкаватай помслівай злосці, што, можа, і не вернецца ў Дварчаны ні да кога ўжо — ні да Хрысці, ні да Алесі,— Імполь мінуў чорна-сіняватую, перамешаную з вуглем гразь каля тодаўскіх складоў, глыбокі катлаван з рудаватымі горбамі пяску пры беразе, грукат бетонамяшалкі з шараватым бачком, каля якое з тачкаю ўвіхаўся высокі сутулаваты немец у сінім камбінезоне, і падышоў да караткаватага, на восем таварных вагонаў саставу.

Ад яго нясло цёплым духам кароў, свежым гноем і малаком. Дзынкалі бляшаныя вёдры — нехта ўжо даіў. У астатнім вагоне расцяжна і тамліва рыкала, пакутваючы па аднятым, мусіць, надоечы цялятку, растрывожаная карова.

Абвіўшыся белымі клубкамі пары, нецярпліва і зласнавата шыпеў чорна-тлусты паравоз у буйных скалках вады. Каля яго хадзіў з вялікім гаечным ключом заклапочаны і ўнураны машыніст.

Імполь праскочыў праз расіста-вільготную ружаватую пару і ачуціўся каля вагона з чорнаю праймаю расчыненых дзвярэй. У ім бубнілі мужчынскія галасы.

Зазірнуўшы туды, Імполь убачыў у адной, святлейшай, старане вагона шчыльна і акуратна складзеныя, ажно пад самы дах, цюкі злінялага сена, у другой, цямнейшай,— дашчаныя нары, бітоны на іх, Вайтовіча з закачанымі рукавамі і маладога, што ўчора балюча ўразіў, шасціпалага хлопца: на мезіным пальцы левай рукі ў яго вырас, як бывае вырасце адростак морквы, шосты дробны палец.

— А мне надумалася, што ўжо і не паедзеш, што твая не пусціць,— падымаючы вішнёвае высокае вядро і льючы ў бітон з густым пенным шумам свежае малако, азваўся Вайтовіч.

— Ды была трохі баялася,— Імполь спіною павярнуўся і, трохі паддаўшы, спусціў з плячэй на падлогу вагона нялёгкі мех з соллю, потым ужо шаргануў фанерны куфэрак і, стаўшы на прыступку, падняўся ў вагон сам.

— Зараз паедзем,— паставіўшы вядро і прысеўшы на нізкаватыя дашчаныя нары, сказаў Вайтовіч.

— А немец дзе? — ціха спытаў Імполь, прывыкаючы да поцемку ў вагоне і ўбачыўшы яшчэ прыцішанага на нарах, поўнага, рыжаватага мужчыну, што ўсё аціраўся на местачковай таўкучцы, прадаючы з адкрытага чамадана драбязу: шпількі, ніткі, брошкі, каменьчыкі для запальнічак.

— На вакзале малако хоча здаць. У іх свой парадак, каб і каліва не прапала,— сіплавата і трохі нібы заікліва загаварыў местачковы гандляр.

— Якое ўжо малако, каровы перагарэлі.

— Якое ні ёсць. У іх во так...

Немец — немалады, гадоў за сорак мужчына, чарнявы, курносы і нічым не падобны да немцаў, з'явіўся неўзабаве, абышоў вагоны, праверыўшы сам, ці засунутыя і ці ўзятыя на зачэп дзверы, зазірнуў да мужчын, што, ужо распатра-

шыўшы два цюкі, слалі на нары сена, усміхнуўся, загадаў зачыніцца і пайшоў у свой вагон.

Расцяжна гукнуўшы, паравоз здаў вагоны назад, недзе там забуксаваў і, скрыгатліва залязгаўшы цяжкім жалезам буфераў, ірвануў іх натужліва зноў.

Колы па чарзе застукалі на стыках рэек, і састаў, пахіставаючыся і парыпваючы, паволі паплыў з тупіка, з ядавітым віскам заскрыгатаў яшчэ на стрэлках і выйшаў нарэшце на перагон.

— Адчыніце, мужчыны, дзверы,— прыпадняўся на нарах рыжаваты дварчанскі гандляр.

І на яго голас да дзвярэй угодліва і спешна падскочыў хлопец, што ўчора балюча ўразіў Імполя сваёю шасціпалаю рукою. Імполь і сёння ўздрыгнуў, учуўшы нейкую шчымлівую жаласць да яго, бачачы на левай руцэ, што адсоўвала з грукатам цяжкія, на кольцах, дзверы, прырослы да мезінца адростак — яшчэ адзін, шосты, палец. У хлопца і прозвішча было — Шостак. Ці, можа, мянюшка?

Імполь, наровячыся не глядзець на гэты палец, таксама падышоў да адсунутых дзвярэй. У пройме іх пабегла пераездная цёмна-сіняя будка, вартаўнік яшчэ ў польскай рагатыўцы з высока паднятым чырвоным флажком, і далей ужо сівым павуціннем замільгаў калючы дрот, цяжкай жалезнай прорвай загрукатаў мост, бліснула, адбіваючы невысокае трапяткое сонца, нешырокая, завешаная рэдзенькім туманам рэчка, і за ёю прабег, прытоены каля высокага насыпу чыгункі бункер — зрублены з круглых ачэсаных дзеравін дамок і абкладзены зверху дзярном. Яго абкружаў таксама драўляны, з нішамі байніц, з шырокім слоем пяску, каб не прайшла куля, высакаваты вал.

Ад поезда, ад белай пары, якою пачмыхваў паравоз, на самы край высокага насыпу адступіўся немец з вінтоўкаю на плячы, у касцы, насунутай нізка на вочы.

— Во, каб туды гранату,— засмяяўся шасціпалы хлопец, азіраючыся на нары, падсвечаныя жоўтым касаватым сонцам.

— Ты што — дурны ці разумны?! — заварушыўся на нарах рыжаваты мужчына, па прозвішчы Шайпук, як называў яго Вайтовіч, і, угінаючы галаў ад сонца, дастаў з торбы скрутак падсушанай кілбасы.

— А хто чуе?

— Ён пытае — хто? Ды як кажуць людзі, поле чуе, лес бачыць,— і рыжаваты са злосцю адкусіў і пачаў жаваць вязкую кілбасу.— Прыпыніся, хлопец, гаварыць абы-што.

— Гэта праўда, мужчынкі, сцеражонага бог сцеражэ,— глытаючы слінкі, Вайтовіч доўга ўзіраўся, як рыжаваты мужчына са смакам жуе кілбасу.— Немец па-руску трохі знаецца. Так што і праўда маўчэця, каб было далей ад бяды.

Але хто знае, адкуль прыходзіць бяда.

У Баранавічах стаялі доўга — покуль збольшага падаілі перагарэлых кароў, што па каліву, як перад запустам, давалі малака, покуль напаілі ды накармілі іх, нахапіўся вечар. Перапальваючы калючы дрот, за блізкім мурам турмы з высока паднятымі вартаўнічымі вышкамі апусцілася ружовае мігатлівае сонца, што аставалася ў вачах сінімі сляпымі кропкамі. І ў рэдкім поцемку ўжо да гэтай сцяны падбег і, схаваўшыся за штабелямі старых трухлявых шпал, прысеў па сваёй патрэбе шасціпалы хлопец. Пасаромеўся, мусіць, што тут, пад вагонамі, яго ўбачаць мужчыны. Вядома, ён не спадзяваўся, што з вышкі яго найлепш прымеціць вартавы і не разабраўшы, хто ён — вязень, які вырваўся часам з-за калючага дроту ці проста выпадковы чалавек,— будзе страляць.

Шасціпалы, учуўшы першы стрэл, падхапіў рукамі штаны і, на хаду зашпільваючы іх, пусціўся ўцякаць, але тут яго ўжо насцігла і, скочыўшы на плечы, зваліла аўчарка.

Імполь заўважыў гэта тады, калі хлопец, адбіваючыся ад яе, качаўся ўжо на суседнім пуці каля чужога састава.

Імполь, як стаяў з вядром, так і рвануўся з ім на выручку...

— Хальт! — раптоўны кароткі крык спыніў Імполя.

Сягаючы шырокімі крокамі цераз рэйкі і расшпільваючы на хаду кабуры пісталетаў, да шасціпалага хлопца, якога рвала раз'юшаная аўчарка, ірвануліся двое немцаў у чорным — мусіць, з чыгуначнай паліцыі.

Імполь бездапаможна застыў, са страхам і дзівам пазіраючы, як яны, адагнаўшы аўчарку, няшчадна нагамі пачалі мясіць хлопца.

— Гэта наш, во адсюль,— Імполь махнуў вядром, і на яго, ашчэрыўшы пашчу, раптам гаўкнула і паднялася, натапырваючы шэрсць, цёмна-сівая, з белаватай грудзінай аўчарка.

Высокі немец, копнуўшы ботам, за каўнер падняў хлопца і гэтак, трымаючы за каўнер, папхнуў перад сабою пад высокі з калючым дротам турэмны мур. Хлопец ужо ішоў як адрошаны і сам не свой.

Другі, тузаючы за нашыйнік дужую лютую аўчарку, што парывалася назад, да Імполя, ішоў услед за імі.

Спатажаны, разгублены Імполь азірнуўся ўздоўж састава, убачыў Вайтовіча, што, атрасаючы з сябе сена, вызіраў з вагона, і подбегам пайшоў да яго:

— Чуеш? Хлопца нашага забралі.

— Хто забраў? За што? — Вайтовіч злавіў нагою жалезную прыступку і задам скочыў на тлуставатую, залітую мазутам зямлю.

— Ды немцы. Ці не чыгуначная паліцыя. Але павялі вунь пад турму...

— Чаго ж гэта? — расцяжна і спакойна спытаў Вайтовіч і зноў пачаў атрасаць з сябе сена.

— Трэба ж ратаваць! — Імполь нервова за скрыпучы вочап трос вядром.

— Вот галава. Куды ты пойдзеш? Упоцемку і падстрэляць, як качку. Я чуў, як тут бабахалі.

— Дак гэта ж па хлопцу стралялі.

— А што, нам пад пулі лезці? Лезьма лепш у вагон. А хлопец, можа, і сам выцерабіцца.

На нарах у вагоне, як курыца на седале, капашыўся і ўкладваўся спаць сонна-маўклівы Шайпук, падаваў выгляд, што гэтым толькі і заняты. Нарэшце, калі скрыгатліва застукалі буферы вагонаў, калі натужліва зачахкаў паравоз, зрушваючы з месца састаў, Шайпук ачнуўся ад свае дрымоты і, спуджаны, штырхануў локцем Імполя:

— Слухайце, а дзе гэта наш хлопец дзеўся?

— Можа, дзе з немцам,— за Імполя азваўся і пазяхнуў Вайтовіч.

— Я бачыў сам, як у крайнім вагоне, адкрыўшы кансервы, вячэраў немец. І чаем мяне пачаставаў,— зашамацеўшы сенам, перавярнуўся на другі бок Шайпук.— Хлопца там не было.

— Арыштавалі яго,— чуючы злосць і на Вайтовіча, што заставаўся спакойна-раўнадушны, і на сябе, што збаяўся аўчаркі і не выратаваў шасціпалага хлопца, сказаў Імполь.

— Хто?

— Чыгуначная паліцыя. Мусіць, падумала, што ўцёк з-за калючага загараду, з цюрмы.

— Во як бывае,— зноў зашапацеў сенам Шайпук, варочаючыся і, мусіць, не даберучы сабе месца.

Каб перабіць трывогу, што брала ўсіх за хлопца, Вайтовіч пачаў расказваць смешную гісторыю пра папа з ксяндзом, што сядзелі разам з ім у наваградскай турме. Ён дробна і залівіста ірзаў, мусіць, рады і давольны са свайго расказу,

але, убачыўшы, што Шайпук з Імполем маўчаць, сціхнуў сам.

Імполь прытаіўся, слухаў, як пагруквае, едка скрыпіць жалезам, сутаргава падрыгвае і хіліцца набок вагон, прабягаючы круты паварот, як пад саставам страшнай глыбокай прорвай грыміць жалезны масток, як прыцішвае або набірае скорасць паравоз. Думкі яго паплылі то да Хрысці ў Дварчаны, то ў Верасава, дзе бачылася састарэлая, збедаваная і зжоўклая ў твары і ад таго гэтакая непадступная і помслівая Алеся. І нечаканая дасада падымалася на Хрысцю, што і яна гэтаксама злая, задзірлівая і пякучакуслівая, як пад восень муха, гэтаксама па-бабску ўпарта і неадступна. Роспач, як вялікая вада, шчымлівым холадам абдымала Імполя, і ён ужо не ведаў сам, перад кім з іх вінаваты. Сорам, ганьба, брыдкасць гнялі яго, і ён з салодка-пякучым адчаем, шкадаваннем папікаў і вінаваціў сябе. Здавалася непатрэбнай гэтая дарога ў такі страшны і шалёны час, у неразбярыху, з якой можаш не вярнуцца, як не вярнуўся шасціпалы хлопец.

На трэція суткі пад марасісты, нудна-шапаткі вясновы дожджык, ад якога нечакана і светла ўсё зазелянела, гружаны каровамі састаў нарэшце дагрукаў да Оршы. Патурзаўся, паскрыпеў на стрэлках і, здаўшы заднімі вагонамі ўперад, спыніўся ў глухім тупіку каля абгарэлага з чорнымі, прадзьмутымі скразняком праймамі дзвярэй і вокнаў доўгага цаглянага склада.

У загадзя збіты з дошак загарад пудкіх, змучаных за дарогу і схуднелых кароў мужчынам памаглі выгнаць з вагонаў па палогіх шчытах дзве маладжавыя кабеты ў шарых зліпялых фуфайках і гэтакіх жа шарых з кутасамі тараноўках[1].

— З Украіны? — пыталася старэйшая з іх, чарнявая, прыглядаючыся да саматканых суконных фрэнчаў з нагруднымі кішэнямі і суконных з доўгімі адтапыранымі торбамі брыджаў, у якіх смешна і, мусіць, не па-тутэйшаму выглядалі Вайтовіч з Шайпуком.

— Ты не пытай адкуль,— насупіўся Шайпук, зачыняючы дзверы пустога вагона.— А пытай, што маю. Соль у мяне, мяняю на абутак.

— Харашо, мілянькія,— адазвалася другая, паўнагрудая, са спакуслівымі гладкімі лыткамі, на якія ўсё скоса зіркаў Вайтовіч.

---

[1] Шарсцяная вялікая хустка.

— Тады ідзём,— падагнаў яе Шайпук.

— Адпрасіцца мне трэба,— азірнулася яна.— Начальнік недзе там.

— Надзюша, ідзі... Я тут ужо адна ўпраўлюся...— сказала чарнявая, стрыгучы вачмі на маладзейшага сярод мужчын Імполя.

Да зваротнай адпраўкі поезда, як сказаў, бліскаючы залатою каронкай і пасмехваючыся, ціхманы немец, асталася чатыры гадзіны, але мужчыны спехам, каб не траціць лішне часу, вывалаклі з вагона і закінулі на плечы нялёгкія з соллю мяхі.

Шайпук папрасіў Імполя паддаць яму на другое плячо меншы, але таксама нялёгкі мех шасціпалага хлопца; абшарпаны чамадан, прывязаўшы папругаю за ручку, ён павесіў для раўнавагі на грудзі.

Чорнай, шапаткой ад вугальнага шлаку вуліцай, абапал якой у знявечаных садках тырчалі печы са шчарбатымі камінамі і валяліся пакарэжаныя жалезныя ложкі ды па незарослых яшчэ пажарышчах глыбамі ляжаў друз, яны падышлі да страхатліва-абгарэлай на верхніх вянцах і куртатай без сенцаў і даху хаткі. На абваленую столь, мусіць, былі пакладзены новыя бэлькі, а на іх ужо наскідвалі кавалкі ржавай бляхі, рубероййду, лістоў старой уздутай фанеры. Ад чорнага патрэсканага ў вуглах зруба, здаецца, пахла пажарам, смуродлівым і чадным дымам.

— Мы летась ад бомбы згарэлі. На суседні хлеў упала,— сказала маладзіца, з цяжкім рыпам адчыняючы набрынялыя сырыя дзверы.

— А што, часта бамбяць? — Вайтовіч спыніўся перад цёмнаю пашчаю дзвярнога праёму, нібы думаючы, заходзіць туды ці не.

— Часта,— уздыхнула ўжо з поцемку хаты кабета.— Во ўчарашняй ноччу налёт быў. Што вы хочаце — станцыя, вузел.

— Ого, тут і да бяды недалёка,— засоп, пераступаючы парог, пад двума мяхамі солі здарожаны Шайпук.

У нізкай, абклеенай рудаватымі выцвілымі газетамі хатцы з высокага жалезнага ложка ссунула на пакарабачаную абгарэлую падлогу худыя выпетраныя ногі старая кабета.

Маладзіца маргнула ёй, і старая, накінуўшы на галаў вялікую хустку, сутулячыся, выйшла з хаты і неўзабаве, недзе з падвор'яў, вярнулася з «купцамі» — двума нізкімі, драбнаватымі мужчынамі і высокаю віднаю дзяўчынаю,

што трымала ў руцэ белы, завязаны на два вузлы клунак. Яна развязала яго, і Імполь убачыў новыя, падкутыя гранёнымі шыпамі нямецкія чаравікі. Разуўшы свае, разбітыя, з вышчаранымі драўлянымі цвікамі неданоскі, на каравыя смярдзючыя анучы абуў гэтыя, салдацкія, і здзівіўся — яны прыйшліся якраз па назе.

— Колькі? — Імполь прытупнуў па гулкай падлозе нязрушна-моцнымі шыпамі.

— Ці я ведаю? — засаромелася дзяўчына.

— Во сала ў мяне,— Імполь, адамкнуўшы фанерны куфэрак, дастаў пахучы ад кмену і каляндры апольчык сала, выкруціў яго з ліпкай паперы.— У дадатак солі дам.

— Ты там не прадзешаві! — прыкрыкнуў злосна Вайтовіч, нацягваючы на сваю нагу караткаваты і шырокі ў халяве нямецкі бот.

— Вой, даволі,— дзяўчына працягнула абедзве рукі да пахучага апольца.— Я і за палавіну яго аддам.

Шайпук уважна перабіраў выкладзеныя на падлогу з вайсковага рэчмяшка валёнкі, чаравікі і боты, беражліва таргаваўся з гэткім незгаворлівым, як і сам, наздраватым мужчынам, зарослым рэдзенькаю, даўно няголенаю шчацінаю, і найбольш, мусіць, прагадаў. Бо калі вярнуліся на станцыю, дзе рыхтаваўся да адпраўкі састаў, трапіўшы на вочы ўжо ўстрывожанаму немцу, што нават патрос пальцам, пэўна, зачакаўшыся іх, і пачалі яшчэ раз перабіраць свой набытак, раптам усе агледзелі, што Шайпук выменяў неаднакавую пару ботаў.

— Нічога, зносяцца,— суцяшаў яго Вайтовіч.— Балазе не на адну ногу.

— Недзе з забітага садраў,— Шайпук круціў, прыкладаючы адзін да аднаго падэшвамі, неаднакавага памеру боты.

— А што яму, садраў ды прадаў,— махнуў рукою Вайтовіч і павярнуўся да Імполя.— Пакажы ты сваё... Нябось угандляваў, га?

Імполь выцягнуў з мяха новыя нямецкія чаравікі, паднашаныя боты і жоўтыя, на малую нагу, яшчэ адны чаравікі, што выменяла ў яго на соль і астатнюю палавінку апольца ўжо сама гаспадыня.

— Амараканскія, сказала,— пахваліўся Імполь.

— Выраб благі. Ваду прапускаюць,— перабіў яго радасць Вайтовіч.— Але баба зносіць.

— Для яе і ўзяў,— зной пахваліўся Імполь.

— Тады [redacted] цябе магарыч,— турзануў за рукаво Імполя і прыплюшчыў адно вока Шайпук.

— А што, і знойдзецца,— Імполь прыкленчыў каля нараў і з шоргатам выцягнуў свой фанерны куфэрак.

— Ну, малайчына ты,— Вайтовіч ужо трымаў нагатове самаробны кубак — кансервавую бляшанку з прывязанай драцяною ручкай.

Самагонка-пяршак ажно паліла ў грудзях. Задыхнуўшыся ад яе, Вайтовіч паляпаў далоняй па разяўленым роце і падаў кубак Шайпуку:

— Ого, панечку мой, чысты спірт.

— Спірт не спірт, [redacted] халера моцная,— абцёр губы Шайпук.

Імполь сваю долю і не паспеў выпіць. Нечакана нешта пранізліва завыла і цяжкім абвалам раз у раз страсянула поезд.

— Хлопцы, уцякайма з вагона, меціць у нас! — з крыкам Шайпук сігануў у адчыненыя дзверы.

І гэты крык нечакана абарваў яшчэ адзін, ужо самы блізкі выбух. У цемнаватым вагоне ясна-ружаватаю маланкаю палыхнуў недалёкі гарачы бляск, і адначасна з ім Імполь учуў над галавою кароткі сухі трэск. Потым па даху густа і палахліва, як па вечку труны, забарабаніў пясок, каменні, нешта яшчэ невядомае і цяжкае. Вагон калыхнуўся і скрыгатліва зарыпеў. Імполя кінула з гэтым нявыпітым кубкам на Вайтовіча. Вушы заклала абрыдлым, нудна-тоненькім звонам. Але праз яго Імполь учуў, як, натужліва падвываючы, у гэтай звінючай цішыні падымаўся ўгору самалёт.

У дзверы вагона нясло і смуродзіла сінявата-едкім дымам. Штосьці недалёка гарэла.

— Дзе той дурань? — Вайтовіч, не падымаючыся, на жываце падпоўз да дзвярэй і пачаў раптам спешна і з жахам пнуцца назад.

— Што там? — не ўцярпеў Імполь і, не выпускаючы з рукі самаробную бляшаную конаўку, забразгаў ёю, ірвануўшыся на коленках да дзвярэй.

— Не лезь, лепш не глядзі,— хапіў яго за плячо Вайтовіч.— На платформе вунь толькі крывавыя кускі мяса.

Імполь, варухнуўшы плячом, скінуў Вайтовічаву руку і з палахліва-трапяткім, дрыготкім адчуваннем самага страшнага, што магло прылучыцца, вызірнуў у пройму дзвярэй — блізкая ад вагона абсыпаная пяском платформа чырванела ад крыві, ад нейкіх жмутоў і кавалкаў, з якіх сцякала чырво-

на-рдзістая, падсвечаная нізкім вечаровым сонцам кроў. Далей ад платформы страхатліваю глыбаю, разарваўшы, уздыбіўшы рэйкі, цямнела ржава-гліністая яма. За ёй гарэў, суха і вясёла патрэскваючы, нізенькі дашчаны склад. З пасмоленага даху валіў шызавата-цёмны густы дым.

Што на платформе балюча чырванела, крывавілася нешта Шайпукова, здзіўлены, уражлівы Імполь зразумець, паверыць і ўсвядоміць ніяк яшчэ не мог і, адсунуўшыся ад дзвярэй да нараў, усё глядзеў у шчыліну і чамусьці цярпліва чакаў, што зараз у ёй пакажацца чырвоны, здароўчы, з залаціста-ржавай шчацінай твар Шайпука, але заміж яго мільганула пілотка чарнява-курносага немца, і спакойны, нават з усмешкай, твар усунуўся ў вагон.

— Цвей? Во дэр дріттэр?[1] — здзівіўся ён і, хапіўшыся за жалезную планку, падняўся ў вагон.

— Выскачыў,— развёў рукамі Вайтовіч.

— Швахкопф[2],— немец пакруціў галавою.

— Я ж і кажу, дурны,— адхіліўся і заплюшчыў вочы Вайтовіч, і Імполь убачыў, як на іх, адбіваючы святло, заіскрылася халодная сляза.

Немец, ужо асцерагаючыся, што прападуць і гэтыя два, уладна, па-гаспадарску прысеў на нары. Паравоз нячутна, нібы спадцішка, нават, здаецца, не гукнуўшы, зрушыў з месца.

Імполь, бачачы праз шчыліну дзвярэй, як плыве, аддаляецца чырвоная цагляная з чарадою галак вадакачка, учуў жаласлівую радасць, што астаўся жыць, што едзе дадому. Прыгадалася зласнаватае Хрысціна папраканне: «Ой, каб за гэтымі чаравікамі ды галавы не пакінулі». «І нібы ў воду глядзела»,— раптам падумаў Імполь, уявіўшы чырвона-пасінелага Шайпука, што гнуўся пад цяжкімі мяхамі солі, яго бедаванне, што праварoніў ды прамяняў на слоік мёду падношаныя, рознага памеру боты, а потым уявілася платформа ў чырвона-рдзістых, разбэрсаных кавалках мяса, а потым Баранавічы, злая з уздыбленай шэрсцю аўчарка, што ўедліва кідалася і рвала шасціпалага хлопца, што качаўся і курчыўся на тлуста-чорных шпалах.

Вагон вібрыраваў, уедліва скрыпеў, турзаўся і пахістваўся з боку на бок, з дзвярэй вірыў халодны скразняк, і ў аднастайным рытме колаў выстуквалася для Імполя адно слова: «Уцякай! Уцякай! Уцякай!»

---

[1] — Два. А дзе трэці? *(ням.)*

[2] — Дурны *(ням.)*.

Ужо далекавата ад'ехаліся ад Оршы, ужо нахопліваўся вечар, а гэта слова нейкім балючым цвіком сядзела ў Імполевай галаве, і ён ніяк не мог выбавіцца ад яго, покуль раптам не падумаў, ужо з нейкім ціхім спакоем: «А хіба ўцячэш ад яе, ад смерці? І хто ведае, дзе яна падсцеражэ цябе. Хто?»

## XVI

За брамкаю на вуліцы іх стаяла двое — маладжавых, рослых афіцэраў у чорнай форме чыгуначнай паліцыі. Ганарыста выгнутыя фуражкі з белымі арламі і белымі кукардамі, высокія да бляску наваксаваныя боты, на руках скураныя пальчаткі, а пры боку, на шырокіх рамянях, страхатлівыя кабуры з пісталетамі. За іх ніякавата тулілася, трымаючы на руках дзіця, проставалосая невялікая маладзіца з босымі і густа, да чарнаты аброслымі нагамі — жонка суседа Місуна, што рабіў майстрам на чыгунцы і займаў другую палавіну дома.

Немцы, мусіць, некага шукалі. Хрысця, згледзеўшы, што маладзіца торкае рукою сюды, на іхняе акно, скоранька затулілася за сцяну і штырханула Імполя, што, стоячы каля вялікай місы з вадою, сцягваў з сябе кашулю, каб хоць спаласнуцца з дарогі, не паспеўшы яшчэ расказаць, як ад бомбы, выскачыўшы з вагона, згінуў Шайпук і як у Баранавічах, прыняўшы за вязня, немцы схапілі шасціпалага хлопца.

— Імполь! — з адчайным страхам ускрыкнула Хрысця, сціскаючыся ў куточку каля чорнай шафы і чуючы, як адчыняюцца знадворку дзверы.

— Ці знаеш, што я табе прывёз? — засмяяўся ён, нарэшце сцягнуўшы з сябе рубашку і застаўшыся ў споднян палатнянай сарочцы.

— Выскалішся нябось. Немцы вуньдзека ў сенях.

— Няўжо? — Імполь азірнуўся на шкробат і груканне, што чуліся за дзвярмі.

— Прымі хоць свой мех,— здушана зашаптала Хрысця.

Імполь за доўгую жычку схапіў паўнаваты мех, шпурнуў пад стол і, падышоўшы да дзвярэй, нешырока адчыніў іх.

У калідорчыку з дзіцем на руках стаяла Місунова жонка. Твар яе з чорным, добра прыкметным пушком на верхняй губе быў бяскроўна-жоўты, карыя вочы лупата вываючваліся і блішчалі ад сполаху.

— Вы Варабей будзеця? — яна адкінула з брыва аб'еханую пасму валасоў.

— Нібы не знаеш? Варамей ён,— зазірнула туды за дзверы Хрысця.— Што вы хочаця?

— Пан немец вас шукае.

— Чаму мяне, калі я не Варабей,— Імполь, гэтак як быў, у споднят сарочцы, што вылазіла ражком з-пад папругі, выйшаў за дзверы, убачыўшы на парозе калідора аднаго з гэтых двух, разамрэлага з чырванавата-бліщчастымі вачмі, мусіць, ад лішняй чаркі.

Немец махнуў рукою, падзываючы Імполя, і пачаў здымаць скураную пальчатку.

Імполь прыпыніўся, паглядаючы то на Місунову жонку, што па-мышачы ціхенька цiснулася назад на двор, то на Хрысцю, што, прадчуваючы благое ды кепскае, услед за Імполем выбегла ў калідор.

Але немец, ступіўшы за высокі парог і хватаючы Імполя загрудкі, не даў ужо яму і апомніцца — пацягнуў на двор да калодзеся, дзе, зняўшы таксама пальчаткі і паклаўшы іх на дашчана-зялёны круг калодзеся, грозна насупіўся другі афіцэр.

Хрысця, спатыкаючыся на сходах, збегла з ганка і, хапіўшы немца за руку, павісла на ёй.

Раздзімаючы злосныя ноздры, немец наводмаш — якраз праваю — рэзка сакануў ёй па твары. Удар быў нязносны і балючы, але Хрысця, стрываўшы яго, яшчэ мацней ўпілася сваімі ногцямі ў жыліста-пруткую немцаву руку.

— Адыдзі, Хрысця, адыдзі! — хрыпеў Імполь: бялявы гарбаносы немец, сцягваючы і зграбаючы ў жменю сарочку, раз'юшана душыў і цiснуў яму кулаком пад горла.

І Хрысця ўбачыла, як, расшпіліўшы жоўтую кабуру і выцягнуўшы чорна-сiняваты рэвальвер, чырвоны, налітый злосцю немец размахнуўся і тоўста-шурпатаю рукаяткаю знянацку ўдарыў ёй па галаве.

Яна прыйшла да памяці ды ачуцілася ўжо тады, калі ляжала на раскіслай сцежцы каля чорнага пукатага кветніка ў вострых, як на жалезнай баране, зубках сіваватых цюльпанаў. Па ёй з усяго размаху білі чорныя боты. То з аднаго, то з другога боку. З жахам успомніўшы, што трэба берагчы жывот, асцерагаць сваё будучае дзіця, Хрысця сцялася, як магла скурчылася ў камяк. А чорныя боты знарок ці незнарок якраз і траплялі то ў крыж, то ў жывот. Болю з гарачкі, з бяспамяцтва, здаецца, не чула, чула

толькі агіду і злую неадступную помсту. І брыдкасць, і ганьбу, што, кінуўшы, збіўшы яе на гразкую сцежку, нелітасціва месяць нагамі.

Божа, ніколі ж яе ніхто гэтак не біў, не здзекаваўся.

Раптам праз боль, адчай, брыдкасць Хрысця ўчула нестрывалы жаночы крык. У яе перасталі біць акутымі цяжкімі ботамі.

Расплюшчыўшы вочы, Хрысця ўбачыла, што каля немца стаяла і ў дрыготкай руцэ паказвала яму рабенькую з сіняватым кружком паперку чарнявая маладзіца — напэўна, збегала дахаты і, пакінуўшы там дзіця, прынясла грошы.

— Пан, я за іх заплачу. Во — пяць марак.

Немец, што трымаў загрудкі акрываўленага з разбітымі губамі і носам Імполя, нечакана павярнуўся да калодзеся, нахіліў вядро з вадою, лінуў сабе на рукі, абмыў іх і, выцершы хустачкай, узяў стракатую паперку.

Засоўваючы ў кабуру рэвальвер, да калодзеся падышоў і гэты, што таптаў і біў Хрысцю.

Учуўшы нарэшце, як ные на галаве гуз, як шчыміць і не дае дыхнуць ад болю правы бок, Хрысця паспрабавала ўстаць, але пахіснулася і ўпала зноў. Да яе падбегла і падхапіла пад пахі збялелая з ліловымі дрыготкімі губамі маладзіца.

— Яны кажуць, што вы за кватэру не плоціце.

— Як не плоцім? — ледзьве вымавіла Хрысця.— Грошы ўчора занясла.

— Хто ведае... Кажуць, што вы ў іх на падазрэнні, што вы знаецеся...— яна не дагаварыла: немец, пакруціўшы мокрымі рукамі, паказваў на мігі, што трэба прынясці ручнік.

Хрысця, баючыся, што ўпадзе, падышла да Імполя, і ён, нейкі зусім перапалоханы, бязвольны і нерухомы, у залітай крывёю палатнянай, без каўнерыка, з караткаватымі рукавамі сарочцы, шчыра, як малое дзіця, прыхінуўся да яе.

— Вэ-эк! — пырснуў вадою з нявыцертай рукі немец, паказваючы, што ім трэба разысціся.

Гэтакага — у адной споднян сарочцы, акрываўленага, не даўшы нават спаласнуць твар, яны і пагналі яго паперадзе сябе.

Хрысця ступіла да веснікаў і ціха хапілася абедзвюма рукамі за іх.

Вярнуўся ён ужо надвячоркам, калі Хрысця корчылася

ад пякельна-балючых схватак — у яе пачаліся заўчасныя роды.

— Што з табою было? — спытала яна, стоячы на коленках каля ложка, калі яе на міг адпусціў боль.

— Пратрымалі во ў падвале пад вакзалам.

— Не білі больш?

— Не... Але трэба нам, мусіць, уцякаць.

— Куды ўцякаць, калі я во радзіцьму.

— Што ты, рана яшчэ...

— Звергла ад гэтага катавання.

— Тады пабягу, хоць Місаніху прывяду,— ён спешна пачаў нацягваць на сябе кашулю.

Але яна і ўсміхаючыся, і адначасна крывячыся ад болю, запыніла яго:

— Нікуды не бяжы, будзь са мною.

І сціснуўшы белыя зубы, скрыгочучы імі, пачала падымацца на ложак.

## XVII

Міця ішоў тратуарам, яшчэ, здаецца, не верачы сабе, што нарэшце не чуе напружана-рытмічнага, нацятага, што аддаецца звонам у галаве, тупату салдацкіх ног, чужога гарачага дыху ў сябе за спіною... І астатняй бяссоннай ночы: іх ганялі на пляц за казармаю.

Кругом быў ясны, зыркі ад сляпучага сонца і парны дзень. З далёкіх гародаў пахла падпаранаю зямлёю. На чорнай трубе з белымі ізалятарамі, што стаяла між шарых комінаў на чарапічным даху, свіргатліва, як у спалавелым леташнім тросніку каля азярца, цвірчэла невялікая зграбна-тоненькая пташачка. Заглядзеўшыся на яе, Міця нават спыніўся і ўздыхнуў — успомнілася свая за садам завоінка, перасвіст пташак.

За белымі двухпавярховымі камяніцамі, што адбіралі вочы, жаўтлява-зялёным цветам абсыпаліся старыя кляны, толькі чарнелі, працягваючы голыя, вілаватыя галіны, тоўстыя гузавата-шурпатыя ясені.

За імі падымала дзве вежы са злінялымі блакітнымі купаламі старая аблушчаная царква.

Сёння іх, батальён «навабранцаў», прыгналі спярша сюды, у царкву, а потым ужо на гарадскі брукаваны пляц, акружаны белымі двухпавярховымі камяніцамі. Яны, вясковыя хлопцы, так-сяк за два тыдні абвучаныя, не ўмеючы

яшчэ як след адчаканіць вайсковы крок і аддаць чэсць, прымалі прысягу.

Выйшаўшы па чацвёра з шарэнгі, яны ставілі ў козлы вінтоўкі, падыходзілі да Камашылы і працягвалі ў купу рукі, над якімі трымаў паперу і, прыжмурваючы адно вока, чытаў з яе прысягу сам Камашыла.

Змучаны бяссонніцаю, недаяданнем, самы высокі і не толькі ў іхняй роце, а ва ўсім батальёне, Васіль Якута раптам пачаў бялець і хіліцца на Міцю. Леваю рукою Міца схапіў яго за рэмень і падпёр сваім плячом.

— Глядзі, якраз усю абедню сапсуе,— Камашыла спалохана падняў вочы ад паперы.— Ляснецца тут, як паненка.

— Мне кепска, цямнее ўсё ў вачах,— ледзьве паварушыў пасінелымі губамі Якута.

— І праўда самлее,— у Камашылавых працягнутых руках дрыжала папера.— Толькі ганьбы набяромся. Корсак, вядзі яго ў казарму.

Міця памаленьку, трымаючы з усяе моцы за рэмень і падпіраючы плячом, каб Якута не рухнуў, адвёў яго ўбок, а потым ужо і ў блізенькі завулак.

У халадку на цэментовых сходах цаглянай мураванкі, дзе была пошта і дзе шнураваў даўганосы ў чорнай пілотцы паліцыянт, Якута трохі акрыяў. Паліцыянт, паспагадаўшы, прынёс нават кубачак вады.

Міця, знайшоўшы спадарожную падводу з маўклівауўпартым і трохі зласнаватым фурманам, завёз Якуту да казармаў, а там ужо і завёў у санітарную часць, што займала невялікі аднапавярховы дамок з закратаванымі вокнамі.

Покуль з горада вярнуўся батальён, наседзеўся ў казарме і сам.

— Ну як? — убачыўшы Міцю, махнуў вялікаю з адтапыранымі вушамі галавою спацелы і зеленаваты-нездароўчы ў твары Камашыла.

— Здаецца, лепш яму,— засмяяўся Міця.— Доктар сказаў, каб трохі адпачыў.

— Параскісалі, як чарвівыя лупякі. А думаюць, мне лёгка? — Камашыла нахмурыўся, перакруціў Міцеў рэмень, паказваючы, што слабка зашпілены, адвёў свае вочы: — А нешта ж меўся табе сказаць... Але хібя потым... Даю да вечара звальнення. Ідзі пахадзі...

І Міця, не чуючы стомы, нават подбегам пад чорнагузаватымі ясенямі пашыбаваў назад у горад, каб зайсці ўжо недалёка ад гарадскога пляца на Замкавай вуліцы ў цесную, не павярнуцца, з высокімі, ажно да столі, палі-

цамі беларускую кнігарню з тымі простымі, у жоўтых ці шэрых вокладках, але мілых, шчымлівых сваім непадкупна-родным словам кніжак. Як ён даўно не чуў шэлесту іхніх старонак, як даўно не задыхаўся ад шчасця, трымаючы ў руках танюткі і невядомы зборнік вершаў, што таіў у сабе неразгаданае хараство слова, ад якога, як ад касцельнага звону, ішоў мілагучны, што заміраў у вышыні, гук.

Як ён даўно не бачыў газет, не чуў іхняга свежага, што прыемна аддае газаю, паху.

Перасёкшы наўскос гарадскі пляц, дзе нядаўна маршыравалі навабранцы і дзе ў тахт мноству салдацкіх ног бухаў пусты барабан і грымела аркестра, а цяпер млела распараная цішыня ды падцвіркваў каля конскіх куч верабей, Міця спыніўся перад тратуарам, дзе нязрушна ўрос у выбоісты брук шара-цэмянтовы з вастраверхім капелюшом слуп, на якім стракацелі старыя, парваныя ветрам, і новыя, нядаўна наклееныя афішы.

Сутулы мужчына ў шырокай пляскатай кепачцы, з падвязанаю да нагі выструганаю драўлянаю калодкаю і ружовашчокая ў чорнай сутане манашка з акулярамі на задзірыстым носе, з белым, як снег, краёчкам хусткі, што шчыльна прылягала да лоба, уважна ўтаропілася ў наклееены на шурпатым слупе аркуш паперы з вялікімі чорнымі літарамі. Манашка раптам замахала перад грудзьмі жаўтлявахудою рукою і бязгучна заварушыла маршчаватымі губамі.

Чалавек нават міжволі гляне туды, куды пазіраюць іншыя. І Міця, абыходзячы шары цэмянтовы слуп у ласкутах абарваных афіш, павёў вачмі на чорныя і немалыя літары абвесткі, што, нібы градавая хмара, няслі нешта страшнае. На які міг спаткнуўся, замёр, як ад блізкага ўдару перуна. Нарэшце паволі, перасільваючы нешта нядобрае, перамешанае са страхам, падышоў бліжай да слупа.

Манашка, бліснуўшы чыстымі шкельцамі, падняла чорную голаў на Міцю і ціхенька пастаранілася. Закрактаў і, парыпваючы рэменем, які абвіваў калодку, адступіўся ад слупа немалады, бязногі мужчына ў пляскатай кепачцы, а Міця, чуючы, як падступае пад грудзі млявая гарачыня, пачаў душыцца ад чорных тлустых слоў: «З прычыны актаў сабатажу супраць нямецкае вайсковае ўлады (зносіны з бандытамі) расстраляны і спалены разам з будынкамі жыхары вёскі Верасава Дварчанскай воласці. Абавязак кожнага паведамляць аб бандытах.

Наваградак. 23 красавіка 1944 г. Гебітскамісар Бушман».

Міця адвёў вочы ад чорных тлустых літар. Доўга пазіраў на ружаваты брук, зацярушаны ў рыштоку каля тратуара сенам і сухім конскім памётам. Нарэшце падняў галаў і памалу пайшоў уздоўж белых мураванак, уяўляючы спаленае Верасава: на месцы хат чорныя пажарышчы, з якіх курыўся і смуродзіў сіні чадны дым, абгаранае прысаддзе каля вуліцы, недапалены шара-зялёны плот... Убачыўшы свой двор з дымным пажарышчам, з белай грубкай, што стаяла, як горкі помнік усяму, што тут жыло, існавала. Каля паграбка, упёршыся локцямі ў калена і паклаўшы на далонь шчаку, сядзеў задуманы бацька і цяжка глядзеў на белую грубку з чыгуннымі ружавата-чорнымі палопанымі ад агню дзверцамі, і плечы яго трасліся, як трасліся тады, калі закопвалі ашалелага каня.

Нечая пільная ўвага ачуціла Міцю ад цяжкіх, як непраглядная хмара, думак. Перад Міцем стаяла і цікавала на яго, схаваўшы пад чорнаю вуалькаю з белымі мушкамі свае вочы, знаёмая сваёй высокай статнай постаццю маладзіца. Міця доўга ўгадваў і нарэшце пазнаў па смеху. Паказваючы залатую каронку, пасмехвалася Чэсіна сястра Анця — паўнявая, памаладзелая з твару ці мо ад пудры, што лёгкім ружаватым пылком ляжала на шчоках, і ад чырвані напамаджаных губак. Яе адной рукою лёгенька трымаў нахмураны, у шарым даўгаполым плашчыку, дантыст, другою асцерагаў падпухлую шчаку.

— Дзень добры, жолнеж! — Анця адкінула з вачэй густую чорную вуальку ў белых мушках.

Міця аддаў «добры дзень» і паглядзеў ім за плечы, спадзеючыся ўбачыць яшчэ Чэсю.

— Яе няма,— дагадалася Анця, каго ён выцікоўвае.— Яна сёння на дзяжурстве,— і падала руку ў чорнай шоўкавай пальчатцы, лёгенька сціснула Міцевы пальцы: — А чаго ты такі смутны? У яго дык хоць вырвалі зуб. Сам дантыста, баязлівы. Ну і крычаў, убачыўшы клешчы...

— Ешчэ як. О влос былэм ад сьмерці[1],— засмяяўся, крывячы з аднаго боку падпухлы перакошаны рот дантыст.

— А ў мяне ці не бяда,— перабіў іхнія жарты і смех устрывожаны Міця, ківаючы галавою назад на шары, спярэшчаны абрыўкамі афішаў, цэмянтовы слуп.— Вунь паведамляюць, што спалілі наша Верасава.

— Я чула... Але, здаецца, хутары,— Анця, злосна патузаўшы, вызваліла руку, за якую трымаўся дантыст, і

---

[1] — Яшчэ як. На валасок быў ад смерці *(польск.)*.

абцягнула на сабе шары ў дробную клетачку жакет з чорным аксамітавым каўняром.

— Вёска стаіць. Казакаў, здаецца, там расквататравалі,— дантыст скасіў вочы на чорную шыльду з белымі літарамі: «Рамонт гадзіннікаў» і падняўся па цэмянтовых сходцах з жалезнымі фігурнымі поручнямі.— Пачакайце, я забягу сюды, мо нарэшце направяць майго «Паўла Бурэ»? — Ён вылушчыў з пярэдняй кішэнькі штаноў і, блісnuўшы перламутравым цыферблатам, паказаў круглы немалы, на срэбным ланцужку, гадзіннік з кружком чорных рымскіх лічбаў.

Калі белыя з выштукаванымі планкамі дзверы рыпнулі, схаваўшы дантыста, Анця, чамусьці спяшаючыся і нават з'ядаючы словы, загаварыла:

— Чэся прыедзе да цябе,— і па-польску ўжо: — На разе ешчэ не вем, а цось, еднак, хыба вымыслем[1].

— Што? — сцішыў голас Міця, яшчэ кепска дагадваючыся, пра што ідзе гутарка.

— Моген ці улатвіць спаткане[2].

— З кім? — Міця азірнуўся на двух казакаў, што прайшлі, ганарыста пабразгваючы шпорамі і злёгку прытрымліваючы пры боку шаблі.

— З Рыськем.

— Што за ён?

— Ці гэта так важна... Адным словам, ён паможа перайсці табе да польскіх партызантаў.

— Я чуў, яны нашых прывязваюць да дрэва ў мурашніку,— трохі здзекліва ўсміхнуўся Міця.

— Можа, і праўда. Не ведаю,— вуалька спаўзла з капялюшыка і закрыла Анціны вочы.— Але табе трэба берагчыся і ўцякаць адсюль.— І трасянула гэтаю чорнаю ў белых мушках вуалькаю.— Нема іннэй догі[3].

— Што чуваць у Дварчанах? — перапытаў у яе Міця, бачачы над каўнерыкам яе белую ў двух зморшчыкахкольцах шыю.

— Што?.. Арыштам няма канца. Немцы забралі Пясэцкага, сядзіць тут, у Наваградку.

— Можа, і добра зрабілі, што пасадзілі гэтую брыду,— Міця павярнуўся на грукат дзвярэй за спіною.

Да іх ужо з ганка збягаў, паказваючы тыльным бокам

---

[1] — Яшчэ не ведаю, але нешта прыдумаем *(польск.)*.
[2] — Магу табе паспрыяць у спатканні *(польск.)*.
[3] — Няма іншай дарогі *(польск.)*.

срэбра-бліскучы, добра пацёрты па кішэньках гадзіннік, а другою хапаючыся за балячую падпухлую шчаку.

— Добжэ... На разе та размова позастане мендзы намі[1],— пад вуалькай блiснулі зеленаватыя Анціны вочы.

— Што за змовы ў вас? — дантыста лёгенька падсунуў Анці пад локаць сваю левую руку.

— Запрашаю яго во ў госці ў Дварчаны.

— А чаму не? — выпнуў таўставатую ніжнюю губу дантыста.— Чэся зачакалася нябось.

На гэты смяшок у Міці балюча і трывожна штурханулася сэрца. Але ён нічога не сказаў дантысту, учуўшы толькі даўнюю непрыязнь да яго.

Каля вялікага згарэлага, з абваленай вежай і падзёўбанага снарадамі, як ластаўчынымі гнёздамі, цаглянага касцёла, каля знявечанага з паламанымі яблынямі садка яны спусціліся па крутаватай, што рабіла закрут, вуліцы ўніз.

Міця правёў іх да чыгуначнага вакзала, дзе стаяў пад маладымі гонкімі ясенямі, што сыпалі з набухлых почак ружаватую луску, кароткі ў чатыры зялёныя вагончыкі састаў вузкакалейкі, пачакаў каля акна з адшмаргнутай жоўтай фіранкай, покуль перасцярожліва не прысвісне, пачмыхаўшы белай парай, злосны і прыпознены паравозік, покуль не паківае, сцягнуўшы пальчатку, за закурэлай шыбай сваёю белай рукою з чырвонымі налакіраванымі пазногцямі радасна-вясёлая Анця.

У адкрытага, з доўгім прыстрэшкам і ручным тормазам тамбура ўсміхнуўся не то Міцю, не то курносай жанчыне, што трымала за рукі цыбатых, босых дзяўчатак-блізнят высокі, у чорнай з малінавым аколышам, яшчэ польскай рагатыўцы, з ганарыста падкручанымі вусамі немалады праваднік, і кароткі, нібы з дзіцячымі вагончыкамі, састаў, асцярожна і цяжка пагрукваючы коламі, пачаў аддаляцца ад жвірыстага перона.

Міцева душа балюча і соладка зашчымела, калі ён падумаў, што чорны паравозік з прысвістам прамчыць міма шарага ад старога дрэва і старых саламяных стрэх прытоенага Верасава, міма Алесінага двара з чорнаю дзікаю грушаю за гумном, міма бацькавай у глыб вёскі хаты, і нехта з іх, бацька ці Алеся, глянуўшы на паравозік, успомняць Наваградак і, напэўна, яго, Міцю. І думкі вярнуліся зноў да той страшнай весці, што чарнела вялікімі літарамі на белай афішы.

---

[1] — Добра... Няхай спачатку размова застанецца між намі *(польск.)*.

«Што ж сталася з Верасавам, з Прылуцкімі хутарамі? Няўжо спалілі ўсе хаты? А які ж лёс напаткаў людзей? Няўжо расстралялі альбо спалілі, як робіцца цяпер?»

Міця ішоў нямошчаным тратуарам уздоўж брукаванай вуліцы, на якую навальваўся і стракацеў у вачах пабелены плот. У дагледжаным, накрытым памутнелаю ўжо цынкаваю бляхаю драўляным доме з блакітнаю верандаю за чорнымі развесістымі яблынямі, што хавалі адчыненае акно, іграў патэфон, чулася нямецкая гутарка, мігітлівы дзявочы смех...

Тут па-вясноваму наўкруг усё было сцішнае, млявасоннае, аблітае невысокім, што схілілася на вечар, жаўтлявым, прымрэлым сонцам. Тут быў зморany, блізкі да вечара дзень, завешаны сіняватай смугою, што, як дымная плёнка на завоінцы, зацягнула далёкія сырыя лясы, пакатыя пагоркі з густым у сакавітым пер'і маладым жытам.

Лёгкі, яшчэ з вясновай халоднай вільгаццю, вецер астудзіў Міцю — ён быў ужо за прадмесцем. Блізка ў жаўтлявым, што свіціўся, рэдкім ад клейкага лісця бярэзніку падымаліся цагляныя гмахі казармаў. Туды Міцю не хацелася варочацца, а ісці, як у маленстве, да нізкага сонца, бясконца ісці, чуючы яго на вачах.

Над сіваватым ад невысокай асакі і вострага хвашчу балотцам, пакрапленым ясна-жоўтымі плямамі курынай слепаты, віліся і стрымгалоў падалі ўніз жалосна-піскліявыя кнігаўкі. А за сінім, зморшчаным азярцом, адбіваючыся ў вадзе, асцярожна ступаў і падымаў чырвоную дзюбу цыбаты бусел.

І раптам так нечакана і выразна Міцю ўбачылася свая старана, абмялелая пасля паводкі рэчачка, алешнік з начапляным брудам і галлём, старыя крывавата-калекія вербы ў зяляніне маладога лісця, Верасава, што высунулася на касагор карычняватымі ад моху стрэхамі, жоўтыя, як укроп, ад цвету кляны, чорна-ружовыя ад набрынялых, нібы дзявочыя саскі, пупышак старыя, яшчэ прадзедаўскія ліпы. І свая, са знаёмымі, паточанымі шашалем сценамі хата, і бацька на дрывотні каля казлоў з пілою-аднаручкаю, з ружаватымі пілавінамі, што насыпаліся ў закарвашы.

А ці жывы бацька? Гарачыня шуганула, абняла па самыя пахі Міцю. І няўжо няма Прылуцкіх хутароў. Няўжо ўсё так несправядліва, так жорстка і нелітасціва адышло? Дзе ж тая вялікая боская праўда на свеце? Няўжо няма? Але ж свет — гэта вечнасць, бясконцасць і неспазнанасць. Нехта ж будзе жыць. Хіба ж можна вынішчыць жыццё?

7—3013

Можна рашыць, знявечыць сябе, забіць суседа і брата, але нельга змяніць большае — павярнуць вясну на зіму. Усё роўна для некага будзе распускацца дрэва, і будзе свяціць ласкавае сонца, і вернецца гора, і шчасце, і ўсё пачнецца спачатку... Але ў тым новым свеце не будзе нас, як няма і тых, хто жыў, радаваўся і пакутаваў перад намі. Час сцёр іхнія імёны, зруйнаваў магілы, але ж пакінуў хоць маўклівыя каменні, шчарбатыя муры будынкаў, старавечныя кнігі... Малы, але напамінак, што ўсё было... Няўжо сухі і жорсткі мох даўнасці няшчадна і няўмольна ўкрые нашы імёны? І ніхто не будзе думаць пра той вялікі грэх, што нас няма? А хто ж на старых надмагільных каменнях будзе шукаць праўду і няпраўду?

Наша праўда і няпраўда, дабро і зло жывуць толькі з намі і ў нас. У прышлых пакаленнях, што прыйдуць за намі, будзе свая сляпая радасць і цёмная бяда, што праясняе вочы. Але няўжо астанецца тая ж самая і вялікая несправядлівасць, што поруч лягуць і подлы забойца, і чысты душою і пясок вечнасці праглыне іх...

Увайшоўшы ў казарму, Міця ўчуў зноў той затхлаваты, нявыветраны пах чалавечага поту, аружэйнай змазкі, непрасушаных чаравікаў і шкарпэтак. Нізкарослы лупаваты днявальны са смешным прозвішчам Ложка і перайначаным ужо на мянушку Апалонік, што стаяў з прыходу каля століка з тэлефонным апаратам, абапёрся зморана на вінтоўку і кіўнуў на Міцю шырокім задзірыстым носам:

— Цябе Камашыла шукае. Зайдзі, вунь у кладовачцы ён.

Мінуўшы ўмывальнік, Міця завярнуў у вузкі цемнаваты калідор, пастукаў у лёгкія з тонкіх дошчачак дзверы. І на той бок іх заскрыгатала жалезная засавачка. Чырванаваты, разамрэлы Камашыла дыхнуў на Міцю нязносным духам самагону.

— Я тут зачакаўся... Заходзь, пакажу свае апартаменты. Бачыш, выкраіў сабе куток. Люкс. Не? — ён павёў рукою на абабітую жаўтаватай фанерай перагародку, палавіну якой засланяла доўгая, падобная да школьнай, з нішамі для абутку вешалка; на ёй віселі новыя шынялі і пахлі свежай, вырабленай скурай пазасоўваныя ў нішы чаравікі.— Прывязлі ўчора. Маюцца яшчэ браць людзей,— заўважыў Камашыла, прапускаючы паперадзе сябе Міцю.

Абапал прысунутага да тыльнай сцяны невысокага, на перакрыжаваных дашчаных ножках стала адкінуліся сваімі

спінкамі два складныя, зробленыя з дубовых лясак, пацямнелыя крэслы.

За акном, закратаваным тоўстымі, нібы ў старадаўнім касцёле, жалезнымі прантамі, адкрывалася пагоркавая далечыня з ліловай, што ўсходзіла ярынаю, адзінокія хутары ў чорных, яшчэ не абкіданых лісцем, нізкіх садках, а за ёю непрыступна ўздымалася гара, залітая наўкруг паводкай сіняватай смугі, на якой бялеў, падсвечаны рахманым вечаровым сонцам, дробны, прыціхлы гарадок. І над ім двума ружаватымі зломкамі вытыркнуліся вежы, што бераглі таямніцу даўніх дзён: пажар, войны, чалавечыя пакуты — усё тое, што вярталася, прыходзіла зноў, каб зноў адысці ў нябыт, згінуць у вечнасці.

Міця, глянуўшы за акно і ўбачыўшы раскрышаныя, з'етыя, як старыя зубы, ружаватыя вежы, ціха ўздыхнуў — зноў успомнілася абвестка, перад вачмі прабеглі чорныя тлустыя літары.

— Ты чуў?... Спалілі маё Верасава.

— Нібы чуў,— Камашыла прысеў на крохка-рыпучае крэсла, нахіліўшыся леваю рукою, пашастаў пад сталом і выцягнуў паўтарак сіваватага самагону, а потым ужо алюмініевую конаўку, брусок сала і белавата-крохкі салдацкі хлеб.— На, прычасціся.

Камашыла, не шкадуючы, набухаў поўную конаўку.

— Ці не зашмат будзе? — Міця доўга трымаў яе, доўга рашаўся, нарэшце глынуў і папярхнуўся, задушыўся кашлем.

— Э-э, чалавек з цябе,— Камашыла наліў сабе і адарваў адрэзаны кавалачак сала.— А пра Верасава чуў. Не хацеў вярэдзіць тваю душу. Ты там нічога не памог бы.

— Чуе маё сэрца — там бяда,— Міця адсунуў ад сябе зноў налітую конаўку.— Трэба было б хоць на дзень адлучыцца дадому.

— Загадалі трымаць усіх у кашарах. Скажы дзякуй, што на свой страх і рызыку пусціў цябе ў горад. А конаўку не адсоўвай, выпівай ды спаць.— Камашыла абцёр свае бліскуча-тлустыя ад сала губы.— Заўтра вялікая дарога, маршам ідзём ажно ў Дварчаны... Значыць, убачыш сваё Верасава.

— А там куды?

— Там?..— варухнуў плячом і перакрывіўся ў здзеклівым смяшку Камашыла.— Там ужо вайсковы сакрэт — не кажуць.

Камашыла, узяўшы ў Міці і набулькаўшы ў конаўку,

доўга і маўкліва глядзеў у яе, разамрэлы, чырвоны твар яго перасмыкаўся, турзаўся і крывіўся ў п'янай міне. Нарэшце Камашыла перавярнуў у горла конаўку і, нават не скрываючыся, прыстукнуў ёю па стале.

— Вайна... Колькі згінула і колькі яшчэ згіне людзей. Але скажы, калі і хто шкадаваў чалавека?.. Ніхто! — і Камашыла зноў прыстукнуў конаўкай.— Ніхто не пашкадуе і нас! Чуеш?

— Чую,— Міця ап'янеў ужо і сам, бо перад вачмі перайначыўся, папрыгажэў свет. І ўжо з закратаванага акна ў нейкай вясёла-празрыстай, зыркай яснасці, як бывае гэтая чыстая прызрыстая яснасць толькі вясною, бачыўся далёкі белы гарадок, асвечаны залаціста-ружаватым сонцам, цёмна-ліловыя, са шчарбінамі проймаў, раскрышаныя вежы замка, ніжай за імі — чырвона-чарапічны дах касцёла, увесь шырокі свет з цёмнаю намiткаю лесу.

— І ведаеш, хто нас з табою заб'е? — учэпістая Камашылава рука адарвала Міцю ад закратаванага акна.

— Ды, мусіць, ведаю.

— Кожны другі. Чуеш? Людзі, як сабакі, рвуць адзін аднаго.

— А ты лепшы?..— перад Міцем нечакана пахіснуўся і паплыў стол, і ён ледзь паспеў злавіць яго.

— Хочаш, каб я быў добранькі? Дабрата — гэта дурата. У войску няма яе.

— Але заганяць у лужыну хлопцаў і загадваць лажыцца...

— Гэтакаму быдлу і карысна ў гнаі паляжаць.

— Быдлу, кажаш?..

— А каму ж ты думаў. Бо спраўнага войска мы з іх наўрад ці зробім. Гніды, яны толькі думаюць зашыцца пад бабскую спадніцу.

— Чаго ты так азвярэў? — Міцю помніцца, як ён схваціў загрудкі Камашылу.

Помніцца і другое, калі ён на міг працверазеў — ужо ад Камашылавага крыку:

— Пападзёмся мы ім, яны нас гарачым жалезам падпякаць будуць. Ты што, не знаеш беларусаў. Яны выпальваюць адзін аднаго жалезам.

— Іх змушалі вякамі выракацца саміх сябе,— Міця не ведае, сказаў гэта ці не, як не ведае, ці сам дайшоў да ложка, ці давёў Камашыла.

Ужо раніцай, учуўшы, як у вочы яму, нібы жарствою, востра і балюча пырснула электрыка, а ўслед за ёю па-

чуўся рэзкі Камашылаў крык, ён не мог разабрацца, дзе ён і што з ім.

— Па-буд-ка! — хрыплаватым ад перапою голасам крычаў Камашыла.

Выплываючы нібы з-пад цяжкай, глыбокай вады, Міця толькі здужаў сесці на ложку, убачыўшы, як салдаты ўжо, збэрсаўшы нагамі з сябе коўдры, спехам усхопліваліся і тут жа ўздоўж ложкаў станавіліся ў строй.

— Варушыся, быдла! — прыплюшчваў ад злосці адно вока Камашыла.

Міця, чуючы, як ные і да кожнай костачкі баліць усё, як тугі, балючы абруч сціскае галаў, сядзеў на ложку. Млявасць адбірала сілы, блізкая да ванітаў агіднасць вурчала і пераварочвалася ў жываце.

— Корсак! — хрыпаты Камашылаў голас вярнуў нечакана ўчарашні вечар, той катух з хісткім столікам, паўтарак самагону. Міця нарэшце ўбачыў, што сядзіць адзеты, што спаў не распранаўшыся.

— Корсак! Каму сказана? Пад'ём!

З намаганнем, сабраўшы астатнія сілы, Міця абапёрся аб вастраватую раму жалезнага ложка і нарэшце ўстаў. Цяжкімі, нязрушна-вялымі нагамі дайшоў да шарэнгі, знайшоў сваё месца.

Камашыла з чырвона-азызлым, падпухлым тварам прашнураваў узад-уперад уздоўж строю, нарэшце хрыпата гаркнуў:

— Узвод, падрыхтавацца да сняданку!

На пляцы, калі яны ўжо стаялі ў поўным рыштунку — з вінтоўкамі, падсумкамі, каскамі, абхамучаныя скручанымі шынялямі,— Міцю зрабілася нібыта лягчэй. Халадок шараватай раніцы краўся за карак, чуйна студзіў плечы.

На ўсходзе над буравата-зялёнай паласою ў густой халаднаватай сінечы неба пералівалася, ломячы тонкакалючыя промні, «ютранка» — зорка Венера.

Яна і паплыла з левага боку, блытаючыся ў тэлеграфных правадах, чапляючыся за негустое, яшчэ ў дробным гаркавата-клейкім лісці голле сцішаных бярэзін, калі ўзвод, для перасцярогі паслаўшы дазорных, рушыў на дварчанскую шашу.

Чуючы пад мноствам акутых чаравікоў крохкае шапаценне жвірыстага пяску, Міця ішоў, заглядзеўшыся на сінявата-ружовую зорку, і думаў пра тое, што яе святло з'яднала людзей, што жылі, што жывуць і што будуць жыць на зямлі. Яна ж вечная, гэтая вялікая і калючая зорка, што

пырскае на зямлю сваімі тонкімі промнямі. Як і вечны гэты жвірысты белаваты пясок, што густа рыпіць і шахкае пад нагамі.

Белая з цёмна-вільготнымі выбоінамі шаша, убраная абапал зялёнымі канавамі, завіўшыся вужом, папаўзла на ўзгорак, у дуброву, што трымала яшчэ зімовы холад. Прадрогшы за ноч, там падсвіствалі дразды і чулася мяккае, прыглушанае глыбінёю лесу, куванне зязюлькі. Праз голыя кроны старых замшэлых дубоў прасвечвалася і дрыжала ўжо рэдзенькая ружовасць. І ў ясным небе слязілася і растала «ютранка».

Уздоўж шашы цягнуліся шырокія палосы спілаванага лесу — стаялі толькі шэрыя, з аблушчанаю карою пні ў маладой зараслі карычняватых дубцоў асіннікаў, крывавата нізкага грабу і чубкоў пераплеценага малінніку.

Парушаючы аднастайны шоргат ног, тонкае падсвістванне драздоў, і ранішні чуткі лес, нават з водгаласам, вырваўся з калоны нечы здзіўлены голас: «Хлопцы, а во дзікая свіння!»

І праўда, на разбітай у чорна-кіслых лужынах дарозе, што, пераскокваючы вужаватыя карэнні, з далекаватай сцяны лесу выбягала на шашу, каля куста брызгліны, абкіданай ліловым лісцем, перапуджана спыніўся, угінаючы лычатую з малымі вочкамі галаў, цёмна-буры калматы дзік, худы, з востраю, як пілка, спіною.

Ззаду да яго, перавальваючыся і падляскваючы коламі, блізілася ранняя фурманка. Але, выехаўшы з-пад навісі цёмных, пераплеценых лапамі елак, яна таксама нервова турзанулася і стала. Чорны з нястрыжанаю грываю конь, задзіраючы галаў, пачаў нечакана зварочвацца ўпоперак дарогі. Нехта, мусіць, з перапуду спрабаваў вярнуцца назад у лес.

— Хлопцы, дальбог, яны...

— Хто?

— Няўжо не бачыш? Партызаны!

— Ага, праўда, у фуражцы адзін.

— І баба з імі...

Але тут нечакана прахрыпеў, перапыніўшы жарты і смех, Камашылаў голас:

— Узвод, да бою!

Калона, зашуршэўшы жвірам, рассыпалася, салдаты паспешна здымалі з пляча вінтоўкі.

— Сяржант Якута, чаго звесіў лоб паміж яяў?! Дагнаць фурманку! Давай у абход!

— Хлопцы, але ж там можа быць засада!

— Не бойся, Падліпскі, заходзь з левага боку! — загадаў Камашыла худаватаму з паўпаданымі шчокамі салдату.

Цыбаты Якута ўміг сігануў праз нешырокую, з застоенай вадой канаву, і ўслед за ім сінявата-радужную з плевачкай ваду пераскоквалі, трымаючы ў правай руцэ вінтоўкі, трохі непаваротліва-аціжэлыя ад скруткаў шынялёў і прычэпленых сапёрных лапатак недаспаныя салдаты.

Счуўшы нарэшце блізкі тупат ног і сухі вострэ трэск зламанага галля, дзік рохкнуў і пудка адскочыўся ўбок, замільгаў вострую гарбатаю спіною між шарых аблушчаных пнёў, зарослых леташнім счарнелым асотам і крапівою.

— Вашыва яго маць, яшчэ і ён тут гэльцае,— на карычняватым слізкім канцы мурашніку Камашыла паслізнуўся. Ён бег з іхнім, трэцім адзяленнем, што, рассыпаўшыся ланцугом, наўпрасты спяшалася да фурманкі.

Міцю за ногі чапляўся нізкі карчаваты грабняк і сцёбалі гнуткія дубцы маладога асінніку. Грудзі натыкаліся на высокі і ломкі леташні асот.

Пад цёмнаю густою, падсвечанаю знізу чырванаватым сонцам навіссю елак, тупавата забахалі, аддаючыся далёкім рэхам, расцяжныя стрэлы. То з аднаго, то з другога боку.

Спуджаны стралянінай конь, чуйна стрыг вушамі, уздымаў голаў і стараўся вырваць сцялежаны воз з глыбокіх, поўных разбоўтанай гразі каляін. На саломе між драбін рахмана парохкваў і трэпаў звязанымі кароткімі нагамі бела-ружаваты, пудкоў на тры-чатыры, лапавухі парсюк.

— Свежаваць сабраліся. Ну, заразы, маць ваша! — Камашыла абышоў воз, пераступіўшы тонкі дубок, што сагнуўся дугою і ткнуўся верхавінаю ў дол, загадаў дзюбаносаму, з чырванаватымі вачмі салдату: — Бусько, выводзь каня на шашу і скажы батальённаму, што захапілі трафеі. Хай там не трапечацца. А астатнія за мною.

Ён паправіў на грудзях чорна-сіняваты, зусім новенькі — пазаўчора іх выдалі толькі камандзірам узводаў — аўтамат і, топчучы шаргатліва-сухое, што курэла пылам, леташняе лісце, пабег на ясны прагал.

— Далёка не ўцякуць. Там поле. Гоп-цюп, чатэры бабы, восім дуп.— Камашыла азірнуўся і каля вываратня з падсохлымі карэннямі прычакаў Міцю.— Яны ўжо, лічы, у нашых руках. Лес тут невялікі. Дзе дзенуцца.

— Ды чорт з імі, хай уцякаюць. Чаго ты рвешся?

— Ты што, Корсак? — Камашыла незнарок напароўся на вострыя рагаціны ніжніх лап, якімі ашчацінілася між замшэлых дубоў гонкая маладая елка, і злосна скрывіўся.— Брыду гэтую шкадуеш? Нешта я не разбяруся ў табе?.. Ану бягом! За мною! Пад ляжачым, як кажуць, вош, пад бягучым — грош. Шыбчэй!

Далей за ствaламі зеленаватых асін, шара-шурпатых старых дубоў, ружаватых хвоек пякучай залацістасцю гарэла ранішняе неба — канчаўся лес. За ім, паблісквaючы шырокім пер'ем, зелянілася густая, цемнаватая і добра ўкусцелая рунь.

Стрэлы сціхлі, і зноў далёка і глухавата, як у глыбокай яме, кувала зязюлька.

Зводдаль ад лесу, агароджаны драўлянымі на вілаватых слупках жэрдкамі насцярожана затаіўся хутар — доўгая пад адной страхою з хлявом хата, і ўпоперак яе расселася шырокае гумно з замшэлаю страхою.

Міця ўбачыў, як з блізкага чубка высокага ў рэдзенькай дымнаватай зеляніне бярэзніку да старога шарага хутара рвануліся двое — даўганогі ў плескаватай фуражцы мужчына з дзесяцізарадкаю і дзяўчына ў сіваватай вушанцы і ў белым кажушку.

Трэцяга з імі не было.

— Не давай дабегчы да хутара! Цэлься ў мужчыну! — крыкнуў Камашыла, падбягаючы да ружаватых, сцягнутых з поля пад лес трох вялікіх каменняў, што ўляглíся ў спалавелай высокай мятліцы і чорным крываўніку.

Міця прылёг за самы большы камень, наўкруг абцярушаным чорна-сіваватым дробным пер'ем — мусіць, каршун задраў дразда ці яшчэ якую пташку,— паклаў на яго вінтоўку, але яго апярэдзіў гарача-нервовы строкат аўтамата.

Кароткая чарга нечакана падкасіла прыгнутага цыбатага мужчыну, і ён, заблытаўшыся нагамі, пачаў хіліцца на адзін бок, перакруціўся і ляпнуўся ў густую зялёную рунь.

Націснуўшы на спуск і ўчуўшы кароткі ўдар у плячо, Міця ўбачыў, што стрэліў ледзь не па сваіх, што нечакана вынырнулі з далекаватага чубка лесу.

— Досіць, не страляй. Я яго ўклаў, як зайца,— засмяяўся Камашыла.— Га-га, нават не спадзяваўся, што пацэлю. Гоп-цюп, чатэры бабы, восім дуп.

Жанчына, дабегшы да агароджы, перавалілася цераз

яе і на коленках папаўзла да блізкага гумна. З абодвух бакоў з лесу па ёй забахалі позпія ўжо стрэлы.

— Чаго дурні страляюць? — падскочыўшы з-за каменя, Камашыла замахаў знятаю пілоткаю.— Жыўцом яе трэба браць! Жыўцом!

...Яе і ўзялі жывою, выцягнуўшы з хлява, абсыпаную гарохавіннем — туды яна гарачкі ўскочыла і затаілася каля пудкіх авечак — і, сцягнуўшы кажушок, абшукалі ўсю, знайшоўшы фотаздымак: яна сярод васьмі гэткіх самых у вушанках з зоркамі і белых кажушках маладых дзяўчат. Яна смяялася, прымружыўшы вочы і паказваўшы белы радок зубоў.

Чарнявая, лупаваценькая з мяккімі губкамі, абсыпаная сухім карычнявата-шапаткім гарохавіннем на падвітых валасах, яна калацілася, стоячы сярод чырвоных, задыханых ад бегатні мужчын у зялёнай нямецкай форме.

— Падвядзі яе сюды, хай скажа, хто гэта,— Камашыла ботам перавярнуў забітага з разарванай, акрываўленай шыяй хлопца, што пачаў па-мярцвяцку ўжо бялець у твары.

— Не знаю! — цвёрда сказала яна.

— А ты?

Кусаючы губы, яна маўчала.

— Савецкая б..., хлопцы! — падняўшы сіваватую з чырвонай эмалевай зоркай вушанку, што валялася каля жардзяной загарадзі, падбег каратканогі Бусько.— Па шапцы відаць. Закінулі сюды.

— Бусько, замкні зяпу! Разбяромся без цябе. Ты во скажы, дзе трэці дзеўся?

— Халера яго знае. Як праз зямлю праваліўся.

— Расцяпы!..— Камашыла павярнуўся да Якуты.— Вядзі гаспадара. Што там сядзіць як мыш пад памялом. А мо даўно вышмыгнуў з хаты?

— Не-е, мы тут наглядаем.

Высокі, бялявы, рабацініста і са склюдаватым носам мужчына, баязліва сагнуўшыся, выйшаў на двор у сівым, вязаным са свае воўны світэры і ў гэткіх сівых суконных, таксама свае работы, галіфэ, падлапленых на каленях. Камашыла змераў яго касаватым злым вокам, ляніва варухнуў локцем на чарнявую маладзіцу ў зеленкаватай гімнасцёрцы з расшпіленымі і выпатрашанымі на дробных грудзях кішэнькамі:

— Знаеш гэтую?

— Скуль мне знаць? — мужчына пацісну плячом, на

якім раз'язджаўся незашпілены на чорныя гузікі сівы світэр.

— І шмат такіх каля твайго хутара ходзіць?

— Ці я лічу.

— Ладна,— Камашыла паправіў на шыі чорны рэмень цяжкаватага аўтамата.— Мусіць, прыдзецца ўзяць і цябе.

— А што ж я вінаваты?

— А там развяжуць твой язык і паглядзяць.

Міця, што дагэтуль цярпліва маўчаў, пераступаючы з нагі на нагу і чамусьці гідзячыся забітага з разарванаю, акрываўленаю шыяй хлопца, і чуючы ўжо нянавісць да Камашылы, няспешна падышоў да яго і засланіў мужчыну.

— Ці варт трывожыць чалавека. Хіба ён вінаваты, хто тут ходзіць. Каля парогу лес ды гасцінец.

— Корсак,— цяжка ўздыхнуў Камашыла.— Раз ты такі жаласлівы, тады з Буськом даставіш яе ў камендатуру.

— А япрука? — вырачыў сваё лупатае вока Бусько.

— Япрука, кажаш?..— Камашыла пашморгаў, павадзіў пальцамі па партупеі.— Варт было б вярнуць людзям. Але і нам скварка не зашкодзіць. Павязём з сабою. А вы пеша, да горада кіламетраў чатыры, не больш. Заўтра знойдзеце нас у Дварчанах.

...Па шапаткой жвірыстай дарозе, на якую наўскос клаліся доўгія цені ад старых карэла-шурпатых бярэзін, цяпер яны ішлі проці невысакаватага ящчэ сонца, што калюча мільгала за верхавінамі старых елак, абвешаных цэлымі прыгаршчамі верацёністых і спелых шышак.

Наперадзе, абмінаючы глыбокія, даўно непадсыпаныя рамонтнікамі выбоіны, клышанога і цяжка ступаў закарэлымі чаравікамі нізкаваты няскладны Бусько, і за ім, несучы на руцэ кажушок і застаўшыся ў гімнасцёрцы і тугавата-кароткай спаднічцы, якую распіралі гладкія бёдры, ішла яна, рослая прыгожая дзяўчына. Трэцім, трохі зводдаль, трымаючы ўсё ж напагатове нялёгкую мосінскую вінтоўку, панура ішоў Міця, вар'яцеючы ўжо ад злосці, што азызлы ад перапою Камашыла так і не дасць убачыць Верасава.

Што там сталася? Няўжо праўда спалілі толькі верасаўскія хутары? Няўжо кругом смерць? Няўжо паставяць на тую вузкую грэбельку між двух доўгіх равоў у іх за казармамі, дзе расстрэльвалі маладых яўрэек, што рабілі да астатняга часу перакладчыцамі, і, перад тым як выстраліць у патыліцу, распрануць, нават да брыдкасці, да знявагі, да агіды — нагола.

Міця прыглядзеўся да рослай дзяўчыны і раптам убачыў у ёй нешта блізкае: Чэсіна. Зрабілася не па сабе. Памкнуўся з ціхай непрытоенай радасцю і шкадаваннем нават загаварыць, але яго, насоўваючы з патыліцы на вочы шырокую пілотку і ўгінаючыся ад сонца, што пырснула на шашу сляпуча ружовымі промнямі, апярэдзіў Бусько:

— Ты скажы?

— Чего тебе?

Бусько абярнуўся ў гэткай шырокай насунутай на вочы пілотцы:

— Хто будзяш?

— Учительница я.

— Ты вучыла дзяцей? — паспешна перапытаў Міця.

— Да. Я окончила педагогическое училище.

— Не марозь,— зноў абярнуўся і блізарука прыжмурыўся Бусько.— Ты скончыла нешта іншае. У войска ўчыцеляк не бяруць. Людзей вучылася страляць...

Шаша, крута спадаючы ў лагчыну, завілася каля старых, у нарасцях жаўтлявай смалы елак і крывых, вузлаватых дубоў, не ссечаных тут, з самага краю лесу. За імі праглядваўся, радасна бялеў на далекаватай, акружанай паводкаю сінечы, палогай гары невысокімі камяніцамі і бязверхім касцёлам цесны, збіты ў глухую купку гарадок.

Дзяўчына перакінула на другую руку кажушок і сказала ўжо пра тое, што, мусіць, думала:

— Нет, людей-то убивать я не училась. Разве что фашистов...

— Гэ-гэ! — зарагатаў, задзіраючы галаў, Бусько.— Ну во, я ж і казаў.

Міця спярша не паспеў нават разабраць, усвядоміць, што здарылася, чаму, засланіўшы свет, яму на галаў зваліўся кажушок, покуль не ўчуў, як палусквае, нібы агонь, трухлявае галле і як шоргае там, ужо ў лесе, сухое закурэлае лісце. Толькі Бусько, нічога яшчэ не ведаючы і не бачачы, дурнавата рагатаў.

Міця з размаху, адною рукою разам з пілоткаю здзёр з сябе кажух, убачыўшы, як ужо далекавата за старою, аброслаю данізу густымі лапамі елкаю, збіўшы вушанку і трасучы караткаватымі валасамі, мільгае і зараз знікне з вачэй, схаваецца за шара-галубаватымі камлямі дубоў высокая, спрытная ў паставе дзяўчына.

«Ну, уцячэ. Ну, ліха з ім. Што зробіць Камашыла? Ну, пакрычыць, падзяўгае». Міця падняў вінтоўку, убачыў, як у маленькім прагале між камлёў дрэў варушацца худаватыя

плечы, прыкленчыў на адну нагу, упёрся ў яе локцем і, не вельмі цэлячыся, націснуў на спуск.

Далёкім расцяжным рэхам тройчы адгукнуўся стрэл.

Вузкія плечы ў зеленаватай гімнасцёрцы пахіснуліся за крываваты, з балючай нарасцю ад маланкі камель абамшэлага дуба. Міця пругка прыпадняўся, трымаючы ў руках гарачую вінтоўку, ад якой адплывала, увачавідкі раставаючы, сіняватае воблачка дыму.

Павярнуўшыся назад, Бусько збянтэжана і ўтрапёна паглядаў то на Міцю, што ніякаваты і збялелы стаяў на шашы, то туды, у лес, дзе знікла, схавалася за дрэвамі дзяўчына.

— Раніў! Раніў! Не ўцякла! — закрычаў Бусько з раптоўным і шугатліва-ломкім трэскам, як дзік, скочыўшы ў лес, і пабег, выставіўшы наперад руку і ловячы ёю сухія ражны сукоў.

Міця, чуючы, як млеюць і дробна дрыжаць ад усяго нечаканага ногі, падышоў не адразу. Доўга стаяў за калматаю елкаю. Высунуўся з-за яе і сумеўся: збялелая, з перакрыўленым у пакутнай міне тварком, дзяўчына, квола і нямоцна трымаючыся рукамі за шурпаты, з наплывам нарасці тоўсты камель дуба і сутаргава, раскрытым ротам ловячы паветра, аб'язджала на леташняе чутка-шапаткое лісце. З разарванай на кішэньцы гімнасцёркі сачылася і цямнела вялікай плямай кроў.

— Гад поганый. И в сердце же...— яна сутаргава яшчэ здрыганулася і захрыпела, захлябнулася крывёю.

Міця заплюшчыў вочы, ліпучы пот абліваў усяго, млявая гарачыня падкочвалася пад сэрца: не чакаў, не спадзяваўся, не думаў, што калі-небудзь заб'е чалавека. Такі вялікі, такі непапраўны грэх! І далей перад табою чорная бясконцая яма...

## XVIII

Зноў была школа і зноў да адчыненага акна то падыходзіў, то сплываў, як вада, мяккі, густы і такі знаёмы з дзяцінства шум гонкіх соснаў. Зноў быў чуваць едкі скрып прыцёртых галін і раптоўны, нібы спадцішка, лускат трухлявага сушняку. І зноў пасля шчодрага, з высокім вясновым громам навальнічнага дажджу сярод ночы ў пагодную сыравата-лёгкую раніцу па заберазі каламутных лужын у крэмавай пене кіпеў пылок, абцярушаны з непрыкметных свечак сасновага цвету.

Каля ашалёванага дошчачкамі з каптурыкам стрэшкі школьнага калодзеся зноў цвіла і гаркаватым цяплом пахла нахіленая грабінка. І ад ружавата-сіняй расы гнуліся жоўтыя, густа абкіданыя цветам, нізкія кусты акацый. І ўздоўж сцежкі вызіралі ўжо махрыстыя кружкі малачайніку. Учора самы старэйшы тут з іх — чарнявы, брываеты мужчына, з нязвыклым прозвішчам Даражэй, скінуўшы боты, рашыўся прабегчы босым да калодзеся, каб памыць ногі, і незнарок наступіў у ясна-жоўтых кветках на злую пчалу. Уджалены ў ступню, ён нема заенчыў, а потым ужо праз якое паўгадзіны надзіва ўсім пачаў траціць прытомнасць. Спярша, вядома, той-сёй пасмехваўся, што чалавек канае ад пчалінага джала, покуль ён не паказаў падпухлую і пасінелую да калена ногу.

Разумеючы, што тут ужо не да смеху і жартаў, Камашыла загадаў адправіць смяртэльна ўджаленага мужчыну ў нямецкі вайсковы шпіталь.

Там зрабілі некалькі ўколаў, але гэта не памагло — уночы Даражэй памёр.

Цяпер увесь іхні трэці ўзвод, што размясціўся ў бакавым, самым светлым класе, дзе заміж партаў стаялі збітыя з дошак двухпавярховыя нары, пазіраючы на пустое ніжняе месца, сцінаўся ад холаду, не верачы яшчэ ў гэтую неверагодную і дзіўную смерць.

Яна была ўжо другая: пазаўчора, уцёкшы ў самаволку і напіўшыся ў нейкай маладой бежанкі, што жыла ў чыгуначным доме недалёка ад моста, лічы, пад самым носам у чыгуначнай аховы, праз акно быў забіты іхні сяржант, памаўзлівы, як кот, брыдотлівы Жора Бакей. Чарнявую з вялікімі сінімі вачмі бежанку разам з мацераю, гарбатаю даўгарукаю кабетаю, збілі да паўсмерці і, укінуўшы ў грузавік, завязлі ў Навагрудак у камендатуру.

Перад сном, калі ўсё сцішылася, думаючы кожны пра сваё, блізкае і роднае — бацькоў, недалёкую адсюль вёску, дзяўчыну, з якой столькі праседзеў на прызбе, ці маладую жонку, з якою нават не паспеў нацешыцца пасля мясаедавага вяселля,— шапялявым бабскім голасам пачынаў падстрашваць усіх клышаногі, вугры ваты Коля Маланка:

— Хлопцы, не спіце?

— Ціха ты, шапялявая м...

— Хто, не сцярпеўшы, лаяўся, а хто і пачынаў прыслухвацца да шапялявага голасу:

— Гэта толькі пачынаецца.

— Што пачынаецца?

— Ці сам не дагадваешся? Пачынаюць пуставаць ложкі... Так было ў нашай вёсцы.

— А пры чым твая вёска?

— А пры тым. Памёр летась у нас адзін чалавек і ледзьве не ўсю вёску павалок за сабою: у сямі хатах паўміралі людзі. Увесь канец адразу выкаціла.

— Можа, тыф быў?

— Ціф ці не ціф, а паўвёскі на той свет пайшло.

— Ды спі ты!..— узрываўся ўжо Нехта злы і нервовы, і тады, паскрыпеўшы нарамі, павярнуўшыся на другі бок, сціхаў шапялявы Маланка і тут жа пачынаў храпці і тоненька падсвістваць, нібы цягнуў што густое з бутэлькі.

Учуўшы гэты тонка цягучы свіст, ад неўтрывалага смеху пачыналі душыцца растрывожаныя, выбітыя са сну салдаты. Нехта мацюкаўся і тоўстым голасам крычаў:

— Ды мазні яму па рылу. Чуеш, мазні!

— А ты ўжо святы — і не храпеш, і паветра не псуеш?

— Ды не магу заснуць, не дае гэты храпун.

— Ага, ён... Не махлюй, пра жонку думаеш, што дупу на печы грэе.

— Сціхніце, хлопцы,— хто-небудзь пачынаў спакойна, як маленькіх, упрошваць.

Паволі, з нейкім сваім глыбокім уздыхам, з рыпеннем нараў, з задушлівым ад курыва кашлем, санлівым барматаннем трэці ўзвод нарэшце заціхаў. І тады супакоены, сцішаны ў сваіх думках Міця ўспамінаў ужо даўняе, уявіўшы гэты кутні клас без рыпучых нараў, а з трыма радамі жоўта-чорных лаўкаў, што гарою, адна на адной, ляжаць цяпер пад навесам дрывотні, з прадаўгаватаю зялёнаю дошкаю, на якой было лёгка і прыемна пісаць белым крохкім мелам, з аблушчанаю старою картаю, што вісела ў кутку на крыжавіне з аднаногай падстаўкі. А на сярэднім радзе за другой партай сядзела яна, Чэся. І Міця збоку бачыў яе расчырванелую шчаку, белы краёк шыі з карычневай радзімкай ніжэй вуха, ружовую мочку з серабрыстай перлавай гарошынкай завушніцы.

І як усё гэта далёка сплыло: і той клас з чорна-жоўтымі лаўкамі, і нізкі на вочы Шкудлярык з вялікім драўляным цыркулем пад пахаю, і фарсісты, з вузкімі падбрытымі вусікамі, з напамаджанымі валасамі, і нязлосна-злы географ Жэпка, што, рэзка павярнуўшыся ад дошкі, цэлка шпурляў цвёрдай крэйдай на заднюю лаўку, дзе рагатаў і круціўся Тадак Пясэцкі, і тамліва-абыякавая з блішчастымі ад закапанага альбуцыду вачмі пані Ванда ў занадта тугой і

кароценькай спаднічцы, і, каб зірнуць на яе файныя ножкі яшчэ больш, Тадак скідаў на падлогу сваю ручку і поўз на коленках пад стол.

Як усё нечакана і неверагодна страшна перамянілася ў жыцці. Пані Ванду забілі, здаецца, у сорак першым: яна, забегшы да суседзяў-яўрэяў, схавалася разам з імі ў склеп і туды якраз нямецкі матацыкліст кінуў гранату.

Тыдзень назад, кажуць, уварваўшыся ноччу ў хату, шукаючы, мусіць, яшчэ даўнейшага золата, нехта закатаваў, наздзекаваўшыся, пакалоўшы штыкамі грудзі і адарваўшы абцугамі пальцы, самую вясёлую з іхняга даўнага сёмага класа Анцю Станкевіч і яе мацеру. Па Дварчанах паўзуць прытоеныя, баязлівыя чуткі, што абедзвюх жанчын так нечувана і па-вар'яцку замучылі, напэўна, свае, местачковыя, бо чужому сярод ночы Сідорчыкі наўрад ці адсунулі б дзверы.

Нечакана Міцю падумалася пра Верасава, пра адзінокую Алесю, пра бацьку, што сніўся ўчарашняй ночы: услед за мацерою, што працягвала, падавала яму руку, ён уцякаў у цёмны і доўгі калідор, у нейкі дашчаны барак і знік там у невідушчым густым поцемку.

«Што ж удома?» — чуйным неспакоем застукала сэрца. Было горка, што Міця не мог забегчы ў вёску, заскочыць у родную хату. Крытая нямецкая машына з навабрадскай камендатуры, што ехала якраз у Дварчаны, прымчала іх разам з Бусько адразу сюды, у школу, гады ўжо два, як абгароджаную калючым дротам і перарobленую на казарму.

Як агністая пякучая маланка, Міцева памяць раптам выкрамсала з цемнаты белаватую ў перацёртым жвіры шашу, старую, паабіваную, у нарасцях і пацерках сівай смалы елку. Каля яе ружаватага камля вялікі мурашнік з цёмна-бліскучымі, як распелыя ягады ажыны, горсцю мурашак, палахлівы шоргат порсткага, закурэлага лісця і чуйны трэск сатлелага галля — уцякала яна, высокая з дробнымі грудзьмі партызанка.

І ўспомніўся свой гарачы, нечаканы нават для самога сябе стрэл.

Усяго зноў абліў пот. Міця перавярнуўся на расхістаных дашчаных нарах: няўжо ў кожнага, хто трымае вінтоўку, будзе на рахунку забіты чалавек? Вось так неспадзявана ён прынясе каму-небудзь смерць, не жадаючы і не хочучы таго.

Позні, трохі замурзаны чырвоны месяц, выцерабіўшыся з густых, кудзеркаватых верхавін гонкіх хвоек, зазірнуў

Міцю ў твар. Скрыжаванымі рукамі Міця закрыўся ад яго і нават паспеў задрамаць, убачыўшы тое ў сне, пра што думаў: ён бег па шапаткім ад леташняга лісця, закурэлым вясновым лесе, раз за разам страляў. І нечакана ад яго стрэлаў зазвінела і рассыпалася шкло. Міця падхапіўся, яшчэ не ведаючы, ці ён прысніў, ці папраўдзе з вокнаў паляцелі шыбы. Блізкая аўтаматная чарга, лушчачы на сцяне тынк, параснула сюды ў клас.

— Хлопцы, напад! — крыкнуў дзікавата-тонкім, не сваім голасам нехта з салдат, задыхаючыся ад горкага вапнавага пылу.

Міця, таксама глытаючы гэты сухі ад пабітага тынку пыл і чуючы, як цяжка гупаюць на падлогу салдаты, выкуліўся з жолаба цесных нараў, намацаў на табурэце сваё адзенне, спешна нацягнуў штаны.

Па вокнах, крышачы звінючае ломкае шкло, прайшлася яшчэ адна аўтаматная чарга. Нехта дзіка, са стогнам ускрыкнуў і цяжкім вялым мяшком гупнуўся на падлогу.

— А во забілі! Нежывы! — зноў тонкім баязлівым голасам крыкнуў салдат.

— Каго гэта? — Міця пазнаў глухаваты і ціхі голас Бусько.

— Во яго, Маланку...

— Напрарочыў, ліха яго галаве, сам сабе.

Міця, не зашнураваўшы чаравікаў, выскачыў на калідор, навобмацак у чорным, як сажа, поцемку рвануўся ў аружэйны пакой. Нечакана ў вочы яму пырснуў і асляпіў зыркі слупок ліхтарыкавага святла.

— Ты Корсак? — спытаў і патушыў ліхтарык Камашыла.

— Я.

— Ідзі сюды, вінтоўкі тут. Я ўночы перахаваў. Як ведаў...

— А што было?

— Палякі падсунуліся. Чуеш, як па іх лупяць немцы з ортскамендатуры.

Недзе па лесе ўразнабой кароткімі чэргамі стракаталі аўтаматы. І ў шарую раніцу, што сінела дрыготкім ужо халадком, без ладу, не метка бухалі адзіночныя вінтовачныя стрэлы.

— Каб не яны, не немцы, то нам былі б кранты. Добра, што я паспеў падняць трывогу. І аднаго, здаецца, улажыў — Камашыла падышоў да запацелага акна, локцем мазануў

па шыбе.— Паглядзі, вунь ляжыць, як парсюк. Яны ж праз адчыненую браму рвануліся да нас...

На чорнай вільготнай зямлі каля калодзеся Міця ўбачыў нешта цьмянае, падобнае на кароткую, сукаватую калоду.

— Жылінскі аказаўся прадаўцам — браму адчыніў... Ты яго ведаеш: чорны, высокі, вуграваты, з першага ўзвода. У мяне падазрэнне на яго даўно было, што знаецца з палячкамі. Сёння, калі ён заступіў у караул, мне як цюкнула пабудзіць колькі хлопцаў і не спаць.

Камашыла падаў Міцю вінтоўку і, бліскаючы незапаленым ліхтарыкам, што зачапіўся дужкаю за гузік на грудзях, забразгаў падкутымі абцасамі да дзвярэй, дзе варушыліся калматыя цені, і раптам прыпыніўся:

— Скажу, падазрэнне падала і на цябе.

— Як? — спатыкнуўся на стрыжняватай падлозе Міця.

— Хіба не ведаеш, палячкі круціліся каля Грабянкавага дома. Гняздо там звілі.

— Я пры чым?

— Ну, не прыкідвайся дурнем.

Міця ўчуў, як пацяжэлі, заплялiся ногі — што з Чэсяй?

— Чаго звесіў нос? Тваю пашкадуем, у крыўду не дамо,— Камашыла штурхануў Міцю ў плячо.— Бяры смелых салдат. Пойдзем у пагон. Дзень на носе — зловім... Далей Лезнявіч, адкуль сам Жылінскі, яны не пабягуць. Некаторыя нашы драпанулі з ім разам. Кажуць, ажно пяцёра.

Сіні халаднаваты змрок вострым строкатам прапорвалі аўтаматныя чэргі. Позні месяц, пачырванелы і вялікі, паволі тануў якраз за чорныя дахі дамоў, за якімі ўзрываліся і лускалі стрэлы. Там недзе цяжка, як цераз сілу, забухаў кулямёт.

Міця, абягаючы калодзесь, прыпыніўся, прыглядзеўся да забітага і, здрыгануўшыся ад азыраватага холаду, знякавеў, пазнаючы доктара Длубака. Міця адбегся, а потым, не верачы сабе, колькі крокаў ступіў да яго: Длубак ляжаў, падкурчыўшы ногі, уткнуўшыся лысаватаю галавою ў тлустую гразкаватую сцежку, з раскрытага, перакошанага рота паўзла вялікая бардовая кропля крыві.

— Хлопцы, бягом за мною! — хрыплавата крыкнуў Камашыла.— Што чухаецеся, як свінні каля плота?

— Падсунемся пад кулі, як бараны,— уздыхнуў Бусько, разам з Міцем ускокваючы ў вароты.

— Не панікаваць! — замарудзіў крок Камашыла.

Міця перабег на другі бок вуліцы далей ад сівога, яшчэ

несаржавелага калючага дроту, якім, нібы заблытанай павучынай, на высокіх слупах з падпорамі была аплецена школа.

Між гонкіх рэдкіх сосен улукаткі шмыгала слізкая ад кастрыцы, нібы знарок падсыпаная старымі шышкамі, тупкая сцежка. Наступіўшы на іх і паслізнуўшыся, злосна мацюкаліся салдаты.

— Разамкнісь! Што збіліся ў кучу? Корсак, заварочвай на Касцельную. А ты, Кур'ян,— дварамі! — голас у Камашылы стаў злосны і цвёрды.

Трымаючы палец на курку халоднай, цяжкаватай вінтоўкі, Міця выскачыў на шырокі прагал лесу, забудаваны толькі з аднаго боку новымі, там-сям яшчэ з забітымі вокнамі, недакончанымі дамамі. Далекавата ў рэдзенькай смузе раніцы нехта, прыгнуўшыся, перабег вуліцу, схаваўся за белым атынкаваным домам.

— Глядзі, халера, яны! — закрычалі ззаду.

І ў Міці з-за плячэй бабахнуў, аддаўшыся расцяжным ляхатам, нечаканы стрэл.

З блізкай папяровчнай вуліцы на гэты стрэл выскачылі двое ў чорных шынялях: Міця пазнаў дварчанскіх паліцыянтаў Ядлоўскага і рыжага нізкага Лялька, што дагэтуль працаваў на дварчанскай чыгунцы грузчыкам, вызначаючыся тым, што мог паднесці на сабе дваццаць пудоў — чатыры поўныя, накрыж пакладзеныя мяхі.

Блізкі дзень ужо добра вызначыў іхнія зеленаватыя недаспаныя твары.

Лялька зняў з белай, падстрыжанай пад кароткую польку, круглаватай, як бручка, галавы пілотку, махнуў ёю:

— Куды страляеш? Так жа можна пераструшчыць адзін аднаго!

— Тут жа ж пабег...— пачынаў апраўдвацца той, хто страляў.

— Мы яго знаем. Выскачыў ад Грабянкаў.

Міця, учуўшы, як халодныя мурашкі заказыталіся на спіне, зніякавала пазіраў на худога з упалымі шчокамі Ядлоўскага:

— А што там у Грабянкаў?

— Ортскамендатура разбіраецца,— нехаця адвярнуўся Ядлоўскі.— Нам да іх справы няма.

— А чаго таіцца,— паволі ўскінуў на плячо вінтоўку караткаваты Лялька.— Расстралялі ўсю сям'ю і хату падпалілі.

Нешта цяжкае, нібы вагонны буфер, ударыла Міцю ў

грудзі, і ён ажно пахіснуўся. Шаркаючы цяжкімі самлелымі нагамі па ліпкім сыраватым пяску, ірвануўся на блізкую Паштовую вуліцу і за цёмнымі камлямі соснаў, за густа пераплеценымі, ацяжэлымі галінамі, за чарадою комінаў на вострым чарапічным даху белай мураванкі ўбачыў залаціста-трапяткое, ірванае полымя агню. Яно з густым траскучым шумам вырвалася з вокнаў. Над гарачым і густым, як растопленае шкло, мроівам, што вірыла ўгору, пакалыхваліся ў нейкім страшным адчаі зялёныя кроны старых, знявечаных соснаў.

Вастраватыя джалы полымя цягнуліся да растапыраных галін, хапалі за густыя кудзеркі, злізвалі іх і няслі ўгору з агністым дымам, што роўным слупам упіраўся ў чорна-шызаватую хмару, што кіпела, пераварочвалася і разбухала вялымі клубкамі.

Падкусваючы губу, Міця заплюшчыў вочы, каб суняць нечаканы і першы балючы страх і адчай. Гэтак і знямеў у цёмным віры, чуючы ўжо, як цяжка бягуць па сырым пяску саладаты, і ў тахт іхніх тупых крокаў турзалася і раставала ў млявай гарачыні сэрца.

Да агню, да палаючага дома Міця не падышоў: што трымала, не ведаў сам — ці ўжо роспач, што ў агні можа быць яна, Чэся, ці ўжо неразважная ўзбунтаваная да вар'яцтва помста — страляць з вінтоўкі па тых, што стаяць, паблiскваючы кукардамі, каля нізкаватага плота, каля кустоў пасівелай акацыі, далей ад палкага, траскучага агню. Каб хоць была граната! З вінтоўкі ўложыш хіба аднаго...

Міця прыгледзеўся. Не, яны не стаялі. Яны некага білі: тоўсты кулак, што сціскаў браўнінг, то падымаўся, то падаў на нечы ўжо акрываўлены твар. Невысокі, шчуплы мужчына ў камізэльцы з карычневай шаўкавістай устаўкай, толькі неяк няспрытна, нібы слепавата, падымаў рукі, стараючыся як-небудзь абараніцца ад высокага немца ў серабрыстых пагонах і ў туга выгнутай фуражцы. Мужчына адхіліў твар, якраз зноў наткнуўшыся на цяжкі кулак з чорным браўнінгам, і, як п'яны, асеў, звіўся каля шчыкетніка, мусіць, на які міг страціўшы прытомнасць. Нарэшце заварушыўся, абапёршыся на рукі, доўга стаяў ракам. Шырока расставіўшы ногі, над ім стаяў і крычаў па-польску высокі немец:

— Кто ты?

Мужчына маўчаў.

— Сконд ты тутай?[1]

[1] — Адкуль ты тут? *(польск.)*

Мужчына зноў апаў на рэдзенькую каля плота траву.

— Мув, бо стжелям![1]

Няўжо гэта Ганкевіч? Выкладчык спеваў у польскай сямігодцы, цяпер — арганістым у дварчанскім касцёле?

Міця падступіўся бліжай. Не, гэта не Ганкевіч, гэта, здаецца, нехта чужы. Але хто, адкуль? Як трапіў у Грабянкаў дом? А можа, яго прыгналі, прывялі ці проста прывязлі на гэтым папяловым вялікім грузавіку з кароткім радыятарам і драцянымі, растапыранымі, як у матылька, вусамі на крыллях, што стаіць на другі бок вуліцы. І каго расстраляў гэты сутулаваты афіцэр з вітымі серабрыстымі пагонамі на худых плячах.

Няўжо праўда: Чэсю, Анцю, Чэсіну маці?.. І няўжо яны там у гэтым страшным, траскучым і шумным, як вадаспад, кіпячым агні, куды пачынае ўжо правальвацца, падаць, сыплючы іскрамі, пакарожаны, з пакручанай бляхай, высокі дах.

Трывожныя вялікія кругі над расшуганым пажарам рабілі два белыя галубы — на гарышчы ў доме, мусіць, было іхняе гняздо.

— Корсак!

Міця павярнуў голаў на хрыплаваты голас: адпіхваючы локцем аўтамат, што, мусіць, перашкаджаў яму, да самаробнай, з патрона, машынкі, на якой трапятаўся каснік агню, з цыгарэтаю ў зубах гнуўся Камашыла.

— Не гаруй, тваё няма.— Камашыла зацягнуўся і пыхнуў сіняватым дымам, што завіўся над ім матком пражы.

— Скуль знаеш? — Міця падбег да яго, чуючы на плячах сухую гарачыню вялікага агню.

— Знаю, паліцыянты сказалі. Ідзём, трэба прыспешваць... Яны далёка не адбягуць. Кажуць, іх чалавек трыццаць тут было.

Палахлівы, дрыготкі водсвет закалыхаўся на штыкетавых платах, на шчытах і сценах дамоў і зламаўся на няроўным шкле запацелых вокнаў.

Міця азірнуўся — у палаючы, ахоплены полымем зруб упаў разам з комінам дах,— і пайшоў ужо не сваімі, ацяжэлымі нагамі.

Камашыла з завулка ўжо зварочваў на ружаватую шашу, за якой чарнелі недагледжаныя, з павыбіванымі вокнамі і высаджанымі дзвярмі, некалькі хат, абгароджаныя

---

[1] — Кажы, бо застрэлю! *(польск.)*

калючым дротам — леташняе гета, пасярод якога дзвюма прысадзістымі пірамідамі ўздымалася нацюкаванае выцвілае сена.

— Яна, кажуць, у нейкіх тваіх сваякоў,— Камашыла сплюнуў з губы недакураную цыгарэтку.

— Якіх сваякоў?

— Не ведаю, разбярэшся потым,— Камашыла рэзка адмахнуўся локцем і выскачыў на брукаваную, са спацелымі за ноч каменнямі шашу,— сюды, рассыпаўшыся ланцугом, выбягалі жаўнеры ў караткаватых зялёных фрэнчах і шчытна сабраных гетрамі, у напуск над чаравікамі, зялёных штанах.

Выцершы рукавом запечаныя губы і адкашляўшыся, каля Міці з Камашылам прыпыніўся высокі бялявы салдат,— той самы, як прыкмячалі, што перад сном дрочыў сябе.

— На Ельніцу пшэкі паперлі,— сказаў ён, ставячы каля нагі вінтоўку.

— Нічога, нідзе ні дзенуцца, зловім, з курві іх сыну! — вылаяўся па-польску Камашыла, і з'едлівая ўхмылка падняла яго тоўстыя шчокі.

Але акоўцаў[1], з якімі ўцёк сяржант Жылінскі і трое салдат, яны не злавілі, балазе самі не трапілі ў іхнія рукі. За кіламетры тры ад Дварчанаў, ужо за Грабянкавай асадай, ад якой ацалела адна ўсяго мураваная абора, дзе прытулілася, адгарадзіўшы сабе закутак, нейкая сям'я — кабеты ды дзеці са старым, зарослым белаю, ажно зеленаватаю барадою, хворым на тыф мужчынам,— іхні ўзвод абстраляла нечаканая засада.

Глініста-коўзкай дарогай яны толькі высунуліся на грудок да вялікіх, сівых ад лішая каменняў, як з блізкага ляска, з-пад крываватых, з падсохлымі кронамі старавечных хвоек застукаў, нібы захлынаючыся злосцю, ручны кулямёт і забахалі некалькі працяжных вінтовачных стрэлаў.

Міця толькі ўчуў, як тугою звінючаю струною кулі прашыліся з правага боку ад яго, якраз там, дзе квэцаў па раўчачку, што сачыўся з грудка, высокі бялявы салдат. Ён ціхенька і плюхнуўся ў гразь на сваю вінтоўку з прымкнутым трохгранным штыком.

Міця нагнуўся над ім, перавярнуў, затрос, але на ясны

[1] АК — Армія Краёва. Яе злучэнні ў гады вайны дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Тых, хто належаў да АК, называлі акоўцамі.

свет з невысокім ранішнім сонцам ужо глядзелі сінія, з выцвілымі вейкамі, нерухомыя вочы.

Яны заляглі тут жа, за гэтымі замшэлымі, пазвожванымі з поля на дарогу валунамі. Білі ўжо па старых хвойках, нават бачачы, як кулі адлушчваюць на іх кару, але адтуль ужо ніхто не адстрэльваўся.

Баючыся, мусіць, што наперадзе маглі затаіцца і большыя сілы, Камашыла даў загад варочацца з палявой, адкрытай для куль дарогі ў Грабянкаву асаду. Забітага салдата, заклаўшы на сваю шыю яго рукі, на змену валаклі па двое дужых хлопцаў. Міця нёс вінтоўку. Чуючы на ёй яшчэ чужое цяпло, нешта агіднае тачылася пад сэрца, што мог так нечакана і негадана згінуць і сам.

— Бачыш, мне пашэнціла,— Камашыла падняў руку і паказаў парванае вышай локця, нібы ён зачапіўся за калючку дроту, сваё рукаво.— Маглі ўлажыць, як Данільчыка.

— Дзіва што,— падмахнуў галавою збялелы, што не адышоў ад страху, жаўнер.

— Маглі, чорт ім бацька! — працадзіў праз зубы Камашыла і азірнуўся на далекаваты ўжо лясок.

— А ўсё праз яе, ліха матары.

— Ага, паверылі, дурныя.

— Ну курва, я ўваткну ёй аўтамат паміж ног і выстралю, курва! — Камашыла ўжо закіпеў помслівай злосцю на рослую, гладкую ў клубах маладзіцу, якая перад гэтым так лёгка змахлявала, што тут «далібог, нікога нідзе нямашука», калі ён спытаўся, ці не бачыла паблізу начных гасцей.

— І праўда што — у расход,— падгаворваў Камашылу ліслівы, з худою доўгай шыяй сяржант.

— Яна тут з імі, відаць.

— Можа, яшчэ і мужык у тым ляску?..

Яе і вывелі з цаглянай аборы пад невысокую, што толькі выпускала сівае лісце ў ружаватым, яшчэ не раскрытым цветам яблыню.

— Пастараніцеся, дай гляну на яе,— Камашыла махнуў кароткім рагатым аўтаматам.— Гладкая нябось. Пэўна, не часта гаспадар з лесу адведвае?

— Які гаспадар?.. Людцы добрыя! — ведучы за тоненькую ручку гадоў пяці дзяўчынку з чырвоным ячменем на падпухлым вочцы, сюды падбегла выпетраная, са звялым, як леташняя карТопля, тварам старая кабета,— напэўна, свякроў.

— Старая, не падлазь! — зверавата азірнуўся Камашыла.

— Паслухайце ж мяне! — зноў закрычала старая, падбегшы з дзіцем да маладзіцы і засланіўшы яе.— Мужык яе летась памёр. Няхай крые бог. Забалеў зуб і з зуба памёр.

— Чаму змахлявала, курва, што партызаны тут ёсць?

— Нічога не бачыла, не ведаю,— маладзіца падхапіла на рукі перапалоханую, што зайшлася плачам, дзяўчынку.

— Можа, і праўда, жанчына нічога не ведала,— як мог спакойна сказаў Міця, убачыўшы, што на сiняватым ад вугроў Камашылавым твары захадзілі цвёрдыя жаўлакі.

— Ты што? Сёння ў яе на адной цыцы спаў адзін, а на другой — другі! А ты кажаш, не знала...

Пакаўзнуўшыся на тлустай чорнай сцежцы, да маладзіцы рэзка рвануўся і хапіўся за чорны рагаты аўтамат Камашыла. У кутку яго перакошанага рота злосна бліснула залатая каронка.

— Так, значыць, не бачыла? А з кім спала сёння? Сучка...

На гэты крык здрыганулася і, тулячыся да кабеты, заверашчала дзяўчынка.

— З кім спала, мне знаць,— апусціла галаў і прытулілася да дзіцяці маладзіца.

— А божачка, што ён...— не паспела крыкнуць старая, не паспеў нічога разабраць і Міця, як гарачае полымя разам з сухім трэскам запырскала з чорна-сіняватага ствала аўтамата маладой жанчыне ў здзіўлены твар.

Яна хіснулася і ўпала пад сівую нізкую яблыню, на аксамітна-мяккую траву, спярэшчаную белымі стакроткамі, і з-пад яе выпаўзла, паднялася ракачком і пабегла, мільгаючы тонкімі, як сніткі, нагамі, пад чорныя ліпавыя прысады пяцігадовая ашаломленая дзяўчынка.

Міця, падышоўшы бліжай да Камашылы, засланіў яе сабою. Але Камашыла ўжо і сам апусціў аўтамат. І над мёртвай, сарваўшы з сіва-чорнай парадзелай галавы хустку, нудна і тоненька завыла старая кабета.

Маладзіца ляжала бокам, нібы незнарок, нібы выпадкова спатыкнулася, і ў Міцеву душу нечакана ўдарыў яшчэ адзін знаёмы боль — успомніўся нядаўні, з сухім шапаткім лісцем у дрыготкай ветраніцы лес, яго, Міцеў, нечаканы стрэл, і рослая худзенькая дзяўчына ў зеленкаватай вайсковай гімнасцёрцы, што аб'ехала каля старога з балючай нарасцю ад маланкі дуба. А адначасна ў вачах усталі Дварчаны, траскучае шуганне агню, што з'ядаў Грабянкаў дом.

«Няўжо людзі аднакавыя, каб прыносіць толькі боль? Каб забіваць, паліць, помсціць?»

Ад думак Міцю працверазіў роспачны, з падвываннем крык старой:

— Божа, за што ж? Тут Настулін з руж'ём ходзіць. А вы яе... За што? Божачка мілы! — старая замахала выцвілаю, зношанаю хусткаю, стоячы на раскіслай сцежцы, па якой да яе босых ног, змяшаўшыся з гразёю, цякла цёмная кроў.

Гэты крык адчаю і пакуты стаяў у Міцевых вушах, калі яны, забраўшы ў суседняй ад Грабянковай асады вёсцы некалькі падвод, ехалі ў Дварчаны, везучы забітага Данільчыка і едучы самі.

Міця, не стрываўшы, нагнаў воз, на якім сядзеў, спусціўшы праз драбінкі чорныя акутыя чаравікі, маўклівы, непадступны Камашыла.

— А ты яе дарма...— узяўся за драбінку Міця.

— Ты пра каго? — падняў азызлы твар і зажмурыўся ад сонца Камашыла.— Усё пра тую курву, што падсунула нас пад кулямёт.

— Віну, грэх усе на душу бяром.

— Эх ты,— Камашылавы ногі вышчаміліся з драбінак,— святым хочаш быць перад чортам. Глядзі, ад чорта і згінеш.

Блізка ужо, у Дварчанах, у белай з блакітнымі купаламі царкве ўдарыў, закалыхаўся і паплыў мілагучны звон. Фурман, азіраючыся на Міцю з Камашылам і зняўшы пад'етую моллю суконную кепку, перахрысціўся.

— Во па Данільчыку ўжо ў царкве звоняць,— з'едліва ўсміхнуўся Камашыла.

— Усе не вечныя на зямлі, усе памром,— фурман нацягнуў на чорную з белай, ажно сіняватай плешынай галаў старую суконную кепку.

— Святыя памруць, а я, грэшны, пажыву,— Камашыла адным адплюшчаным вокам зіркнуў на Міцю.— Не думай, Корсак, пра грахі і смерць, а то і праўда — згінеш.

## XIX

Дачуўшыся пра бацькаву смерць, Міця схаладзеў, пачарсцвеў і апаў душою. І пасівеў. Але спярша не паверыў і нават сумеўся, калі, стоячы ва ўмывальніку перад люстэркам і ўзіраючыся ў схуднела-востры твар, у вялікія сінія вочы з жаўтлявымі кругамі ад недасыпання, на сваёй караткаватай польцы ўбачыў, як калючай халоднай іскрай

пырснуў серабрысты валасок. Міця прыгледзеўся лепш і згледзеў яшчэ адзін...

Потым ужо, забаўляючыся, цярэбячы ў яго валасах чуткімі пальцамі, здзівілася Чэся:

— Міцек, божа мілы, ты сівы!

— Ведаю, Чэся.

— І даўно ты пачаў сівець?

— Першы раз убачыў учора.

У яе шарых вачах, што адбівалі серабрысты праём акна, застыла на міг утрапёнасць. Махнуўшы вейкамі, яна сагнала яе і, ужо горка ўсміхаючыся, абедзвюма рукамі кінула яму на грудзі доўгія, адгадаваныя для косаў валасы.

— Прыгледзься,— сказала, глыбока ўздыхнуўшы.

— Я нічога не бачу.

— Не бачыш? — яна высмыкнула сіваватую пасму са сваіх залаціста-рыжаватых, густых валасоў.— А цяпер?..

— А цяпер бачу,— ён правёў пальцамі па гэтай казытліва-слізкай і цёплай пасме.— Калі гэта ў цябе?

— На тым тыдні, як маму з Анцяй спалілі,— у куточках яе вачэй набрынялі і дрыготка засвяціліся слёзы.

Міця пацалаваў у шорстка-казытлівыя вейкі, учуў салёны і прыемна-знаёмы з дзяцінства смак набеглых гарачых слёз, з забытай ужо сваёй крыўды і плачу.

Яна ўздыхнула, абвіла яго цёпла-мяккімі рукамі і пачала цалаваць яго сама: у твар, у губы, у шыю...

Ужо потым пасля шчырай і страснай адданасці яму, нейкая раптам прыціхлая, з ружаватай сарамлівасцю на шчоках, яна глыбока і затоена глядзела ўгору і, не вымаючы з-пад яго галавы цёпла-шаўкавістай рукі, запускала ў шорсткі ёжык яго валасоў свае пальцы, падчэсвала іх з патыліцы на макаўку і, не паварочваючыся на яго, гаварыла:

— Вось і мы пасівелі з табою, Міцек. Вось і нам прышла пара паміраць...

— Што ты кажаш, Чэся.

— Так, Міцек, кажу. А перад табою хачу нават прысягнуць, даць зарок,— яна дастала з-пад галавы ў яго руку і дакранулася пальцамі да яго губ, каб, пэўна, маўчаў.

— Калі астануся жыць, а цябе не будзе, я не выйду ні за кога замуж. Ніколі, да астатніх сваіх дзён.

Міцева сэрца трывожна здрыганулася і замерла.

— Што ты, Чэся? — ён злавіў яе за руку, учуўшы, як часта б'ецца яе пульс.

— Хачу, каб ты, калі астанешся жыць, помніў мяне.

— Чэся, чаму я не буду помніць? І чаму нехта з нас павінен згінуць?

— Не ведаю, але я хачу, каб мы так пакляліся,— яна павярнулася да яго, абхапіла рукамі за галаў і гарачым дыханнем зашаптала ў твар.— Я хачу, каб ты помніў толькі мяне і... не браў нікога замуж. Ці мужчыны не могуць гэта зрабіць?

— Могуць, Чэся! Могуць...— ён задыхнуўся ад пацалунка.

Яна парывіста абняла яго і, сашчаміўшы рукі на шыі, не адпусціла.

Шчасце было кароткае, як зіхатлівы бляск кроплі дажджу ці імжы на шыбе акна.

Яны ведалі таксама, што шчасце не натоліш, але не расчэплівалі рук, не выпускалі адно аднаго з абдымкаў. Яны лашчыліся, як малыя дзеці, і цалавалі адно аднаго з галавы да пят і з ног да галавы. І зноў танулі ў вачах, і зноў парывіста ўздыхалі, захлыналіся, і балюча-салодка енчылі, і стагналі ад страсці. Потым зноў ціха стомлена і шчасліва жылі яшчэ нядаўнім, не забытым адчуваннем блізкасці...

Яны ведалі, што пры расстанні будуць нясцерпна і моцна жадаць адно аднаго. І гэтая прага блізкасці будзе млець у душы і пакутна таміць душу...

Ён губамі лавіў шурпата-салодкія саскі яе белых, туга налітых грудзей, а яна шчаслівa-балюча падкусвала за мочку яго вуха.

Да жыцця, да рэальнасці, да блізкага і страшнага свету, што пачынаўся тут, адразу за акном, за белымі падсіненымі фіранкамі, іх вярнуў асцярожны, але ўладны стук у дзверы.

Міця асцярожна, не адкідваючы завешаных фіранкаў, праз шчылінку між іх зіркнуў на двор — каля белага, атынкаванага, як і сам дом, калідорчыка, угнуўшы ў пляскатай кепачцы голаў, цярпліва стаяў Імполь і, падымаючы дзюбок хусткі, сюды на акно лупаватым вокам зіркала Хрысця.

— Хто там? — Чэся прысела на ложку і зграбла за патыліцу рассыпаныя валасы.

— Гаспадары.— Міця, ловячы рукою алавяна-шарыя гузікі на салатавым мундзіры, выбег у калідор.

— Галубіцеся тут,— увайшоўшы ў пакойчык, Хрысця не то незнарок злосна пажартавала, не то папракнула.

— Што ты сёння цэлы дзень бзыкаеш, як пчала? — Імполь кінуў на зэдлік свой растрыбушаны, злуплены за адно рукаво з плячэй шарачковы каптан.

Ён, трохі было відаць, недзе ўжо прычасціўся — дурнавата-кіслы смяшок крывіў яго твар.

— Я-то бзыкаю, а ты цэлы дзень піў бы.

— А чаму не? І з Міцем трэба па кілішку дзюбнуць,— Імполь пахіснуўся да шкапчыка, дастаў чорную з доўгай шыяй пляшку.— О, яшчэ царская бутэлька выхавалася, а ў ёй — пяршак.

— Не, не буду я, мне пара. На дзве гадзіны адпрасіўся,— Міця зашпіліў рэмень, абцягнуў кругом яго, паправіў фрэнч.

— Паспееш з козамі на торг, пачакай,— запыніла ўжо яго і Хрысця.— Пагаварыць трэба, што ж рабіцьмем?

— А што? — Міця, пацягнуўшы па калене, папрасаваў пілотку.

— Зноў, кажуць, арышты маюцца быць,— Імполь прыгрукнуў чорнай высокай бутэлькай.— Вайтовіч мне сказаў, а ён, халера, усё знае. Нават чамаданы спакаваў.

— Я во пра яе думаю. Ці ўседзім мы тут? — Хрысця азірнулася на Чэсю, што сцішэла каля парога, сабраўшыся, мусіць, правесці Міцю, узіралася ў круглае на далоні люстэрка і папраўляла на галаве шыракаполы капялюшык.

Міця ўздыхнуў, абцёр пілоткаю спацелы лоб:

— Можа, у Верасава яе?

— А казакі што падумаюць?

— Міцек, ты мяне хочаш недзе справадзіць? — Чэся ўзяла яго за локаць, у калідоры ўжо сказала: — Ёсць у мяне месца. Не бойся. Я перажываю больш за цябе... і за іх, за Хрысцю з Імполем. Яны так мне памаглі. І не трэба наклікаць на іх большага падазрэння.

— А якое падазрэнне,— Міця завярнуў Чэсю ў другі бок, каб не ісці тою вуліцаю, дзе стаяў Грабянкаў дом і дзе пад старымі абпаленымі хвойкамі на высокім фундаменце каля расколатай кафельнай грубкі падымалася чорнаржаваю горбаю смуродлівае пажарышча, у якім радужнымі водблескамі адсвечвала растопленае і застылае ў пляйстрах шкло.

Здаецца, пазаўчора Міця бачыў, як мяшчанскія дзяўчаткі калупаліся на пажарышчы і меншая з іх, чарнявакурносая, падтрасала на скурчанай далоньцы цёмна-вішнёвыя гранёныя кубікі і вясёла гукала:

— А во, пацеркі знайшла!

Міця ажно зніякавеў, успомніўшы, што гэткія цёмна-чырвоныя, колеру грачанага мёду, пацеркі ён убачыў у Чэсі тады, калі яны ездзілі на возера Світазь.

Як гэта ўжо было даўно.

Ён асцярожна, украдкам зірнуў на Чэсю: яе падцятыя губкі злосна выпнуліся, у глыбокім цяжкім уздыху раздзімаліся маленькія ноздры. Яна ішла, горда несучы галаў, але, мусіць, нічога не прыкмячаючы перад сабою: нібы ў вачах у яе стаяла тое пажарышча, трупы маці і сястры, і яшчэ невядомага ёй чалавека, што ўскочыў у дом, і праз якога немцы, западозрыўшы ў сувязях з польскімі партызанамі, пастралялі ўсіх, хто быў той ночы у Грабянкавым доме. На шчасце, Чэся дзяжурыла якраз у шпіталі.

— Чэся, [redacted] адпрашуся ў Камашылы і пад'еду ў Верасава.

— Чаго? — яна абыякава глянула на роўны, прыбіты пад шнур шчыкетнік, за якім падымалі чорна-крывое голле ў ружовых пупышках цвету беланогія яблыні.

— Там таксама бяда.

— Я ведаю, Міця... Нам выпаў нейкі аднолькавы лёс,— яна нагнулася, сарвала махрыстую кветку дзьмухаўца і панюхала яе, пакінуўшы на кончыку носа жоўты пылок.

— Пагляджу, дамоўлюся з сястрою. Можа, ты пажывеш там?

— Не, Міця,— яна пакруціла за ружаваты сцвалок жоўтую, раскрытую сонцам кветку.— У Верасава не пайду. Сам ведаеш, [redacted] не падрыхтавана да вясковага жыцця. Я буду чужая там.

— А хіба табе можна аставацца ў Дварчанах? Ты ж на падазрэнні.

Чэсіны губы балюча ўздрыгнулі, яе рука рэзка, наводліў адкінула махрыстую кветку і там, за шчыкетнікам, куды ўпала яна, злосна замармытаў і пакаціўся да высокага з пачарнелымі балясамі ганка крывалапы, куртаты шчанюк.

На ганку, злавіўшы рукою кантовы слупок, падступаўся, падазрона выцягваў шыю, перакрывіўшы ў брыдкай грымасе рот і вылупіўшы белаватыя вочы, недаўменны, здзіўлены Вайтовіч,— мусіць, першы раз бачыў у вайсковым абмундзіраванні Міцю.

— Не мардуйся, Міцек,— Чэся лёгенька ўзяла яго за руку.— Я знайду прытулак... Верыш, я баюся за цябе. Нават кожны вечар пачала маліцца, гаварыць літанне: «Од поветша, глоду, огня і войны... Од наглэй і несподзеванэй сьмерці[1]».

Яна адвярнулася, схавала пачырванелыя ад слёз вочы.

Скончылася шырокая з жоўтымі вочкамі дзьмухаўца

---

[1] «Ад мору, голаду, агню і вайны... Ад раптоўнай і неспадзяванай смерці» *(польск.)*.

ў зялёнай ценькай траве дварчанская вуліца — і яны спыніліся напроці высокага дома з двума эліптычнымі вокнамі ў франтоне і выштукаваным балконам, які адпіралі белыя мураваныя слупы. Чэся павяла шыракаполым капялюшыкам на гэты высокі, складзены з смалістых брусоў дом. Міцек, зойдзеш сюды, калі вернешся з Верасава. Тут жыве пані Бернацкая. Ты помніш яе калекага мужа?

— А што?

— Пані Бернацкая будзе ведаць, дзе я. Заўсёды.

— Мы расстаёмся, Чэся? — Міця хацеў разгадаць яе задуманы, прымружаны зірк.

Яна моўчкі папраціла свой пруталены жакецік, пастаяла, спусціўшы рукі ў чорных шаўковых пальчатках, нарэшце сцягнула адну з іх, цёплаю рукою абхапіла Міцю за шыю, прутка пацягнулася да яго і ледзь чутна пацалавала ў шчаку:

— Я пабягу, Міцек. Ты знойдзеш мяне тут.

Пакалыхваючы купалам карычневай у ясную клетку спаднічкі, яна прыспешвала да ганку з белымі слупкамі-каланадамі. Перад ганкам азірнулася, паварушыла тонкімі пальцамі паднятай рукі.

Міця паволі пайшоў, раптам учуўшы, як пацяжэлі і зрабіліся млявымі ногі.

«Няўжо не ўбачымся? Няўжо гэтая сустрэча будзе астатняй?» — ад пакутных, нязносных думак тупела галава...

Адпрасіўшыся ў Камашылы на гадзіны тры, каб адлучыцца ў Верасава, Міця прыйшоў пад чыгуначны пераезд на развілку вуліц, дзе, акружаны нізкім плоцікам, стаяў пафарбованы, мусіць, напярэдадні вялікадня і пах покастам драўляны, з невялікім распяццем, каталіцкі крыж.

У мястэчковых дварах, выпусціўшы ружовыя банты цвету, красавалі прыгорбленыя яблыні. Пахла свежаю раллёю, перамешанаю з гноем. На шарым, падзёўбаным «кошкамі» тэлеграфным слупе, трапятаў растапыранымі крыльцамі і тонка падсвістваў жаўтадзюбы шпак. Падпарвала, нібы на дождж, высокае сонца. Дзень быў абвіты нечаканай светлай радасцю, як усё роўна на свеце не было вайны, гора, смерці. А Міцева сэрца аблівала гарачыня трывогі і неспакою.

Прыглядаючыся да падвод, што з абедзвюх вуліц цяклі на пераезд, сыплючы высокі, разбіты на асколкі грукат іляскат жалезных шынаў, спадзяваўся ўбачыць каго

знаёмага, але, як адзін, ехалі ўсе чужыя. Міця падышоў да запрэжанай у двэйгу коней доўгай фуры, што, ціха парыпваючы, плыла з боку ружаватага бруку ў раз'езджанай пясчанай канаве.

Укленчыўшы, на возе стаяў нянголены, зарослы чорнаю шчацінай з сівымі плямамі абапал рота дробны, курносы казак у зношаным нямецкім фрэнчы, падпяразаным вузенькай папружкай з мядзяным наканечнікам, і ў касматай авечай шапцы.

— Здароў, служывы! — махнуў галавою Міця, ідучы водле фуры, зацярушанай ахапкам сена, на якім ляжала бельгійская, з крывою рукаяткай, вінтоўка.

— Здорово, коль не шутишь!

— Не шучу.

— Небось подъехать хочешь? — лыпнуў вокам казак.— А куды це йдэш?

— У Верасава мне.

— Не могет быть. І я с видтиля. Садись,— казак падбіў з'еханую на вочы кубанку і падсунуўся на перапрэлым, суха-гаркаватым сене.

Міця, узяўшыся аберуч за драбінку, борзда, адным махам пераскочыў у воз. Ямчэй усеўся, і пазіраючы на худы з глыбокаю лагчынкаю карак, загарэлага ўжо на вясновым сонцы казака, з прыхаванай цікавасцю і жартам спытаў:

— А сам з відкіля будзеш?

— Так я ж сказаў,— падагнаў худых з гарбатымі азадкамі коней і абярнуўся смуглявы казак.

— Данец? Кубанец? Ці мо цярской будзеш? — даў зразумець Міця, пра што пытае.

— Откуда уж не буду, а вряд ли на землю русскую вернусь,— казак пакасіўся на бела-стракаты, невысокі бярозавы крыж, на якім цьмяна паблісквала стаўбунаватая каска: за шлагбаумам пераезда, абгароджаны плоцікам і абкладзены дзярном, падымаўся горбік магілкі немца-франтавіка, забітага дварчанскім яўрэем яшчэ ў першае лета вайны.— Большевистская сволочь кладет всех.

— А вы?

— Мы тоже. Жалеть здеся некого,— сказаў і спахапіўся, пагладзіў рукою карак, нібы хочучы абараніцца, гаваркі казак.— Хотя я лично никого не убил. Мне што до кого. У меня своя жизнь.

— І якая ж яна, калі можна спытаць?

— Возделываю кожи. Раз кони есть, нужна сбруя.

А был при кутузке. Нервишки у меня слабые. Пытать, бить не могу. Помню, привели бабенку, раздели. Давай допрашивать на этой самой «дыбе»... Ну скамья такая, к которой привязывают. И мужа привели... И перед ним давай шмарить эту бабенку... После этого я ушел, упросился. Вот нашли занятие — кожаром сделали.— І паволі, асцярожна павярнуў адно плячо да Міці.— А ты, скажи, убил кого?

Міця задыхнуўся, глытаючы перамешанае з цёплым духам гною, затхлае паветра — за шашою на зялёнай мяжы поля, усланага гноем, стаялі белыя палатняныя мяхі. Угнуўшыся, падганяючы сівага каня, за плугам ішоў босы, з закасанымі порткамі мужчына, і дзве жанчыны, раз за разам нагінаючыся, кідалі ў разору рэзаную бульбу.

Памяць, пераляцеўшы поле з белымі мяхамі, грудок з сінявата-сівым высокім жытам, няроўную шчарбатую граду лесу, над якім вісела пухкая хмарка, ачуцілася ў далёкай з сухім закурэлым лісцем дуброве, і Міця зноў учуў востры трэск ломкага спарахнелага галля, і той нечаканы стрэл, што тройчы адбіўся далёкім, расцяжным водгаласам, і тую чарнявую з сінімі, як пралескі, вачмі маладзіцу, што паволі асядала, чапляючыся бязвольнаю рукою за шурпаты з балючай нарасцю ад маланкі старавечны дуб.

— Ты, должно быть, такой, как и я,— цярпліва перачакаўшы Міцева маўчанне, загаварыў казак.

— Не... Я забіў жанчыну. Красівую, халера, маладую.

— Ну небось шутишь? — казак рэзка адкінуўся назад, выкаціўшы жаўтлявыя, у чырвоных жылках бялкі, недаўменна зіркнуў на Міцю. Яго рука з нечаканага перапуду сама намацвала на сене вінтоўку.

— Праўду кажу.

— Должно быть, ненарочно получилось?

— Угадаў — незнарок.

— А то есть такие, что только и думают, как бы человека укокошить. У нас бабенка при кухне была, чумовая, так она любила жертву свою поджарить. Подвяжут кого-нибудь вряжину за ноги, а она и начинает ходить вокруг него с каленым железом. Раз мы на хутор заскочили, взяли подводу, а там в соломе бухой партизан лежит... Его-то, здоровилу, и подвязали... Вот она ходила вокруг него: и туда порнет каленым железом, и сюда порнёт. Я не утерпел, хвать винтовку и пристрелил его.

— А кажаш, нікога не забіў...

Казак угнуўся, шлёгнуў лейцамі, прыцмокваючы, падганяючы марудных коней. Фуру затрасло, закалаціла на недагледжанай, з выбоінамі, шашы... Праз паўгадзіны паказалася Верасава — шарыя саламяныя стрэхі, прыхованыя маладым салатавым лісцем прысад. Нібы ад вышыні ў Міцевых грудзях нешта раптоўна адарвалася і замлела.

— Жывеш дзе? — перасільваючы задуху, спытаў у казака, калі той з дрогкай шашы звярнуў на шапаткую пясчаную дарогу.

— Да вона у малодайки адной.

— Дзе гэта? — Міця адвярнуўся ад горкага пылу, што клубкамі пакаціўся на фуру з-пад конскіх капытоў.

«У сястры маёй»,— хацеў сказаць Міця, але, убачыўшы каля старога, пахіленага на дарогу крыжа новы — з шарым нявыбеленым ручніком,— успомніў павешанага тут Ваўчка, скрыгануў зубамі і саскочыў з фуры.

— А ты этой молодайки не обижаешь?

— А что?.. Вона врач из соседнего дома прохода не дает, сватается все...

Алеся, яшчэ здалёк пазнаўшы Міцю, паставіла поўныя вёдры, расплюхала на сябе ваду і подбегам, набіраючы на мокрыя ногі пяску, пусцілася ў равок, дзе натруджана рыпела фура і дзе, зняўшы ад гарачыні пілотку, ішоў схуднелы і, здаецца, ад гэтага яшчэ большы ростам Міця.

— А браток, а ці ведаеш, што татачкі нашага няма? — яна ўзняла, заламала над галавою рукі і захліснулася, зайшлася ад плачу.— А ці ведаеш, што мы круглыя сіраціны з табою?

— Гля, да никак твоя сестра? — махнуў касматаю кубанкаю смуглы няголены казак, падганяючы коней і азіраючыся на Міцю.

Зблажэлы Алесін твар балюча зморшчыўся, сіняватыя бяскроўныя губы перакрывіліся, і дробна задрыжала вастраватая барада:

— А Змітрычак, а браток мой, а хоць перад табой наплачуся!

Міця абняў сястру, чуючы, як яна ўздрыгвае ад неўтаймаванага плачу і туліцца да яго, а самога накрывае і душыць за сэрца чорны, нязносны адчай.

— Магілка ж дзе? — ён ледзьве паварушыў перасмяглымі губамі.

— Страх казаць, хавалі ўсіх у адной скрыні.— Алеся ўгнула галаў, злінялым падпаленым фартухом выцерла

заплаканы твар.— І магілка на ўсіх адна... Ты хочаш схадзіць, глянуць?

— Ага,— стрымаў свой цяжкі ўздых Міця.— А хлопчык дзе?

— У полі... Уга, ён пры каровах большым памагае,— сцішылася і нібы паспакайнела Алеся, успомніўшы пра сына.

— Глядзі дзіця, не вельмі і пускай,— Міця сышоў з топкага пяску на нізенька і густа ўсланую дзяцеліну.

— Змітрычак, гляджу, як вока ў лобе. Ён пры Літсваравай наймічцы.

— Што ж гэта за яна?

— Бежанка, прыбілася знекуль. І жыве не то за наймічку, не то за жонку.

— А стары?

— Стары, пытаеш? Як камень, зносу няма шука на чалавека. А Маня іхняя ў Дварчанах. Разбэсцілася саўсім.

З раскрытай насцеж брамы, куды ўязджала параконная доўгая фура, высунулася і завіляла хвашчаватым хвастом клышаногая сучачка.

— Пазнала нябось,— прыязным, добрым вокам павяла туды, на сучачку, Алеся.— Ужо недачувае, старая стала. Ды тут адзін страляў, каб іх ужо ліха абстраляла, можа, аглушыў...

— А твой кватарант,— Міця кіўнуў на фуру, што спынілася каля гумна,— не чапаецца?

— Хай на яго — вашывы. І гумно вунь загадзіў — шкуры выробляе. Ды яны ж, навалач гэта, у кожнай хаце стаяць.

— А ў бацькавай што?

— Не пытай, Змітрычак,— кашары,— і, ласкавым спагадлівым зіркам абвёўшы Міцю, уздыхнула: — Ты хоць не йдзі туды. П'яныя штодня. Ляжаць, як быкі. Усю хату зрашэцілі, адно салома пучкамі на страсе стаіць — у столь страляюць, як перад канцом, не помняць, што ўжо робяць. Але чаго стаімо? Ідзем, хоць яешняю пачастую.

У хаце ўжо, распытваючы пра ўсё і пераказваючы свае навіны, Алеся сядзела з боку ад стала, пакалыхвалася на кароткім заслончыку, потым угнула галаў, спадыспаду абедзвюма рукамі падняла свой фартух, узмахнула ім, нібы страсла штосьці цяжкае:

— Скажы, Змітрычак, што будзе? Чутка пашла: казакі ўцякаць збіраюцца. А ты во ў гэтакім убранні...

— Сястра, я застануся тут... З сваімі людзьмі буду. Што ім, тое і мне.

8—3013

— Божа мілы!.. Адзін Рэпка жыццё табе не дасць. Сколькі ўжо гразіўся.

— Гэта праўда, сястра. Але калі што якое, прыглядзі, як старэйшая, за Чэсяй, памажы ёй... Думаў нават сюды яе справадзіць. Але бачу, тут пекла горшае, чым там, у Дварчанах.

— Божа мілы, сам аставайся. Можа, як перахаваўся б... Нашто ісці ў тыя Дварчаны?

— Ад свайго ўжо не ўцяку — лёс такі.

— Змітрычак, што ты на сябе ўсё нагаворваеш? — І раптам нібы спахапілася.— У мяне ж гарэлка выхавалася. На карэннях дзівасілу настоена. Ледзьве ўсцерагла ад гэтага злыдня. Абшнырыць усё — ратунку няма.

— Я зараз з ім пагавару,— Міця адсунуў ад сябе скавараду і ўстаў з-за стала.

— Вой, што ты, Змітрычак! Ты ж адзін, а іх тут, не раўнуючы як апалонікаў у завоні.

Міця, заміраючы душою, узіраўся на рамку з фатаграфіямі — у кутку за шклом сядзела ўсяго адна, жаўтлявая, нібы выцвіла на сонцы, бацькава картачка.

— Пайду гляну на хату,— ён рэзка адвярнуўся ад сцяны, знайшоў на лаве сваю пілотку.

— Божачка, не ўгаворыш цябе,— Алеся ўміг зняла з цвіка руды шарачковы жакецік, выбегла ўслед за ім на двор.— Аднаго ж не пушчу, пайду следам.

— Дзе ж бацькаў конь? — спытаў ён, падыходзячы да гумна і чуючы, як адтуль пахне ўжо стайняй.

— Следчы ездзіць, што ў Дзямяна стаіць... Але лепш вернемся, Змітрычак. Цюрму ж у Юзікавай хаце зрабілі. Ты ж не ведаеш?

— Не ведаю, сястра.

За гумном, каля паграбка, падымаліся складзеныя пірамідай цюкі злінялага, з плямамі белай плесні, старога сена. Чарнеў, нібы тарфянішча, здратаваны конскімі капытамі прыгумень, знябожана пахіліўся разломаны, з адарванымі штыкецінамі плот.

У сутоках між хлявом і хатай, дзе расла дзікая, падсаджаная бацькам і зраджайная грушка, бялеў шурпаты невысокі пень. Там уціснулася зробленая на скорую руку няшчыльная дашчаная прыбіральня з цёмным ромбікам у дзвярах.

Млявая гарачыня абліла Міцева сэрца: раптам зрабілася шкада і бацькі, і дзікай, заўсёды белай ад цвету грушкі, і здратаванага да чарнаты конскімі капытамі надворка.

На шарай страсе ніжай коміна старчма стаялі жаўтавата-залацістыя пукі саломы.

— Бачыш, Змітрычак, гэта ж ад куль. Як выстраляць у хаці, так куля і падымя салому.

— Во знайшлі сабе забаўку, падлюкі.

Учуўшы гутарку, у няшчыльнай прыбіральні нехта заварушыўся, забялеў споднюю кашуляю, і дзверы адчыніліся: прыгінаючыся, адтуль высунуўся асадзісты, мардаты чырвона-ліловы ад перапою казак у шарай з зялёным верхам кубанцы.

— Во брыда, доктар іхні,— Алеся прыціснулася да Міці.

— Я чуў, да цябе чэпіцца.

— Ці ён адзін... Як нап'юцца, ратунку няма. З рэвальверам за мною бег, што не села з імі піць, ганьбу дала.

Пакаўзнуўшыся на азызлым палене, асадзісты казак нарэшце выбраўся з сутокаў, прымружваючы чорныя запухлыя вочкі пад густымі, хмура навіслымі бровамі, прыцікоўваўся да чужога, падазронага салдата і нарэшце азваўся першы, каб збіць Міцю з тропу:

— Ты кто будешь?

— Ды брат яе,— Міця напружыўся, сцяў кулакі.— І хачу спытаць, чаго вяжашся да сястры?

— Что ты! — палахліва адступіўся казак, падсоўваючы з вачэй кубанку.— Жена у меня есть.

— Ну, глядзі,— Міця чуў, што звярэе ад злосці да гэтага з насупленымі бровамі мардатага казака.— І дом не вельмі паскудзь, мой гэта.

— Дом был твой, а тепериче мой,— казак абцягнуў пад шырокім рэменем цёмную дыяганалевую гімнасцёрку.— Немцы нам здесь все отдают.

— Як усё? — Міця азірнуўся на раптоўныя галасы з вуліцы.

Трое ўстрывожаных спацелых казакаў, на тварах у якіх сачыўся і пабліскваў пот, пакрэктваючы, уносілі ў расхрыстаныя веснікі акрываўленага, з адкінутаю назад лысаватаю галавою доўгага худога мужчыну.

— Что случилось? — забыўшыся пра Міцю, насустрач ім хісткавата ступіў непрацверазелы доктар.

— Да рыбки побольше хотел наловить, передержал гранату,— сказаў маладзейшы з трох, што трымаў у руцэ яшчэ адну кубанку.

— Ой, Змітрычак, я баюся,— Алеся турзанула Міцю за рукаво.— Пойдзем! Яны тут кожны дзень рыбу ў завоні глушаць. Во і самыя заглушыліся...

На магілкі да жоўтага пясчанага капца з высокім ачасаным дубовым крыжам, што, распластаўшы крыжавіну, абдымаў прымрэлы малады хвойнік у аградках і замшэлых каменных помніках з жалезнымі заржавелымі крыжамі, Міця прыйшоў таксама з Алесяй. Пад дубовым крыжам схілілася недагараная свечка, жоўты насып наўкруг уквочвала надоечы пасаджаная паласатая шоўкавая трава. На чужой магіле, пахіліўшыся крывым чорна-зеленаватым камлём на свежы капец, цвіў марны, заглушаны цяньком бэз. Смутна і жалосна цвірчэў над блізкім у ліловай ярыне полем адзінокі жаваранак і вілася з несціханым плачам кнігаўка.

Невідушчымі вачмі, якія слязіў вецер, Міця Корсак глядзеў на жоўты васпаваты горб магілы, на строгі і маўклівы крыж, чуў, як зрываўся Алесін стогн, як душылася яна слязьмі, а самога абдымаў лядовы холад, нібы ён стаяў у глыбокай цёмнай яме.

Абудзіў яго хрыплаваты сплаканы голас, але не Алесін — чужы. Міця азірнуўся — сюды бегла і, сарваўшы з галавы хустку, махала ёю хворая на галаў Лёлька з Прылуцкіх хутароў.

Дабегшы да васпаватага магільнага капца, яна ўпала на яго і, распластаўшы рукі, пачала грабці пальцамі пясок.

— Не будзіце іх, а то ўстануць! — застрасліся ад плачу і крыку яе плечы.

— Хадзем! — нецярпліва прыспешыла Алеся.— Як спалілі сям'ю, ёй горай стала. Кажуць, яна і начуе тут каля магілкі.

Але маруднасць і бязволле, аглушыўшы, трымала Міцю. Ён пазіраў то на распластаную Лёльку, што драла жоўты насып, то на чэзлы нізкі хвойнік, што плямістым, разарваным цяньком укрываў магілкі, і сэрца шчымела ад млявага, задушлівага болю.

— Во бог сцярог старую Рэпчыху ды дурнаватую Лёльку, а ўсе ж у гумне згінулі,— уздыхнула Алеся, і Міця ўбачыў, як вецер сарваў і наўскос панёс па яе маршчыністай прывялай шчацэ буйную слязу.

Міця ішоў услед за Алесяй, узяўшыся і шчэмячы рукою грудзі, дзе ныў млявы боль. Першы раз, здаецца, ён учуў гэты боль і смутна-цёмную пустату за сабою: ужо не было ні радзімай блізкай стараны, да якой імклівым пташыным лётам падала яго душа, ні бацькі, да якога ён вяртаўся заўсёды нечым вінаваты і да якога заўсёды чуў спакутава-

ную ласку, ні хаты, пад застрэшак якой ён ступаў з ціхім шчасцем, што ў ёй нехта жыве і нехта чакае цябе дадому.

— Я вярнуся ўжо. Тут наўпрасты бліжай да Дварчанаў,— спыніўся ён на пясчанай цёплай дарозе, сярод мяккага і ціхага шуму густых прыдарожных ялаўцоў.— Усяго ж на дзве гадзіны адпусцілі.

— Вой, Змітрачак, нашто ж табе ісці цямроваю дарогай? — дасада і жальба перахапілі, сціснулі Алесін голас.

— Нічога са мною не зробіцца.

— Дай абдыму цябе, пацалую, Змітрычак!..— яна, не хаваючы слёз, павярнула да яго зблажэлы жаўтлявы твар, абхапіла за шыю.— Ты хоць малітву згавары.

— Згавару, сястра,— і ён пацалаваў яе самую ў мокры, настылы на ветры твар.

Адышоўшыся, азірнуўся — яна стаяла сярод пустой пясчанай дарогі, што роўненька рассякала ружаваты ад чабору аблог у густых кустах гаркаватага, нязводнага на гэтай зямлі ялаўцу. Над дарогай цякло, дрыжала цягучае мроіва.

Далёка за цёмнымі ялаўцамі ў маладой яснай зяляніне прысад шарэла саламянымі стрэхамі Верасава.

«Ці вярнуся, ці прыду калі сюды?» — у Міці з левага боку грудзей зноў зашчымеў пякучы боль.

Каля дарогі на гнуткім хвосціку ялаўцу пагойдвалася і па-свойску пацмоквала карычняватая з стракатымі крыльцамі, знаёмая змалку пташачка — янчык.

У яго жалосным прыцмокванні было таксама штосьці таемнае і смутна развітальнае. Каб не сагнаць, не ўстрывожыць пташку, Міця звярнуў з дарогі на галубаваты мох, што суха і порстка патрэскваў пад кутымі чаравікамі.

І з глыбіні памяці зноў выплыла сваё, даўно і блізка знаёмае.

## XX

Пад учарашнюю сіняватую поўню з малочным кругам, што высока стаяла ў небе, абліваючы дымнай яснасцю прытоенае, сцішэлае мястэчка, па якім з натужлівым вуркатаннем туды-сюды снаваў крыты нямецкі грузавік, Хрысця з Імполем заснуць не маглі: чакалі ўсё, што ён спыніцца каля іхняга дома і, распускаючы чорныя шынялі, з яго выскачаць паліцыянты і замалоцяць прыкладамі ў дзверы.

Але бог сцярог — даўгі грузавік спыніўся ўсяго раз і

недзе далей, у канцы вуліцы. І сёння раненька, толькі чырвонае вялікае сонца, што накацілася на бляшана-ржавы дах нізкага і аблупленага — у ромбіках лучыны — атынкованага дома, Хрысця, узяўшы шурпаты, непаліваны збанок, выбегла да дварчанскай Юзэфы ўзяць малака. Хоць якое там малако — казінае. Хрысця і не есць, брыдзіцца. Але Імполю ёсць чым забяліць крупнік.

Пасля здаровай, што нават паказвала на прымаразак, ночы ў цяньку на траве стыла сіваватая раса.

Хрысця, уступіўшыся на босую ногу ў парусінавыя Імполевы туфлі, слізгала каля плота, пакідаючы на спарышніку і дзяцелінцы зеленаваты след. Нават і не ўбачыла, пазіраючы пад ногі, што насустрач з пустым вядром да калодзеся ківаецца Казмерчыха. Па яе чырвоных вачах, па цяжкай, маруднай хадзе Хрысця дагадалася — у Казмерчыхі бяда.

На паднятыя ў здзіўленні і трывозе Хрысціны вочы Казмерчыха ўздыхнула і праз гэты цяжкі ўздых ледзьве вымавіла:

— Арыштавалі маіх.

— Каго?

— Сына з мужыком.

— Божа літасцівы,— адступілася са сцежкі і натрапіла туфлем на ржавую бляху, што звінюча хруснула, пудкая Хрысця.

— Ну старога,— скрывіла ў пакуце замурзаныя чорным пушком і пасечаныя шнаркамі старасці свае губы збедаваная Казмерчыха.— А меншага ж за што? Сямнаццаты годзік яму ідзе...

— Мы ж бачылі, як цалюткую ноч шнуравала машына.

— Сцеражэцеся,— працяжным слабым голасам падказала Казмерчыха.— Паліцыянт Ядлоўскі перадаваў, што нехта хацеў падпаліць управу, што будуць яшчэ хватаць людзей.

— Што вы кажаце? — Хрысця азірнулася — ісці ўжо альбо не ісці да Юзэфы, але вуліца была пустая, толькі з адчыненай суседняй брамкі выглядаў вялікі чорны сабака, і яна для асцярогі скоранька пашлыгала, цягнучы туфлі на другі бок вуліцы.

У Юзэфінай хаце густа пахла тарпатынай, яшчэ нейкім атрутна-едкім пахам. На ложку з-пад коўдра, пашытага з чырвона-сініх трохкутных лапікаў, вызіралі вялікія асалавелыя вочы.

— Тыф па ўсіх перабярэ... Во валасы ў большай высы-

паліся,— Юзэфа злавіла за плячо худзенькае і тонкае, як снітка, дзяўча.— А ўчорачы меншая захварэла. Пры табе, помню, радзілася... Ты ўжо да яе не падыходзь.

Аднак Хрысця падышла, паўзіралася на жаўтлява-зялёны курносы тварок з сіняватымі, звялымі і падсушанымі ад жару губкамі.

— Гэта цётка Крысціна,— Юзэфа павярнула да ложка сваю гладка зачасаную, з цяжкай куклай галаў.— Памагала тут нам, як ты радзілася.

Прыгаслымі, абыякавымі хворымі вочкамі дзяўчынка паволі глянула на Хрысцю.

— Жар, мусіць, прайшоў,— сказала Хрысця, каб суцешыць сябе і Юзэфу.— Адступілася хвароба.

— Дай жа божа, дай жа... Столькі за гэты месяц у хвойнік завязлі,— сказала і, выйшаўшы ў сені, заплакала Юзэфа.— І ты во сваё дзіцятка пахавала.

— Нежывое радзілася, біла мяне паліцыя з вакзала,— Хрысця краем фартуха прыкрыла чырванаваты збаночак, у які Юзэфа наліла тлустага казінага малака, і ступіла за высокі парог. Жвірыстай сцежкай, зацярушанай жоўтаружаватай лускою ад чорнай старой ліпы, што ўвабралася ў рэдкае салатавае лісце, выбегла за брамку.

Азіраючыся і цiснучыся бліжай да плота, вуліцай прыспешваў, выкідваючы наперад калекую каротшую нагу, усохлы невысокі мужчына. Прыпыніўшыся каля Хрысці і, тужэй нацягваючы круглую сівую шапку, зморана выдыхнуў:

— Маладзічка, пачакай тут. Там жандармеры поўна...

Хрысця зніякавела, прыпынілася на міг, але падумала, што ў хаце Імполь, што трэба не пакідаць і ратаваць яго, і, не зважаючы на страх, які рос і халадзеў у грудзях, зашоргала вялікаватымі парусінавымі туфлямі па цвёрдай утоптанай вуліцы. Са збанка выплюхвалася малако, згортваючыся на пяску ў скалкі.

Пад свой дом падышла якраз тады, калі на ганак з хаты, загадаўшы, мусіць, закласці за спіну рукі, вывелі Імполя двое дварчанскіх паліцыянтаў. Высокі бялявы немец з жоўтым да калена маўзерам стаяў на вуліцы пры крытым грузавіку, што чмыхаў смуродлівым дымам салярκі.

Аднаго з паліцыянтаў — нізенькага, гарбаносага, з чырвонай нарасцю на верхняй, некалі, пэўна, рассечанай губе,— Хрысця пазнала: ён рабіў, здаецца, з Міцем у камітэце, а ў першы год, як з'явіліся немцы, пачаў хадзіць з чорнаю гумай, на зрэзаным канцы якой блішчаў медны, перапле-

цены дрот. З гэтаю доўгаю гумай ён стаяў найбольш каля пустых яўрэйскіх хатаў і няшчадна сек местачковых падлеткаў, калі тыя ўскоквалі туды, каб што-небудзь там схапіць. Цяпер ён трымаў пад пахаю караткаватую вінтоўку, падштурхоўваючы ў веснікі Імполя.

Хрысця, чуючы благое, немінуча-страшнае, падскочыла да веснічкаў, падняла збанок з казіным малаком, расплюхваючы яго на сябе, на росную, залаціста-зіхатлівую ад сонца траву, бездапаможна ўздыхнула:

— За што?

— Там, дзе трэба, скажуць,— усміхнуўся ў няроўна падстрыжаныя вусы большы ростам і старэйшы паліцыянт, што, грукаючы ботамі, няспешна збег са сходаў ганка.

— А ты не распытвай, а садзіся разам у самаход, бо зачакаліся,— нізкі, з чырвонай нарасцю на губе саўгануў руляю Хрысці ў плячо. Моцна і балюча, ажно ў яе выпаў і, трапіўшы на камень, раскалоўся збанок з казіным малаком.

— Божачка, каб хоць хлеба ўзяць,— Хрысця, абмінуўшы чорную рулю вінтоўкі, памкнулася да веснікаў.

— Мы тут ненадоўга, зараз выпусцім,— ёй зрабіў заступ дарогі вусаты.

— Не штурхайце яе, яна ж пасля родаў! — крыкнуў і спалатнеў Імполь.

— Ліха не возьме,— ад здзеклівага смяшку ў недарослага паліцыянта скрывілася рассечаная, са шрама нарасці, тонкая губа.— Баба рыхтык авечка, прывяла ды пабегла.

Імполя з Хрысцяй падагналі да караткацосага з брызентавым вялікім кузавам грузавіка, што прыглушана вуркатаў маторам, пускаючы з-пад сябе чорна-шызы салярачны дым. Бліскаючы шкельцамі акуляраў, даўгашыі немец разгарнуў тоўсты скручаны сшытак.

— Прозвішча называй,— руля штырханула Імполя між лапатак.

— Верамей ён,— падказаў вусаты і тыцнуў пальцам у тоўсты разгорнуты сшытак.

— Я, я[1],— махнуў седлаватай, крута выгнутай фуражкай нямецкі афіцэр.

— Божа, куды ж нас? — Хрысця ўзялася за Імполеву руку і ўслед за ім улезла ў грузавік, убачыўшы ў слепаватым пасля сонца цяньку і прызнаючы таго-сяго з дварчанцаў, што сцішана сядзелі на папярочных дошках. Учуўшы яе

---

[1] — Так, так *(ням.)*.

бедаванне, нехта толькі глыбока ўздыхнуў, і ў грузавік ускочылі і селі на заднюю лаўку паліцыянты.

Аднекуль з кутка пацягнула тытунёвым дымам.

— Хто там курыць, сволач!

Акуты жалезам прыклад з усяго размаху гахнуў Імполю ў плечы.

— Гэта ж не ён. Што ты робіш, недавярак?! — Хрысця хапілася за вінтоўку, першы раз учуўшы яе страшны лядовы холад.

Машына, здаючы назад, закалыхалася, потым натужна загула і рванула ўперад. Выехала з ценю на сонца — з прарванага брызенту, з косай дзіркі па зажмураных тварах людзей пабег зайчык, заблытаўся ў чыіхсьці кучаравых рыжавата-залацістых валасах. Хрысця здумелася: няўжо яна, Чэся? Але зайчык споўз на рабаціністы твар незнаёмай дзяўчыны...

Дзе яна, Чэся, у Хрысці спыталі сярод ночы, выклікаўшы са смярдзючай камеры турмы і прагнаўшы настылым брукаваным дваром пад скляпенні прысадзістага будынка ў вузкую, з закратаваным акном, апырсканую крывёю сутарэню, у якой сядзелі, прыпёршыся да сцяны, трое — хударлявы дзюбаносы гадоў дваццаці двух хлопец, якога Хрысця недзе бачыла, і чарнявы, нябрыдкі з твару, акуратна пад кароткую польку падстрыжаны немец і немалады, лысы ў рагавых, з разводамі акулярах мужчына-перагаворшчык.

Худы, дзюбаносы хлопец паказаў пальцам на пустое крэсла, што стаяла якраз перад зыркаю настольнаю лямпаю. Чарнявы, паголены да сінявы немец павярнуўся да лысага перагаворшчыка, і той ужо пераклаў, што ён пытае:

— Скажы пану афіцэру, ты рабіла ў дварчанскім шпіталі?

— Рабіла.

— А Чэсю Доўнар, медсястру, даўно знала? — перагаворшчык зноў пераклаў тое, пра што пытаў немец.

— Чаму ж не.

— А дзе яна цяпер?

— Ці я ведаю.

— А яна ж была ў цябе на кватэры?

— Была ды, як кажуць, сплыла,— Хрысця зажмурылася ад сляпучай лямпачкі.

— А медыкаменты табе не перадавала?

— Ні пра якія медыкаменты я не ведаю.

— Ага, значыцца, забылася, не помніш? — малады ху-

дарлявы хлопец азірнуўся на немца і з-за спіны дастаў плётку.— Тады раздзявайся! Будзем успамінаць...

Хрысця сцялася, учапіўшыся рукамі за крэсла.

— Так што, доўга чакаць? — малады раптам падскочыў да Хрысці і знянацку ўдарыў дзяржальнам па шыі, моцна, нібы якім цяжкім паленам, ажно яна на міг адышла ад памяці. Нават не паспела агледзецца і разабрацца, як схапіў за плечы, нахіліў, балюча заціснуў між ног голаў. Плёткамі секлі абое: маладому памагаў лысы. Білі да змогі.

Боль апякаў як агнём. Хрысця міжволі заенчыла, але сцярпела, суняла свой крык. Ведала — будзеш крычаць, прасіцца, пачнуць здзекавацца яшчэ болей. Ці ад катаў чакаць літасці? І біць перасталі, загадаўшы да раніцы падумаць і сказаць усё...

Назад у камеру Хрысця ледзьве ішла: ад болю ныла і гарэла, бытта аблітая варам, уся спіна. Ззаду па бруку звінючы шоргаў падкоўкамі ботаў сонны паліцыянт. Пачырванелая поўня глядзела на сцішаны турэмны двор. У шарым змроку блізкай раніцы ўскрыквала невядомая пташка. Хрысці ўспомнілася нешта невыразнае, далёкае і шчымлівае. Яна падняла голаў на гэты трывожны скрыпучы ўскрык пташкі і ўбачыла дзве постаці: адну — ніжэйшую, сутулаватую, другую — знаёмую па шыракаватых плячах, па глыбока насунутай на лоб кепцы, па размашыстай хадзе,— і Хрысця не стрывала, спытаўшы ў гэты шары змрок:

— Імполька, ты?!

— Я, Хрысця,— здзіўлена і неяк нясмела адклікнуўся ён.

— У якой ты камеры? Я — у пятай...

Але ні яму, ні ёй ужо дагаварыць не далі. Хрысці ў плечы раптоўна стукнуў прыклад вінтоўкі, і яна, разбіваючы ў кроў калені, упала на халодны, настылы брук і папаўзла, балюча скрыгочучы зубамі.

— Не ўставаць! Паўзці на коленках! — гнюсява, у нос, над ёю зашыпеў азвярэлы паліцыянт і зноў ударыў Хрысцю прыкладам.— Тут не адведзіны, што цалавацца будзеш, тут пацалуеш хібя сырую зямлю.

Ужо ў камеры, на вузкіх, збітых з тоўстых дыляў і састаўленых упрытык двухпавярховых нарах (Хрысціна месца якраз знізу), да Хрысці ўпоцемку падсела гарбаценькая з доўгімі рукамі маладзіца, сцішана спытала:

— Цябе ракам не гналі праз надворак?

— Гналі,— перамагаючы боль і сорам, што яшчэ не ачах у душы, адказала Хрысця.

— Сліж гэта. Свой. А здзекуецца горш за немцаў. Немцы гэтага не твораць, што робяць свае.— І, трохі счакаўшы, падсунуўшыся бліжай, ужо дыхнула гарачынёю ў самае вуха:— Ты, кажуць, з мужыком?..

— З мужыком,— залекацеў ад дасады Хрысцін голас: ёй раптам падумалася, што робяць у той сутарэні з Імполем. Няўжо б'юць? Няшчадна, жорстка, брыдка, як білі і катавалі яе.

— А я во яшчэ і незамужняя,— пажалілася гарбатая маладзіца.— Трыццаць ужо чацвёрты год пашоў. Адна жыву... Адна як паляц. Калі-кольвечы здаралася быць у Ахонах, то бачыла Базылёву хату, што з краю вёскі стаіць?

— Не, не была.

— Лясок блізка, таму і заскочаць тады-сяды партызаны. А гэта на згоне зімы было — якраз казакаў ліха прынясло. І на табе — падцікавалі, як партызаны шнурком праз мой надворак у лес беглі. З таго дня і пачалося пекла. Казакі акружылі хату, прыставілі мяне да сцяны, і кажы, якое маеш з партызанамі знашэнне. Білі бязлітасна, няхай бог адносіць. А потым пасярод вёскі яму выкапалі, сагналі людзей і мяне ледзьве жывую перад гэтай ямай паставілі. Ізноў пытаюць: «Кажы, якое знашэнне з партызанамі мела». А я пакланілася людзям і кажу: «Ні ў чым не вінавата. Ніякага знашэння ні з кім не мела і не маю».

Маладзіца прыслухалася, ці не чуюць іншыя, і зноў са смуткам загаварыла:

— Сама з сябе дзіўлюся, якая я трывушчая. Колькі пакуты пераўжыла... Ці, можа, звыклася. У казацкай турме было горш. Там клалі на дыбу, такую лаву на жалезных ножках і, прывязаўшы, секлі нагайкамі. У мяне яшчэ рубцы не сышлі... Адсюль у Нямешчыну вывозяць. Толькі во мяне, калеку, не ведаюць, дзе дзець. А цябе — у Нямешчыну... Чуеш?

— Чую,— ледзьве адазвалася Хрысця.

— Тут у мяне гаршчочак з падсмажанымі картоплямі стаіць. Учорачы сваякі прынеслі. Можа, паясі? Сілы трэба берагчы. Чуеш?

Але Хрысця не аказвалася, адчай агортваў душу, ад болю, што ныў у целе, заходзілася і сціскалася сэрца і трывожныя думкі кружыліся роем пра свой з Імполем лёс. Няўжо праўда іх павязуць у Нямеччыну? А што чакае там? Прымус, няволя, чужына? Ці зноў турма?

У камеры пад столлю нечакана і калюча, пырскнуўшы ў вочы жорсткім, як пясок, святлом, загарэлася вялікая лямпачка, і на жалезных акутых дзвярах загрукала цяжкая, звараная недзе ў кузні з вялікай ручкай засаўка.

Прыадчыніўшы рыпучыя дзверы, у камеру гукнуў тоўсты басавіты голас:

— Амільянчык Леанарда!

Потым, памарудзіўшы, яшчэ раз:

— Сакольнік Маня!

З кутніх далёкіх нараў паволі, угнуўшыся, нібы супраць глыбокай вады, прайшлі да дзвярэй з калматымі злямцанымі валасамі і жаўтлява-беднымі ад страху і бяссонніцы худымі тварамі дзве роўныя, нібы блізняты, жанчыны. З іхніх худых клубоў спадалі доўгія шарачковыя спадніцы, і кабеты ішлі, трымаючы іх абедзвюма рукамі за пояс.

Калі акутыя дзверы цяжка, нібы хаваючы на той свет усіх, з іржавым скрыпам прыстукнулі, а пад столлю разарвалася, лопнула цемнатою лямпачка, гарбатая кабета зноў павярнулася да Хрысці.

— Гэтых, мусіць, за кашары на расстрэл,— і са смуткам дадала:— Туды прывозяць раненька, толькі пачынае світаць, разам з жаваранкам.

Хрысця заплюшчыла вочы, уявіўшы ясна-ружовае на ўсходзе неба, белую намітку вострага месяца, высокую тоненькую песню жаваранка і халодны ранішні строкат аўтаматаў. І падумала раптам: няўжо можна памерці пад гэтую чыстую ранішнюю песню жаваранка? А потым схамянулася — і за што, за які грэх прыняць смерць? Адзін хіба ёсць — перад Алесяй, што адбіла Імполя, злюбілася з ім. І перад богам, што пабраліся без шлюбу.

## XXI

Да высокага, карычняватага ад пакосту дома з круглымі ў франтоне вокнамі і белымі мураванымі слупкамі, што падпіралі балкон у фігурных балясках, Міця прыбег хмурым дажджлівым ранкам, адпрасіўшыся ўсяго на паўгадзіны ва ўзводнага Камашылы.

Тыдзень назад, развітваючыся, Чэся наказвала шукаць яе тут, у гэтым новым, акуратна складзеным з сасновых брусоў і яшчэ, мусіць, не зусім скончаным доме, бо ў калідоры, куды ўсунуўся Міця, было яшчэ цёмна ад забітага дошкамі праёму, для шырокага, пэўна, венскага акна, і пад

нагамі шапотка хрумсцеў чорна-ружовы шлак, што быў насыпаны пад будучую падлогу.

Над рабрыстаю сціральнаю дошкаю, махаючы вострымі закасанымі локцямі, сагнулася сівавалосая, коратка падстрыжаная гаспадыня. Міця знарок кашлянуў, і яна падазрона азірнулася, падняўшы цяжкія ліловыя павекі на чырванаватых хворых вачах, выцерла ад ружавата-сініх пухіроў рукі — мыла было, пэўна, самаробнае, варанае з гнілога мяса, з сінім каменем, таму ў калідоры чуўся тухлаваты дух,— і слабым ціхім голасам спытала:

— Вы да каго?

— Чэсю хацеў бы ўбачыць.

Гаспадыня гэтым самым фартухам, якім выцірала рукі, абмахнула твар і адвяла свае чырванаватыя вочы, пазіраючы ў цёмны куток, дзе стаялі нейкія кубельцы, скрынкі і на якіх ляжала перавернутая дагары ножкамі непатрэбная лаўка, і адказала:

— Не ведаю я, дзе цяпер Чэся. Здэцца, паехала ў Ліду.

— Даўно? — ліпучы халодны пот казытліва папоўз па Міцевай спіне, выступіў на лобе.

— Дзён тры як будзе. Ды яе тут ужо напытвалі,— гаспадыня ўгнула галаў, хаваючы свае, што заіскрыліся слязьмі, чырвоныя вочы.

— Хто?

— Паліцыя... Як управа згарэла.

— Я не з паліцыі. Змітрык маё імя,— сказаў Міця ў сутулаватую спіну.

— Ці я, чалавеча, разбіраюся. Ды я і кажу, што чула ад яе — паехала ў Ліду.

Міця выбег на марасісты і ліпкі, быдта асенні, дождж. Аслізглаю сцежкаю каля пазеляненелых сырых платоў, на якія навальваўся і саладжава-прытарна пах, абвешаны густым цветам бэз, пайшоў як сам не свой бясконцай вуліцай, покуль яго не спыніла балбатлівае гдачанне чорнага з чырвона-сіняй, страхатліва апушчанай кішкай надзьмутага цыбатага індыка.

«Дзе ж Чэся? Як наказаць ёй, што мяне пераводзяць зноў у Наваградак?» — Міця спыніўся, сцёр з твару, з вачэй ліпучую вільгаць. З-за высокага плота на мокрую вуліцу ценькая рабіна густа нацерушыла, нібы хто рассыпаў пшонку, жоўтага цвету.

«Можа, і добра, што Чэся знікла, бо пазаўчора, калі згарэла Дварчанская валасная ўправа, наваградская жандармерыя загадала арыштаваць усіх, хто быў на падазрэнні...

Няўжо надышоў час разлукі, час горкай беззваротнай ростані? Няўжо?»

Міця нарэшце апомніўся і ўбачыў, што стаіць каля прасла недагаранага плота, напроці прыплясканага дажджом сіва-чорнага пажарышча. Ён міжволі, машынальна, сам не думаючы пра гэта, падышоў туды, дзе нядаўна стаяў, хаваючыся пад кроны крывых соснаў, Грабянкаў дом.

Душа аблілася гарачым болем, пякуча зашчымела. Не верылася, што чалавечае шчасце, радасць, пакуты, спадзяванне — усё, што ні ёсць — можа скончыцца чорным пажарышчам, попелам, тленам.

У адзіноце і горкім смутку над пажарышчам уздымаліся абсмаленыя хвойкі з чорнымі куксамі абгарэлых кронаў. Нешта неразгаданае, але страшнае, што прарочыла бяду, было ў іхніх, абсмаленых да чарнаты, крываватых камлях, у іхніх нежывых і смутных постацях.

Толькі на кветніку, ачуняўшы і аджыўшы, невысокаю шчоткаю падымалася сіваватае карункавае лісце невядомых для Міці кветак.

«Здаецца, бабіна лета называецца. Здаецца...» — Міця адвярнуўся, каб не глядзець на чорныя знявечаныя сосны, на сіваватае пажарышча з кафлянай, патрэсканай ад агню печкай.

Не згледзеў, як выйшаў на Падлесную. У пачатку яе, каля пафарбованага ў зялёны колер плота вуркатаў шары з адкрытым верхам двухмесны «фіят». Значыць, прыехаў раённы камендант, значыць, СД зноў трасе Дварчаны. За частаколам мільгалі, пабліскваючы серабрыстымі кукардамі, нямецкія фуражкі. Міця здагадаўся, што ў пабеленым дамку з пацямнелым гонтавым дахам, дзе кватараваў сакратар воласці Жалязоўскі, які, кажуць, спаліў валасную ўправу, ішоў, напэўна, ашчадны вобыск. На ганку суседняга дома таксама стаялі двое: немец у зялёна-салатавай форме і ў чорнай, з шарымі абшлагамі і каўняром, нехта з тутэйшых паліцыянтаў. Як Міця ведаў, там, здаецца, жыў, перабраўшыся з Верасава і займаючыся нейкім гандлем, Янка Вайтовіч.

Міця памкнуўся вярнуцца назад, але падумаўшы, што з-за плота, напэўна, бачаць і яго, і, каб не даць лішняга і непатрэбнага падазрэння, рушыў далей, куды ўжо ішоў — на Падлесную, каб распытаць, дзе і што з Лаўрынам Царыкам.

Выпіхаючы за браму прыгорбленага, палахліва збялелага Вайтовіча, з вінтоўкамі напагатове паказаліся двое

непадступна надзьмутых, расчырванелых паліцыянтаў.

Неспадзявана згледзеўшы Міцю, пудкі, са звязанымі назад рукамі Вайтовіч прыспешыў крок і выцягнуў сваю худую шыю:

— Змітрычак, скажы, браток, што я ніколі не знаўся з бальшавікамі.

— Не турзайся, а то па скабах палучыш,— прыгразіўся на яго рослы, з чорнымі, падбрытымі вусікамі паліцыянт.

— Змітрычак, скажы там, дзе можаш,— Вайтовіч зноў задраў свой няголены пазелянелы твар.— А то во, звязалі, як якога звяра.

Паліцыянты зарагаталі:

— Яшчэ і ў жалезнай клетцы пасядзіш.

Міця пазнаў аднаго — Рысюк. Малады, вуграваты гадоў семнаццаці хлопец. Брат колішняга Міцевага аднакласніка, што паехаў на заработкі ў Данбас.

А дзе ж Вайтовічава сям'я? Дзе Яніна, чыстым наіўным хараством якой Міця захапляўся, можа, сам не прызнаючы гэтага, якую прытоена любіў? Пагаворвалі яшчэ тады, перад вайною, што Вайтовічава Марыля разам з дзецьмі ачуцілася недзе каля Акмолінска, у Казахстане...

І Міцю нечакана ўбачылася даўняя ўжо зімовая ноч з чырвоным, прычахлым маладзіком, з аб'інелымі грушамі на пустым полі, плач у разбуджанай устрывожанай хаце і яна, Яніна, у новым каптаніку, у чаравіках з высокімі шнураванымі халяўкамі і яе адчайны, нават з нейкім гонарам і зняважлівы голас: «Вядзі ж!.. Рыштуй!»

Адчуваючы нешта горшае, чым сорам і брыдкасць, Міця абмінуў Вайтовіча з паліцыянтамі і перайшоў на другі бок вуліцы, дзе, уздрыгваючы блішчастым радыятарам, вуркатаў «фіят» і дзе нервова паходжваў, угінаючыся ад мараслівага дажджу, афіцэр жандармерыі ў едзістых акулярах.

«Заходзіць ці не?» — Міця нацята прыцішыў крок перад Царыкаваю брамкаю і нечакана рашуча рвануўся да яе, адчыніў.

Пачарнелымі і, мусіць, гнілымі дошкамі рыпеў і прагінаўся недагледжаны ганак. Макротнаю глухатою дыхала ад шарых, нефарбаваных і крыва запалых дзвярэй.

«Ці хоць удома хто?» — Міця ўзяўся за халодную ручку клямкі, з радасцю ўчуў, што дзверы з віскам едуць у чорную глыбіню сяней.

— Во каго бог прынёс. А я не чакала... Змітрычак! — у хаце паднялася з шытвом на каленях і ўзмахнула рукамі з пацямнелым напарсткам на пальцы зблажэлая, з глыбо-

кімі жаўтлявымі вачаніцамі, з падфарбованымі хною і парадзелымі валасамі, праз якія брыдка свіцілася ружаватая галава, зблажэлая, усохлая Царычыха.

— Прысядзь, раскажы пра сябе,— з-пад накрытага плюшавым у доўгія кісці абрусам стала яна выцягнула лёгкае крэсла.

— Няма калі. Адпусцілі на паўгадзінкі. Ледзьве ўспеў заскочыць... Як дзядзька Лаўрын?

— Не пытай лепш,— яна палажыла шытво на стол, уваткнула туды іголку з доўгай ніткай.— У Наваградак яго завязлі. Во торбачкі шыю на падаянкі, мо якіх сухарыкаў перадам. Ты скажы, што за лёс выпадзе чалавеку: якая ўлада ць не прышла, што ні змянілася на свеці, а ён усё нікому не патрапіць. Ці ўжо свет такі, ці ён гэтакі ўдаўся. Божа мой літасцівы!

— Ці гэта толькі яго лёс? Усіх нас.

— Усіх, ды не ўсіх,— махнула рукою Царычыха.— Вунь Бортнік: і пры Польшчы раскашавалі, і пры бальшавіках мануфактуру прадавалі, і цяпер іхняе права...

— Мы з дзядзькам Лаўрынам не з таго цеста. Вы праўду кажаце — мы нікому не патрапляем.

— А як жа ж выбавіць яго з цюрмы? Золата няма, не выкупіш, як робяць іншыя...— голас у Царычыхі задрыжаў і змяніўся. Яна паднялася, бездапаможна апусціўшы рукі, пастаяла і, чуючы гул машыны, падышла да акна, праз рэдкія вочкі гардзіны зіркнула на двор.— Паехаў нарэшце той самаходзік... Я ж чакала і халадзела ад страху, баялася, што зараз і да мяне зойдуць. Гэта ж во тры дні і тры ночы трасуць хату Жалязоўскіх.

— Вайтовіча арыштавалі,— сказаў Міця, успамінаючы, як той, прыгорблены і знябожаны, кінуўся да яго.

— Выкруціцца гэты шпікулянт... Ты пра сябе кажы.

— А што казаць... Грозьба мне ўжо ідзе адусюль, і я, зняверыўшыся, падрыхтаваўся да ўсяго.

— Няма чаго рукі складаць! — закрычала Царычыха і, абышоўшы кругом стала, нечакана схапіла худою ў сінявастых жылках рукою Міцю загрудкі:— Ратуйся сам і ратуй майго! Няма чаго жыўцом класціся ў труну! Зайдзі ў Наваградку да каго,— і яна страсянула Міцю.— Сваіх пашукай.

— Свае, што былі — сплылі. З бядою чалавек астаецца сам-насам.

— Гэта праўда. Я ўжо дзе ні кідалася, да каго ні хадзіла, нават да гебітскамісара дайшла. Прыняў і нават, паслухаў-

шы цераз перагаворшчыка, сказаў: «Раз невінаваты, выпусцім».

Пальцы расчапіліся, і худая кіпцяватая рука бязвольна аб'ехала на Міцевых грудзях:

— І во, не выпусцілі...

Царычыха прысела на лёгкае рыпучае крэсла, што падстаўляла Міцю, і сказала, падымаючы чырвоныя, павільгатнелыя ад слёз вочы:

— Немяц хоць прыняў, а свае звярамі пазіраюць... Але, Змітрычак, напрамілы бог прашу, дайдзі да каго. Я чула, усіх, каго вывезлі ў наваградскую турму, перад адыходам нямцэ расстраляюць.

Яна падхапілася зноў і зноў, але ўжо за плечы, закалаціла Міцю:

— Ратуй майго Лаўрына, Змытрычак!

Варочаючыся назад у школу, ці, праўдзівей,— у казарму, ужо нават подбегам, каб не спазніцца, Міця яшчэ ўсё адчуваў, як яго хваталі загрудкі і турзалі нервовыя, з набрынялымі сінімі жыламі рукі, а ў вушах ныў і не аціхаў, як доўга не аціхае грукат прабеглага поезда, слязлівы спакутаваны голас Царычыхі.

Вуліца была ціхая, шапаткая толькі ад Міцевых ног, і прапахлая гаркаватасцю рабін, мокрымі замшэлымі платамі, падпаранай у гародчыках чорна-тлустай зямлёю, дзе ўжо натапыранымі пучкамі выпырснула цыбуля. Чыста і светла адсланілася ад нізкіх дажджавых хмар высокае неба. Над нерухомымі лужынамі, у якіх дахамі ўніз перавярнуліся атынкованыя местачковыя дамы, імкліва, як згледзяць, шмыгалі, адліваючы сіняватасцю, вастракрылыя ластаўкі. На жаўтлява-зялёным, што распускаўся пазней, пад першы маёвы гром, высокім ясені залівіста свіргатала і цвірчэла невядомая Міцю пташачка.

Шукаючы вачмі яе, гэтую пташачку, і задзіраючы галаў на мокры ясень, з якога сцякала, густа б'ючы па драпастым лісці і пераліваючыся ружовасцю на сонцы, дажджавая вада, Міця знячэўку наткнуўся на гнілаваты плот і, адпіхваючыся ад яго рукою, учуў, як крохка трэснуў збуцвелы слупок. І на гэты трэск за плотам нехта ціха, ажно Міця сумеўся, і не вельмі разборліва загаварыў. За адчыненыя веснікі высунулася калатлівая растапыраная рука.

— Хто тут? Я ж не бачу, толькі цень ледзьве ўгадваю заміж чалавека. Аслеп саўсім. Але чую, што нехта падышоў да мяне,— аслабелым голасам гаварыў невысокі стары муж-

чына, увесь калоцячыся: дрыжала яго галава, рукі, трасліся ў каленях і ногі.

Узіраючыся ў сівы, з упалымі шчокамі і зарослы даўно няголенай шчацінай худы твар, Міця пазнаваў і не пазнаваў старога Ладзімера, колішняга Алесінага малацьбіта.

— Добры дзень, дзядзька Ладзімяр,— нарэшце з даўкатою ў горле адазваўся Міця.

— А скуль сам будзеш і чый ты, хлопча? — калатлівая рука злавіла шарае неакоранае шульца ў прачыненых весніках.

— Алесін брат з Верасава.

— Гэта ў той, што я малаціў і Імполя ў прымах пакінуў,— на сівым, зарослым твары прабегла не то радасць, не то здзіўленне.

— А Імполя ў Верасаве няма. Тут ён — у Дварчанах. Кінуў жа Алесю.

— Надышоў на людзей звод нейкі — усе грашаць... І я грэх маю на душы, можа, праз гэта і аслеп,— стары для моцы і другою рукою ашчаперыў патрэсканае шульца.— Хібя ж не чуў? Тут праз мяне немяц трое хлопцаў застрэліў. Трое... Во які грэх нашу. Але ўжо нядоўга, ужо чую свой канец... Тут маладыя, паўвечныя гінуць... А я нажыўся, ці, можа, болей нагараваўся — пара. Зачакалася мая старая...

Ён падняў галаў, пазіраючы вадзяністымі і ўпалымі вачмі, і, мусіць, не бачачы Міцю, сказаў:

— Памру я, і вайна скончыцца. Вот убачыш. Я такі знак маю...

«Напэўна, лягчэй памерці сваёй смерцю, горай, калі прынясе яе нехта чужы»,— падумаў Міця, углядаючыся на старога Ладзімера, у яго сінія, засланыя ўжо вечным поцемкам вочы.

Стары адарваў сваю калатлівую руку ад шула, данёс яе да мокрых сляпых вачэй, абцёр іх.

— А як бацька маецца?

— Бацькі няма ўжо.

— Што кажаш, хлопец?

— У гумне згарэў, як немцы з казакамі палілі верасаўскія хутары.

— Бяды цяпер поўна,— стары нібы задыхнуўся і паволі, з намаганнем сказаў:— Я чуў, што гора там учынілася. І зноў во будзе.— Ён злавіў, яшчэ не глухім, чуткім слухам натужлівае вуркатанне аўтакара, што недзе зварочваў на другой вуліцы, пастрэльваючы маторам і падляскваючы жалезным кузавам.— Тут нейкую ўсё Марусю шукаюць.

Дзьве іх было... То адну, кажуць, злавілі ды застрэлілі...

Міця адступіўся ад плота, зноў убачыўшы сіні, рассыпаны ў цяньку пад елкамі жар пралесак і ўчуўшы шапаценне леташняга шаразбуцвелага лісця, востры трэск сухога дробнага галля і той працяжны нечаканы стрэл, што аддаўся тройчы доўгім шумным рэхам, нібы ўпала зрэзанае дрэва. Яго стрэл...

І нечакана для самаго сябе ўявіў, што па лесе бяжыць, пераскоквае карычневы, аблеплены вішнёва-блішчастымі мурашкамі копчык задыханая Чэся і яе, пырснуўшы агнём, даганяе гулкі стрэл.

Міця здрыгануўся, пераступіў жоўтую, прытоеную ў зялёнай траве кветку дзьмухаўца і паволі пайшоў, чуючы, як пад нагамі туга скрыпіць сыры пясок. Ззаду за спіною нешта яшчэ шапялява-бяззубым ротам гаварыў стары Ладзімер, але Міця ўжо не азірнуўся, толькі ўгнуў галаў: з мокрага куста бэзу, адбіваючы сонца, калючымі ружовазалацістымі промнямі ў вочы бліскала раса.

«Дзе ж яна, дзе Чэся? Няўжо расстаёмся, так не ўбачыўшыся? Няўжо лёс судзіць нешта страшнае? Ёй ці мне? Ці нават абоім разам».

Міця падняў вочы на зырка-белую пухкую хмарку, што, прадвяшчаючы зноў дождж, паволі наплывала на зялёныя кроны гонкіх соснаў у чорных шапках грачыных гнёздаў. У іх хрыпата і ненаежна крычалі ўжо дужыя, мусіць, грачаняты. За меднастволымі соснамі мутна шарэў пабіты плямамі рудой іржы дах дварчанскай школы, аплецеыай сіва-калючым, з кольцамі, непадступным дротам. За ім чуліся моцныя і рэзкія галасы вайсковай каманды. На школьным двары каля вастраверхай тумбы ашалёванага калодзеся стаяў ужо гатовы да маршу пры поўным рыштунку — з ружжамі, плецакамі, скруткамі шынялёў — іхні трэці ўзвод. Сёння яго, як цішком шапнуў, дыхаючы перагарам, недаспаны Камашыла, меліся перакінуць у Наваградак, а то, можа, нават пад Барысаў.

Слізкая, зацярушчаная пачарнелаю кастрыцаю сцежка ў жоўтых ад сасновага пылку лужынах зігзагам абягала пазелянелыя камлі хвоек. З-пад адной, падмахваючы сінявата-голымі крыльцамі, палахліва адскочылася і, нязграбна коўзаючыся цыбатымі нагамі, пабегла стрэсенае, мусіць, сённяшнім начным ветрам адзінокае, наканаванае згінуць грачаня.

У кожнага свой лёс. У яго таксама не лепшы — выпасці са свайго гнязда. Міця, сышоўшы са сцежкі, ababeг

пудка растапыранае, прытуленае да гнілога, з рыжаватым стрыжнем пня неаперанае брыдкавата-сіняе грачаня, што заверашчала, разявіўшы вялікі дзюб, і спорным крокам падышоў да школьнай брамы. Упершыню яна здалася чужою, абыякава-незнаёмаю, як здавалася шарая драўляная школа. Але пад сэрцам у Міці запякло, загарэлася шкадаванне, што бачыць яе мо астатні раз, як бачыць і гэтую ў чорна-белых косах палосах вартаўнічую будку.

— Корсак, ты што там? — гучна крыкнулі за сівым калючым дротам, дзе выстраіўся, гнучыся пад цяжкім вайсковым рыштункам, Міцеў узвод.

## XXII

Штодня за седлаватым узгоркам, на якім ужо калыхалася і хадзіла сінявата-сівымі хвалямі, невысокае, што толькі выкруціла колас, жыта і адзінока стаяў, аглядаючы знаёмы свет, абкіданы не густым, карычняватым ямчэ лісцем падпалены ў камлі дуб, бесперастанку чуваць быў па-дазроны стук кулямёта, услед за якім, падцінаючы лес, нізка шугаў густы, гарачы водгалас і лопаліся адзінокімі набрынялымі пухірамі вінтовачныя стрэлы.

Немцы ўкрадкам, у таямніцы рыхтуючыся да адступлення і збіраючыся пакінуць Наваградак, чысцілі гарадскую турму. З белаватай жвірыстай шашы, уздымаючы клубкамі пяршысты лянівы пыл, на палявую дарогу, абапал якой імшэлі і зарасталі лысыя валуны, з надрыўным перарывістым гулам зварочвалі, пахістваючыся вялікімі крытымі кузавамі, чорныя тупарылыя грузавікі.

Нясцерпны сверб трывогі і неспакою ўжо мучыў Міцю, каб хоць сюды не адправілі Царыка. У казармы за калючы дрот перапаўзла чутка, што старэйшых мужчын, хоць і не ўсіх, але выпускаюць з турмы, малодшых адвозяць у Дварчаны на чыгуначную станцыю і грузяць у састаў, а ўжо астатніх, мусіць, найбольш ды найгорш вінаватых, пруць самаходамі сюды, да казармы пад цёмны і непрыступны яловы лес, дзе выкапаны ржава-гліністыя доўгія равы з вузкімі пасярод іх грэблямі, на якія шнурком ставяць, папярэдне раздзеўшы, беспрытомных, адрошаных людзей. Кажуць, што слабейшыя, страціўшы прытомнасць, падаюць у гліністыя равы самі і іх закопваюць жыўцом.

Наслухаўшыся гэтых, што раз за разам узрываліся за грудком, за адзінокім выпаленым дубам, напорыстых стрэ-

лаў, Міця нечакана рвануўся ў баковачку да Камашылы.

Апухлы, ружавата-ліловы ў твары, з чырвонымі ашклянелымі ад начное п'янкі вачмі Камашыла нават узрадавана пракаўтнуў сліну і абцёр рукою перасмяглыя, з наміткаю запечанай сліны, цёмна-гарачыя губы:

— Во добра, што завітаў.

Камашыла павярнуўся да акна, задумана паглядзеў на вузкую стужку гравійкі. Над ёю расцягнутым зялёным вянком сашчапіліся звіслыя бярэзіны. Там, дзе разарваўся вянок, з-пад навіслай страхі двума цёмнымі вокнамі ўставілася пабеленая хата. На яе вілаватымі галінамі зморана хілілася старая высокая груша.

— Сходзіш вунь на той хутар,— шырокая Камашылава рука нязграбна пасунулася ў кішэню тарбаватых галіфэ з жоўтай акантоўкай і выцягнула скамечаную карычневастракатую паперку з двума сінімі кружкамі — пяць марак.

— Возьмеш там свянцонага зелля.

— Ты пачакай,— Міця сунуў у нагрудную кішэню стракатную паперку.— Я прышоў да цябе прасіць, каб разам зайсці да начальніка батальёна.

— Успеецца, сходзім. А што за справа?

— Свой чалавек сядзіць у турме. Трэба ратаваць, калі ўжо не позна. Чуеш стральбу?

— Латошаць не блага. Але тут ужо так: або мы гэтую брыду, або яна нас.

— Гінуць нявінныя людзі.

— Перастань абы-што гарадзіць. У гэтых нявінных рукі ў крыві. Пападзёмся мы ім — гарачым жалезам пячы будуць.

— Кажу табе, наш чалавек папаўся,— Міця ўжо траціў надзею, што дапаможа чым-небудзь Царыку.— За беларускасць у гродзенскай турме пры паляках сядзеў... Ты ж трохі ведаеш яго — Лаўрын Царык.

Камашыла пакруціў пальцам у вусе, зажмурыўшы свае сонныя вочы, вяла працадзіў:

— Ведаю... Сходзім. Але мне горла трэба прапаласкаць, бо якая гутарка, калі язык у роце прысох.

Слізгаючыся па затравелай з глыбокімі каляінамі палявой сцежцы, Міця скоранька дабег да пабеленай хаты з нізка аб'еханай на вокны зялёна-замшэлай страхою. Адчыніў ажно сіваватыя, ніколі не фарбаваныя дзверы і, пераступіўшы падзёўбаны сякераю шчарбаты парог, папярхнуўся ад прытарна-саладжавага і рэзкага паху брагі.

У цемнаватай ад нізкіх вокнаў хаце ад яе ўжо было

нават не дыхнуць. Высокая зубатая маладзіца з залацістымі кудзеркамі валасоў, што выбіліся з-пад чырвонай, у турэцкі ўзор хусткі, глянула на Міцеву пакамечаную марку і, не баючыся яго ў вайсковай чужой форме, нечакана папракнула:

— Рубель трэба даваць... Сколькі тыя немцы пратрымаюцца.

— Не баішся такое гаварыць? — спытаў зласнавата і Міця.

— Чаго ж баяцца? Свой, здэцца, чалавек прышоў. Толькі во зноў без пасуды,— і, агледзеўшы ўважна і пільна Міцю, падабрэла.— Не, вунь пры боку манерка ёсць. Цяпер жа ж бутэлька даражэй за гэтую самагонку выходзіць.

Міця адкруціў алюмініевы каўпачок флягі.

— Моцная надта. Глядзі, нап'ешся,— засмяялася, выставіўшы два шырокія, як лапаты, верхнія зубы, кучаравая жанчына.— І п'янага на фронт павязуць.

— Які фронт? — сумеўся Міця і прычапіў да рэменя вагкаватую ў суконным чахле флягу.

— Во, й не ведае салдат,— гаспадыня паставіла на лаўку пры печы сіняваты літар з сівою самагонкаю і для спрату, каб не згледзела старонняе вока, накінула на яго злінялы фартух.— Адпраўляюць вас адсюль. Я чула — на фронт.

— Не ведаю,— спаткнуўся на няроўным гліняным току Міця.

— Дзіва што,— зноў выставіла крывыя, заеханыя адзін на адзін і шыракаватыя зубы гаспадыня.

З затравелай у пухірах пераспелага малачайніку сценкі здзіўлены і ўражаны Міця нават саступіў на мяккую раллю, дзе, распластаўшы цёмна-зялёнае лісце, прытаілася нізенькая, не акучаная яшчэ бульба. Наўпрасты выйшаў да жоўтых і высока абгароджаных калючым дротам казармаў.

На ганку, зачакаўшыся Міцю і перагараючы нутром, ужо стаяў нервова-чуткі Камашыла. Па скорай і пругкай Міцевай хадзе і неспакойна-нацятым твары змеціў, што Міцю таксама нешта дацяло і ўстрывожыла.

— Ты чаго скрывіўся, як серада на пятніцу?

— Чуў? Нас на фронт адпраўляюць.

Камашыла выпнуў губы, скоса паглядзеў на Міцеву флягу, не адказваючы, спытаў:

— Прынёс?

Міця кіўнуў галавою.

— Зойдзем у каморку, нешта скажу.

Міця нехаця і ўжо са злосцю пайшоў услед за Камашылам, думаючы, што да батальённага, каб пагаварыць наконт Царыка, яны сёння наўрад ці сходзяць — Камашыла зараз нап'ецца, упадзе як сноп і будзе спаць.

Зашчапіўшы на добры кованы крук дзверы, Камашыла, праўда, схапіўся за Міцеву флягу, выцягнуў яе, карычневую, абліцованую слаіста-прыгожым, як чачоткавая бяроза, дрэвам, з суконнага чахла і адкруціў алюмініевы каўпачок:

— Можа, прычасцішся і ты?

— Не.

— А пра фронт не думай,— Камашыла задраў голаў і забулькаў сабе ў разяўлены рот, скалануўся, алюмініевым кубкам чарпануў у вядры жаўтлявай, з аселай рудою вады і нарэшце з радасцю выдыхнуў:— Во, трохі акрыяў.

І зноў пакруціў пласкабокую карычневую флягу:

— Ты знаеш, што наша рота астаецца тут. Пад Барысаў мы не едзем. Будзем чысціць турму, так што знойдзем там твайго, як яго?.. Цара.

— Царыка,— падказаў Міця і, узіраючыся на п'янавата павясялелы Камашылаў твар, папрасіў:— Трэба яго ратаваць сёння, покуль не загналі ў чорны грузавік і не завязлі за нашыя кашары пад дуброву.

— Не ўбівайся. Чуеш, стральба ўжо сціхла. Значыцца, астатнія застануцца на нашу долю. Ён трапіць сам да нас у рукі.

— Праўду ты кажаш? — Міцю ўжо нават закалаціла ад таго, што заўтра ці паслязаўтра ён пойдзе чысціць турму — расстрэльваць людзей і стрэне там, напэўна, каго знаёмага ці нават блізкага.

— А ты думаў, немец дурны, каб цягаць трупы. Прыгналі вунь гомельскую зондэркаманду,— Камашыла зноў пакруціў флягу, нібы самагон, перад тым, каб выпіць, трэба было разбаўтаць, і лінуў сабе ў рот.— Заўтра раніцай заступаем, так што не прапусці свайго Царыка.

Камашыла пахіснуўся і аб'ехаў на нізкі, збіты з яловых, у касаватых вочках сукоў, дошак нешырокі палок.

Міця зняў з прабоя заржавелы, выкаваны кавалём самаробны крук і выйшаў з каморкі.

У вочы засвяціла зеляніна маладога, яшчэ зморшчанага лісця на чорных ліпах, што раслі сцішнаю чародкаю за невысокім і доўгім будынкам канюшні. Там, нібы дома, нібы ў зарэчным ляску, вясёла стракатала сарока,— салатавая засень укрыла і схавала цэлы ахапак яе гнязда —

і Міця думкамі апынуўся ў Верасаве, раптам убачыўшы сваю хату, п'янага казака у ганарыста падбітай на патыліцу каракулевай кубанцы з зялёным верхам, заплаканую Алесю, над тым вялікім, падзёўбаным, як воспаю, прыбітым дажджамі капцом, у якім разам з прылуцкімі мужчынамі, бабамі і дзецьмі ляжаў бацька. На вачах запяклі, завільгатнелі слёзы, і ў іхнім мроіве скалыхнулася бялёсае неба, высокія ліпы, што едкай зелянінай засланялі свет.

Гучна-працяжны, цяжкі стрэл, што знянацку прашыў зачмурэжаную нізкаю смугою далечыню, вярнуў Міцю назад да жоўтай казармы, дзе ён стаяў пад кароткім казырком на шарых цэментавых сходцах. Блізка адсюль за седлаватым, сівым ад роснага жыта грудком, за карычневым, яшчэ не густым дубам, што маўкліва азіраў зыркі свет вясны, услед за гэтым працяжным стрэлам кароткімі вострымі чэргамі адазваліся аўтаматы. Там, перад цёмнаю сцяною зубчатага, няроўнага, як шчарбатая піла, лесу, стоячы на грэблі між двума глiністымі ровамі, мусіць, зноў падалі скошаныя кулямі людзі.

«Няўжо там Лаўрын Царык? — Міцю закалаціла злосць, адчай і роспач пякучай гарачынёю аблілі сэрца.— Няўжо няможна ўратаваць яго?» І Міцю ўбачыліся зноў нервовыя і худыя, пераплеценыя сінімі набрынялымі жылкамі Царычышыны рукі, што схапілі яго загрудкі, і ўчуўся яе стогн — пакуты і роспачы: «Ратуй майго Лаўрына, Змітрычак!»

Міця правёў рукою па лобе, сцёршы гарачы, што выступіў ліпучай расою, пот.

З пабеленага ў вузкіх аконцах туалета высунуўся мурлаты невысокі салдат, зашпільваючы прарэх, прайшоў шалаткім, пасыпаным шлакам дваром, спыніўся перад Міцем, абедзвюма рукамі паправіў пілотку на высока падстрыжанай галаве і павярнуў вуха на доўгі адзінокі стрэл.

— Во б'юць, ажно ляхат ідзе,— і, падымаючы вялікія белаватыя вочы, спытаў:— Няўжо нас пагоняць туды? Няўжо мы будзем страляць свой свайго?

Міця толькі горка ўсміхнуўся яму.

## XXIII

**Памагчы вычарпаць прывязаным да шаста вядром турэмную прыбіральню, да якой з немалою на возе бочкай пад'язджаў худаваты і загарэлы, як смугаль, і надта гаваркі Піліп Мурзіч, блізкі ад горада хутаранец, з за-**

душлівай, натоўчанай людзьмі камеры выганялі чамусьці Імполя.

Праўда, тут, каля разбоўтанай, нязносна смярдзючай ямы было ўсё ж лягчэй і ад міла сляпучага сонца, і ад вострага піску трапяткіх стрыжоў над галавою, і ад Ціліпавай гутаркі, калі ён, пасмехваючыся і выскаляючы свае белыя зубы, расказваў, як і каму чысціў прыбіральні і што нядаўна пад вокны вываліў усё змесціва казацкаму сотніку, што, напіўшыся, згубіў вальтэр. Прыбіральню апаражнілі, загадзілі гарод, а вальтэра не знайшлі.

— А вы нешта ж мала... Менш, як той адзін сотнік. Не будзе чым і поле ўдобрыць,— гаварыў ён ужо з адстойніка, гэтай цэментнай ямы пад туалетам, залезшы туды ў гумавых за калені ботах, калі яны назаўтра вычарпалі адтуль добрую палавіну.— Хоць, як вас тут накормяць. Скуль яно будзе брацца?

— Што тут казаць, ходзім адной кроўю,— Імполь задыхаўся ад густога смуроду, прымаючы з Піліпавых рук поўнае вядро.

— А ты за якую правіннасць папаўся? Га?

— Ды лічы ні за што. Шыюць знашэнне з парцізанамі, а я іх у вочы ўсяго раз бачыў,— прызнаўся Імполь.

— Я пагавару. Тут у мяне заўсёды быў хто-небудзь свой... Маю і цяпер,— прычвякаў да берага і пахваліўся з ямы Піліп.

— Я ж з жонкаю.

— Абаім можа і зашмат,— пакруціў злінялаю кепкаю Піліп.

— Больш чэпяцца да яе... Я нібы збоку прыпёку.

— Тады яшчэ горш. Але закіну слоўца,— голас у Піліпа трохі ачах.

Учора, калі на вузкім турэмным дзядзінцы, выбрукаваным няроўнымі ружаватымі каменнямі і абгароджаным пабеленым высокім мурам, зверху якога ажурнымі кольцамі падымаўся калючы дрот, раз за разам з'явіліся два чорныя фургоны і ў іх пачалі заганяць змардованых голадам і катаваннямі, ледзьве жывых, ужо адрошаных ад усяго мужчын.

Піліп, стоячы каля воза з поўнаю бочкай, азірнуўся, ці не чуе хто болей, і здушана прашаптаў:

— Іх за кашары — на расстрэл.

Гэтую нечаканую, што абязвечвала кожнага, страшную навіну Імполь прынёс у камеру. І той-сёй панік, абязволеў, чакаючы немінучай бяды, а Імполь, чамусьці паверыўшы

Піліпу, суцяшаў сябе таямніцай спадзявання, што яго з Хрысцяй бяда абміне і яны астануцца жыць.

Але сёння, высунуўшыся ўслед за Піліпавым возам, што сыпаў пругкі ляскат колаў і смуродзіў на ўвесь двор бочкай, з-за шарага і нязрушнага пры ўсіх уладах будынка турмы, Імполь негадана ўмлеў, чуючы нават, як пад нагамі мякчэе і ўгінаецца каменны брук: перад брамаю стаў з адкрытымі заднімі дзверцамі чорны фургон і каля яго, акружанага салдатамі з вінтоўкамі напагатове, палахлівай безабароннай купкай збіліся жанчыны. Імполевы вочы выхапілі адразу злінялую зялёную хустку і цёмна-сіні, з высокімі плечукамі, прыталены сачык — там была Хрысця.

Сутулаваты даўгавіды немец чытаў прозвішчы, трымаючы блізарука, перад самым носам хрусткую паперку, якую рваў скразняк.

Як сам не свой, у звар'яцелым бяспамяцтве Імполь рвануўся да салдат у салатавай форме, што дуламі вінтовак пачалі падпіхаць жанчын у чорны, ад якога ўжо дыхала смерцю, гарбаты фургон.

— Хрыс-ця! — крыкнуў ён праз гэтыя салатавыя спіны.

Яна, учуўшы сваё імя і родны, заўсёды жаданы голас і, не верачы яшчэ сабе, паволі падняла галаў, недаўменна азірнулася і нарэшце ўбачыла яго.

Худы, жаўтлява-зялёны яе твар пакутна перасмыкнуўся, над чорнымі шнуркамі броваў зморшчыліся карычневыя, што не сышлі яшчэ ад нядаўняй цяжарнасці, узорыстыя плямы. Прыгорбленая, знябожаная кабета ў пакамечаным капелюшы і стракатым гарадскім паліто, ступіўшы на жалезныя прыступкі і нямогла ўлазячы ў фургон, адцясняла Хрысцю ад дзвярэй у невідушчы поцемак.

— Хрысцячка! — Імполь кулаком сцёр калючую парушыну, што неспадзявана заляцела яму ў вока.

— Бывай, Імполька!

— Што ты, Хрысця?..

— На расстрэл нас вязуць! — здаецца, абыякава адазвалася яна з невідушчага поцемку.

— Няўжо? Божа...— Імполь ужо не вымавіў, а толькі выдыхнуў цяжкім, глыбокім шэптам і міма зялёных спінаў і глуха насунутых каскаў рвануўся да чорнага фургона.

Нешта няждана цяжкае з тупаватым, гарачым стукам апусцілася яму на галаў. У вушы хлынуў, заглушыўшы свет, танюткі звон. І ён пачаў мякка плысці ў чорную глыбіню...

Апрытомнеў ён ужо каля высокага турэмнага муру, лежачы на халаднаватым каменным бруку. Той сама гарачы

боль сцягваў на галаве скуру і нешта ліпкае, як здагадаўся — кроў залівала шчаку.

Яго, пэўна, ударылі прыкладам на галаве і бяспамятнага ўжо адцягнулі пад гэты высокі нязрушны мур.

Ён расплюшчыў цяжкія павекі, ажно аслепшы ад чысціні сіняга неба, якое наўскос разразалі два тонкія тэлеграфныя правады. Над імі ўжо ў быстрым лёце і адчайна вострым піскам шмыгалі, распасцёршы дужкі вострых крылаў, трапяткія стрыжы; недзе пад дахам турмы затаіліся іхнія гнёзды. Па белай сцяне, нават пакідаючы чорны шнарок, маланкай мільгалі скорыя цені.

Імполь пахіліў голаў, азіраючы дзядзінец. Ён быў пусты — ні гарбатага фургона, ні Піліпавага воза са смярдзючай бочкай.

Памяць раптам вярнула той астатні і, здаецца, абыякавы глухаваты Хрысцін крык. «Няўжо праўда, яе павязлі на расстрэл? Няўжо канец усяму?»

Імполь правёў рукою па шчацэ, дзе казыталася, сцякаючы за шыю кроў і пальцы драла калючая, даўно няголеная шчаціна. За гэтыя дні, што сядзеў у турме, ён зарос, як воўк, як зараслі барадамі ўсе мужчыны, акрамя нейкага зморшчанага ў твары Навума, з шапялявым кабечым галасам і рознымі на колер вачмі — адным карым, другім сіняватым.

«Доўга я ляжу тут ці не?» — намагаючыся павярнуцца на другі бок, Імполь учуў, як ад брамы, дзе было некалькі каморак з катоўняю, аддаваўся, блізячыся, востры цюк падковак — ішоў нехта з вартавых: або высокі, худы, чамусьці заўсёды недаспаны Сліж, або чорны, як цыган, не тутэйшы — казалі, родам з-пад Рэчыцы — нізенькі Кавалёў, што любіў біцца доўгаю гумаю з кручаным дротам усярэдзіне.

Павярнуўшы вочы, Імполь убачыў худога, з паўпаданымі шчокамі Сліжа — той, не падыходзячы, здалёк узмахнуў новым блішчастым вядром і шырокі гукі пасак вады з шумам і раптоўным холадам хлынуў Імполю на голаў.

— Ну што, ажыў? — у Сліжа ашчэрыліся жоўтыя з прастрэлам зубы.

Абапіраючыся на локаць, Імполь прысеў: галава яшчэ кружылася, вяла і ў вушах нацягнутаю струною ныў танюткі звон. Вада холадам сплывала на грудзі. Імполь рукавом сцёр яе з твару.

— Уставай,— падмахнуў чорнаю дзюбаватаю шапкаю

Сліж.— Пашэнціла — адпускаюць дадому. Кажуць, невінаваты. Жонка з партызанамі зналася.

— А што з ёю? — Імполь, ловячы рукою мур, паволі падняўся на дрыгатлівыя млявыя ногі.

— Гэ-э, ён у мяне пытае пра сваю жонку,— зноў вывскаліўся Сліж.

— А ў каго ж?.. Ты, мусіць, ведаеш, куды іх павязлі?

— А ты не? — Сліж адвярнуўся і злосна цыркнуў слінай.— Вот менш тут гавары, лахі пад пахі ды пайшоў, покуль немец не адумаўся. А то зараз вернецца чорны самаход...

Сцінаючыся ад болю, што шчымеў на мокрай галаве, Імполь няцвёрда ступіў насустрач нізкаму будынку з тоўстымі кованымі рашоткамі ў невялікіх вокнах. Вузкую, абшморганую грузавікамі браму глуха і надзейна закрывалі жалезныя, пафарбованыя ў едкі чырванаваты колер нязрушныя дзверы.

— Кіруй сюды! — Сліж вінтоўкаю паказаў на дубовую з трохзубымі завесамі фортку — бакавы праход. І Імполь ачуціўся ў вузкай настылай каморы (за ёю была другая, прасторнейшая, дзе яго білі, нават здзекліва, выцягнуўшы з портак палавы член). Зрабіць гэта загадаў тады паўнявы рыжаваты і акуратна падстрыжаны немец, ад якога пахла халодным адэкалонам. Цяпер за лёгкім аднатумбавым столікам з зялёным выцертым сукном сядзеў, падгладжваючы кароткую густую польку, чорны, падобны нечым да жыдка, малады лупаваты афіцэр.

З густым шоргатам ён пацягнуў да сябе шуфлядку, дастаў чорную ў сівых разводах канторскую кніжку, пагартаў яе і падняў на Імполя вялікія карыя вочы.

— Прозвішча пытаюць,— падказаў Сліж і ўжо выгукнуў за Імполя: — Верамей ён.

Немец павёў пальцам па доўгім слупку прозвішчаў. Імполь таксама пазіраў на ружаваты, з вострым канцікам, пазногаць, акуратна падрэзаны з двух бакоў.

Раптам белаваты канцік ткнуўся ў слупок пасярэдзіне тоўстага з чырвонымі папярочнымі лінейкамі сшытка.

— Значы, твая жона естэсь портызант? — спытаў папольску малады лупаваты афіцэр і, дастаўшы з унутранай кішэні чорную самапіску, адкруціў каўпачок і, дробна вывеўшы некалькі літар, з росчыркам адарваў пяро.

— Якая яна партызанка, пан немец,— здрыгануўся Імполь.— Тэхнічкай яна ў бальніцы была.

— Знамы, знамы... Она ест зараза, здрайцо. Она веле

разы помагала звядоўцам партызантцкім. А ты нам не зробіл ніц злэго. Можэш ісць. Ты — вольны[1].

— Як ісці? А яна?..

— На цо тобе она? Ідзь! Ты знойдзеш цось лепшэго[2].

— Пан-немец, а дзе ж мая жонка? Я не пайду без яе!

— Знайшоўся тут,— Сліж раптам ірвануў Імполя за каўнер, выпхнуў за парог, на вуліцы ўжо сказаў: — І так падзякуй Піліпу, а то быў бы там, дзе бабы — за кашарамі ў ямах.

— Няўжо жанчын павязлі туды? — страх холадам папоўз па спіне, балюча і востра прапароў сэрца.

— А куды ж ты думаў?..

Нешта бяспамятнае і адчайнае папхнула Імполя і панясло ўніз па вузкім тратуары: брукаваная вуліца за мурам турмы збягала ў лагчыну. Над ёю звісалі доўгія ў дробнай густой завязі сівыя раскідзістыя яблыні. У расчыненай браме паблісквала нікеліраваным рашотачным радыятарам і лупатымі фарамі адкрытая легкавая машына з ветравым шклом: збегшы з ганка, да яе нёс два скураныя чамаданы малады высокі немчык у чорнай форме танкіста.

Паставіўшы іх у машыну, ён паглядзеў на Імполя, зарагатаў і па-нямецку крыкнуў:

— Уцёк з турмы, ці што? Гэй, ты!

Імполь, не разбіраючы, што ён пытае, затуліўся за куст бэзу і прыспешыў крок. Спыніўся ўжо толькі за горадам пад нізкімі шурпатымі ясенямі, штораслі абапал шашы, падняўшы дзяркатыя падрэзаныя кроны, і прысеў на закурэлую мураву.

Каля шашы, падымаючы пыл, марудна паўзла казацкая параконная фурманка з будою. Схаваўшыся ў цень, коней паганяў вусаты ў сіняй фуражцы з чырвоным аколышам немалады казак. Падспеўваў сабе.

За сівым у густой асацэ балотцам, за зморшчаным ад ветру трапяткім азярцом, на грудку за цёмна-зялёнай лапушыстай канюшынай, абсаджаныя высокім, раскалыханым і трапяткім на ветры бярэзнікам, маўкліва падымаліся цагляныя, у шарэнгах белых каміноў яшчэ даўнейшыя польскія казармы. Імполю нават успомнілася, як бачыў тут уланаў з белымі аколышамі на фуражках. І белыя паскі апаясвалі ногі каштаваных ільсністых коней. Гэта было

---

[1] — Ведаем, ведаем... Яна зараза, здрадніца. Яна многа раз дапамагала партызанскім разведчыкам. А ты не зрабіў нічога кепскага. Можаш ісці. Ты — вольны *(польск.)*.

[2] — Нашто яна табе? Ідзі! Ты знойдзеш лепшую *(польск.)*.

перад самай вайною: ён тады, здаецца, з Алесяй прыязджаў сюды, у Наваградак, на маёвы кірмаш. «А як жыве, як маецца Алеся? Які там вырас сын? Ён, Імполь, ужо з год не бачыў іх. Як пераЖылі бяду? На згоне ж зімы спалілі верасаўскія хутары і пастралялі шмат людзей. Забілі, кажуць, і старога Корсака. Няўжо на ўсіх упала страшная кара? Няўжо такі грэшны чалавек? Што робіцца на гэтай прыгожай, убранай у падманнае хараство зялёнай зямлі. Чым саграшыла, чым перад богам вінавата Хрысця? Чым?..»

Імполь падняўся з мяккай, што аддавала халадком і прэснай зелянінай, абочаны і, пазіраючы на няроўную цёмна-сінюю са светлымі плямамі бярэзніку граду лесу, на сінявагую хмару, што недзе далёка асвяжала ненавісны чорны свет халаднаватым дажджом, пайшоў подбегам.

Ад слабасці, ад голаду, ад закарэлай раны, што балюча сцягвала валасы і разломвала галаў, ногі падгіналіся і ступалі няроўна. Але Імполь, перасільваючы боль, млявасць, спяшаўся, каб ўратаваць, каб чым-небудзь памагчы Хрысці.

«Праз яго, праз Рэпку, пашла на смерць. Ён уцягнуў. А сам?.. Сядзіць дзе-небудзь на хутары ды п'е. Чаму ж няма праведнасці і справядлівасці на свеце?»

Мінуўшы казармы, Імполь завярнуў на ўезджаную, укатаную, быдта катком, цяжкімі грузавікамі палявую дарогу, што, крута выгінаючыся, спускалася на край хмурага, нізка навіслага лесу. Малады, падсаджаны па другі бок дарогі хвойнік гнаў у рост залацістыя стрэлкі. У зацішку пад тоўстай, аблітай рагамі смалы елкай на пярэстым ад лішаёў камені сутуліўся стараваты з белымі скронямі мужчына ў пляскатай выгаралай кепцы і карычневым расшпіленым каптане. У тахт стрэлам, што востра шугалі ў лагчыне за лесам, ён палахліва і нервова ўздрыгваў худымі плячмі.

— Ты куды? — згледзеўшы Імполя, ён спусціў ногі з каменя ў чырвоны, рассыпаны жар кветачак сардэчніку — палявых гваздзікоў.

— На расстрэл жонку павязлі,— задыхнуўся Імполь, ловячы настаўленым, нацятым вухам адзіночныя стрэлы, што нізкім расцяжным водгаласам аддаваліся за высокаю градою лесу.

— Тамака сын мой... Раніцаю завязлі. Я нават здалёк бачыў, як іх раздзявалі...

— І я пайду туды, у самае пекла,— Імполь абцёр рукою шчаку, на якой ужо закарэла і лушчылася, астаючыся на пальцах цёмнаю, нібы грачанаю лускою, запечаная кроў.

— Хто ж цябе гэтак? — топчучы гваздзікі і пляскатыя каласы зуброўкі, на дарогу падышоў мужчына з белымі кучаравымі скронямі.

— У цюрме... Немец. Я хацеў праравацца да жонкі, як садзілі баб у грузавік.

— Не праравешся і цяпер. Ланцугом стаяць у два рады... А майму сямнаццаты гадок ішоў. У часе аблавы разам з партызанамі схапілі. І во чым скончылася. Ні пра што ні пра якое. А цябе, во бачыш, выпусцілі...

— Паспрыяў добры чалавек. Выпусцілі,— уздыхнуў Імполь, пазіраючы мужчыне ў сінія, нібы дзіцячыя, вочы, на якіх ужо блішчалі слёзы.

— А майго не ведаў? Коля называўся. Высокі... Можа, і за цябе высшы.

— Не, не ведаў,— пакруціў галавою Імполь і памалу пайшоў пад навіслыя лапы хвоек — стракаты плямісты цень пабег у яго па спіне.

— Апомніся, хлопец! — крыкнуў чалавек у Імполеву спіну, па якой збягалі то цёмныя, то светлыя плямы.— Не лезь сампапростам пад кулі.

Імполь азірнуўся на адчайны крык і ўбачыў, як плакаў гэты стараваты мужчына, стоячы па калені ў карычневым дыме мятліцы.

Халаднаваты скразняк, што чутка зашалясцеў вярхамі бярэзін, абвеяў Імполя, суняў гарачы боль у галаве, што налівалася і брыняла цяжарам, заглушыў у вушах тонкі, калі прыслухаешся, абрыдлы звон.

З-пад пруткага невысокага грабніку дарога раптам выкруцілася да зялёнага лужка, спярэшчанага малінавай смолкай, выпрасталася, і сінявата-шарым паскам пабегла туды, дзе варушыліся салдаты ў мышастай форме і круглых касках, дзе цямнелі дзве шырокія і доўгія з іржава-глiністымі берагамі ямы, а на вузкай папярочцы між іх, закрываючы рукамі грудзі, енчылі, скавыталі голыя жанчыны. Воддаль ад ям, растапыраўшы ножкі, шарокае дула задраў ручны кулямёт.

Імполь, засланяючыся далонямі ад сонца, хмурыў слепавата вочы, але яе, Хрысці, не пазнаваў.

Нечаканы рэзкі вокрык з-за ялаўцовага куста запыніў Імполя:

— Стой! Куды ідзеш?

І адтуль, ускідваючы на руках жоўтую вінтоўку, высунуўся салдат. Імполь зніякавеў, чуючы, як з яго сплывае раптоўны страх — перад ім у зеленкаватым убранстве стаяў

Міця. Да Імполя падкрадаваліся агіда і неўтаймаваная злосць. І ён, адступаючыся назад, ад неспадзяванасці, ад болю, ад сораму, злосці, перамешаных з агідаю, перапытаў:

— Гэта ты, Змітрык?

— Я, Імполь,— у Міці таксама змяніўся, захрас у горле голас, і ён апусціў цяжкую, з сіняватым дулам, вінтоўку.— А ты чаго тут ачуціўся?

— З турмы выпусцілі... Хрысця ж там.

— Няўжо? — Міця павалі, не верачы, яшчэ не разумеючы ўсяго, азірнуўся на ямы, дзе бялелі нейкім страшным прывідам раздзетыя кабеты.

— Памажы, Змітрык. Як можаш — памажы! — Імполь закалаціўся, сцяў кулакі і падняў іх да падбародка. Вочы ў яго шалёна гарэлі. Твар перакошвала балючая міна.— Напрамілы бог ратуй!

— Ты адыдзіся толькі. Вунь у лясок... Я зараз...

Імполь, адступаючыся спіною да лесу, чапляючыся за зялёныя бароды сушніку, бачыў, як Змітрык бег туды, як нехта ніжэйшы і тоўсты перапыніў яго, як нарэшце Міця падышоў да ям і пачаў адыходзіцца назад.

Імполь не ўтрываў, выскачыў з лесу, сутаргава глытнуўшы паветра, спытаў:

— Дзе яна?

— Няма яе там.

— Як няма?

— Во так — няма. Іх павязлі ў Дварчаны на станцыю, адправяць у Нямеччыну. Так сказаў наш ротны.

— Махлюе ён! — Імполь зноў сцяў кулакі, у бяссільнай, бездапаможнай злосці падняў іх да падбародка.— А ты сам ці праўду сказаў? — Яго ўскалмачаная з накарэлай кроўю галава пакутна адвярнулася, як адварочваецца ад агню ліст.

— Праўду. У Нямеччыну Хрысцю адправілі,— і Міця схаваў свае вочы ад шалёна-чырвоных Імполевых вачэй, што зноў касавата і зняверана азірнуліся на яго.

## XXIV

Міця балюча ўразіўся і да непрытомнасці зніякавеў, убачыўшы ў доўгай з іржава-гліністымі берагамі яме на грудзе мёртвых, сінявата-белых цел забітую Хрысцю. Яна ляжала якраз наверсе, на залітай цёмнаю кроўю пажылой

сівавалосай кабеце, нібы жывая, утаропленая карымі вачмі ў сіняе неба з нізкімі пухірамі белых хмар, што наплывалі з-за высокай грады лесу, несучы на зялёнае поле цёмны смутны цень. На маладых набрынялых грудзях коса чырванелі і надзіва нават не сачыліся кроўю тры невялікія ранкі. У пякучай муцы штырханулася і зайшлося Міцева сэрца, анямелі і падагнуліся ногі.

Зводдаль ад ямы глыбокімі зацяжкамі глыталі слабы сігарэтны дым п'янавата-расчырванелыя і вясёла-абыякавыя паліцыянты. Нешта расказваючы, сыта рагаталі. У драбнаватага з прыгожым тварком на пярэдніх зубах паблісквала залатая каронка.

Міця яшчэ раз азірнуўся на доўгую з іржава-глiністымі берагамі яму, каб упэўніцца, што там ляжыць яна, Хрысця, і яго заванітавала, нешта гідкае падвярнулася пад грудзі, і скоранька пайшоў пад здзеклівы рогат нізкага мардастага паліцыянта, што стаяў зводдаль купкі:

— Чаго ўцякаеш? Ёсць нічога дзеўкі. Магу ўкласці да іх, будзеш ляжаць на цыцы.

Да Міці падбег, перастрэўшы, і дыхнуў перагарам у твар кіславата-злы, нахмураны Камашыла:

— Меней швэндайся тут. Стаіш у ачапленні, дак стой. Знойдзецца твой Царык. Хто там яшчэ з табою? Гані вон!

— Жонку яго тут застрэлілі.

— Жонку, цётку,— перакрывіў, передражніў Міцю і мякка заскрыгатаў зубамі Камашыла.— Нашто, спытай, лішнія сведкі? Нашто, каб бачылі нас з табою?

— Гэта не ўтоім,— Міця скорым крокам завярнуў назад, ужо думаючы, казаць устрывожанаму, узнерваванаму, што адыходзіў ад памяці, Імполю ці не казаць.

І не сказаў, глянуўшы ў ашалелыя, чырвоныя, як у навязанага быка, Імполевы вочы. Знайшоўся, выдумаў пра Нямеччыну.

Нібы трохі акрыялы, але нейкі яшчэ бязвольны, асалавелы Імполь пасунуўся, шоргаючы чаравікамі, па жвірыстай дарозе, пад навіслыя лапы ружаватых хвоек, дзе пагойдваўся, кружыў голаў плямісты цень.

Міцю здалося, што ў Імполевай душы, як у набрынялым зярнятку, прабіўся крохкі расток спадзявання, што Хрысця папраўдзе засталася жыва.

Як і самому яшчэ ўсё не верылася, што ў яме папраўдзе ляжыць яна, забітая Хрысця. Міця нават не паспеў распытаць у Імполя, як і калі яны абаіх апынуліся ў турме. За што? Падумалася раптам пра іншае, што Імполь вернецца

9—3013

да Алесі, паходзіць, як адбіўшыся ад хлява авечка, і прыйдзе назад.

Нечакана перад вачмі, нібы з глыбокай вады, паволі пачало выплываць Верасава, вузкая, зарослая бэзам вуліца, свая хата за шарым плотам, і ўбачыўся бацькаў твар — худы, жоўты і зблажэлы. Успомніліся Дварчаны, той цагляны дом, дзе іх з Царыкам трымалі ў настылым вільготным падвале дварчанскай паліцыі і куды прыходзіў з падаянкай і мок на нудным дажджы, затаіўшы сваю крыўду, смутны бацька. Яны з Міцем бачыліся тады астатні раз, і ў той астатні раз Міця нават з нейкім грахом падумаў, што бацька доўга не пажыве.

Але ніколі, вядома, не гадаў, не думаў, што здарыцца самае найгоршае — бацька памрэ нечуванай, нялюдскай, гвалтоўнай смерцю.

Няўжо свет такі злы і нелітасцівы? Няўжо не было і няма ў ім дабра? І ён, Міця, дарма шукаў справядлівасці, высокага чалавечага розуму, светлага кахання, дабраты між людзьмі. Няўжо ён так горка абмыліўся? Няўжо пануе толькі звярыны закон: ірваць адзін аднаго, трымаць у няволі, з асалодаю біць, рэзаць, заваёўваць, узвышацца адзін над адным, род над родам, нацыя над нацыяй, дзяржава над дзяржавай.

За светлым чубком лесу блізіўся і рос, і нібы валіў сваім натужным гулам дрэвы нізкі рокат чорных грузавікоў. Адтуль з густым пудкім фуркатам плыла стракатлівая хмара ненажэрна-крыклівых маладых шпакоў. Яна коса завілася над Міцем і, пераляцеўшы яго, імкліва ўпала на ружаваты ад вобаратніку і смолкі вільготны лужок.

Міця рвануўся да дарогі. Непаваротныя грузавікі, вяла пахістваючыся доўгімі крытымі кузавамі на ямах і каранёвых гарбах, выпаўзалі з-пад навіслых калматых лап, з шоргатам чаплялі іх. Пярэдняя машына, зварочваючы далей ад навісі хвоек, наязджала тупаватым рылам на пруткія кусты маладога грабу і арэшніку, што светла зяляніў на другі бок дарогі. Вецер ірваў і віхрам круціў сашморгнутае лісце.

Высокія колы, з'язджаючы на край дарогі, падміналі спярэшчаную жоўтым люцікам траву, пакідаючы на ёй прылізаны, нібы вадою, след.

Гулка трапятаў і ляскаў чорны брызент з трыма маленькімі, на пядзю, аконцамі.

Міця адступіўся — крыты грузавік, ажно задрыжала ўсё ўсярэдзіне, з гарачым гулам пранёсся міма. Услед за ім,

абдаючы Міцю цёмна-сівым дымам салкрі, цяжка і натужліва роў другі.

У кузаве поруч з шоферам тросся на пружыністым сядзенні рыжавата-чырвоны немец, у незавешаным кузаве з краю лавак, трымаючы між каленяў вінтоўкі, насцярожана надзьмуліся ў чорнай форме паліцыянты; з-за іх вызіраў зарослы чорна-сівою шчацінаю немалады твар. Ці не Царыкаў? Міця спярша скорым крокам, а потым ужо і подбегам пайшоў за грузавіком, што нечакана сцішыў ход, загамаваў перад каламутнаю карабатаю лужынаю.

Няголены чорна-сівы твар яшчэ больш выцягнуўся, падымаўся над галавою ў курносага, з худою доўгай шыяй, маладзенькага паліцыянта

Грузавік, аб'язджаючы лужыну, павярнуўся, і пад чорны брызент коса зіркнула веснавое парнае сонца — і на галаве ў чалавека заблішчалі, засерабрыліся сівыя валасы.

Па сівай упартай чупрыне і па гарбаватым носе Міця цяпер добра распазнаў, што гэта быў ён, Лаўрын Царык. Як Царык пазнаў і яго, устаючы на ўвесь рост і памахваючы няголеным чорным тварам з белаватымі ніжай куткоў рота плямамі сівізны.

Паліцыянт, убачыўшы Міцю і яго паднятую руку, павёў вачмі за плячо і, нечакана схапіўшы вінтоўку, штырхануў ёю Царыка ў грудзі, асаджваючы яго зноў на лаўку.

Міця, падмахваючы цяжкаю вінтоўкаю, прыспешыў крок і крута завярнуў з дарогі, падбег да купкі салдат, дзе стаяў, шырока расставіўшы ногі, абыякавы, здаецца, да ўсяго, што тут рабілася, з кіславата-п'яным, дурнаватым смяшком Камашыла.

Ухмылка раптам слізганула з яго твару, і ён пачаў налівацца кроўю:

— Ты чаго зноў?

— Яго... Царыка прывязлі! — задыхнуўся Міця.

— Не абазнаўся? — Камашыла пазіраў туды, дзе каля дзвюх іржава-глiністых ям разварочваліся чорныя грузавікі.

— Нямецкі афіцэр там.

— Я знаю, начальнік турмы,— Камашыла абцёр свае сонныя вочы.— Зараз падыду... А ты мігам на сваё месца.

— Можа, разам? — падкрадвалася падазронасць, што Камашыла хітруе.

— Яшчэ чаго.

З няпэўнасцю і трывогаю ў сэрцы, што Камашыла абмане, Міця вярнуўся пад лес на ўкатаную грузавікамі дарогу.

Зніякавелы, нервова-нацяты ўжо глядзеў, як з грузавікоў сцягвалі мужчын са звязанымі назад рукамі. У купе распазнаў сівую без шапкі Царыкаву голаў, яго сутулыя плечы.

І знямеў, зяхнуўшы ад вострага болю, што цяжкай гарачынёю аблажыў сэрца,— абедзвюма рукамі ў сутулыя плечы штархаў начальнік турмы, гонячы Царыка першага на вузкую, залітую ліпучай кроўю грэблю, што падымалася між доўгімі ямамі.

З-за пляча з размаху б'ючы прыкладамі мужчын, услед за начальнікам турмы пачалі спяшацца нецярплівыя паліцыянты.

Ад нервовасці, ад страху, што расстраляюць мужчын, што зараз згіне Царык, халодны пот шыбануў Міцю па плячах. Міця азірнуўся на Камашылу — той перазараджваў свой аўтамат, рыхтаваўся, ці што, паласнуць чаргой разам з усімі па гэтых, сагнаных на вузкую сценку між шырокіх ямаў са звязанымі рукамі бязвольных мужчынах. І не стрываў, ірвануўся сам да рыжаватага, гладкага ў твары немца.

— Пан афіцэр, там наш чалавек,— у Міці з гарачкі не хапала нямецкіх слоў.— Вунь ён, сівы... Лаўрын Царык.

Немец нібы здумеўся. Азірнуўся кругом. Нарэшце знайшоў сярод усіх тут старшага па званні — Камашылу. Але Камашыла, зачырванеўшыся і падмахваючы аўтамат, бег сюды ўжо сам.

— Ты што лезеш, я ж сказаў, зраблю ўсё сам. А то падсадзіш лабаціну! — збялелы Камашыла з размаху далоняй ударыў Міцю ў грудзі.

Міця адхіснуўся, але ўстояў на нагах, учуўшы раптам невыносную злосць і агіду да Камашылы, але стрываў, як мог спакойна сказаў:

— Ты ж дакляраваў...

— Іншым разам памог бы, а цяпер не магу,— Камашыла адвярнуўся, схаваў свае вочы.— Тут адныя палітычныя, самыя ворагі...— Угінаючыся, стоячы да Міці сутулаватаю спіною, хрыпла пракрактаў: — А гэты твой Царук пры Саветах актывістам быў і цяпер знюхаўся з імі. Я глядзеў яго справу. Так што Царук...

— Царык ён...

— Ды пайшоў ён к чортавай матары! — рэзка крутнуўся Камашыла і, прыплюшчыўшы вочы, зароў ужо на Міцю: — І ты разам з ім. Марш назад!

— Я не сабака, не гані...— ад нянавісці, дасады ў Міці ўсё гарэла ў грудзях.— Дабром прашу, выручай чалавека.

— Ты глядзі,— нацяўся і зноў збялеў Камашыла,— ён яшчэ грозіцца.

Але тут ужо ўмяшаўся немец, абедзвюма рукамі хватаючыся за жоўтую кабуру і расшпільваючы яе.

Міця павярнуўся і цяжкімі, быдта не сваімі нагамі, быдта несучы што на плячах, паволі пайшоў, нехаця і марудна пераступаў глыбокія, разрэзаныя грузавікамі каляіны і чуў на сабе ненавісны пагляд і немца, і ўсіх, хто стаяў поруч з ім. І ўжо здагадваўся, што ім усім карціць паставіць яго на сценку між доўгімі ржава-глiністымі ямамі, да купкі выгружаных з чорных самаходаў мужчын.

Адышоўшыся на нейкую, як здалося, ужо небяспечную адлегласць, азірнуўся.

Немец, зашчаміўшы ў руцэ кароткі пісталет, гнаў туды на чорную ўтоптаную і залітую кроўю сценку якраз Царыка. Царык ішоў спакойна, намагаючыся падняць вышай сваю сівую голаў і выпростваючы худыя плечы. Турзануўшы за звязаныя рукі, немец раптам прыпыніў яго і прыставіў блізенька да патыліцы кароткі пісталет. Узарваўся слабы і глухаваты стрэл.

Ускінуўшы назад сів静ватую голаў, на якой вецер калмаціў валасы, Царык пастаяў, нечакана пахіснуўся і тварам упаў на край рова.

Свет раптам зрабіўся пусты і аглухлы, і Міця ўчуў, як чорная глыбіня абдымае яго.

Немец капнуў ботам, намагаючыся скінуць Царыка ў роў, але, мусіць, не здужаў і са злосці замахаў рукою, паказваючы паліцыянтам, каб гналі туды астатніх.

Дрыжыкі білі, траслі Міцю, у руках калацілася вінтоўка, у пякучым вары млела і білася сэрца: шкадаванне нечакана змяшалася з віною перад Царыкам, што не ўратаваў, не памог яму. Перад вачмі прабеглі Дварчаны і ўбачылася збедаваная, згорбленая, з жаўтлява-худымі, як шчэпкі, цыбатымі нагамі Царыкава Люба. Што ён скажа, калі стрэнецца з ёю? А ці стрэнецца? І што стане з ім, калі будзе стаяць каля гэтых іржава-гліністых, выкапаных смяротнікамі для смяротнікаў доўгіх равоў. Няўжо выратаваўся ён, каб страляць ды катаваць іншых? Няўжо ў гэтым свеце чалавек не можа быць чалавекам?

Міця захадзіў, каб суняць гарачую нервовасць. Да болю ў пальцах сціснуў халодную вінтоўку. Крыўда, злосць, адчай магнэзам цягнулі стрэліць у кучу паліцыянтаў. Альбо туды, дзе стаіць, нарыхтаваўшы аўтамат, прадажны Кама-

шыла. Але ці заб'еш яго? І чым гэта скончыцца? Ці паспееш уцячы? Іх тут разам з ачапленнем каля сотні. І што гэтым зменіш? Хіба перайначыш забойцу, хіба вырвеш тое злое, што жыве ў кожным чалавеку.

Міця паволі, нібы па сваёй патрэбе, адышоўся да лесу. Азірнуўся. На сценку між равамі, расцягнуўшы ў шнур, паліцыянты гналі пакорных, з перавязанымі тэлефонным дротам рукамі маўклівых мужчын.

«Свае б'юць сваіх. Нешта заклятае на гэтым свеце. Грэшнае і страшнае. І ніколі ўжо не адкупнае — страляем нішчым самі сябе. На векі вечныя». Міця затуліўся за кусты маладога ў шурпата-зморшчаным і густым лісці пругкага граба. За імі праскочыў пясчаную, засыпаную слізкаю кастрыцаю дарогу. Ломячы з трэскам сухі хруст, перабег на другі край лесу. Гэта быў нават не лес, а пералесак. Лес пачынаўся за сінявата-зялёным, што выпусціла колас і калюча-мігатліва паблісквала залаціста-ружовай расою, высакаватым жытам. Над імі адзінока, нібы згубіўшы сваё гняздо, цвірчэў жаваранак.

Між сцяною рэдкага пералесу і росным, саладжавапрэсным жытам шылася ўтравелая дарога з зарослымі каляінамі. Міця высунуўся на яе і злякнуўся — на белаватым і круглым, як чэрап, валуне адзінока і смутна згорбіўся чалавек у пляскатай зношанай кепцы, з-пад якой залезлі белыя, ажно зеленаватыя валасы. Сёння раніцай, заплаканы, змардаваны ад гора і трохі як сам не свой, адрошаны ад розуму, ён прасіўся ў Міці прапусціць яго да рова, каб хоць астатні раз глянуць на забітага сына. Міця ведаў, што п'яныя паліцыянты наўрад ці адпусцілі б гэтага збе-даванага чалавека назад.

Каб не страчацца зноў, Міця рвануўся за невысокую зарась асінніку, наступіўшы на кучу сухога лому і нарабіўшы нечаканага лопату і трэску. Але чалавек не азірнуўся. Абыходзячы яго і падымаючыся лесам вышай на груд, дзе зелянелі ценькія дубчыкі крушыны і сівых маладых рабін, Міця ўчуў, як там у лагчыне на лужку каля гліністаржавых равоў забухаў і захлынуўся доўгаю чаргою кулямёт. За нізкі грудок пакацілася і прыляснула рэха.

Міця скочыў у сіваватае жыта, падмахваючы вінтоўкаю і збіваючы квола-пляскатыя каласы, што пырскалі і ляцелі перад ім, пусціўся што было моцы да лесу.

За спіною зноў доўгімі чэргамі застукаў кулямёт, і Міця ўявіў, як падаюць на грэблю бездапаможныя са звязанымі рукамі няголеныя, зарослыя шчацінаю сталыя мужчыны

і маладыя, што не паспелі яшчэ абрасці мяккім пушком, хлопцы.

Як лютуе Камашыла. А мо агледзеўся, што няма яго, Міці, і рвануўся шукаць у тым сасновым пералеску.

Кулямёт сціх. Нізкім рэхам адклікаліся толькі адзіночныя вінтовачныя стрэлы. А над жытам, нібы не чуючы бяды, вясёла цвірчэў, залівауся жаваранак. «Няўжо ён будзе спяваць і тады, калі не стане мяне?» — задыханы Міця нарэшце выбег з сіва-зялёнага, саладжавага, што блытала ногі, жыта. Даскочыўшы да старых, нагрэтых на сонцы, разлапістых хвоек, што пахлі густа-ліпучым смолкім духам, нарэшце азірнуўся: невысока ў небе, трапечучы крыллямі, вісеў і, не баючыся далекаватых стрэлаў, выцікоўваў палявых мышэй ці дробных пташак вялікі палявы каршун.

Крутаваты пагорак хаваў адзінокага чалавека, што сядзеў на валуне, і ніжэйшы край пералеску, за які сплывала мяккая, на якой толькі і сядзець анёлкам, пухкая хмарка. Стрэлаў ужо чуваць не было.

Міця, абапершыся рукою на цёпла-шурпатую хвойку, перавёў дых і ўжо з развагаю падумаў, што цяпер і папраўдзе могуць агледзецца, што яго няма. Падазрона зіркнуў на прымяты ў збэрсаным жыце доўгі шнурок свайго следа, адапхнўся ад хвойкі і заслізгаўся па пухкай сасновай кастрыцы, глыбячыся далей у цяністы лес. Там за сцяною дрэў, што злівалася ў зялёную навісь, смутна і мякка кувала зязюлька. Нібы адлічвала тых, каго забілі.

Прайшоўшы кіламетры са тры лесам і ўчуўшы па грукаце фурманкі, што блізка шаша, Міця нарэшце спыніўся. Паглядзеў на вінтоўку, якая ўжо адабрала рукі, ступіў да аблітай смалою, сточанай шэршнямі ці падзёўбанай дзяцелам елкі і засунуў яе ў мышыную ці кратовую норку, што бегла пад тоўсты кажух напластаванай кастрыцы.

Убачыўшы, што вытыркаецца прыклад, акутым чаравікам грабануў на яго з блізкага копчыка мурашніку сухога шыгалля.

Аднекуль пахла недалёкім, гнілым і зарослым раскай балотцам. Перачырквалiся між сабою дразды. Не ўтрымаўшыся на кароткіх карэннях, на крутым грудку пападалі высокія старыя елкі. Доўгі, з аблушчанай карою на сухаватых лапах, як нейкі страшны яшчар, выварацень перагарадзіў Міцю дарогу. Абышоўшы яго і натрапіўшы на ўтоптаную, абапал зарослую густым чарнічнікам сцежку, Міця нехаця збег да жоўтага ад тлуста-бліскучай маслянкі

лужка. Малады высокі алешнік, абкіданы клейкім карычняватым лісцем, хаваў лясную рэчку. Топчучы пахуча-гаркаваты валяр'ян, Міця прыкленчыў на сырым беразе, зачарпнуў рукою халоднай, што кацілася па камяністым дне, крынічнай вады, спаласнуў спацелы твар.

Праз негусты алешнік была відаць чародка пярэстых і чырвоных кароў, што прыпалі да травы, адмахваючыся ад заедзі вушамі. Каля іх стаяў не то падлетак, не то мужчына ў злінялых вайсковых штанах, у смешнай, з адарваным брылём вайсковай фуражцы.

За стракатым ад люціка лужком роўным нешырокім паскам бялела шаша. За ёю, нібы магілкі з замшэлымі памятнікамі ды каменнямі, шарэлі тоўстыя пні высекі, што зарастала ўжо маладым асіннікам ды грабам. Лес, адступіўшыся на метраў дзвесце ад шашы, уздымаўся высокаю сцяною маладых гонкіх дубоў, асін ды елак.

На светлы прагал да палявой дарогі заварочвала марудная фурманка.

Міця ўбачыў, што выйшаў якраз на Янава. Калі перабегчы шашу і гэты падсечаны лес і звярнуць трохі ўлева, то ў глыбокай лагчыне шарымі будынкамі распаўзецца вёсачка. На грудку, як помніць, пры самым лесе пад старою вялікай і густою грушай схавалася хата са скасабочаным старым гумном — хутар іхняй верасаўскай Ганначкі, што выйшла сюды замуж за недарослага ды яшчэ і кульгавага ўдаўца.

Нібы за поручань на хісткай кладцы, Міця ўчапіўся за здагадку, што трэба забегчы на хутар, папрасіць у Ганначкі якія-небудзь транты ды пераапрануцца, скінуць форму, а заадно распытаць пра Верасава: ёсць там казакі ці няма, бо астатнюю навіну, якую чуў, нібы яны, збудаваўшы бункер, перабраліся сюды ў прылесныя вёскі. А калі што якое, то застацца на хутары і наказаць Алесі, што ён тут.

Покуль цішыня, покуль ніякага руху не чуваць на шашы, трэба ў міг вока пераскочыць.

Міця адапхнуўся ад тоўстага вярбовага камля, дзе ў цёмным дупле раптам запішчалі пташаняты, і, асцярожна кідаючы вокам на белы пасак шашы, пайшоў уздоўж быстрай звілістай рэчкі, каб мінуць пастуха. На завароце, дзе перад карчамі рэчачка вымыла сінявата-цёмную бухту, учапіўшыся лапкамі за сухі алехавы пруцік, сядзеў, звесіўшы цяжкі дзюб і нерухома пазіраючы ў ваду, зялёна-бліштасты, нібы райская пташка, караткахвосты і таўставаты, як шпуля, зімародак.

Забыўшыся пра трывогі, пра зацішны страх, што заміраў на сподзе душы, Міця сцішыў хаду і залюбаваўся пташкаю. У душы ачуцілася і затрапятала нешта даўняе, радасна-дзіцячае. Успомнілася раптам тое забытае дзіва, калі падлеткам першы раз убачыў зімародка — зялёны з чырвоным брушкам, ён ляцеў над самаю вадою — Міцю здалося, што папраўдзе ўбачыў райскую пташку.

Міця памалу і асцярожна адступіўся назад, але пташка, мусіць, ужо даўно счуўшы яго, куляй ірванулася з сухога, што струнка задрыжаў, пруціка і знікла на завароце рэчкі, за высокім карчыстым берагам.

Дайшоўшы да гразкай лагчынкі, Міця з разгону пераскочыў на другі бераг рэчкі, заглушаны невысокай, яшчэ без парасонаў жоўтых кветак, горка-пахучай лодзьмай і, пагля-даючы на пастуха, што, упершыся барадою на кій, стаяў спіною да яго, высунуўся з алешніку.

Шоргаючы чаравікамі па сухавата-шорсткіх лісцях чэмеру, пабег да шашы, неспадзявана ўчуўшы за падсечаным лесам натужлівы вуркат матораў.

Міця ляпнуўся між чорных, наточаных кратом тарфяністых кучаў, плячмі чуючы блізкі гул: з-за чубка маладога ў залацістых стрэлках хвойніку высунулася зеленавата-рабая, як жаба, танкетка і гэтакія ж рабаватыя ад зялёных прадаўгаватых плямаў два крытыя грузавікі.

Пакінуўшы смярдзючы пах саляркі і горка-сухога пылу, яны прасунуліся выбоістаю шашою і заціхлі на другім баку лесу. Счакаўшы, ці не чуваць яшчэ каго, Міця падхапіўся з вільготнага, што яшчэ не ўсмактаў дажджавую ваду, лужка і, не зважаючы на пастуха, што, мусіць, ужо згледзеў яго, перабег шашу. Коўзаючыся па тоўстых карэннях шарых, аблушчаных пнёў высекі, ускочыў нарэшце ў лес і, разводзячы рукамі разложыстыя кусты гарэшніку, схаваўся ўжо ад усяго.

Малаезджаныя з глыбокай ціхай вадою ў каляінах дарога, што гарэла ад жоўта-сіняга мар'янніку, вывела яго з парнага старога і рэдкага дубняку на груд да палетка жоўта-зялёнага яшчэ не зацвіўшага лёну і нізкай, што толькі паказала вушы, усходзячы цёмна-зялёным лісцем, картоплі. У блізенькай лагчынцы, у густой зяляніне прысад, завешанай сінявата
й соннай смугою, хавалася вёска, там-сям, шарэючы салямянымі стрэхамі высокіх гумнаў і нізкаватых з пабеленымі сценамі хатаў. У гародах, абнесеных жардзянаю загараддзю, бялелі хусткі жанчын.

Далёка наводшыбе пад самым лесам, схаваўшыся пад

грушу і затуліўшыся кустамі язміну, высунулася саламяным без шчыта лобам нізкая, з двума цёмнымі аконцамі палахлівая хата. Ніжай пад ёю да крутога спаду груда прыціснулася касабокае гумно.

Зводдаль за карычняватым ад перасохлага моху гумном над густой светла-зялёнай старой ліпай, дзе ў чорным шырокім гняздзе бялелі бусляняты, спакойна і разважна, выцягнуўшы чырвоныя ногі, кружыў бусел.

Свет быў ціхі, прымрэлы ў бялёсым мроіве. За маладым грабам і арэшнікам, што раскашавалі на беразе лесу, Міця падышоў да хутара, спыніўся каля ружаватых, ссунутых з поля да лесу старых валуноў. Затоена слухаў: ёсць на хутары сабака ці няма. Але прычуў толькі галасы дзяцей — большага, гадоў дзевяці, хлопчыка і меншай — дзяўчынкі. Бачачы, што дзеці заняты забаўкаю, Міця высунуўся на вузкую, зарослую кучараваю мяккаю дзяцелінкаю сцежку, што бегла у лесу да адзінокага смутнага хутара, атуленага толькі шапаткім, рэдзенька-марным тут, на пяшчаным грудку, жытам.

Дзеці, падняўшыся ад круглых, гладкіх, як каровы, каменняў, што ляжалі ў загарадках шчыльна набітых калочкаў, што абазначалі хлеў, і зглэдзеўшы Міцю, палахліва турзаніуліся. «Немец ідзе»,— сказаў большы хлопец і раптам схапіў за руку дзяўчынку, што скрывілася і пачала ад страху плакаць.

— Я не немец,— працягнуў руку Міця, асцярожна абыходзячы густа набітыя на сцежцы калочкі.— Я сваяк ваш з Верасава. Я ведаю вашу маму Ганну.

— Якая ж яна мне мама, я вунь з той хаты,— падняў з вачэй велікаватую, ушытую з тыльнай стараны, каб была трохі меншаю, зліняьлую кепку рабаціністы хлопец.— Я памагаю во ёй пільнаваць кураводку, каб не вадзіла куранят у жыта.

— І дзе ж твае кураняты? — Міця агледзеў зялёны ад калматага спарышніку надворак.

— Гы-ы,— хікнуў і адвярнуўся хлопец, яшчэ ўсё не выпускаючы худую, ценькую ручку дзяўчынкі ў доўгай чырвонай сукенцы, што трохі паспакайнела і падазроным косым вокам зіркала на Міцю,— вунь за гумном у загарадцы сядзіць.

— А гаспадары дзе?

— У гародах... Там пад рэчкаю.

— І скора прыдуць?

— Не ведаю...

— А можа, ты...— Міця наважыўся папрасіць хлопца паклікаць Ганначку і спахапіўся, што наробіць бяды, бо што і каму скажа неразважны хлопец, і загадаў ужо вынесці кубак вады.

Міцю папраўдзе смажыла і хацелася піць.

— Дзверы засунутыя ў іх. Я мігам збегаю да калодзеся.

— Пачакай. Вунь ці не гаспадар ідзе,— Міця ўбачыў, як затравелаю сценкаю, агароджанаю абапал акоранымі, што ляжалі на вілаватых слупках, дубовымі жэрдкамі з дзяружкаю зелля на адным плячы, накульгваючы, ставячы неяк бокам на костачку калекую ногу, з вёскі сюды на блізкі хутар падымаўся сам гаспадар.

Згледзеўшы Міцю, яшчэ каля гумна ціха спусціў з пляча ружавата-злінялую ў балонкі радзюжку і напуджана, ужо нават моцна спатыкаючыся на ўкалечаную нагу, увайшоў у двор.

— Сваяк ваш восьдзека,— апярэдзіў Міцю хлопец.

— Які сваяк, што ты гародзіш,— калекая падвернутая нага заблыталася ў спарышніку, і даўганосы падслепаваты мужчына спатыкнуўся зноў.

— Гэта я тут вінаваты,— усміхнуўся Міця,— што назваўся сваяком. З Верасава я.

— А-а-а,— павесялеў нарэшце, і скінуў сваю здранцвеласць гаспадар, і папрасіў хлопца: — Збегай, Коля, пакліч маю дахаты.

Міця ўжо, каб не выдаць сваю насцярогу, што не варта пасылаць хлопца, толькі спытаў:

— Казакаў часам няма ў вёсцы?

— Не, не стаяць... У Барышыне іх поўна,— мужчына пагладзіў па доўгіх бялява-кучаравых валасах дзяўчынку, што прытулілася да яго ног.

Міця папрасіў вады і, ужо ўслед за гаспадаром ўвайшоўшы ў звінючую ад мух, затхла-кіславатую неправетраную хату, сказаў:

— Мне каб пераадзецца як.

— Уцёк адкуль? — здагадаўся гаспадар, боўтаючыся кубкам у вядры, што стаяла пры акне на калодзе.

— Уцёк,— не хочучы прызнаўся Міця,— не мог глядзець, як страляюць людзей.

— Цяперашнім часам так. Людзі гінуць як мухі. Днямі ў нас старога чалавека да воза прывязалі і гналі, покуль дух вон. Застрэліць, дак гэта кароткая смерць. А то скуру дзяруць. Во да чаго дайшло,— і, скрыва павярнуўшы галаў у акно, здзівіўся: — Глядзі, і мая ўжо ідзе.

Міця таксама зіркнуў у нізкае ў чатыры балонкі акно, убачыўшы, як за сіваватым жытам мільгае стракатая, у гарошак, хустка.

Прапускаючы наперад сябе дзяўчынку, Ганначка ў хату ўвайшла задыхана і са страхам, што сцінаў і перакошваў яе загарэлы смуглявы твар. Шарыя лупаватыя вочы з дзівам і няверай, што гэта ён, Міця, пазіралі на яго.

— А я думаю, што гэта за немец у хату прыйшоў,— яна ўскінула ўгору кароткія рукі ўспляснула імі.— Адно ж гэта ты, Міця!

— Я, Ганначка. Забег па дарозе. Мо пераадзецца што знойдзецца?

— Ці падыдзе яго табе? Ты ж гэткі высокі.

— Гэта праўда,— засмяяўся, паказваючы ў кутку рота чорную шчарбіну, нізкі Ганначчын мужык.

— Вот не выскаляйся, прынясі са стопкі суконны каптан,— яна пляснула босаю нагою ў гліняны ток.— І не марудзь! Вунь у вёсцы ліхаты поўна.

— Хто ж там? — спытаў Міця, расшпільваючы куртку.

— Парцізаны, кажуць, прыйшлі.

Міця паспеў яшчэ разуць чаравікі, як на сценцы, што збягала каля сівага з ружаватым коласам жыта да высокай, з бусловым чорна-шырокім гняздом ліпы, з'явіліся двое. Іх вёў той самы хлопец у вялікаватай, ушытай ззаду, выцвілай кепцы.

— Во, пра воўка памоўка... А яны ўжо ідуць,— адскочыла ад акна і збялела Ганначка.

У адчыненых дзвярах, пераступіўшы калекаю нагою парог, застыў ад гэтай навіны, трымаючы ў сагнутай руцэ стары, паточаны моллю суконны каптан, Ганначчын муж.

У хату, пастараніўшы самазарадкаю гаспадара, убег толькі ён, Жэнік Рэпка, распарана-чырвоны, раз'юшаны, паблісківаючы сінявата-вільготнымі, асалавелымі вачмі; другі, мусіць, на выпадак чаго, для падстрахоўкі застаўся на надворку.

Нечаканая радасць нібы перасмыкнула скамянелы, з падцятымі кіслымі губамі Рэпкаў твар, калі ён убачыў, што на заслоне сядзіць без мундзіра і босы, у блакітна-шарай трыкатажнай кашулі Міця Корсак.

— Гэ-э, я так і думаў,— яго калючы, злы, недаверлівы зірк абабег хату,— што сюды прыбіўся свой сабака.

— Што ты кажаш, які ён сабака? — лекатлівымі рукамі Ганначка падгладзіла пад хустку рассыпаныя валасы.

— Уйдзі! Не падлазь! — ён саўгануў вінтоўкаю і азір-

нуўся на рабацінiстую кучарава-белую дзяўчыну.— І дзіця забяры з хаты!

— Што ты, Жэнік! — Ганначка прытуліла да сябе худую ў доўгай сукенцы дзяўчынку.— Пабойся граху.

— Чаго хочаш? — узарваўся з заслона Міця, чуючы, як нейкая гарачка, злосць, дасада гарыць у душы.

— А таго, сволач, што сустрэліся нарэшце на вузенькай дарожцы,— Рэпка адскочыўся, спешна заклацаў замком самазарадкі.

— Ая-ё-ой! — заенчыла і шмыганула ў сені Ганначка. За ёю, выставіўшы наперад кульгавую нагу, пераваліўся цераз парог мужык.

Міця здагадаўся — Рэпка быў на падпітку. Гаварыць з ім, прасіцца ў яго, Міцю ўжо не давала нейкая пагарда, нават агіда, як была гэтая агіда да Камашылы. Раптам успомніўся яго, Камашылаў, хрыплаваты голас, што цадзіўся праз зубы: «Нас яны пашкадуюць... Скуру будуць драць». Якія, зрэшты, яны аднакавыя: той — там, каля ржаваглiністай ямы, гэты тут — у счарнелай нізкай хаце з малымі аконцамі. Той там быў храбры, гэты — тут. Міця сцяўся, залекацеў увесь і ўжо, шалеючы ад здзеку, ад гарачай і нечаканай прагі жыць, ратавацца, ірвануўся да Рэпкі, але яго апярэдзіў моцны ўдар у лапатку. Гэта быў той, што стаяў напагатове ў адчыненых дзвярах,— рослы, таўстагубы, з выгаралым чубам, які выкручваўся ўпартымі кольцамі з-пад кепкі. Міця нават плячмі ўчуў, як блішчыць смерцю трохкантовы штых у яго на доўгай вінтоўцы, а адскочыўшы да печы, з гарачкі хапіўся рукою за слупок.

— Выходзь, падлюга! — Рэпка трасянуў галавою і заплюшчыў сінія, зацягнутыя блішчастай вільгаццю вочы.

— Нікуды не пайду,— як мог спакойна сказаў Міця, чуючы ўжо, як заміраe ўсё ў душы.

Холад страху, нібы скразняк, абвеяў усяго, што смерць будзе тут, пры гэтым лесе, пры гэтай чужой вёсачцы. Так неспадзявана... Для сябе і для яе, для Чэсі. Як усё скончылася: радасць кахання, сонца, увесь свет. Так горка і так крыўдна, што смерць прыходзіць ад свайго. Няўжо смерць тваю носіць твой блізкі?

— Ідзём, гад, а то выпушчу кішкі тут, каля печы! — куток рота ў Рэпкі расцягнуўся, бліснуў радком белых зубоў.— Шкуру нямецкую на сябе нацягнуў, прадаўся з вантробамі! Думаў, што мінецца ўсё.

Клубок чорнай звар'яцелай злосці перавярнуўся ў Міцевых грудзях:

— Ды пайшоў ты, паршывец!

Нешта бяспамятнае пад'юшчвала і нават салодка зманвала вырваць у гэтага неданоска, курачага выліўка вінтоўку, а там ужо што будзе, а там ужо — бог бацька.

І тут зноў рэзка і нечакана гарачым агнём паласнуў удар. Па правай ужо руцэ, ажно хруснула косць. Якраз вышай костачкі. У Міцевых вачах пырснулі залаціста-чырвоныя, ■ потым цёмныя іскры. На які міг, быдта пасля зыркай маланкі, хлынула чарната. Міця ледзьве ўстояў, страціўшы, мусіць, на якую хвіліну прытомнасць. Адкрыў вочы, убачыўшы, як плыве, кружыцца ясны правал маленькага акна і пабеленыя, абшморганыя плячмі сцены малой, з нізкай столлю хаты.

На руцэ, што бездапаможна аб'язджала са слупка, шараватае рукаво трыкатажнай кашулі вострым ражком падымала пераломаная косць.

Падскочыўшы ззаду, прыкладам ударыў той самы, з белаватым выгараным чубам і таўставатымі губамі.

Міця знерухомеў, заскрыгатаў зубамі ад болю, помнячы пра адно, каб не рухнуць, не ўпасці тут у хаце. У плечы яго штырханулі. Ён паволі пераступіў парог, разумеючы, што з пакалечанаю рукою яму ўжо не здужаць іх, узброеных і п'яных. Вочы сляпіла сонца, боль адымаў руку, хватаючы ўжо нават за сэрца.

— Сюды, курва! — Міцю штыхом парнулі ў лапатку.

«Бегчы...» — загарэўся ён і абарваў сваю думку: удвух яны, напэўна, не прамахнуцца, пацэляць.

Затравелая сцежка пад навіссю грабніку і гарэшніку крута вілася ўніз: пачынаўся малады ў ружовых стрэлках напараны хвойнік, віхор драў жоўтыя выспы пяску, калыхаў калматы высокі ялавец, бароды жорсткай, падобнай да шаўковай травы, лясной асакі.

Міцева рука здзервянела, аднялася і, здаецца, ужо не служыла зусім.

«Не!.. Покуль магу, трэба не давацца, уцякаць. Во там, дзе пясчаная дарога зварочвае ўбок. Нырнуць у густы, нецярэблены хвойнік».

Міця спыніўся перад абабітым смалістым коранем: на ім сядзела і, пахістваючыся на сінявата-цыбатых ножках, смутна ціўкала жаўтаротае пташаня.

Міця баязліва падняў нагу, каб пераступіць бясхвостае, яшчэ ў дымным пушку, кволае пташаня, і ў гэты міг нешта з гарачым хрустам упілося яму пад левую лапатку, і нязносная млявасць, разарваўшы сэрца, спłыла па ўсім целе.

«Штых»,— падумаў ён, ловячы здароваю рукою ялаўцовы куст і не дастаючы да яго. З абодвух бакоў звінючы шум хлынуў у голаў, аглушыўшы свет. Міця яшчэ ступіў крок і ўчуў, як мякка плыве ў глыбокую і бясконцую чарнату.

«Ціліў!» — спуджана адазвалася нядужае цыбатае пташанятка. Але яго ціліўкання Міця ўжо не дачуў.

## XXV

Раз за разам, уедліва і скрыпуча, шоргаў адным колам на няроўнай, з раз'езджанымі каляінамі, дарозе перадок ад воза, на якім ляжаў, выцягнуўшы на прывязаных драбінках спруцянела-сіняватыя ногі, бяскроўна-белы і набрынялы ўжо ад гарачыні Міця Корсак.

Узяўшыся абедзвюма рукамі за аглоблі, перадок з цяжкім нябожчыкам, тады-сяды перадыхаючы, цягнуў Імполь: з густых броваў яго, пераблісквαючы, капаў пот.

Алеся, глухаватая і нібы сляпая, чуючы толькі навобмацак босымі нагамі цвёрдую, засыпаную жарствою сцежку, што бегла зводдаль каляінаў, ішла далекавата ззаду, нават не адганяла мух, што абсэсам лезлі на бяскроўны, сцяты ў балючай пакуце Міцеў твар.

За ёю, пацялепваючы доўгімі вушамі, бегла старая, не чуткая ўжо, з бяльмом на воку, крывалапая сучачка.

Пасля ранішняй кароткай навальніцы са шчырым патомным дажджом, што пах прэсна-свежай вільгаццю, з блізкім перуном, што пад ружовы водсвет маланкі моцна, з ляскам стрэліў у прыдарожны камень і якога першы ўжо раз за жыццё не баялася Алеся, выясніўся пагодны дзень. Неміласэрна смажыла сінявата-цёмнае, сляпучае сонца, і стаяла густая парнасць.

Едкі пот з лоба сачыўся ў Алесіны вочы, неміласэрна заліваў іх. Шмаргануўшы ад локця рукою, яна раз-пораз сцірала яго і маўкліва ішла, адрошаная ад свету, і не могучы ніяк перагараць ды абняць розумам усяго, што прылучылася за астатнія дні: пазаўчора нечакана і нейкі як сам не свой, нібы пакусаны, з пакалечанай нагою сабака, што сыходзіў з дому, вярнуўся ў Верасава Імполь. Пэўна, баяўся, што Алеся не прыме яго і таму, маўкліва тулячыся, хаваў ад яе свае вочы.

А ўчора ўжо, якраз у гэтакі самы гарачы полудзень, прыбегла дадому, да свае мацеры патайная Ганначка і,

асцерагаючыся сустрэцца з Алесяю, наказала, што ў маладым хвойніку, у ровішчах за Янавам ляжыць замардованы Міця.

Хто і як забіў яго — утаіла, хоць пэўна ж ведала, але пабойвалася сказаць, прагаварыўшыся адно, што ўцякаў дадому і зайшоў да яе змяніць адзежу, бо ў хаце астаўся яго мундур і новыя салдацкія, з падкоўкамі, чаравікі.

Алеся, скамянеўшы ад гора і не звёўшы вока цэлую ноч, наранкі прыбегла да Ваўчковай Волькі і папрасіла папільнаваць хлопца, а заадно і зіркнуць ужо на хату, упусціць у хлеў ды падаіць карову.

Плакала ўжо тут разам з Вольгаю, завёўшы ў адзін голас. А потым яшчэ і на глухім, што пачынаў зарастаць спарышнікам, бацькавым надворку. Пастаяла на сіняватым пляскатым камені, што ляжаў каля парога роднай і такой ужо пачужэлай, смутнай хаты, з якой два тыдні назад выбраліся казакі, забраўшы і бацькавага каня, і карову, і падсвінкаў, і захлынулася слязьмі, пазіраючы на выбітую шыбу акна, на пугу, што вісела на цвіку пры вугле хаты, на рамку пабітага і выкінутага за плот мамінага яшчэ вянчальнага абраза. Камянеючы ад усяго, падумала ўжо са страшнай гаркатою: вось не патрэбныя нікому ні зямля, ні хата, ні гэты вянчальны абраз...

Як усё неспадзявана і негадана скончылася... Непатрэбны і ён, Імполь, што ўчора прыцягнуўся ў Верасава. Мінулася і прапала маладосць, перагарэла каханне, астаўся на душы толькі халодны, астылы попел.

Прыйшла дадому, паглядзела, як на засыпанай трэскамі дрывотні ён адзін, узваліўшы на козлы, пілуе тоўсты, нават ў зялёных пасынках камель яшчэ зімою зломанай вярбы, і сказала ў яго прыгорбленую, нібы баязлівую спіну:

— Запрагай каня, паедзем па Міцю.

Імполь марудна атрос з закарвашаў белыя пілавіны, падняўся ад калоды, выцягнуў з глыбокага прарэзу пілу і, бліскаючы ёю, паслушна пайшоў да хлява.

Дарогаю ўжо, ловячы ружавата-сінія каласы з марнага, заглушанага гаркавата-пахучым румянкам жыта, што чаплялася за воз, неспадзявана сказаў:

— Бачыў я яго.

— Каго гэта?

— Каго, пытае? Міцю, кажу, бачыў.

— Дзе ж гэта? — насцярожылася і зніякавела Алеся.

— Там, дзе людзей стралялі. За кашарамі, пры ляску,—

ён адвярнуў свае вочы, падкідваючы ў растапыранай жмені пустыя пляскатыя каласы.

— Яшчэ выдумаў, што людзей страляў.

— Людзей-то не страляў, а ў ачапленні быў.

— Дзе ні быў, а дадому во не дайшоў,— не стрываўшы, са злосцю перабіла ўжо Алеся, пазіраючы на Імполя, на яго зарослы доўгімі валасамі карак, на ўсяго яго, худога і зблажэлага.— А ты болей мянці языком.

— Я кажу, што бачыў, што было.

— Што было — прайшло. Глядзі вунь, што будзе — казакі едуць.

Насустрач ім з-за грудка з боку шашы па мяккай, што зарасла нізкай, бела-ружаватай дзяцелінкай, дарозе узводным калонным намётам ехалі казакі, з-за плячэй выглядалі чорныя дулы вінтовак, пры сёдлах паблісквалі похвы і эфесы шабляў.

Не пускаючы каня на мяккую дарогу, Імполь пагнаў яго няроўнаю, у выбоінах шашою. Конь наравіўся, непаслушна адварочваў голаў, але бег, трасучы збруяю. Чарнавусы казак у шарай кубанцы, у сітцавай касаваротцы навыпуск, падпяразанай вузенькім рэменем у медных заклёпках, злёгку падскокваючы на падушцы сядла, адлучыўся ад калоны і завярнуў да шашы. Астатнія спыніліся, стоячы ў тройках і стрымліваючы за павады неспакойных, зацятых аваднямі коней.

— Кто такие? — прыжмурыў вузкаватыя татарскія вочы казак і прыпадняўся на страмёнах.

— Верасаўскія мы,— Імполь прыпыніў свайго разагналага каня.

— Распрягай лошадь!

— Як, гаспадзін казак? — Імполь азірнуўся на Алесю.

— Распрягай, мать твою черт! — казак узмахнуў кароткаю і крутою, як гадзюка, плёткаю.

Імполь саскочыў з воза, рассупоніў хамут.

Алеся маўчала, ведала, што нічога не выпрасіш, ды нават язык не паварочваўся загаварыць да гэтых злыдняў, што спалілі бацьку. Думала пра іншае: у каго ж яна пазычыць каня прывезці Міцю і хто цяперашнім светам дасць, хто паспагадае.

— Эй, Степа, лошадь-то какая. Беги сюда, тебе попалась красивейшая, офицерская.

— Я зараз,— з каня, на якім сядзелі двое, злез і, касалапа ставячы ногі, падышоў нізкарослы, шыракароты казак.

Яны, Імполь з Алесяй, доўга і маўкліва стаялі над пус-

тым возам, і нарэшце Імполь пачаў яго разбіраць, каб упрэгчыся ўжо самому ў лягчэйшы перадок.

Да Янава, калі звярнуць з шашы, асталося вярсты са дзве. На грудку ў круглаватых, як царкоўныя купалы, кустах ялаўцу жаўцеў лапік топкага пяску. Алеся, як магла, трохі памагала Імполю праехаць яго. Каб не паказвацца ў вёсцы, завярнулі на ўтравелую палявую сценку. Алеся толькі збегала ў першую нізенькую, на тры аконцы хату, спытаць, бо, не ведаючы, прыйдзецца паблудзіць, дзе ляжыць тут надоечы забіты хлопец.

— Маладзічка,— разагнулася каля грады вострай цыбулі бязгрудая кабета,— не ведаю я, нічога і не чула, каго забілі. Не, што вы, не чула. Мо хто іншы.

Да іншых Алеся не пайшла, падумаўшы, што таксама не скажуць: цяпер кожны тоіцца, сцеражэ сябе.

Толькі ўжо на полі, перастрэўшы рабаватага з чырвонымі недаспанымі вачмі пастушка, што гнаў падласную карову і сівую з падвешанаю качалкаю, каб не магла бегчы, авечку з двума чорнымі лысенькімі ягняткамі, распыталі, дзе ляжыць забіты Міця.

Пастушок падцвердзіў тое самае, што перадавала Ганначка: трэба ехаць за вёску ў хвойнік, і, як спусціцца з грудка, у Воўчых ровішчах пры дарозе натрапіш на труп: там ляжыць забіты немец, яны, дзеці, учора пасля полудню бегалі туды, думалі чаравікі зняць, але нехта ўжо яго разуў.

Спускаючыся ў марны, сіва-замшэлы хвойнік, Алеся першымі і ўбачыла босыя пасінелыя ногі, а потым ужо ў перавеяным ветрам жоўтым пяску між чубкоў шорсткай асакі, дзе валяліся шарыя, высушаныя сонцам бяззубыя конскія пашчэнкі (тут, мусіць, былі магілкі для жывёлы), нібы зачапіўшыся за гарбаваты крывы корань, што выпаўз ад прысадзістай недарослай хвойкі, ляжаў ён, Міця: правая рука хапіўшыся за гарачыя, навылет праткнутыя штыхом грудзі, левая сударажна разграбла ў сыпкім пяску глыбокую ямку.

Алеся, убачыўшы галаву з кароткай падстрыжанай полькай, сінявата-ліловы карак, край шчакі, чорнае брыво, Міцеў роўны нос, што ўткнуўся ў пясок, спляла рукі і, заблытаўшыся ў пучках жорсткай ляснай асакі, пластом рухнула на дарогу. Ад страху завішчала, туляючыся да Імполя, перапуджаная сучачка.

Імполь, кінуўшы перадок з прывязанымі драніцамі, падбег, перавярнуў і закалаціў яе.

Трохі апрытомнеўшы, але яшчэ не помнячы, што ро-

біць, Алеся папаўзла па калючым сыпкім пяску да Міці, задыхаючыся і рвучы на галаве валасы, нямогла запрычытала: «А братачка, а Змітрычак, а чаго ж ты тут ляжыш?»

Упала каля яго, абняла за голаў і, прыпадымаючы яе, пачала цалаваць у бяскроўна-белы, затоены ў невыноснабалючай пакуце твар.

Імполь, адцягнуўшы яе, перакаціў Міцю на драбінкі, усцягнуў іх на перадок і прывязаў сваёй і вышмаргнутай з Міцевых порткаў папругай да аглобель.

Радзюжку, каб прыкрыць нябожчыка ад сонца ды рою мух, са спеху ды гарачкі з сабою не ўзялі, пра яе ўспомнілі пазней, ужо дарогаю.

Там, каля Янава, было не да радзюжкі. Здзьмухваючы з кончыка носа пякучы, што ліўся цурком, пот, Імполь толькі выцягнуў перадок на седлаваты груд да раскалыханага гарачым ветрам жыта, сярод якога ўздымаўся на тоўстым выпаленым камлі высокі з падсохлымі ражнамі сукоў шара-цёмны дуб, як ззаду з жоўтага ад люціка лужка, глухавата, нібы з абрэзаў, пачалі страляць двое конных. Тугою, нацягнутаю струною нізка над галовамі зазвінелі разлютаваныя кулі. Зашалясцеўшы жытам, адна, як перасспелае яблыка, шпокнула недзе каля самых ног.

Імполь, падаючы на халаднавата-затравелую, пахучую ад горкага рамонку сцежку, пацягнуў за сабою Алесю.

Стаіўшыся за чуйна-шапаткім жытам, яны ляжалі, покуль не сціхла далёкая і глухаватая, як у воду, стральба. Страляў нехта помслівы і, мусіць, п'яны. Як чуючы бяду, прылягла і баязліва заскавытала аблавухая сучачка.

Да Алесі з Імполем конныя не пад'язджалі — як з'явіліся нечакана, так нечакана і зніклі, хаваючыся адзін на каштанавым, другі — на чорным кані за чубком бярэзніку. Азірнуўшыся на шарую вёсачку з густымі купамі нерухомых прысад, што зацягнуліся, як затоеная вада, рэдзенькаю смугою спякотнага дня, Алеся ўбачыла, што яны з-за чубка бярэзніку выехалі да Ганначчынага хутара і там, каля хаты з апоўзлай страхою, што падціснулася пад старую густа-зялёную грушу, пачулася зноў некалькі трывожных, адзін за адным стрэлаў, што пругкім ляхатам аддаваліся пры сцяне лесу.

Рыпучы перадок, на якім пакалыхваўся пацямнелы ўжо ў твары і абыякавы да ўсяго — і да гэтых стрэлаў на хутары, і да бялёсага неба, і да гарачага, што наплываў хвалямі, ветру,— ззаду падпіхала Алеся. Трэба было скарэй мінуць груд і схавацца ў лагчыне, з якой ужо чуваць быў

саладкава-горкі пад валяр'яну, лодзьмы, клейкага алешніку і прахалоды блізкай шчымліва-крынічнай рэчкі.

З лужка дарога выбегла на белую ад перацёртага жвіру шашу, з якой віхор падняў і панёс на зялёнае поле слуп калючага, што заскрыпеў жарствою на зубах, вялага пылу.

Каля мастка праз дудкаватую ў жоўтых парасонах кветак лодзьму і высокі конскі шчаўюк Імполь пралез да рэчачкі і, хапіўшыся за камлі алешын, лёг на грудзі і ротам дастаў да вады, з прагаю п'ючы яе.

Алеся, трымаючы аглоблі, каб не ссунуўся з передка Міця, глядзела ўздоўж рэчачкі на ружовую ад шчаўя і смолкі лагчынку і, вядома, не ведала, не здагадвалася, што пазаўчора, ідучы на прылесны хутар і напароўшыся на нямецкія грузавікі і танкетку, тут, на лужку, між рудаватых кратовых горбаў, стоена ляжаў Міця. Як не ведала і другога: двое конных, што стралялі па іх, былі з наваградскай аблавы, якая сёння раніцай прачэсвала тутэйшыя Кашалёўскія лясы, і, арыштаваўшы, пагналі перад сабою кульгавага Ганначчынага мужыка.

Алесіны думкі раптам пераплылі ў даўні свет: успомнілася маміна смерць, труна ў хаце, у ёй спакойная, з абразком у руцэ, мама, нібы заснула, а ён, малы Змітрык, падкурчыўшы ногі, сядзіць на лаве недалёка ад труны і жаласна плача. І ўсе бабы, што былі ў хаце, пачуўшы гэты плач, завялі, завылі ўжо над ім, трохгадовым сіратцінай.

Як нядаўна, здаецца, гэта было. А ўжо васемнаццаты гадок мінуў. Як скора бяжыць час. І вось да мамы прыйшлі Міця з татам.

Даўкі камяк здушыў Алесіна горла, слёзы пякучай гарачынёй хлынулі на вочы. І Алеся надрыўна застагнала, не стрываўшы ўсяго, што наплыло на яе. Падымаючы сцяты ў пакуце, заліты слязьмі твар, заенчыла, загукала: «А мамачка, а татачка, а Змітрычак, а мае родныя, забярэце да сябе і мяне ўжо!.. Нашто ж пакінулі адну так гараваць ды слязьмі абмывацца!»

На міг зрабілася лягчэй, што выплакалася, што выенчыла сваё гора.

Уражаны нечаканым Алесіным крыкам, да передка падбег Імполь, вышчаміў з яе адзеравянелых рук аглоблі, выцягнуў передок на шапаткую, няроўную, гады са два не рамантаваную шашу і, азірнуўшыся на жаўтлява-пацямнелы, з падцятымі ў неразгаданай смяротэльнай крыўдзе тонка-сінімі губамі Міцеў твар, упёрся босымі нагамі ў калючы жвір і зрушыў передок з месца.

Алеся памалу і бязвольна ішла за перадком, што нудна і абрыдла рыпаў адным колам, пазірала то на пастухоў, што, пераганяючы цераз шашу каровы, з дзівам прыпыніліся каля іх з Імполем, то на нямецкую машыну, што прытармазіла, убачыўшы нябожчыка, то на казацкі абоз з будамі, што марудна валокся недзе ў Наваградак.

Ачуняла яна перад самаю вёскаю, калі Імполь з скрыпуча-жвірыстай і стракатай ад мігатлівага ценю бярэзін бясконцай шашы з'ехаў на пясчаную дарогу пад крыж, калі ўбачыла, як з-пад свае хаты, з-пад яловага частаколу сюды насустрач ёй з Імполем, дробна перабіраючы босымі ножкамі, бег яе пяцігадовы сын. Чарнявыя нястрыжаныя валасы на яго круглай галаве падымаў і перабіраў густы сустрэчны вецер.

«Жыць трэба, жыць! Дзеля яго! Ужо такая, мусіць, божая воля. Так наканаваў лёс».

«Жыць!...» — нямогла ўздыхнула яна, убачыўшы каля яловага частаколу жаночую постаць і ўгадваючы ў ёй Чэсю.

Хто ж ёй наказаў? Ведае яна — бедная, згараваная дзяўчына, ці не ведае пра Міцеву смерць? Убачыўшы, як у Чэсінай руцэ гараць чырвоныя півоні, здагадалася, што нясе іх, каб пакласці на Міцеву труну.

Абагнаўшы Імполя, што, дзьмухаючы сабе на твар, астуджваючы яго і збіваючы з кончыка носа едкія кроплі поту, упарта, з астатніх сіл цягнуў перадок з распластаным Міцем, Алеся здалёк распасцерла рукі і, дабегшы, абняла збялелую, ужо бязвольную Чэсю, і яны абедзве задрыжалі, закалаціліся ад цяжкага бязгучнага плачу.